# Лідскі Летапісец

*Народ, які не ведае свайго мінулага, не мае будучыні*





**Краязнаўчы, гістарычна-літаратурны часопіс**
**Выходзіць з 1997 года**

**№ 3- 4 ( 47- 48 )** **ЛІПЕНЬ - СНЕЖАНЬ** **2009 г.**


## *Лідская Цэнтральная раённая бібліятэка імя Янкі Купалы*



**Міхась Мельнік,** першы старшыня Лідскай гарадской арганізацыі Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны. *Уладзімір Мельнікаў, палатно, алей.*

# Лідскі Летапісец

*Народ, які не ведае свайго мінулага, не мае будучыні*





**Краязнаўчы, гістарычна-літаратурны часопіс**
**Выходзіць з 1997 года**

**№ 3- 4 ( 47- 48 )   ЛІПЕНЬ - СНЕЖАНЬ   2009 г.**


## *У НУМАРЫ:*



*На першай старонцы выкладкі здымак Станіслава Судніка*





**Мы просім ўсіх, хто мае цікавыя матэрыялы па гісторыі Ліды і краю, дасылаць іх на адрас: 231282, Ліда-2, п/с 7, або перадаваць у рэдакцыю.**


**Пасведчанне аб рэгістрацыі № 907 ад 18.12.2009 г.**

**ЗАСНАВАЛЬНІК І НАВУКОВЫ КАНСУЛЬТАНТ**
**Валеры Сліўкін,**
**старшы навуковы супрацоўнік Лідскага гістарычна-мастацкага музея, кандыдат геаграфічных навук**

**РЭДАКТАР**
**Станіслаў Суднік**

АДРАС РЭДАКЦЫІ:
231293, Лідскі р-н,
в. Даліна
E-mail: naszaslowa@tut.by

**Наклад 300 асобнікаў**
**13,5 друк. аркушаў**

**Часопіс размножаны на абсталяванні рэдакцыі.**
**Замова № 16**
**Часопіс падпісаны да друку 30. 12. 2009 г.**

**Падпісны індэкс 00257**
**Кошт падпіскі:**
**індывід. 3 мес.- 2680 руб.**
**індывід. 6 мес.- 5360 руб.**
**Кошт у розніцу: вольны**

**Аўтары цалкам адказныя за гістарычную дакладнасць сваіх матэрыялаў**

# Кроніка Ліды




У пачатку ліпеня ў ААТ "Лідааграпраммаш" сабраны першы камбайн новага пакалення **"Ліда-1600"**




У ліпені выйшла з друку кніга **"Ліда і Лідчына: да 685-годдзя з дня заснавання горада. Матэрыялы рэспубліканскай навукова-практычнай канферэнцыі (Ліда, 3 кастрычніка 2008 г.)"**



21 ліпеня **Валера Арэхва** з Ліды стаў срэбным прызёрам чэмпіянату свету ў Пльзене па паўэрліфтынгу ў жыме сярод юніёраў да 23 год.




24 ліпеня адкрылася V рэгіянальная выстава-прэзентацыя **"Ліда-рэгіён - 2009"**



25 ліпеня ўрачыстае адкрыццё новага будынка **Цэнтральнай раённай бібліятэкі імя Янкі Купалы.**
19 верасня бібліятэка адчынілася для чытачоў.

## НОВЫ ХРАМ САРДЭЧНА ЗАПРАШАЕ

У Лідзе засвяціўся храм сучасны,
Сонечны і звонку, і знутры,
З сотаў-стэлажоў смакуй, сучаснік,
Мудрасці салодкія дары.

Хто ні ўвойдзе ў час святочны, будны,
Стомлены рыдлёўкаю, пілой -
Першадрукары Скарына, Будны
Душы акрыляюць у палёт.

А калі цябе не вабіць неба,
Клічуць голасна палі, бары -
Бохан адухоўленага хлеба
З зерня праўды Коласа бяры.

Па жыцці кроч з духам не апалым,
Каб не пачуваць сябе рабом,
Пі радкі вялікага Купалы
Па глытку, па кубку і нагбом.

Па-за храмам жорсткасць балем правіць,
Валяць з ног набітаю машной -
Тут заўжды плячо табе падставяць
Пушкін, Ніл Гілевіч, Леў Талстой...

У дрыгве будзённай калатнечы
Не губляйце твару задарма:
Запрашае ў кніжны храм сардэчна
Сам Шэкспір! Наш Быкаў! І Дзюма!

*Пётр Макарэвіч, 13-14.08.2009 г., г. Ліда.*

8 жніўня адкрылася **аўтазапраўка** ААТ "Ліданафтапрадукт" па вул. Фамічова ў мікрараёне Маладзёжны.





1 верасня сямейны ансамбль **Парфёнчыкаў** з Бердаўкі стаў лаўрэатам Х Міжнароднага фестывалю сямейнай творчасці ў Глуску.

29 жніўня г. Лідзе ўручаны вымпел **“За мужнасць і стойкасць у гады Вялікай Айчыннай вайны”** і Ганаровая грамата (Указ Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 29 чэрвеня 2009 г.)






Да 1 верасня ў Лідзе выйшаў першы ў гісторыі падручнік па стэнаграфіі на беларускай мове. Аўтар **Станіслаў Суднік**.




У верасні выйшла кніга вершаў лідскага паэта **Міхася Мельніка** “Лодка жыцця”.




18-29 верасня на Лідчыне прайшлі расійска-беларускія вучэнні **“Захад - 2009”**.





3 кастрычніка асвечаны касцёл Святой Тройцы ў **в. Бердаўка** Лідскага раёна. Асвячэнне правёў біскуп Аляксандр Кашкевіч.



17 кастрычніка Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь № 471 намеснік галоўнага лекара Лідскай ЦРБ па медыцынскай частцы **Ганна Часнойць** узнагароджана медалём “За працоўныя заслугі”.




У другой палове 2009 года ў менскім выдавецтве “Кнігазбор” выйшла дакументальная аповесць лідскага пісьменніка **Алеся Стадуба** “Вандроўка між гадамі”.




У 2009 годзе ў менскім выдавецтве ТАА “Смэлтак” выйшла кніжка апавяданняў маладога лідскага празаіка **Юльяна Місюкевіча** “Скрозь туманнасць”.



У лістападзе ў Лідзе каля Галоўпаштамту пастаўлены новы знак **“Нулявы кіламетр”**.
Аўтар Рычард Груша.




У 2009 годзе УП “Белпошта” выпусціла маркаваны **канверт** з выявай Лідскага замка.



19 лістапада нараджэнка Беліцы, выпускніца Лідскага каледжа, аператар ЭВМ Лідскага раённага спажывецкага таварыства **Вольга Кіман** стала каралевай прыгажосці конкурсу “Міс спажыўкааперацыя - 2009” Рэспублікі Беларусь.




У лістападзе 2009 г. Лідская Цэнтральная раённая бібліятэка імя Янкі Купалы выпусціла бібліяграфічны даведнік **“Валянцін Таўлай”**.



29 лістапада прайшоў конкурс “Міс Лідчына - 2009”
Пераможцай стала **Ганна Петрычэнка** - вучаніца гімназіі № 1.
Першай віца-міс стала **Вольга Еўдакімава** - бухгалтар ТАА “Лідабудмантаж”.
Другой віца-міс стала **Юлія Бараноўская** - вучаніца ліцэя № 1.

У 2009 годзе ў менскім выдавецтве “Галіафы” выйшла двухбаковая кніжка паэзіі “Шчыра - Ня шчыра”. Першая палова кніжкі “Шчыра” належыць пяру маладой лідскай паэтэсы **Святланы Кухарэвіч**. Другая палова “Ня шчыра” належыць пяру Алеся Папова.






У снежні Лідскі райсавет прыняў пастанову аб наданні адной з новых вуліц г. Ліды **імя Ігната Дамейкі**.


БЕЛАРУСКІ
НАСТОЛЬНЫ ПЕРАКІДНЫ
КРАЯЗНАЎЧЫ
КАЛЯНДАР

НА 2010 ГОД

(па матэрыяле Гродзеншчыны)

У снежні выйшаў **“Беларускі настольны перакідны краязнаўчы каляндар на 2010 год (па матэрыяле Гродзеншчыны)”.** Укладальнік прафесар Гарадзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы Аляксей Пяткевіч, рэдактар Станіслаў Суднік. У календары вельмі грунтоўна пададзена Лідчына.

# Кроніка айкумены

## Лідскі гістарычны каляндар

## ліпень - снежань

**1399 год, 12 жніўня.** Параза войскаў вялікага князя Вітаўта на р. Ворскле ад татарскіх туменаў Цемір-Кутлуя. Першым з поля бою ўцёк хан Тахтамыш.

**1529 год.** На сойме ў Вільні Вялікім князем абраны дзевяцігадовы Жыгімонт-Аўгуст, праз два месяцы ён абраны і каралём Польшчы.

**1559 год, 31 жніўня.** Лівонскі ордэн перайшоў пад пратэктарат ВКЛ.

**1569 год, 1 ліпеня.** Складзена Люблінская унія, ВКЛ і Польшча аб'ядналіся ў адзіную канфедэратыўную дзяржаву - Рэч Паспалітая.

**1579 год.** Кароль Стэфан Баторы адмысловым прывілеем дазволіў будаўніцтва сінагогі ў Лідзе.

**1659 год, снежань.** Расійскае 30-тысячнае войска пад камандаваннем Івана Хаванскага, перайшоўшы Нёман каля Беліцы падступіла да Ліды. Замак узяты штурмам. Горад спалены, у тым ліку царква Святога Спаса, царква Прачыстай Багародзіцы захавалася. Спаленыя і разрабаваныя Беліца, Мыто, Дворышча, Ваверка. Увесь Лідскі павет моцна пацярпеў. Знішчаны Тракельскі касцёл.



***Жыгімонт- Аўгуст***

**1729 год, 7 верасня.** Кароль Аўгуст ІІ у Гародні пацвердзіў Лідзе магдэбургскае права. *"А яўрэі ў горадзе Лідзе, карыстаючыся павелічэннем пратэкцыі замкавага двара, адціскаюць мяшчан, і прыбыткі з тавараў і кірмашоў сабе прысвоілі, і людзей, якія праязджаюць з рэчамі на продаж і таварамі зусім выдалілі, і такім спосабам вялікія страты ў прыбытках ратушы зрабілі,... загадваем, каб кожны з іх з кожнага гандлю гандлёвы збор гораду і падаткі з крам і мясцовых прылаўкаў кожны год здавалі ў ратушу, і каб хрысціянаў ад забоеў быдла не адхілялі, але і самі з дазволу войта і бурмістра забоем быдла займаліся, а войту ад кожнай ... скаціны з кожнага забою давалі лапаткавае, і каб не заміналі гандляваць соллю мяшчанам і староннім. .. мяшчан вызваляем навекі ад земляных прац пры насыпе поруч замкавага млына. Для вымярэння збожжавых неабходна мець ... у ратушы бочку пламбіраваную аб'ёмам семдзесят два гарнцы і забараняем усім мяшчанам і яўрэям хаваць дома бочкі, паў-бочкі, чвэрці, васьмушкі і вымяраць употай міма гарадской меры пад пагрозай штрафу ... дваццаці літоўскіх коп і забараняем гэтыя часткі меры."*

**1759 год.** Лідская піярская школа атрымала назву "калегіюм".

**1769 год.** Пакладзены пачатак будаўніцтву васілішкаўскага цаглянага касцёла пры кляштары дамініканцаў.

**1789 год.** Юры (Ежы) Адамовіч падарыў на касцельныя сцены 20 тысяч *(Kurkowski J. S 69)*.

**1799год.** 14 кастрычніка. Полк Эсэна 2-га заняў школу піяраў.

**1819 год.** Першым Дзедам Марозам на рускай зямлі стаў Мікалай І. Менавіта ён па пажаданні сваёй прускай жонкі ў 1819 годзе ўпершыню паставіў у Анічкавым палацы велізарную навагоднюю ёлку і прыняўся дарыць падарункі.

**1829-1832 гады.** Рэктарам Лідскага калегіюма быў Антоні Паеўскі - кандыдат філасофіі, выпускнік Віленскага ўніверсітэта.

**1839 год.** Фальварак Зарэчча прыняты ў скарб *(Шымялевіч, 1906, с.53)*.
Скасаваны Кармеліцкі кляштар.

**1849 або 1848 год.** Пуслоўскія прадалі Ліпнішкі Аляксандру Вольскаму.
**1849 год.** Марыя Радзівіл выйшла замуж за Міхала Тышкевіча і ў пасаг прынесла яму Жырмуны.

**1869 год, верасень**. У Радзівонішках асвечаная нанава пабудаваная з каменю царква ў гонар Унебаўзяцця Божай Маці (Найсвяцейшай Багародзіцы).
**1869 год.** Адкрыта Мытлянская народная навучальня.
У касцёлах дазволена прамаўляць пропаведзі на рускай мове *(забаронена ў 1848 г.)*.

**1909 год.** Княгіня Вільгельміна Іванаўна Сайн-Вітгенштэйн атрымала маёнтак Дакудава па духоўным тастаманце мужа князя Хведара Львовіча Сайн-Вітгенштэйна.

**1919 год, 2-3 ліпеня.** 4-ая эскадрылля 1-й польскай авіягрупы выканала з Лідскага аэрадрома 5 баявых вылетаў. Удзельнічалі: паручнікі Біскупскі, Юркевіч, сяржанты Камянкоўскі, Хаінскі, Цагасек і назіральнікі: паручнікі Крынскі і Менчак, падпаручнік Кучынскі.
**17 ліпеня.** Перастала існаваць Літоўска-Беларуская ССР (Літбел).
**8 жніўня.** Польскія войскі занялі Менск.
**Канец жніўня.** 4 эскадрылля перабазавалася з Лідскага аэрадрома пад Менск на аэрадром Сляпянка.
**11 верасня.** Расійскі ўрад пагадзіўся прызнаць літоўскую дзяржаву і скласці з ёй мірную дамову.
**18 верасня.** Галоўная Рада ППС прыняла рэзалюцыю аб неадкладным спыненні вайны з РСФСР.
**Кастрычнік.** Пілсудскі накіраваў на ст. Мікашэвічы свайго асабістага прадстаўніка капітана Бернера для неафіцыйных перамоваў аб перамір'і. Пілсудскага не задаволілі тэрытарыяльныя саступкі
**8 снежня** Вярхоўная Рада Антанты прыняла дэкларацыю аб часовых усходніх межах Польшчы *(Известия ад 11 ліпеня 1920 г.)*.
**13 снежня.** Створаны кабінет Л. Скульскага.
**22 снежня.** Наркомзамежспраў РСФСР накіраваў у Польшчу ноту, у якой запэўніваў аб жаданні пакласці канец канфлікту

**1919 год.** Закрыта Свята-Міхайлаўская царква, у яе будынку адкрыты рымска-каталіцкі касцёл.
Васілішкаўская царква ператвораная ў касцёл.
Кароткі час у хаце доктара Рамуальда Сапоцкі на вул. Шаптыцкага (суч. Астроўскага) жыў Юзаф Пілсудскі.

# 1929 год

**1929 год, жнівень.** Адозва ЦК КПЗБ да працаўнікоў Заходняй Беларусі з заклікам да барацьбы супраць дэзарганізатарскай дзейнасці беларускіх буржуазных нацыяналістаў у ТБШ.
Штрайк на шклозаводзе "Нёман", названы гераічным.
У казармах афіцэры выявілі і забралі 136 адозваў кампартыі.
**1929 год, жнівень.** Фабрыка "Ардаль" пачала выпуск галёшаў.
**1929 год.** Цалкам завершана будаўніцтва школы № 1 (правае крыло). На адкрыццё школы прыязджаў прэзідэнт Польшчы Ігнацы Масціцкі. Масціцкі выплаціў 5 паёў і стаў акцыянерам Народнага банка ў г. Лідзе.
**1929 год, верасень.** У піарскай агульнай школе вучыцца больш за 100 вучняў.
**1929 год, 17 верасня.** Судовы працэс "36" у Лідзе па абвінавачанні ў прыналежнасці да КПЗБ. Выязная сесія Віленскага акруговага суда ў Лідзе разгледзела справу 36 рабочых і найбяднейшых сялян з Ліды і навакольных мястэчак, якіх польская дэфензіва пасадзіла на лаву падсудных як падазраваных у прыналежнасці да КПЗБ. Перад выхадам у суд палітвязням пачалі каваць рукі і ногі, яны запратэставалі. Прыбыў дадатковы аддзел паліцыі. Пад узмоцненай аховай закутых зняволеных даставілі ў суд. Каля турмы сабраўся вялікі натоўп рабочых і сялян, якія бурна пратэставалі. Конная і пешая паліцыя разагнала натоўп. Па гэтай справе суд вынес вельмі суровыя прысуды: М. Рабінштэйн, З. Шмуйловіч, Х. Курэй, Л. Розенштэйн, У. Казароўскі атрымалі па 6 гадоў катаргі, 8 падсудных - па 5 гадоў, 4 - па 4 гады, 13 - ад двух да трох гадоў, 6 чалавек прызнаныя невінаватымі. *(Савецкая Беларусь № 215 ад 20 верасня 1929 г.)*
**1929 год, кастрычнік.** Пачаўся эканамічны крызіс, які працягваўся да 1933 г.
**1929 год.** Пры адміністрацыйнай рэформе з Лідскага вылучаны Шчучынскі павет.
З'явілася фабрыка хімічных вырабаў "Карона". Дырэктар Каток.

Пабудаваная дызельная электрастанцыя магутнасцю 600 квт.

**1929 год.** У Баброўскай царквы польскім урадам забрана зямля - 40 гектараў.

Лясковіч Марыя (1864 - 22.05.1939) - дачка ўдзельніка паўстання 1863 г., настаўніца ў в. Пяткоўшчына Лідскага павету, заснавальніца (1924) і настаўніца прафесійнай жаночай школы ў Ішчалне атрымала "Залаты крыж заслугі" з рук прэзідэнта Масціцкага.

# 1939 год

**1939 год.** Гарадская лякарня на 85 ложкаў, 4 аддзяленні: тэрапеўтычнае, хірургічнае,акушэрскае, інфекцыйнае. 2 лекары. Габрэйская лякрня - на 18 ложкаў. Паліклініка для працоўных. Кошт лячэння - 2,5-3,5 злотых у дзень, рэнтгенаўскі здымак - 8 злотых, аналіз крыві -2 злотыя. Парада на хаце - 3,75 злотых.

У Лідскім павеце 2 трактары: у графа Жаўцоўскага і графа Пшаздецкага.

У Сойме Лідскі і Валожынскі паветы прадстаўляў абшарнік Юзаф Задурскі.

У Заходняй Беларусі ні адной школы і ні аднаго друкаванага выдання на беларускай мове.

У Лідзе гімназія, гандлёвая школа, тры сямігодкі, механічная школа. *(Уперад, 1949 г.)*

**1939 год.** У Лідзе на заводзе "Друтіндустрыя" рабочы камітэт дабіўся, каб уладальнік завода адпускаў кожнай сям'і паліва і выплаціў працоўным за час прастою завода, спыненага па яго ўказанн.. *(Васілючак, 1977 г.)*

**1939 год.** Лясковіч Марыя (1864 - 22.05.1939) - дачка ўдзельніка паўстання 1863 г, настаўніца ў в. Пяткоўшчына Лідскага павету, заснавальніца (1924) і настаўніца прафесійнай жаночай школы ў Ішчалне ўзнагароджана Ордэнам Адраджэння Польшчы.

**1939 год, ліпень.** У Лідзе выступіла знакамітая апярэтачная прымадонна Люцына Шчапаньская ў аперэце Ф. Ленарта "Жаваранак".

**23 ліпеня.** На Слабадзе па ініцыятыве каталіцкай грамады адбылося аматарскае прадстаўленне. Сыграна п'еса ў трох актах "У чым шчасце". Уваход бясплатны. Публікі 100 чалавек.

**23 жніўня.** Складзены пакт аб ненападзе паміж Нямеччынай і СССР, падпісаны сакрэтны пратакол аб размежаванні сфер уплыву ў Цэнтральнай Еўропе (пакт Молатава-Рыбентропа).

**30 жніўня.** Па загадзе лідскага старасты арыштаваныя А.І. Некрашэвіч, С. Бондар.

**31 жніўня.** 18 чалавек з лідскай турмы ўначы скаваныя па двое пагружаны на ст. Ліда ў вагоны і адпраўлены ў Картуз-Бярозу. Сярод іх А.І. Некрашэвіч, С. Бондар.

**Жнівень.** На фабрыцы "Ардаль" працуюць 725 рабочых і службоўцаў. Сярэдняя заработная плата на фабрыцы 45 злотых.

**1939 год, 1 верасня.** Фашысцкая Нямеччына напала на Польшчу. Пачалася Другая Сусветная вайна. Нямецкі самалёт (адзін) бамбардзіраваў Ліду і чыгуначныя масты на Нёмане.

Адкрытая новая "маршалкоўская" школа ў Дакудаве.

**17 верасня ў 5 гадзін 40 хвілін (4 гадзіны).** Чырвоная Армія перайшла савецка-польскую мяжу. У кірунку Валожын, Гальшаны, Ліда дзейнічала Менская група 11-й арміі пад камандаваннем камдзіва Чаравічэнкі ў складзе 16-га стралковага корпуса (100-я і 2-я стралковыя дывізіі), 3-га кавалерыйскага корпуса (7-я і 36-я кавдывізіі), 6-ай танкавай брыгады.

**17 верасня.** Апошнія 17 самалётаў-біпланаў "Карасі" падняліся з Лідскага аэрадрома і паляцелі ў бок Літвы. Ляцелі над Нёманам.

**18 верасня, 16 гадзін .** У Ліду ўвайшлі часткі Чырвонай Арміі. На вуглу суч. вуліц Калініна і Энгельса была ўсталявана трыумфальная арка.

**18 гадзін.** У замку адбыўся мітынг, сабралася каля 8 тысяч гараджан, падпалкоўнік Быкаў (маёр Выкаў, Войкаў) - камандзір танкавай часткі абвясціў у горадзе савецкую ўладу.

**18 верасня.** З турмы ў Картуз-Бярозе вызваліліся Бондар С.А., Некрашэвіч А.І., Радзецкі М.Р. - чальцы падпольнай арганізацыі в. Сялец.

**18 верасня.** Ў заяве Савецкага ўраду, перададзенай па радыё, гаварылася, што ўрад лічыць сваім абавязкам падаць руку дапамогі сваім братам-беларусам, якія насяляюць Польшчу.

**18 верасня.** На Лідскім аэрадроме захоплены 23 польскія самалёты, 11 з іх былі спраўнымі

**19 верасня.** Арганізавана Рабочая Гвардыя. Начальнікам Гвардыі ў Лідзе прызначаны старшыня прафсаюзу будаўнічых рабочых М.Т. Рачкевіч.

**20 верасня.** У газеце "Сцяг Саветаў" змешчаны зварот камандавання Беларускага фронту да салдатаў польскага войска і працоўных Польшчы, у якім іх заклікалі не праліваць кроў, здаць зброю і не супраціўляцца.

**22 верасня.** А.І. Некрашэвіч вярнуўся ў Сялец пешшу з Картуз-Бярозы за 4 дні.

**23 верасня**. У газеце "Праўда" змешчана інтэрвію з начальнікам часовага гарадскога кіравання П.З. Калініным.

**24 верасня.** Лідскія школы аднавілі навучанне. У будынку першай школы адкрыты дзве сямігадовыя школы: руская № 1 і беларуская № 2.

**25 верасня.** Супрацоўнік газеты "Савецкая Беларусь" звязаўся па тэлефоне з старшынём Часовага кіравання горада Ліды Калініным (Пятром Захаравічам). У Лідскім павеце жыве 186 тысяч насельніцтва,

89% насельніцтва - сяляне, 27 тысяч - у горадзе Лідзе. На гуце “Нёман” - 2 тыс. працоўных, на гумовай фабрыцы - 900 працоўных, на цвікавым заводзе - 200, 2 чыгуналіцейныя, 5 дрэваапрацоўчых, 2 піваварныя заводы, 2 цукерачныя фабрыкі. Каля 6 тысяч працоўных. У павеце 240 польскіх пачатковых школ і 9 літоўскіх, каля 7 тысяч дзяцей па-за школай.

**28 верасня.** Падпісана дамова аб дружбе і мяжы паміж СССР і Нямеччынай.

**30 верасня.** Выйшаў першы нумар газеты “Уперад”- орган часовага кіравання г. Ліды і Лідскага раёна. Першым рэдактарам быў Б. Абрамзон. Некаторы час газету падпісвалі як часовыя выканаўцы абавязкаў рэдактара А. Шванштэйн, М. Ляўковец і М. Капулкін.

**Верасень.** Ля в. Агароднікі (на Ліпнішкі) расстраляны тры польскія афіцэры.

**1939 год, 1 кастрычніка.** У Маскве адбылося паседжанне Палітбюро ЦК УКП/б/, было вырашана склікаць Беларускі і Ўкраінскі народныя сходы.

**2 кастрычніка.** Адбылося паседжанне бюро ЦК КП /б/ Беларусі, распрацаваныя мерапрыемствы і прынята пастанова “прыняць да няўхільнага выканання”. Старшынём Часовага Кіравання горада Ліды быў прызначаны Гаўрыіл Іванавіч Сямёнаў. Месцам правядзення Народнага сходу вызначаны горад Беласток.

**8 кастрычніка.** Адбылася інструктыўная нарада чальцоў участковых выбарчых камісій Белагрудскай акруговай выбарчай камісіі. Старшыня А. Севярын.

**9 кастрычніка.** Прайшла вялікая нарада актыву Белагрудскай валасці Прысутнічала 400 чалавек. Сакратар Белагрудскага сялянскага камітэту Анастасія Маркевіч заклікала ўдзельнікаў нарады аказаць садзейнічанне ў выбарах на Народны сход.

**10 кастрычніка.** У газеце “Савецкая Беларусь” з’явілася артыкул аб сходзе ў Белагрудскай валасці.

Падпісана дамова аб перадачы Віленшчыны Літве

Агент “Шэры” даклаў, што жыхар Ліды Ждановіч у гутарцы з ім сказаў, што за 2 км ад Ліды ў Залеўскага маецца “наган”, і ў яго збіраюцца Буркевіч Ігнацы, Туркевіч Пётр - жыхары Ліды.

Інфарматар “Вялічка” даклаў: вялікі шпекулянт Залкінд сказаў: “Бачыш чырвоныя сцягі, якімі мы сустракалі ЧА. Такая кроў паліецца з іх, бо ўсе яны нашы ворагі”. Залкінда адшукваюць.

**Кастрычнік.** Чырвоныя абозы даставілі прадукты ў Ліду. Для лепшай арганізацыі гандлю ў Лідзе створаны аптовыя базы, праз якія Часовыя кіраванні размяркоўвалі атрыманыя прадукты і прамысловыя тавары. *(Васілючак, 1977 г.). “Пачалі па-страшнаму браць падаткі. Кантынгент прымалі на старым млынкамбінаце і каля “Ардаля”. Прымаць не паспявалі. Збіралася па 500-600 фурманак, чэргі стаялі па 2-3 сутак. Здавалі падаткі пакорліва і паслухмяна”.*

**11 кастрычніка.** Сотая стралковая дывізія пад камандаваннем камбрыга Ерманова размешчаная ў Лідзе, удзельнічала ў паходзе па Заходняй Беларусі - Гародня, Друскенікі.

**15 кастрычніка.** На заводзе “Нёман” Дакудаўскай гміны рабочая Картанава Вольга гаварыла, што жывецца ёй дрэнна, таму што яе муж Аляхновіч Вацлаў ствapae нейкую партыю і агітуе не галасаваць за Савецкую ўладу, ён і яго сябры слухаюць радыёперадачы з Францыі на польскай мове

**20 кастрычніка.** Жыхар хутара Жучкі Беліцкай гміны Павел Вурдзей вёў прапаганду супраць выбараў у Народны сход.

**22 кастрычніка.** Выбары на Заходнебелорускі Народны сход. Па 38 выбарчых акругах павету прынялі ўдзел у галасаванні 96 239 чалавек (96,5%), за кандыдатаў прагаласавалі 71638 чалавек (73,6 %). Па горадзе Лідзе ўдзел у выбарах прынялі 96,5 % выбарнікаў, за кандыдатаў прагаласавалі 89,8 %. Дэлегатамі ад Ліды абраныя Мікалай Мікітавіч Іваноўскі, рабочая фабрыкі “Ардаль” Рэдзік А.А (выступала на Народным сходзе).

**23 кастрычніка.** Апублікаваныя вынікі выбараў, выбарчыя камісіі зарэгістравалі абранне 927 дэпутатаў. Сярод дэпутатаў 621 беларус, 127 палякаў, 72 яўрэі, 53 украінцы, 43 рускія.

**28 кастрычніка.** У Беластоку адкрыўся Народнае (нацыянальны) сход Заходняй Беларусі. Прадстаўнікамі Лідчыны былі Фёкла С. Будзевіч (Беліца), А. Ліпская (Табала), Хрышчановіч Уладзімір (дачка Ванда ІосіфаўнаТрусіла - Ваверка), Некрашэвіч Аляксандр Іванавіч, Кароль Ю.У.- выступаў на Н.С.

**29-30 кастрычніка.** Народны сход Заходняй Беларусі зацвердзіў дэкларацыю аб дзяржаўнай уладзе ў Заходняй Беларусі. Прынята рашэнне аб канфіскацыі без усякага выкупу земляў абшарнікаў, кляштароў і буйных дзяржаўных службоўцаў, аб нацыяналізацыі банкаў і прамысловых прадпрыемстваў.

**Кастрычнік.** ЦК ЛКСМБ прызначыў А.Галенчыка ўпаўнаважаным па арганізацыі камсамольскай працы па Лідскім павеце са штатам супрацоўнікаў. На ўліку 20-30 камсамольцаў, прыбылых з усходу.

**1939 год, 1 лістапада.** Віленшчыну (7120 км кв., 457 тысяч жыхароў) Савецкі ўрад перадаў Літве.

**2 лістапада.** Пазачарговая пятая сесія Вярхоўнага Савету СССР разгледзела просьбу паўнамоцнай камісіі Народнага сходу Заходняй Беларусі аб уключэнні яе ў склад Савецкага Саюза і прыняла закон аб уключэнні Заходняй Беларусі у склад СССР і ўз’яднанні яе з БССР. Лідскі машыніст Мікалай Мікітавіч Іваноўскі (№ 63 у спісе чальцоў Паўнамоцнай камісіі Народнага сходу З.Б.)

**6 лістапада.** У гімназіі імя К. Хадкевіча падчас урачыстага сходу чальцы польскай падпольнай групы пасыпалі ў зале парашок з аміякам і кінулі праз акно некалькі камянёў. Сход быў сарваны. У гандлёвай гімназіі падчас сходу быў рассыпаны парашок з задушлівым пахам, адначасова было выключаны святло -

выкручаныя пробкі

**7 лістапада.** Польская падпольная група Менцялевіча распаўсюдзіла ў горадзе ўлёткі.

*"Жыццё змяняецца, жыццё ідзе колам. У Польшчу дайшлі злыдні і пускаюць нам пыл у вочы. Гэй, паляк, да працы: хапай шчотку або венік і вымятай варожую зграю, каб не вымелі нас!"*

Распаўсюджвала ўлёткі гімназістка Лінчэўская. Падчас дэманстрацыі калоны гімназістаў не былі святочна аформленыя. Большасць гімназістаў з гімназіі імя Караля Хадкевіча падчас выканання "Інтэрнацыяналу" не здымала галаўныя ўборы, а праходзячы міма трыбунаў, не адказвала на прывітанні, смяючыся і пасвістваючы, дэманстратыўна адварочвалася ад яе.

**12 лістапада.** У Менску на пазачарговай трэцяй сесіі Вярхоўнага Савета БССР разгледжана заява паўнамоцнай камісіі Народнага сходу Заходняй Беларусі аб яе ўключэнні ў склад БССР. Вярхоўны Савет БССР пастанавіў: "1. Прывітаць пастанову Вярхоўнага Савета СССР аб уключэнні Заходняй Беларусі ў склад Савецкага Саюза. 2. Прыняць Заходнюю Беларусь у склад БССР і аб'яднаць гэтым самым вялікі беларускі народ у адзіную беларускую дзяржаву." Старшыня прэзідыюма М. Наталевіч, сакратар Л. Папкоў.

**14 лістапада.** У гонар уз'яднання беларускага народа ў Менску адбыўся парад войскаў і дэманстрацыя, у якой прыняло ўдзел 150 тысяч чалавек.

**19 лістапада.** Цэнтральны Камітэт зацвердзіў на тэрыторыі Заходняй Беларусі аргбюро ЦК КП(б)Б па Беластоцкай, Баранавіцкай, Пінскай, Берасцейскай і Вілейскай абласцях у складзе першага, другога і трэцяга сакратароў, сакратароў па кадрах і па прапагандзе ды агітацыі *(Васілючак, 1977 г.)*.

**1939 год, 2 снежня.** Лідскі павет, без Каняўскай і Эйшышскай валасцяў, якія аддалі Літве,уключаны ў склад Баранавіцкай вобласці *(ЭГБ)*.

**4 снежня.** Указам Прэзідыюма Вярхоўнага Савета СССР замiж Беластоцкага, Палескага, Наваградскага і Віленскага ваяводстваў, якія існавалі раней, утвораныя Беластоцкая, Берасцейская, Баранавіцкая, Вілейская і Пінская вобласці..

**4 снежня.** Сотая стралковая дывізія атрымлівае загад перадыслакавацца з Ліды ў Ленінградскую вайсковую акругу

**10 снежня.** *"Устаноўлена, што ў Лідзе існавала польская контррэвалюцыйная нацыяналістычная паўстанцкая група, якая складаецца з рэакцыйнай часткі педагогаў і гімназістаў гімназіі імя Караля Хадкевіча, узначальваў якую дырэктар гімназіі Мянцялевіч Казімір сын Марцэлія" (Сакр. даклад Л. Цанавы.)*

**1939 год, кастрычнік-снежань.** Праведзеная нацыяналізацыя прамысловых прадпрыемстваў.

# 1949 год

**1949 год, 23 жніўня.** Арганізаваны калгас "Чырвоная Зорка" у в. Шайбакі, старшыня П. Шот.

**4 верасня.** Арганізаваны калгас імя Калініна ў в. Радзівонішкі, старшыня Андрушка І.Д.

Арганізаваны калгас імя Леніна ў в. Ганчары, старшыня Андрэй Захаравіч Трошын.

**5 верасня.** Арганізаваны калгас "17 верасня" у в. Крывічы Беліцкага с/с.

**7 верасня.** Арганізаваны калгас імя Чапаева ў в. Навіцкія -2 Траццякоўскага с\с.

**14 верасня.** Арганізаваны калгас "Новы шлях" у в. Хлусы-Субачы Жалудокскага с\с.

**да 14 верасня.** Арганізаваны калгас "Чырвоны сцяг" у в. Бабры, 47 гаспадарак, старшыня Чыжык Г.К.

**17 верасня.** Арганізаваны калгас імя Ракасоўскага ў в.Тракелі і Эйтуны Тракельскага с/с.

**17 верасня.** Арганізаваны калгас імя Молатава ў в. Ёдкі *(у жніўні - па газеце)*.

**19 верасня**. Пачалося будаўніцтва Лідскага малочнаконсервавага завода *(пастанова Савета Міністраў СССР № 4011)*.

**1949 год, кастрычнік.** У горадзе 3 СШ, дзве семігодкі, 3 пачатковыя школы, 2 вячэрнія. Педагагічная і рамесная навучальні; 2 бальніцы на 300 ложкаў, 2 паліклінікі, жаночая і дзіцячая кансультацыі, санстанцыя, малярыйная станцыя, 30 лекараў і каля 100 медработнікаў. У раёне 86 школ.

**8 кастрычніка.** Арганізаваны калгас імя Будзённага ў в. Табала, 14 гаспадарак, старшыня Ў.С. Дзейка.

**13 кастрычніка.** Арганізаваны калгас імя Дзяржынскага ў в. Кабыльнікі (Крыніцы), 11 гаспадарак, старшыня Більдзь М.А.

**14 кастрычніка.** Арганізаваны калгас "Світанак" у в. Алемпінава Мажэйкаўскага с/с.

Арганізаваны калгас імя Дзімітрава ў в. Дзмітраўцы Мажэйкаўскага с/с.

**1949 год, 3 лістапада.** Прынята рашэнне гарвыканкаму аб арганізацыі мэблевай фабрыкі *(раш.№ 456)*.

**1949 год.** На абутковай фабрыцы пачаўся масавы пашыў абутку

Адноўлена і пабудавана новых жылых даіоў агульнай жылой плошчай 30 тыс. кв. м.

На мясакамбінаце пабудаваны халадзільнік ёмістасцю 130 тн

Пабудаваная нафтабаза з ёмістасцю 600 м. куб. на пляцоўцы па вул. Энгельса..

**1959 год. 24 ліпеня.** Прынята рашэнне райвыканкама № 331 аб адкрыцці раённай бібліятэкі.

**1959 год, жнівень.** На малочна-кансервавым заводзе ўведзены ў эксплуатацыю цэх бляшана-кардонных банак для расфасоўкі сухога малака.

**1959 год.** Пачаў працу аўтарамонтны завод.

Будуецца будынак кінапракату.

Створаны будтрэст № 19.

**1969 год, 10 ліпеня**. Выканкам гарсавету *(рашэнне № 63)* пераназваў вул. 4-ую Куйбышаўскую ў вул. І.П. Катлярэўскага. Бібліятэцы гарнізоннага Дома афіцэраў прысвоена імя І.П. Катлярэўскага *(55-1-575-157)*.

**1969 год, 11 ліпеня.** Прынята рашэнне райвыканкаму *(пратакол № 13)* аб адкрыцці Бярозаўскай пасялковай дзіцячай бібліятэкі *(604-1-223-6-7)*.

**1979 год, 8 ліпеня.** На паседжанні выканкама гарсавета вырашанае пераназваць вул. Лётную ў вул. імя генерала Бяды, вул. 1-ую Крупскую ў вул. імя Фамічова Рыгора Філатавіча, 2-гі завулак Говарава ў вул. імя К. Каліноўскага. Назваць забудованыя вуліцы другой чаргі індывідуальнай забудовы мікрараёна "Маладзё-жны": праезд № 4 - вул. Багдана Хмяльніцкага, праезд № 5,10 - вул. Грыгор'ева Віктара Міхайлавіча, праезды № 6, 11- вул. імя Сытнікава Іллі Іванавіча, праезды № 7,12 - вул. імя Балгарына Сяргея Іванавіча, праезды № 8, 13 - вул. імя Аляксея Стаханава, праезды № 9, 14 - вул. імя Пашы Ангелінай (пратакол № 48)

**26 жніўня.** На плошчы Леніна адбылося традыцыйнае тэатралізаванае свята працы. Выступілі Ў. Логаш, Н. Папова, слесар завода "Лідсельмаш" Іван Ціхан, работніца абутковай фабрыкі І. Салаўёва, камса-молец Іван Марцінкевіч, намотчыца завода электравырабаў Р. Кушык. Да 1жніўня 272 чалавекі выканалі пяцігадовыя планы, 318 - заданні 4,5 гадоў, 1663 завяршылі 4-гадовыя планы.

**1979 год.** На сродкі завода "Оптык" пабудаваны 4-павярховы вучэбны корпус для тэхнікума, у якім былі адкрытая сталовая, 13 вучэбных кабінетаў.

**1979 год.** Лідская абутковая фабрыка ўзнагароджана юбілейным Ганаровым знакам ЦК КПСС, СМ СССР і УЦСПС. Калектыву прысвоена ганаровае званне "Прадпрыемства высокай культуры вытворчасці".

**1989 год, 2 ліпеня.** Адкрыты помнік А. Міцкевічу па вул. Міцкевіча на сродкі сабраныя гараджанамі. Скульптар Валер Янушкевіч (Менск).




**8 ліпеня.** У новым гарадскім парку праведзена "Свята горада і раёна", прысвечанае 45-м угодкам вызвалення.

**4 кастрычніка.** У горадзе зарэгістравана 55 кааператываў, дзей-нічаюць 48, дзейнасць 7 спынена, у кааператывах 430 працоўных.

**16 снежня.** У Лідзе прайшла Ўстаноўчая канферэнцыя Тава-рыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны. Старшынём абраны выкладчык педнавучальні Міхась Мельнік.

**24 снежня.** Адбылося ўрачыстае спатканне аплаткавае пры помніку А. Міцкевіча.

**Снежань.** Здадзена інтэрнат ПЭС на 214 месцаў у Лідзе.

**1989 год.** У Фарным касцёле адбылося памазанне (першае за 50 гадоў), на якое прыехаў кс. Эдвард Кісель з Беластока.

**1989 год.** У горадзе вялося будаўніцтва заводаў "Ізатрон", "Нёман", мясакамбіната.

Дэпутат ВС СССР ад Ліды Кучэйка.

Створаны Саюз кааператываў

Пабудаваны будынак гарвыканкаму.

**1999 год, 29 чэрвеня**. Дзяржаўны камітэт па друку зарэгістраваў **"Лідскі летапісец".**

**Верасень.** У горадзе 15 СШ, гімназія, 20 дашкольных устаноў, каледж, педнавучальня, 3 ПТВ, музнавучальня і музычная школа. Бальніца, 5 паліклінік, 3 дыспансеры, 24 пункты аховы здароўя,станцыі хуткай дапамогі і пералівання крыві, 7 апатэк і 11 аптэчных пунктаў. Стадыён, 36 спартзалаў, плавальны басейн.

**16 кастрычніка** Памёр Вацлаў Яўгенавіч Гебельт.

**1999 год.** Атрымана па 19,8 ц/га збожжавых, 102,3 ц/га бульбы. Надоі малака -2525 кг, сярэднесутачныя прывагі: брж -396 г/суткі, свіней-352 г/суткі. Прадпрыемствы раёна (без г. Ліды) вырабілі прадукцыі на 5,6 трл. рублёў, 70% з іх складае гатункавы посуд шклозавода "Нёман". Уведзена ў эксплуатацыю 13507 м.кв. жылля. 189 гандлёвых кропак, 3 аўтакрамы і 7 крам на хаце. Тавараразварот - больш за 108,7 %. 4 участковыя бальніцы на 275 ложкаў, райпаліклініка, 28 ФАП-аў, 3 амбулаторыі. 75 лекараў і 225 працаўнікоў сярэдняга звяна. 15 апатэк, 38 аптэчных пунктаў. 22 СШ, 12 базавых і 7 пачатковых школ. 6400 вучняў. 27 дзіцячых садкоў -у іх выхоўваюцца 1561 дзіця. 756 педагогаў, сярод іх 3 заслужаныя настаўнікі Беларусі, 77,5 % маюць вышэйшую адукацыю, больш за 50 % вышэйшую і першую кваліфікацыйныя катэгорыі. 32 клубныя ўстановы, 45 сельскіх і 7 філіялаў цэнтральнай і дзіцячай бібліятэк з фондам 481242 кнігі. 3 музычныя школы. 168 гурткоў мастацкай самадзейнасці, 6 з якіх маюць званне "народны" і "ўзорны": народны ансамбль бытавых інструментаў "Каханачка", народны ансамбль народнай музыкі "Гудскі гарамонік", сямейны ансамбль Парфенчыкаў з Бердаўкі, народны хор "Журавінка" Першамайскага ДК, узорны тэатр Беліцкага ДК "Пунсовыя ветразі" і ансамбль народнай музыкі "Прынямонцы" дзіцячай музычнай школы.

# 80 гадоў абутковай фабрыцы

**“Ардаль”** - так называлася **Лідская абутковая фабрыка імя 60-годдзя Вялікага Кастрычніка**. Узнікненне фабрыкі звязана з кан’юктурай вытворчасці гумовага абутку ў 20-х гадах. “Ардаль” слова яўрэйскае (ідыш) і абазначае “галёш”.

Будаваў фабрыку адзін з найбуйнейшых капіталістаў Заходняй Беларусі **Саламон Мелуп**. Сунуўся я ў Інтэрнэт з намерам адшукаць біяграфію гэтага выдатнага чалавека і знайшоў толькі адно маленькае паведамленне, што яго дачка Ірэна Мелуп з нагоды нейкага яўрэйскага рэлігійнага свята паставіла па ім свечку, гэта ў маім разуменні ангельскага тэксту. І яшчэ раз прозвішча Мелуп мільганула ў невялікім матэрыяле пра польскую хімічную прамысловасць міжваеннага дваццацігоддзя. Крыўдна і дзіўна. Людзям, якія руйнавалі і падрывалі народнае дабро падчас вайны, - ім і ўзнагароды, і помнікі, і вечная памяць і “ніколі не забудзем”, а тым, хто ствараў, будаваў, фінансаваў - свечка ад дачкі, і толькі. Як у вар’ятні, там поўна сталінаў, гітлераў, напалеонаў, а вось стаханавых і ангеліных няма, не папулярныя.

У 1927 г. Саламон Мелуп атрымаў дазвол на будаўніцтва фабрыкі гумовых вырабаў. У 1928 г. было ўтворана акцыянернае таварыства вытворцаў гумы “Ардаль”. Яго заснавальнікамі з’яўляліся Саламон Мелуп, Саламон Фурман, МойшаАроньчык, Мордух Зелікавіч Віленчык, Гірш і Леў Кушалевічы, Мейер і Зэльман Штэйнбергі, Беніямін Ноталевіч і Хая Ландо.



*Каля варот фабрыкі “Ардаль”*

Гэта сур’ёзныя лідскія прадпрымальнікі: браты Штэйнбергі валодалі заводам сельскагаспадарчых машын “Бенлянд”, млыном “Аўтамат”, былі суўладальнікамі цвіковага завода “Метал”, Віленчык -brick works “цэгла”, у сям’і Ландо была гасцініца “Гранд-Гатэль” і яны суўладалі “Бенляндам”, Кушалевічы спецыялізаваліся на вырабе адзення і гандлі прадуктовымі таварамі.

Статутны капітал склаў 500 тыс. злотых, на якія было выпушчана 5000 акцый з намінальнай вартасцю адной акцыі 100 злотых. АТ “Ардаль” было зарэгістравана ў гандлёвым рэестры суда ў Вільні і Лідзе. У склад кіравання ўваходзілі Саламон Мелуп - прэзідэнт і фактычны ўладальнік фабрыкі, Лазар Цукерман, а таксама Мордух Віленчык.

У наглядальную раду ўваходзілі: прафесар фізічнай хіміі Варшаўскага ўніверсітэта імя Пілсудскага доктар Мечыслаў Цэнтнершвер, Саламон Аксельрод, Вікенці Бялецкі, Мікалай Галецкі, Мейер Штэйнберг. Дырэктарам фабрыкі быў інжынер Альберт Фішар, пазней Данііл Аляксандровіч, а дараднікамі былі інжынеры Саламон Фурман і Мойша Гурвіч. За два гады будынак фабрыкі быў пабудаваны, абсталяванне закуплена і ўсталявана. Арганізацыяй вытворчасці кіраваў інжынер Заблоцкі, які меў 10-гадовы стаж працы на знакамітай пецярбургскай фабрыцы гумовых вырабаў “Трыкутнік”. Першая прадукцыя была выраблена ў 1929 г.

У 1930 г. фабрыка “Ардаль” выврабіла 195 тыс. пар гумовага абутку. На міжнароднай выставе гумовых вырабаў у Бруселі лідскі гумовы абутак атрымаў першую прэмію і залаты медаль. На фабрыцы працавалі 272 рабочыя і ІТР. Дзённы заробак на фабрыцы складаў 4,8 злотых Палова прадукцыі фабрыкі ішла на экспарт, прыбытак 29-30 гг. склаў 11 тыс. злотых.

У 1934 г. “Ардаль” выраблаў 48 артыкулаў гумовага абутку і спадарожных тавараў: гумовыя боты, галёшы, скураныя жаночыя і мужчынскія туфлі, дзіцячы абутак, апоны (пакрышкі) для равароў, гумовыя тканіны, хірургічныя і тэхнічныя вырабы. Неўзабаве пабудавалі ўласную электрастанцыю і пілараму.

У 1930-х гадах “Ардаль” быў найбуйным прадпрыемствам у Лідзе і адным з найбуйных у Заходняй Беларусі. У 1935 г. на фабрыцы працавалі 750 працоўных, большасць, як і ў савецкі час, былі жанчыны. Пры фабрыцы меліся станцыя апекі маці і дзіцяці, дзіцячы сад, медпункт.

Першыя гады прыпалі на час найглыбокага эканамічнага крызісу. У гэтыя гады ўсе фабрыкі гумовага абутку мелі адмоўны баланс. Страты “Ардаля” у перыяд з 1 чэрвеня 1931 г. па чэрвень 1932 г. склалі 99 тыс. злотых.

У сярэдзіне 1930-х гадоў “Ардаль” патрэслі 3-х месячныя штрайкі. Пачаліся яны 30 снежня 1935 г. У гэты час на фабрыцы працавала каля 1000 працоўных. Ежы Путрамент у сваім рэпартажы з Ліды ў віленскі

“Пятрэйд” так пісаў пра пачатак штрайку: *“ У канцы 35 г. пачалі стварацца прафсаюзныя арганізацыі. У адказ на гэта фабрыка звольніла не сезонных (ліпень-снежань) рабочых, запрошаных адмыслова на сезон, як гэта было раней, а тых, хто ствараў прафсаюз. Іх не пускалі на фабрыку. У 12 гадзін дня рабочыя спынілі працу, прад’явілі дырэкцыі патрабаванне вяртання на працу звольненых. Дырэкцыя звярнулася па дапамогу да паліцыі. Рабочыя засталіся на працоўных месцах, паводзілі сябе спакойна. Прыбылая паліцыя абмежавалася заклікамі прыступіць да працы. Дырэкцыя наогул не хацела весці перамовы са штрайкоўцамі. Створаны прафсаюз спачатку абмяжоўваўся заклікамі вярнуць на працу звольненых. Штрайкоўцы пагадзіліся на 4-дзённы рабочы тыдзень. У сувязі з няўступлівасцю ўладальнікаў фабрыкі штрайкоўцы выставілі патрабаванні падвышэння зарплаты на 25%, прызнанне прафсаюза, аплаты за час штрайку і паляпшэння санітарных і гігіенічных умоў працы.”*








***Фірменны бланк фабрыкі “Ардаль” з паштовымі рэквізітамі***

Пасля 1935 г. наступілі лепшыя часы, пачалося ажыўленне вытворчасці, вырас збыт. Немалы ўплыў на далейшае развіццё “Ардаля”. зрабіла разарэнне знакамітага польскага ППГ *( Polski Przemysl Gutowy - Польскі Пшемысл Гумовы)* у Грудзендзе.

У гэта цяжка зараз паверыць, але ў верасні 1936 г. “Ардаль” выкупіў ППГ, на якім працавалі 4800 чалавек, і палова прадукцыі ішла на экспарт.

Узяцце кіравання разарыўшагася ППГ адкрыла “Ардалю” новыя тэхнічныя і фінансавыя магчымасці. Збанкрутавалы ППГ ствараў нямала праблем. Аднак у 1937 г. заробак там быў на больш высокім узроўні, чым у Лідзе, хаця яму было далёка да ўзроўню 1930 г., калі дзённы заробак не перавышаў 3 злотыя (рабочы зарабляў 24-30 грошаў у гадзіну, работніца - 23-37 грошаў у гадзіну, спецыялісты - 37-65 грошаў у гадзіну.

ППГ быў больш тэхнічна абсталяваным, меў вялікія магчымасці вытворчасці шырокага асартыменту гумовага абутку і інш. вырабаў. У 1937 г. канцэрн “Ардаль -ППГ” вырабіў 2,3 млн. пар абутку, фінансавая выручка склала 8,3 млн. злотых.

У другой палове 1930-х гадоў “Ардаль” стаў высокапрыбытковым прадпрыемствам, у 1937-38 гг. прыбытак склаў 281 тыс. злотых.

У “Гадзіннай газеце гандлёвай” № 270, кастрычнік 1938 г., гаварылася: *“Грунтоўна праводзяцца ўдасканаленні ўмоў аховы працы і гігіены, маецца адмысловая станцыя апекі маці і дзіцяці, дзіцячы сад, які знаходзіцца пад кіраўніцтвам спецыялістаў, кантроль за працай жанчын -маці - усё гэтае сведчанне грамадскага, выхаваўчага і медыцынскага клопату фабрыкі ППГ пра сваіх працаўнікоў.*

***Развіццё акцыянернага таварыства “Ардаль”:***

*1929-30 плюс 11 тыс. зл.*
*1931-32 мінус 99 тыс. зл.*
*1932-33 мінус,*
*1933 - 34 гг. мінус 26 тыс. зл.,*
*1934 - 35 гг. мінус 25,5 тыс. зл,*
*1935 - 36 гг. плюс 43 тыс. зл.,*
*1936 - 37 гг. плюс 137,8 тыс. зл.,*
*1937 - 38 гг. плюс 281 тыс. зл.”*

Цяжка сёння пацвердзіць гэтыя дадзеныя. Ці гэта датычылася абедзвюх фабарык або адной “Ардаль”? Магчыма гэта была крыклівая рэклама. Як быццам гэтыя лічбы датычацца колькасці працоўных у 1938 г. у канцэрне “Ардаль”- ППГ, якая падавалася ў знешнія інстанцыі, а менавіта 2300-2500 чалавек. Ва ўсякім разе такой колькасці працаўнікоў не дасягала ні адна фабрыка гумовых вырабаў. Так або інакш лідская “Ардаль” як арандатар абнавілася і пашырэла.

Разам з тым зарплата на “Ардалі” была жабрацкая. Дзённы заробак мужчын складаў няпоўныя 2 злотыя, работніц 1-1,5 злотых. Маладая работніца атрымлівала 30 грошаў, а пасля двухтыднёвай практыкі магла зарабляць 1 злоты. Большасць работніц былі жанчыны. 27 лютага 1938 г. у Лідзе адбыўся аднадзённы штрайк салідарнасці. Працавала толькі электрастанцыя, крамы і некаторыя ўстановы. Штрайк скончыўся перамогай працоўных.

У гэты ж час да 1939 г. акцыянерскі капітал павялічыўся да 1830 тыс. злотых, кошт адной акцыі вырас у 3,6 разу. Фабрыка мела некалькі падраздзяленняў і ўласныя прадстаўніцтвы ў буйных гарадах. У Лідзе мелася фірмовая крама на вул. Сувальскай (Савецкай). Падчас абвастрэння міжнароднага становішча ўвосень 1938 г. рабочыя, ІТР-аўцы і адміністрацыя канцэрна ахвяравалі грошы на набыццё дзвюх гармат (кулямётаў).

Адначасова з “Ардалем” пачалі працу фабрыкі ў Варшаве (“Рыгавар”) і ў Кросне (“Відэта”). Абутак на гэтых фабрыках вырабляўся на аснове імпартных матэрыялаў (натуральных каўчукаў і хімічных дадаткаў), з выкарыстаннем таннай працоўнай сілы мясцовых жанчын. Выраблены абутак знаходзіў збыт у асноўным за мяжой. У Лідзе таксама функцыянавала невялікая фабрыка “Унігум” на вул. Замкавай, 13 , заснаваная ў 1937 г.

Фабрыка адзначыла 10-годдзе, польская прэса асвятліла гэтую падзею хвалебнымі артыкуламі, а на парозе ўжо стаяла вайна. Пазней, увосень 1939 г., фабрыка была нацыяналізаваная. Які лёс усіх акцыянераў “Ардаля”, не ведаю, але Беніямін Ноталевіч Ландо, узрост якога на гэты момант перавысіў 65 гадоў, 27.04.1940 года быў арыштаваны як сацыяльна-небяспечны элемент. Атрымаў 8 гадоў папраўча-працоўных лагераў

***Валеры Сліўкін.***

# ЛІДСКІ ГІСТАРЫЧНА-МАСТАЦКІ МУЗЕЙ

## *75 гадоў пачатку музейнай справы ў Лідзе*

Першы Лідскі музей быў заснаваны ў **1934 г. Уладзіславам Абрамовічам** і называўся **"Этнаграфічны музей імя Тодара Нарбута"**, размяшчаўся па вул. Фалькоўскага (цяпер Перамогі). У. Абрамовіч быў знакаміты тым, што ў 1936-1939 гг. выдаваў рэгіянальна-краязнаўчы штомесячны часопіс *"Ziemia Lidzka"* ("Лідская Зямля ").

**28 траўня 1939 г.** у Лідзе адбылося ўрачыстае адкрыццё і асвячэнне музейнага цэнтра гарадскога аддзела Польскай краязнаўчай грамады. Акт асвячэння здзейсніў лідскі дэкан ксёндз Гіпаліт Баярунец у прысутнасці прадстаўнікоў улады, настаўнікаў гарадскіх школ, сяброў краязнаўчага таварыства. Прэзідэнт Лідскага аддзела **Юзаф Дзічканец** прачытаў лекцыю пра задачы краязнаўчай грамады, пасля чаго прысутныя падпісалі ў памятнай кнізе акт адкрыцця цэнтра *(Ziemia Lidzka, № 6, 1939 г., с. 184.)*.

У наступны раз **Гістарычна-краязнаўчы музей** (абласны) адкрыўся 22 студзеня 1941 г., што пацвярджаецца нататкай у газеце "Уперад" ад 24.01.1941 г. У дзень адкрыцця музей наведалі 300 чалавек. Двухпавярховы будынак музея размяшчаўся "ніжэй старостава" на вул. Ленінскай (дзе зараз находзіцца крама "Ластаўка"). Па ўспамінах старажылаў уваход у будынак "ахоўвалі" дзве бронзавыя гарматы. У музеі была сабрана вялікая колькасць розных прадметаў, сярод якіх упамінаецца ліст Ф. Э. Дзяржынскага з Х павільёна Варшаўскай турмы да сястры ў 1905 г., жалезныя наручнікі, гумовыя дручкі, цыркуляр галоўнага ўпраўлення польскай паліцыі, у якім ўказваецца, што пры разгоне дэманстрацый паліцэйскім непажадана біць ўдзельнікаў прыкладамі вінтовак, бо пры гэтым псуюцца самі вінтоўкі, ім рэкамендавалася прымяняць гумовыя дручкі.

Дырэктарам давааеннага музея быў **Пётр Мацвеевіч Свірыдаў** - выхадзец з в. Грышына Слабада Жукоўскага раёна Бранскай вобласці, выпускнік Ленінградскага кніжнага тэхнікума, студэнт-завочнік гістарычна-архіўнага факультэта Маскоўскага бібліятэчнага інстытута, жыў па вул. Камсамольскай, 53. Вядомыя тэксты двух яго лістоў, напісаных у 1941 г. сябру дзяцінства І.Г. Ганічаву. У адным з іх у пераказе І.Г. Ганічава гаворыцца:

*"Тут, у Лідзе ёсць вельмі добрыя паненкі. Адна ў мяне працуе сакратаром.*

*Жыву па-халасцяцку, па-студэнцку.*

*Больш раз'язджаю бегаю - не сяджу на месцы. Нядаўна прыехаў з камандзіроўкі (у Менску быў паўмесяца).*

*Вяду барацьбу з раённымі арганізацыямі за памяшканне для музея. Думаю выйсці пераможцам. Гэта адымае шмат крыві. Зусім расхісталіся нервы. У жніўні буду ў Маскве, у Гр. Слабодцы, у Ленінградзе. Улетку думаю паездзіць, калі, вядома, усё будзе шчасна.*

*Адзін таварыш з Масквы просіцца да мяне на працу. Я з ім вучыўся. Ён сямейны (3 душы). Даў згоду. Але не абяцаў кватэру..."*

У другім, апошнім лісце ад 11/V1-41 г. незадоўга да пачатку вайны ён пісаў:

*"... Настрой паршывы, а ўсё таму, што халасцяком хаджу. Закахаўся, як хлапчук, у адну польку. Клубок супярэчнасцяў. Чым скончыцца, не ведаю.*

*... Адным словам, незайздроснае жыццё. Хоць і не засмучаюся - трэба ўсё паспрабаваць у жыцці.*

*У мяне адпачынак будзе, відаць, у канцы ліпеня - пачатку жніўня, т.ш. да гэтага маю намер правесці археалагічныя раскопкі.*

*А вельмі хацелася б разам з табой адпачыць у Гр. Слабодцы. Вось дзе мы нагаманіліся б. Адвёў бы я сваю душу. Ну, усё роўна, заеду ў Маскву да цябе і братоў (Антона і Мікалая ў Кунцава).*

*Хачу працаваць у вёсцы, у школе. Як ты думаеш? Будзеш у вёсцы - пішы ўсё падрабязна.*

*...Заўтра ізноў у камандзіроўку еду. Учора ўстаў з пасцелі - хварэў грыпам. Вёў на днях вялікую барацьбу з абласнымі і раённымі арг. па пытанні зносу нашай Лідскай цвярдыні. Патрэбен быў камень для спец. будаўніцтва, вырашылі разабраць замак - помнік даўніны. Доўга прыйшлося скандаліць, растлумачваць - не дапамагло. Тады справа дайшло да ўраду. Я давёў да ведама СНК БССР. Праз 30 хвілін пасля маёй тэлеграмы старшыня СНК Былінскі тэлефануе ў Ліду і аддае загад аб спыненні разбору і зносу цвярдыні. Так скончылася барацьба ў маю карысць. Прыйшлося пастаяць за музей..."*

У першыя дні вайны фонды музея былі эвакуяваны. Каля Смаленска ў машыну патрапіла авіяцыйная бомба. Верагодна разам з музейнымі прадметамі загінуў і Пётр Свірыдаў - дакладныя акалічнасці яго смерці невядомыя.

Будынак музея згарэў. Дзве бронзавыя гарматы спрабавалі давалачы да Слабады, ці то сіл не хапіла, ці то часу; гарматы, як распавядае Ў. Хрышчановіч, засталіся ляжаць у забалочанай Каменцы ў раёне сучаснага кінатэатра "Юбілейны".

У чарговы раз **Лідскі краязнаўчы музей** быў урачыста адчынены для наведвання 24 красавіка 1959 г. у адпаведнасці з Пастановай Савета Міністраў БССР № 80-Р ад 10.02.1959 г.

Рашэннем выканкаму Лідскага гарсавету музею быў перададзены будынак былога Язэпаўскага касцёла піяраў па вуліцы Савецкай, 23. Агульная плош-

ча будынка складала прыкладна 600 м. кв., з якіх пад музей выкарыстоўвалася толькі 300 м.кв. Астатняя частка будынка была занята жыхарамі і канторай філіяла Гроднавоблпраекта.

## Пабудова экспазіцый

Першая экспазіцыя месцілася пад купалам будынка і складалася з двух аддзелаў: "Вялікая Айчынная вайна 1941 - 1945 гг." і "Гісторыя горада".

Аддзел **"Вялікая Айчынная вайна 1941-1945 гг."** размяшчаўся пад купалам будынка, у малельнай зале. Гэты аддзел распавядаў аб перыядзе ВАВ на Лідчыне, аб падпольным руху ў горадзе і адмысловая ўвага было нададзена партызанскаму руху. З экспанатаў былі прадстаўленыя пяць нумароў газеты "Уперад" 1944 г. выдання, тры ўлёткі 1944 г., ордэн Вялікай Айчыннай вайны, які належаў памочніку камісара партызанскага атрада "Іскра". А таксама нямецкі аўтамат і вінтоўка, французскі карабін, кулямёт Кольт-Браўнінга, ручны кулямёт Люіса, вінтоўкі сістэмы Бердан і сістэмы Крэпса, нямецкі цясак. Тут жа экспанаваліся манеты і грашовыя знакі, якія былі ў абыходзе падчас вайны.

Другі аддзел **"Гісторыя горада"** займаў невялікія тры пакоі. Тут гаворка ішла пра Лідскі замак, пра рэвалюцыйны і штрайкавы рух на тэрыторыі Лідчыны.

Дадзеныя тэмы раскрываліся пры дапамозе шматлікіх фотаздымкаў, карт. З рэчавых экспанатаў звярталі на сябе ўвагу наступныя: станкавы кулямёт "Максім", крэмневыя стрэльбы, крэмневыя і капсульныя пісталеты, мундзір рускага трубача 1829 г.

У справаздачным дакладзе сакратара партыйнага бюро першаснай партарганізацыі гарадскога аддзела культуры Аламахі Ў.І. гаворыцца: *"Большасць камуністаў і камсамольцаў актыўна ўдзельнічалі ў жыцці і дзейнасці нашай партыі і краіны. Актыўна ўдзельнічалі ў растлумачэнні матэрыялаў Лістападаўскага Пленума ЦК КПСС (1962 г.), вялі актыўную працу падчас выбараў у Вярхоўны Савет і мясцовыя саветы дэпутатаў працоўных. Краязнаўчы музей таксама правёў некаторую працу. Былі абноўленыя і замененыя частка стэндаў, карцін і г.д. Адкрыты аддзел прыроды."*

У музеі аддзел прыроды праіснаваў нядоўга, хоць менавіта для яго Гарадзенскім гістарычна-археалагічным музеем былі перададзеныя чучалы вялікай і малой паганкі, шэрай чаплі, чорнага бусла, вялікага баклана, чорнага каршуна, а таксама чэрап лася з рагамі. Усе вышэй названыя музейныя прадметы былі прадстаўленыя ў экспазіцыі аддзела прыроды.

У канцы кастрычніка 1963 г. у купальнай частцы будынка пачаліся работы па абсталяванні планетарыя. Па ўказанні гарвыканкаму ў пачатку лістапада экспазіцыя была разабраная. Экспанаты перамешчаныя ў прыбудову да сабора, там раней знаходзіліся жылыя пакоі.

Менавіта тут былі створаны пастаянныя экспазіцыі, якія распавядалі пра гісторыю, культуру, прыроду Лідскага краю.

У 1964 г. асноўная праца супрацоўнікаў краязнаўчага музея была накіраваная на збор музейных прадметаў і дакументальных матэрыялаў для пабудовы новай экспазіцыі.

У лютым пры музеі працавала два гістарычныя гурткі. Юныя следапыты ў дапамогу музею вялі пошукавую працу па выяўленні сваякоў воінаў Савецкага Арміі, загінулых пры вызваленні горада Ліды ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў у ліпені 1944 г.

Паколькі будынак знаходзіўся ў стадыі рамонту і не мог прымаць наведвальнікаў, грамадская праца праводзілася па-за музеем і была накіраваная на патрыятычнае выхаванне моладзі прадпрыемстваў і навучэнцаў школ горада і раёна ў адпаведнасці з мерапрыемствамі ў сувязі з падрыхтоўкай і правядзеннем 20-годдзя з дня вызвалення Беларусі, Ліды і Лідскага раёна ад фашыстаў.

Рамонт будынка некалькі зацягнуўся, бо пры хадайніцтве перад Саветам Міністраў СССР аб адкрыцці ў г. Лідзе планетарыя мелася на ўвазе, што рамонтныя работы (рамонт падлогі, страхі і інш.) будуць праводзіцца ва ўсім будынку музея, частка якога потым будзе скарыстаная пад планетарый. Але на пачатак рамонтных работ выявілася, што тэхнічная дакументацыя была складзеная толькі на тую частку будынка, якая павінна адысці пад планетарый і ў адпаведнасці з ёю Савет Міністраў БССР адпусціў грашовыя сродкі.

На працягу трох гадоў 1964-1966 гг. вялася праца па падрыхтоўцы да пабудовы новай экспазіцыі краязнаўчага музея. Распрацоўваліся тэматыка-экспазіцыйныя планы, складаліся эскізы.

З сярэдзіны ліпеня 1966 г. пачаліся работы па абсталяванні экспазіцыі гісторыі Савецкага перыяду па эскізах, распрацаваным мастакамі Гарадзенскіх вытворча-мастацкіх майстэрняў. Яны ж і выконвалі мастацка-афармляльніцкія работы па гэтым аддзеле.

Пад аддзел гісторыі Савецкага перыяду з агульнай плошчы будынка 280 м.кв. адведзена 164 м.кв. Экспазіцыя займала шэсць залаў, у якіх былі адлюстраваны наступныя тэмы:

1. Вялікая кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя і грамадзянская вайна.
2. Лідчына ў перыяд панавання буржуазнай Польшчы.
3. Уз'яднанне Заходняй Беларусі з БССР і сацыялістычныя пераўтварэнні на Лідчыне ў 1939-1941 гг.
4. Вялікая Айчынная вайна 1941-1945 гг.
5. Аднаўленне і далейшае развіццё народнай гаспадаркі ў 1944 - 1958 гг.
6. Прамысловасць горада ў Ліды ў сямігодцы.
7. Лідскі раён у сямігодцы.
8. Культура Лідчыны ў гады Савецкай улады.

Для раскрыцця гэтых тэм у экспазіцыі скарыстана 927 экспанатаў асноўнага фонду (фатаграфіі, узоры прадукцыі прамысловых прадпрыемстваў,

дакументы, зброя, ордэны, медалі і інш.) Апроч гэтых матэрыялаў выраблены табліцы, дыярамы са статыстычнымі матэрыяламі, якія характарызуюць рост, дасягненні ў прамысловасці, у сельскай гаспадарцы.

У тэме **"Вялікая Айчынная вайна"** скарыстаныя карты і схемы. Адна з такіх схем, якая распавядае аб абароне Ліды ў пачатковы перыяд вайны, абсталявана асвятленнем. Усе матэрыялы ў гэтай тэме датычацца Лідчыны, акрамя невялікай колькасці агульных матэрыялаў, якія з'яўляюцца ўступнымі да тэмы (вітражы, плакаты, фотакопіі газет і інш.)





*Экспазіцыя "Вялікая Айчынная вайна"*

Тэма **"Аднаўленне і далейшае развіццё народнай гаспадаркі 1944-1958 гг."** раскрывалася ў адпаведнасці з рэкамендацыямі, выкладзенымі ў "Метадыцы пабудовы экспазіцыі краязнаўчага музея па гісторыі пасляваенных гадоў 1945-1958 гг.", выдадзенай навукова-даследчым інстытутам музеязнаўства Міністэрства культуры СССР у храналагічнай паслядоўнасці. Дадзеная тэма была адлюстраваная ў асноўным пры дапамозе матэрыялаў дакументальнага характару, сярод якіх мноства фотаздымкаў, фотакопій, газетных артыкулаў, некаторых дакументаў і інш.

Наступная тэма **"Прамысловасць горада Ліды ў сямігодцы"** адлюстроўвала развіццё прамысловых прадпрыемстваў горада. Яна раскрывалася з дапамогай узораў прадукцыі, фотаздымкаў перадавікоў, саміх прадпрыемстваў і т.д.

У тэме **"Лідскі раён у сямігодцы"** у аснову пакладзеная спецыялізацыя калгасаў і саўгасаў, механізацыя сельскай гаспадаркі, як галоўны сродак ўздыму ўсіх галін сельскай гаспадаркі раёна. Паказаны перадавікі сельскай гаспадаркі, уганараваныя вышэй-



*Экспазіцыя "Лідскі раён у сямігодцы"*

шымі Ўрадавымі ўзнагародамі за сваю працу.

Наступная тэма **"Культура Лідчыны ў гады Савецкай улады"** распавядала аб мастацкіх калектывах горада, аб дасягненнях у спорце, вялікая частка гэтай тэмы прысвечана літаратуры.

Перад тым, як змясціць той або іншы матэрыял у экспазіцыю, ён дбайна адбіраўся і ўзгадняўся з камісіяй Лідскага ГК КПБ і РК КПБ, быў зацверджаны рашэннямі бюро ГК і РК КПБ у верасні 1966 г.

Увесь этыкетаж быў дадзены на беларускай мове. У некаторых залах насценныя шчыты мелі сваё асвятленне апроч агульнага святла ў зале.

Экспазіцыя аддзела гісторыі Савецкага перыяду была адкрытая 23 лютага 1967 г. пасля яе прагляду камісіяй, у склад якой уваходзілі: першы сакратар Лідскага ГК КПБ Фамічоў Г.Ф., сакратар Лідскага РК КПБ Ніканава В.Е., старшыня Лідскага гарвыканкаму Сямёнаў А.С., загадчыкі аддзелаў прапаганды і агітацыі ГК і РК КПБ, інспектар Гарадзенскага абласнога кіравання культуры Апарцава К.А., дырэктар Гарадзенскага гістарычна-археалагічнага музея Собаль Н.І.

У наступныя гады ішла праца па афармленні экспазіцыі аддзелаў прыроды і гісторыі дасавецкага перыяду. Аўтарам эскізаў гэтай экспазіцыі быў мастак Гарадзенскіх мастацкіх майстэрняў дзяржфонду БССР Огнеў Сцяпан Дзмітрыевіч.

У 1970 г. уся праца праводзілася пад знакам сустрэчы 100-годдзя з дня нараджэння Ў.І. Леніна і падрыхтоўкі да чарговага XXIV з'езду партыі.

У гонар 100 - годдзя з дня нараджэння Ў.І. Леніна была аформлена перасоўная вітрына, якая адлюстроўвала жыццё і дзейнасць правадыра.

У лютым пасля прагляду камісіяй былі адкрытыя аддзелы прыроды і дасавецкага перыяду. Плошча аддзела прыроды складала 60 м.кв. Аддзел уключаў наступныя тэмы:

1. Геаграфічная характарыстыка Гарадзенскай вобласці з вылучэннем Лідскага раёна на карце.
2. Гісторыя развіцця жыцця на зямлі.
3. Клімат Лідскага раёна.
4. Вясна.
5. Лета.
6. Восень.
7. Зіма.

8. Вадаёмы, лугі, лясы, балоты.
9. Ахова прыроды.

Экспазіцыя распавядала пра ўзнікненне жыцця на Зямлі,пра геалагічныя эпохі, пра асаблівасці прыроды, карысных выкапняў, глебаў, кліматычных умоваў, водны рэжым, расліннасць і жывёльны свет лугі, лясы, балоты і палі Лідскага раёна, пра карысную дзейнасць чалавека. Паказвалася сезоннае развіццё прыроды і асаблівасці кожнай пары года. Былі выстаўленыя пудзілы ласяняці, дзіка, дзікай казулі, чорнага бусла, лісы, балотнай савы і дзесяткі іншых звяроў, птушак, матылькоў. На кардонках размяшчаліся высушаныя расліны. У зашклёных нішах "плавалі" рыбы. Прыцягваў увагу таксама і зуб маманта, знойдзены на адным з берагоў Дзітвы.

**Аддзел гісторыі дасавецкага перыяду** займаў плошчу 56 кв.м. і складаўся з наступных тэм:

1. Родавая супольнасць старажытных паляўнічых.
2. Рассяленне ўсходніх славян і гісторыя горада Ліды.
3. Барацьба са знешнімі ворагамі.
4. Падзел Рэчы Паспалітай і далучэнне Лідчыны да Расіі.
5. Айчынная вайна 1812 г.
6. Этнаграфічны комплекс.
7. Развіццё беларускай літаратуры і мастацтва.
8. Прамысловыя прадпрыемствы горада.
9. Пралетарскі этап вызваленчага руху ў Расіі.

Экспазіцыя гэтага аддзела адкрывалася матэрыяламі каменнага веку, знойдзенымі на тэрыторыі раёна. Распавядалася пра жыццё першабытнага чалавека, былі паказаныя неалітычныя стаянкі, помнікі жалезнага веку.

Далей распавядалася пра перыяд феадалізму на тэрыторыі раёна, была паказаная гісторыя ўзнікнення горада Ліды.

Шырока асвятляліся такія падзеі як барацьба славян з агрэсіяй нямецкіх феадалаў, развіццё кнігадрукавання, край пад уладай літоўскіх і польскіх феадалаў, Айчынная вайна 1812 года, адмена прыгоннага права, развіццё капіталістычных адносін у 19-м стагоддзі.

У экспазіцыі былі размешчаныя крэмневыя прылады працы, матыкі, сякеры з каменю, даспехі рыцараў, кальчуга, крэмневыя пісталеты, капсульныя стрэльбы, прадметы побыту.

Адмысловая ўвагу прыцягваў куток курнай хаты з жоранамі, драўлянай ступай і шматлікімі прадметамі побыту.

У 1973-1976 гг. экспазіцыя аддзела гісторыі савецкага грамадства была перабудаваная. У аснову тэматыка-экспазіцыйнага плану быў закладзены прынцып больш шырокага і глыбокага раскрыцця тэмы шляхам уводзін у экспазіцыю найболей цікавага дакументальнага матэрыялу і рэчавых экспанатаў.

Афармляў экспазіцыю краязнаўчага музея мастак Менскага вытворчага камбіната А. М. Пуцейка -чалец Саюза мастакоў СССР. У створанай ім у садружнасці з супрацоўнікамі музея экспазіцыі асвятляліся наступныя тэмы:

1. Лідзяне - удзельнікі Кастрычніцкай рэвалюцыі і грамадзянскай вайны;
2. Лідскі Ваенна-рэвалюцыйны камітэт; першы суботнік у горадзе;
3. Вычын чырвонаармейцаў 37-га стралковага палка ў верасні 1920 года;
4. Лідчына 1920-1939 гг.;
5. Барацьба працаўнікоў Заходняй Беларусі за вызваленне;
6. Штрайкавы рух на Лідчыне;
7. Будаўніцтва новага жыцця пасля вызвалення ў верасні 1939 г.;
8. Вераломны напад гітлераўскай Нямеччыны;
9. Мужнасць і гераізм абаронцаў Радзімы;
10. Зверствы фашыстаў на акупаванай тэрыторыі;
11. Усенародная партызанская і падпольная барацьба і героі гэтай барацьбы на Лідчыне;
12. Удзельнікі вызвалення Лідчыны ў ліпені 1944 г.;
13. Пасляваеннае будаўніцтва;
14. Аднаўленне разбуранай вайной гаспадаркі;
15. Перадавікі вытворчасці і сельскай гаспадаркі;
16. Пасняховае выкананне заданняў 8-га пяцігадовага плану;
17. Планы на 9-ую пяцігодку.

Увосень 1979 г. у экспазіцыі залы "Край пад прыгнётам буржуазна-памешчыцкай Польшчы" былі змешчаныя матэрыялы пра ўдзельніка штрайку 1935 г. на шклозаводзе "Нёман" М.А. Лебедзева - фатаграфія, паэма "З гадоў змагання і прыгнёту".

У канцы 1979 года была створаная экспазіцыя "Лідзе -600". У экспазіцыі распавядалася пра развіццё прамысловасці, адукацыі, культуры і спорту ў горадзе.

У тым жа годзе былі арганізаваныя выставы твораў дэкаратыўна-прыкладнага мастацтва народных умельцаў Лідчыны. Многія экспанаты выставы



***Экспазіцыя "Край пад прыгнётам буржуазна-памешчыцкай Польшчы"***

1987 г. былі адабраныя на абласную і рэспубліканскую выставы, а работы А.А. Пякарскага і Б.П. Круглага экспанаваліся на Ўсесаюзнай выставе народнай творчасці ў Маскве.

Дзейнасць музея вялася ў адпаведнасці з тагачаснымі ідэалагічнымі нормамі і ўстаноўкамі. Так, у 1980 годзе, калі ўвесь Савецкі Саюз адзначаў 110 гадоў з дня нараджэння У.І. Леніна ў музеі праводзіліся тэматычныя экскурсіі:

*"Ідзём дарагою Леніна, дарогай Кастрычніка",*

*"Людзі ленінскай гвардыі",*

*"Справа Леніна жыве і перамагае".*

Праводзіліся лекцыі і гутаркі:

*"Рэвалюцыйныя традыцыі ў краі",*

*"Нашы землякі - удзельнікі рэвалюцыйных падзей у Петраградзе",*

*"Партызанскі і падпольны рух у краі ў гады Вялікай Айчыннай вайны",*

*"Іх вычын - несмяротны",*

*"Помнікі горада распавядаюць",*

*"Іх імёнамі названыя вуліцы горада",*

*"Яны абаранялі Радзіму",*

*"Аперацыя Баграціён"* і інш.

У гэты ж час Ліда адзначала прыдуманае 600-годдзе, гэтай даце прысвячаліся экскурсіі:

*"Лідскі замак - гістарычны цэнтр горада",*

*"Ад Ліды старажытней да Ліды сучаснай",*

*"Мой родны кут, як ты мне мілы",*

*"Наш край за гады савецкай улады".*

Працаваў атэістычны лекторый:

*"Прырода аспрэчвае рэлігію",*

*"Ім і без бога - светлая дарога".*

Праводзіліся ўрокі - экскурсіі па аддзеле прыроды:

*"Ленінскія прынцыпы аховы прыроды",*

*"Флора і фаўна Лідчыны" і інш.*

У залах музея праводзіліся:

- агляднsocialныя экскурсіі па аддзелах і ўсяму музею,
- сустрэчы з ветэранамі партыі, камсамолу, грамадзянскай і Вялікай Айчыннай войнаў, перадавікамі вытворчасці,
- урокі мужнасці і працоўнай славы,
- піянерскія зборы,
- кансультацыі па розных пытаннях краязнаўства,
- тэматычныя вечары,
- вусныя часопісы.

Для навучэнцаў школ па вучэбнай праграме праводзіліся аглядныя і тэматычныя экскурсіі.

Чарговая перабудова экспазіцыі савецкага перыяду пачалася ў 1985 г. і працягвалася чатыры гады - да 18 траўня 1989 г.

У 1986 - 1988 гг. праца калектыву Лідскага краязнаўчага музея была накіраваная на выкананне і прапаганду рашэнняў XXVII з'езду КПСС, наступных пленумаў ЦК КПСС, на годную сустрэчу 70-годдзя Вялікага Кастрычніка. Асноўная ўвага надавалася афармленню новай экспазіцыі па аддзеле гісторыі



***Супрацоўнікі музея на ганку музея па вул. Савецкая, 20: у цэнтры дырэктар музея Жалезны Р.І. На здымку таксама: Астраўцова Ю.А., Драб Г.М., Канавалава М.С., Жын Г.А., Гаўрылава С.К., Барысевіч Т.А.***

савецкага перыяду, у прыватнасці па тэме пасляваеннага будаўніцтва і аднаўлення разбуранай гаспадаркі.

У гэтай тэме асноўная ўвага надавалася прамысловасці. Былі прадстаўлены новыя ўзоры прадукцыі, замененыя фотаздымкі, дабаўленыя новыя плакаты, рэкламныя буклеты з лепшай прадукцыяй.

Пасля экспазіцыі музея не перабудоўваліся, праводзіліся толькі невялікія "праўкі" - у 1993 г. былі знятыя матэрыялы аб вядучай ролі камуністычнай партыі. У 1995 г. размешчаны на стэндзе археалагічныя знаходкі школьнага настаўніка Ф.Ф. Барташэвіча - каменныя сякеры, гліняныя чарапкі, крэмневыя праколкі, скрабкі, наканечнікі, сабраныя ім у в. Збляны.

У 90-я гады музей запрашаў на экскурсіі па тэмах:

*- Геаграфічнае становішча і прыродныя ўмовы роднага краю.*

*- Прыродныя рэсурсы і эканамічнае развіццё Лідчыны.*

*- Поры года. Прырода Лідчыны і яе ахова.*

*- Раслінны і жывёльны свет Лідчыны.*

*- Птушкі - нашы сябры.*

*- Наш край у далёкім мінулым.*

*- Лідскі замак - гістарычны цэнтр горада.*

*- Побыт і этнаграфія роднага краю.*

*- Вялікая Айчынная вайна (партызанскі рух*

*на Лідчыне, героі Лідскага падполля, вызваленне Лідчыны).*

*- Помнікі горада распавядаюць.*

*- Прадпрыемствы горада і новыя кірункі ў развіцці эканомікі.*

*- Сельская гаспадарка раёна ў сучасны перыяд.*

*- Развіццё народнай адукацыі, медыцыны, культуры на Лідчыне.*

Да 1998 г. у дзесяці залах на 317 кв. м. размяшчаліся тры аддзелы: прыроды і далёкага мінулага - на першым паверсе, сучаснага перыяду - на другім.

Экспазіцыя адлюстроўвала прыродныя асаблівасці краю, яго мінулае і сучаснасць. Спецыфіка гістарычнага развіцця Лідчыны раскрывалася тэмай **"Край у далёкім мінулым"** - на стэндах месціліся прылады працы каменнага веку, манеты з археалагічных раскопак Лідскага замка.

У этнаграфічным кутку экспанаваліся прадметы працы і побыту канца 19-га - пачатку 20-га стагоддзя, а таксама ткацтва: калаўротак, прасніца, матавіла, сукала, ручнікі, посцілкі, бурнос і інш.

Савецкі перыяд раскрываўся тэмай **"Вялікая кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя"**, у якой знаходзіліся дакументы і матэрыялы пра лідскіх удзельнікаў рэвалюцыі, пра ўтварэнне БССР.

Тэма **"Край у складзе буржуазнай Польшчы"** была прадстаўленая матэрыялам аб штрайкавым руху, экспанавалася карціна М. М. Меранкова "Ліда дарэвалюцыйная", адзін з нумароў часопіса "Зямля Лідская" на польскай мове. Акрамя таго экспанаваліся ўзоры прадукцыі прамысловых прадпрыемстваў, матэрыялы па народнай адукацыі, культуры, спорту, сельскай гаспадарцы. Быў прадстаўлены матэрыял пра беларускую паэтэсу, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі імя Я. Купалы Д. Бічэль-Загнетаву.

Апошнім скончыла працу зала, прысвечаная падзеям Вялікай Айчыннай вайны. Там экспанаваліся асабістыя рэчы камандзіра Лідскай партызанскай зоны Гапеева Я.Д., узнагароды разведчыка Рыбіноўскага В.А., партызана Бялецкага М.І., палкоўніка Растоўцава А.Д., прадметы і дакументы ўдзельнікаў Лідскага падполля, асабістыя рэчы М. Выдайкі, загінулага пры вызваленні горада, фуражка камандзіра 3-га кавалерыйскага корпуса Н. Аслікоўскага, кравецкая прылада партызана атрада "Іскра" І. Туруткіна, парадная форма генерала Ў. Ігнаццева.

Усе залы музея працавалі да 1 чэрвеня 1998 г., але ў сувязі з перадачай будынка Навагрдска-Лідскай епархіі экспазіцыя была дэмантаваная.

У 1996 г. было прынята рашэнне аб перадачы былога касцёла піяраў праваслаўнай грамадзе Ліды. Музею быў выдзелены будынак былога Салона сямейных урачыстасцяў, у якім размяшчалася Лідская мастацкая галярэя.

У 1999 г. музей змяніў сваё месцазнаходжанне і пераехаў на вуліцу Перамогі, 37а.



***У музеі па вул. Перамогі, 37а. 1999 г.***

У лютым 2000 г. Лідскім гарвыканкамам было прынята рашэнне аб аб'яднанні краязнаўчага музея і мастацкай галярэі "Лідзея" у адну ўстанову – **Лідскі гістарычна-мастацкі музей**.

4 кастрычніка 2008 года, пасля працяглага рамонту, Лідскі гістарычна-мастацкі музей зноў гасцінна расчыніў дзверы для сваіх наведвальнікаў. Адкрыццё музея прымеркавалі да юбілею горада – 685 годдзя. Святочную стужку перарэзалі старшыня райвыканкаму А.Худык і начальнік упраўлення культуры аблвыканкаму А. Лойка. Асвяціў будынак



***Адкрыццё Лідскага гістарычна-мастацкага музея пасля рамонту 4 кастрычніка 2008 года,***



***Лідскі гістарычна-мастацкі музей. Сучасны выгляд.***

архіепіскап Наваградскі і Лідскі Гурый.

4 кастрычніка 2008 года адкрыта першая пастаянная экспазіцыя ў новым будынку музея **"Прырода Лідчыны"**. Экспазіцыя распавядае пра жывёльны і раслінны свет нашага краю, тут можна ўбачыць чучалы жывёл і птушак лясоў, палёў, балот, вадаёмаў Лідчыны, даведацца пра асаблівасці пор года ў рэгіёне. Наведвальніка пастаянна суправаджаюць гукі птушак і дадатковы відыёматэрыял.



**Экспазіцыя "Прырода Лідчыны"**

Калектыў Лідскага гістарычна-мастацкага музея пастаянна знаходзіцца ў пошуку новых форм работы ў музейнай прасторы. Супрацоўнікі музея імкнуцца да эфектыўнай працы з рознымі катэгорыямі наведвальнікаў. У цяперашні час у музеі працуюць тры выставачныя залы, дзе праводзяцца выставы па рознай тэматыцы і кірунках.

Супрацоўнікі музея вялікую ўвагу ўдзяляюць распрацоўцы і ўкараненню новых форм і метадаў працы, як са школьнікамі і студэнтамі, так і з дарослым насельніцтвам.

Гэта камерцыйныя выставы, выставы з калекцый іншых музеяў, экспанаванне прыватных калекцый, выставы аднаго дня і аднаго прадмета, вулічныя вернісажы, музычныя сустрэчы, вечарыны, літаратурна-музычныя гасцёўні.

Гасцей і жыхароў горада зацікавіла выстава з фондаў музея **"Час і лёс"**, якая пазнаёміла наведвальнікаў з калекцыяй гадзіннікаў, распавядала пра гісторыю і падзеі Лідчыны, лёсы людзей.

Вынікам працы з наведвальнікамі на гэтай выставе стала перадача ў фонды музейных прадметаў - гадзіннікаў, дакументаў, якія сталі добрым папаўненнем музейнага збору.

Выстава **"Скарбы роднага краю"** была прысвечана калядным і навагоднім святам. На ёй экспанаваліся прадметы ткацтва, вышыўкі, вязання, вырабы з саломы, лазы, скуры і г.д. На базе выставы праводзіліся выступленні фальклорнай групы з паказам фрагментаў калядавання, было арганізавана тэатралізаванае прадстаўленне "Батлейка" на калядную тэматыку.

Стала традыцыяй у музеі правядзенне ў лістападзе і сакавіку выставы **"Свет кветак"**, удзельнікамі якой з'яўляюцца мясцовыя кветкаводы. На базе выставы праводзяцца сустрэчы з аматарамі-кветкаводамі, прэзентацы рэдкіх раслін.

Кожны год у музеі праводзіцца выстава-продаж **"Свет камянёў"**, прапанаваная ўдзельнікамі з Расіі і Беларусі.

Зацікавіла наведвальнікаў выстава з прыватнай калекцыі Р. Махмудава **"Халодная і агнястрэльная зброя"**, на якой супрацоўнікамі музея былі арганізаваны экскурсіі, сустрэчы з калекцыянерам. Пад час працы выставы жыхары горада пазнаёміліся з рознымі відамі халоднай і агнястрэльнай зброі, а таксама пашырылі веды пра этапы развіцця зброі ў розныя перыяды гісторыі.

У Год здароў'я сумесна з Гандлёвай палатай Рэспублікі Беларусь правялі свята мёду і здароўя **"Мядовы кірмаш"**. У праграму ўваходзіла дэгустацыя, продаж мёду і прадуктаў пчолагадоўлі, культурная праграма, экспанаваліся прадметы бортніцтва з фондаў музея.

Выстава карцін Рэрыхаў **"Запаведная краіна"** была прымеркавана да 80-ці годдзя Цэнтральна-Азіяцкай экспедыцыі і праходзіла пад дэвізам С. Рэрыха "Давайце будзем імкнуцца да прыгожага". Гэты сумесны праект Лідскага музея і Міжнароднага цэнтра-музея Рэрыхаў г. Масквы быў прадстаўлены жыхарам і гасцям нашага горада. Выстава знаёміла з дзейнасцю сям'і Рэрыхаў, творчасцю бацькі і сына, іх укладам у сусветную культуру на прыкладзе сапраўдных работ. Выставу наведала 1243 чалавекі, праведзена 65 тэматычных экскурсій.

Да 65-ці годдзя з дня вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў падрыхтаваны цыкл мерапрыемстваў у рамках акцыі "Мы пераможцы – мая Лідчына". Працуе выстава **"Дарогамі вайны"**, тут прадстаўлены музейныя прадметы: дакументы, асабістыя рэчы ўдзельнікаў ваенных падзей, фотаздымкі, узнагароды.

Да 50-ці годдзя заснавання музея ў г. Лідзе быў распрацаваны праект **"Тыдзень у жыцці музея"**, дзе былі прапанаваны наступныя мерапрыемствы: выстава **"Мастак і час"**, літаратурна-музычная гасцёўня **"Мой родны горад"**, вечар-сустрэча з былымі супрацоўнікамі музея **"Званы вечар при свечках"**.

У год Роднай зямлі падрыхтавана і працавала выстаўка **"Вандроўкі па роднай зямлі ў год Роднай зямлі"** – мастацкія работы вучняў школ горада, а таксама выстава адной карціны **"Уздоўж па Віленскай"**, якая знаёміла наведвальнікаў з гісторыяй вуліцы Савецкай.

Для маладажонаў дзейнічае праект **"Сямейны партрэт на фоне гісторыі"**. У фае музея месціцца скульптура "Благаслаўленне зямлі", якая з'яўляецца сімвалам нашых продкаў, яна была асвечана святарамі Лідчыны і нібыта дабраслаўляе ўсіх наведвальнікаў музея на здзяйсненне ўсіх іх мар і задумак. Менавіта таму, да скульптуры ў першую чаргу і звяртаюцца закаханыя маладыя пары, каб атрымаць дабраслаўленне ад нашых продкаў.

Навуковымі супрацоўнікамі Лідскага гістарычна-мастацкага музея распрацаваны вясельны праект

і ў сценах Лідскага замка - **"Вяселле ў замку сярэднявечча".**

Маладым разам з гасцямі прапануецца наведаць вежу Лідскага замка, дзе на адным з паверхаў іх чакае накрыты стол у сярэднявечным стылі. Памяшканне асвятляецца пры дапамозе свечак, гучыць сярэднявечная музыка, створана рамантычная атмасфера.

На прыканцы для гасцей праводзіцца экскурсія, якая распавядае пра гісторыю замка. А маладажоны маюць магчымасць зрабіць фотаздымкі на памяць.

Калектыў навуковых супрацоўнікаў дзяржаўнай установы "Лідскі гістарычна-мастацкі музей" выконвае адну з галоўных задач навукова-асветніцкай работы – выхаванне грамадзяніна-патрыёта сваёй краіны.

Дырэктарамі Лідскага краязнаўчага музея *(з лютага 2000 г. - Лідскі гістарычна-мастацкі музей)* з моманту яго адкрыцця 24 лютага 1959 года былі:

1. Шуціла Яўген Канстанцінавіч, 1959 - 1963 гг.
2. Іваноў Мікалай Ісаевіч, 1963 - травень 1969 гг.
3. Бобрык Іван Антонавіч, травень 1969 - чэрвень 1970 гг.
4. Хотылеў Міхаіл Анісімавіч, чэрвень 1970 - 1976 гг.
5. Брэйва Яўген Сяргеевіч, 1976 - 1978 гг.
6. Стажэйка Эльвіна Васільеўна, снежань 1978 - 1981 гг.
7. Цімашэўскі Іван Францавіч, 1981 - 1991 гг.
8. Драб Ганна Мікалаеўна (в. а.), 1991 - 1992 гг.
9. Кузняцоў Уладзімір Васільевіч (в. а.), 1992 - 1994 гг.
10. Жалезны Рыгор Мікалаевіч, 1.11.1994 - 2005 гг.
11. Цыганец Валянціна Вацлаваўна, 2005 - 4.05.2006 гг.
12. Драб Ганна Мікалаеўна, з 15.10.2006 г.

# Музейныя фонды

Камплектаванне матэрыялаў музейнага збору - найважны кірунак навуковай працы Лідскага краязнаўчага музея. Яно ў значнай ступені вызначае ўзровень навукова-даследчай, экспазіцыйнай і адукацыйна-выхаваўчай дзейнасці музея.

Склад музейнага фонду фармуецца ў першую чаргу згодна з профілем музея і патрэбамі будучай экспазіцыі, а таксама згодна з праграмай камплектавання музейных фондаў. Пры камплектаванні ўлічваецца прынцып тэрытарыяльнасці, у першую чаргу ахоплівюцца межы сучаснага Лідскага раёна, а таксама храналагічныя рамкі калекцый (10 тыс. год да н.э. – 21 ст.)

На 1 студзеня 2009 года ў фондавым зборы налічваецца 37 222 адз. асноўнага фонду і 5520 адз. навукова-дапаможнага.

Музейны збор да апошняга часу фармаваўся пераважна зыходзячы з краязнаўчага профілю музея. З 2000 г. ўвага надаецца пашырэнню мастацкіх калекцый.

Музейны збор Лідскага гістарычна-мастацкага музея па сваёй структуры складаецца з асноўнага, абменнага, навукова-дапаможнага фондаў.

Музейны фонд складаецца з 25 калекцый: "Археалогія", "Нумізматыка", "Баністыка", "Фалерыстыка", "Жывапіс", "Графіка", "Скульптура", "Дэкаратыўна-прыкладное і народнае мастацтва", "Дакументы", "Друкаваныя выданні", "Шкло", "Кераміка", "Сфрагістыка", "Зброя", "Адзенне", "Музычныя інструменты", "Мэбля", "Прылады працы і прыстасаванні", "Прадметы побыту", "Прыборы і апараты, механізмы і дэталі механізмаў", "Фотадакументы", "Кіна-фонадакументы", "Біялогія", "Геалогія", "Вексілалогія".

**Калекцыя "Археалогія"**



Калекцыя налічвае больш за 18 тысяч адзінак захоўвання. Яна сфармавалася ў выніку раскопак старажытных стаянак (10 – 2 тысячагоддзі да н. э.) на тэрыторыі Лідскага раёна каля вёсак Беліца, Бурносы, Ганчары, Даржы, Збляны, Пескаўцы, Шчурок. Сярод знаходак вялікую цікавасць складаюць крамянёвыя прылады працы (скобелі, скрабкі, праколкі), каменныя сякеры, касцяная матыка, фрагменты шнуравой керамікі

Асноўная колькасць прадметаў у калекцыі "Археалогія" – знаходкі з Лідскага замка. Сярод іх прылады працы, зброя, архітэктурна-будаўнічая кераміка, фрагменты кухоннага і сталовага посуду.

**Калекцыя "Нумізматыка"**



Калекцыя пачала фармавацца ў 1959 г. з манеты 77 пяхотнага палка г. Ліды ў адзін злоты. Яна змяшчае 2535 адзінак захоўвання. Гэта соліды, талеры, злотыя, грошы, капейкі, рублі, пфенінгі, якія характарызуюць грашовую сістэму краін Еўропы на працягу 15-20 стагоддзяў. Асаблівую цікавасць ўяўляюць 2 скарбы, у прыватнасці скарб з 622 манет канца 18 стагоддзя, выяўлены падчас будаўніцтва 8-й школы (цяпер музычная навучальня) на месцы былога Кармеліцкага кляштара.

**Калекцыя "Баністыка"**

Калекцыя пачала фармавацца ў 1961 г. Яна налічвае каля 1000 адзінак захоўвання і складаецца з асігнацый Расійскай імперыі, Германіі, Польшчы, СССР і Рэспублікі Беларусь 19-21 стст.

**Калекцыя "Фалерыстыка"**

Калекцыя пачала фармавацца з 1959 г. з музейнага прадмета - крыж польскі за мужнасць. Яна ўключае 1144 адзінкі захоўвання. Складаецца з баявых

і працоўных узнагарод СССР, Польшчы і Германіі 20 ст. У калекцыю ўваходзяць юбілейныя і памятныя значкі і жэтоны 20 ст., якія звязаны з гісторыяй Лідчыны.

**Калекцыя "Сфрагістыка"**

Калекцыя пачала фармавацца ў 1983 г. з пячаткі авальнай формы "FABRYKA MUDKA "RAKTA" LIDA". Калекцыя ўключае пячаткі, штампы ўстаноў і прадпрыемстваў 20 ст. Змяшчае 22 адзінкі захоўвання.

**Калекцыя "Вексілалогія"**

Калекцыя пачала фармавацца ў 1982 г. з музейнага прадмета – вымпел "За высокую культуру производства", які быў уручаны Лідскай абутковай фабрыцы. Уключае штандары, сцягі, вымпелы, якімі ўзнагароджваліся прадпрыемствы Лідчыны па выніках працы (1950-1980 гг.). Змяшчае 39 адзінак захоўвання.

**Калекцыя "Прыборы і апараты, механізмы і дэталі механізмаў"**

Калекцыя пачала фармавацца ў 1964 г. з музейнага предмета – патэфон, г. Молатаў. Калекцыя складаецца з гадзіннікаў, друкарскіх машынак, бытавой тэхнікі 20 ст. Змяшчае 51 адзінку захоўвання.

**Калекцыя "Прылады працы і прыстасаванні"**

Калекцыя пачала фармавацца ў 1960 г. са сталярнага інструмента, які належаў Кісламу Л.І. з в. Альхоўка. Калекцыя складаецца з сельскагаспадарчага і рыбалоўнага інвентару, прылад для апрацоўкі ільну, кроснаў і іншых прыстасаванняў 20 ст. Змяшчае 79 адзінак захоўвання.

**Калекцыя "Дакументы"**

Калекцыя пачала фармавацца ў 1959 г. з прадмета "Пуцёўка камсамольская", выдадзеная Юршу В.А. Яна змяшчае 2605 адзінак захоўвання. Гэта перапіска праваслаўных святароў, інвентары, дагаворы, квітанцыі, акты, касавыя справаздачы, пасведчанні, ганаровыя граматы, дыпломы 19-20 стагоддзяў. У склад калекцыі ўваходзяць асабістыя дакументы ганаровых грамадзян горада.

**Калекцыя "Фотаматэрыялы"**

Калекцыя пачала фармавацца ў 1959 г. Калекцыя складаецца з фотаздымкаў удзельнікаў Вялікай Айчыннай вайны, ганаровых грамадзян г. Ліды, спартсменаў, мастакоў, настаўнікаў, воінаў-інтэрнацыяналістаў, дэпутатаў, удзельнікаў асваення цалінных зямель, а таксама выяў гарадскіх будынкаў, відаў вуліц, плошчаў, помнікаў, прамысловых будынкаў і інш. У яе складзе 5036 адзінак захоўвання (19 - пач. 21ст.).

**Калекцыя "Жывапіс"**

Калекцыя пачала фармавацца ў 1959 г,, уключае творы сучасных прафесійных і самадзейных мастакоў: Гоманава А., Савіцкага М., Меранкова М.,Судара А., Мельнікава У., Лук'ян В, Лазоўскага М.І., В'югіна А.А., Марозава М.М. і інш., а таксама абразы 19-20 ст. У яе складзе 204 адзінкі захоўвання.

**Калекцыя "Графіка"**

Калекцыя пачала фармавацца ў 1960 г. Яна змяшчае творы прафесійных і самадзейных мастакоў: Асташова А., Судара А., Лук'ян Т., Сільвановіча В. і інш. Складаецца з 83 музейных прадметаў.

**Калекцыя "Скульптура"**

Калекцыя пачала фармавацца ў 1960 г. з прадмета *"Бюст "Алаіза Цётка",* аўтар Заспіцкі А.М. Уключае творы скульптараў Вараб'ёва В.М, Грушы Р.Б., скульптуры малых форм невядомых аўтараў. Складаецца з 20 музейных прадметаў.

**Калекцыя "Шкло"**

Калекцыя пачала фармавацца ў 1980 г. з набору кілішкаў і фужэраў шклозавода "Нёман" аўтара Жыгалкіна. Складаецца з посуду 1920-50 гадоў, узораў прадукцыі шклозавода «Нёман», мастацкіх работ У.С. Мурахвера, Л.М. Мягковай, Г.А. Сідарэвіч, У.М. Жохава, сувенірнай прадукцыі XX ст. У яе складзе звыш за 500 адзінак захоўвання.

**Калекцыя "Кераміка"**

Калекцыя пачала фармавацца ў 1960 г. з кубка маёра Выдайкі Н.Ф. Яна складаецца з прадметаў побыту лідзян (збаны, глякі, міскі). Сюды ўваходзяць прадметы выраблены з фарфору, якія датуюцца 20 ст.: сталовы посуд, у тым ліку завода Кузняцова і посуд прадпрыемстваў 1950 -х гадоў. Калекцыя налічвае больш за 200 адзінак захоўвання.

**Калекцыя "Узбраенне"**

Калекцыя пачала фармавацца ў 1959 г. з музейнага прадмета "Аўтамат нямецкі 1943 г.". У яе ўваходзяць прадметы канца 18 – 20 ст., складаецца з 41 адзінкі халоднай зброі і 56 адзінак агнястрэльнай зброі.

Падкалекцыя "Халодная зброя" прадстаўлена палашамі, шаблямі, цесакамі.

Падкалекцыя "Агнястрэльная зброя" мае ў сваім складзе ружжы, пісталеты вытворчасці Расіі і Германіі, а таксама ўзоры ваеннага ўзбраення часоў Першай і Другой Сусветных войн.

**Калекцыя "Прадметы побыту"**

Калекцыя пачала фармавацца ў 1959 г. музейнага прадмета – Сумка санітарная санчасткі партызанскага атрада "Іскра". Калекцыя ўключае прадметы асабістага і хатняга ўжытку, рэчы інтэр'еру, посуд, канцылярскія прадметы, спартыўны інвентар, цацкі і лялькі, абрадавыя прадметы – 19-21 ст. Калекцыя налічвае звыш 960 адзінак.

**Калекцыя "Адзенне"**

Калекцыя пачала фармавацца ў 1959 г. з музейнага прадмета "Кіцель Радзюка Т.С.". Калекцыя склада-ецца з цывільнага, форменнага вайсковага перыяду Другой Сусветнай вайны, спартыўнага (футбольнай каманды "Абутнік") і школьнага адзення, а таксама змяшчае народныя строі, адзенне служыцеляў культу, галаўныя ўборы і абутак мясцовай вытворчасці 20 – пачатаку 21 ст. Калекцыя складаецца са 173 адзінак захоўвання.

**Калекцыя “Кіна-фонадакументы”**

Калекцыя пачала фармавацца ў 1964 г. з музейнага прадмета “Кінафільм “Славное 20-летие”, ліпень 1964 г. Калекцыя складаецца з 323 адзінак захоўвання, якія датуюцца 1948 – 2003 гг. Уключае грамплацінкі з запісамі савецкіх і замежных выканаўцаў, кампакт – дыскі сучасных мясцовых выканаўцаў.

**Калекцыя “Мэбля”**

Калекцыя пачала фармавацца ў 2000 г. з музейнага прадмета “Крэсла драўлянае” з в. Сялец. Уключае крэслы, стол, буфеты, этажэркі, шафу. Налічвае 14 адзінак захоўвання, якія датуюцца 19-20 стст.

**Калекцыя “Музычныя інструменты”**

Калекцыя пачала фармавацца ў 1962 г. з музейнага прадмета “Гітара Зоі Кудачовай”, падпольшчыцы г. Ліды. Калекцыя змяшчае гітару, балалайку, цымбалы, гармонік, скрыпку 1950-х гадоў, піяніна (1895 год, Германія) – усяго 7 адзінак захоўвання.

**Калекцыя “Дэкаратыўна-прыкладное і народнае мастацтва”**

Калекцыя пачала фармавацца ў 1996 г. з вырабу разьбяра па дрэву М. Рыжкевіча “Карэц драўляны”. Калекцыя ўключае вырабы з соломкі, дрэва, вышыўкі 20-50 гадоў 20 ст., выцінанкі пачатку 21 ст., пляценне з лазы і саломы, вырабы з каранёў сасны і карэльскай бярозы (сярэдзіна 20 ст). З сучасных твораў трэба адзначыць габелены Н. Вараксы, мастацкія вырабы з саломы С. Паплаўскай, Н. Ларыёнавай. Калекцыя складаецца з 207 адзінак захоўвання.

**Калекцыя “Друкаваныя выданні”**

Калекцыя пачала фармавацца ў 1996 г. з кнігі А. Абрамава “У кремлёвской стены”, перададзенай у дар А. Крышнёвым. Калекцыя змяшчае кнігі 19 - 21 ст.: мемуарную літаратуру з аўтарскімі надпісамі, зборнікі мясцовых пісьменнікаў і паэтаў, брашуры, а таксама буклеты, выданні мясцовай друкарні, перыёдыку ( “Лідская газета”, “Прынеманские вести”, “Наша слова”, “Лідскі летапісец”, “Оникс”) – больш за 1200 адзінак захоўвання.

**Калекцыі “Біялогія” і “Геалогія”**

Калекцыі пачалі фармавацца ў 1959 г. Яны ўключаюць у сябе аб’екты прыроды – чучалы жывёл і птушак, карысныя выкапні (мел, гравій, торф). Налічваюць 179 адзінак захоўвання.

У Лідскі музей часта звяртаюцца па дапамогу розныя катэгорыі насельніцтва горада і раёна. Часцей за ўсё дапамога патрабуецца студэнтам вышэйшых навучальных устаноў, каледжаў, вучням школ. Яны выкарыстоўваюць матэрыял для напісання рэфератаў, курсавых і кантрольных работ. З гэтай мэтай у музеі створаны адкрыты фонд. Адкрытым ён завецца таму, што ў ім утрымоўвацца такія матэрыялы, якія даступныя кожнаму чалавеку, як супрацоўніку музея, так і простаму наведвальніку. Адкрыты фонд складаецца з 237 фондавых спраў (кожная справа ўмоўна завецца *“фонд”*) і мае тэматычны назоў. У кожны




фонд уваходзіць некалькі дакументаў, якія ўтрымоўваюць матэрыялы, што раскрываюць дадзеную тэму.

Матэрыялы складаюцца ў асноўным з газетных выразак, выпісак з кніг і часопісаў, ксеракопій дакументаў, запісаных успамінаў землякоў, лістоў і паштовак удзельнікаў розных падзей, фотаздымкаў, карт рэгіёна. На адкрыты фонд зроблены падрабязны вопіс.

Пачынаецца фонд матэрыяламі аб старажытнай Лідчыне. Спачатку ідзе пералік літаратуры і іншых крыніц, з якіх можна дазнацца пра гісторыю горада і раёна. Асобная справа распавядае пра знакамітых людзей. Тут знаходзяцца фотаздымкі, ксеракопіі і іншыя матэрыялы. Утрымоўваецца таксама шмат інфармацыі пра раскопкі ў Лідскім замку, якія праводзіліся на працягу 20 ст., а таксама пра сам замак.

Далей ідуць матэрыялы, якія распавядаюць пра лютаўскую буржуазна-дэмакратычную і кастрычніцкую сацыялістычныя рэвалюцыі. Цікавая інфармацыя знаходзіцца ў раздзеле “Лідскі ваенна-рэвалюцыйны камітэт і грамадзянская вайна”. Маюцца дадзеныя пра ўдзельнікаў тых падзей і іх далейшыя лёсы.

Пры зборы матэрыялаў адмысловая ўвага надавалася падзеям Вялікай Айчыннай вайны на Лідчыне. Гэтая тэма самая вялікая і найболей распрацаваная. Яна адлюстраваная з дапамогай шматлікіх фотаздымкаў і ўспамінаў удзельнікаў вайны, а гэтак жа копіямі дакументаў і газетнымі выразкамі.

Наступнымі з’яўляюцца фонды пра прадпрыемствы горада і раёна, пра сельскую гаспадарку.

Далей распавядаецца пра народную адукацыю і культуру. Сабрана інфармацыя пра заслужаных настаўнікаў, пісьменнікаў, мастакоў.

У асобнай справе знаходзяцца матэрыялы, якія тычацца фізкультуры і спорту на Лідчыне. Гэта ў асноўным выразкі з газет, фотакопіі грамат, дыпломаў.

Шмат матэрыялаў знаходзіцца ў фондзе “Помнікі”. Там распавядаецца пра археалагічныя, архітэктурныя помнікі гісторыі і культуры. Кожны помнік сфатаграфаваны і да яго прыкладаецца тэкст (калі такі маецца на помніку).

Завяршаецца адкрыты фонд справамі пра кіраўніцтва горада. Спачатку ідзе інфармацыя пра даваеннае кіраўніцтва, а затым пра пасляваеннае і цяперашняе. Дадзеная тэма раскрываецца пры дапамозе фотаздымкаў, аўтабіяграфій, успамінаў і іншай інфармацыі.

***Наталля Хацяновіч.***

# Лідскія юбіляры 2009 года

**ТРАЯНОЎСКІ Ян** (1799-1877 ці 1878). З карбанарыяў. Падтрымліваў сувязь паміж карбанарыямі і Літоўскім саюзам ды дзекабрыстамі. Сябраваў з Бястужавым і Паджыё. Ім складзены эскіз нейкага медаля. Мастак і аўтар гістарычных твораў. Дзіцячыя гады прайшлі ў маёнтку Бяльмонт графа Манузі, дзе бацька служыў эканомам. У 1827 г. жыў у Воранаве. Афіцыйна ён займаўся жывапісам, але, як сведчаць дакументы, меў і іншыя заняткі. Ян Траяноўскі па-ранейшаму заставаўся актыўным барацьбітом і прапагандыстам свабодалюбівых ідэй. У студзені 1827 г. на Яна Траяноўскага паступіў данос ксяндза вараноўскай плабаніі Вінцэнта Скібінскага з абвінавачваннямі ў блюзнерстве, у адмове ад споведзі, у дзеяннях супраць цара - *«дерзких отзывах противу христианской веры и высочайшего престола»*. Вось, у прыватнасці, што пісаў у сваім рапарце лідскі земскі спраўнік на імя літоўска-гарадзенскага губернатара: *«...Учарашняга чысла атрымаў ад воранаўскага ксяндза данясенне, што жывапісец Ян Траяноўскі, які знаходзіцца ў Воранаўскім Двары, рассейвае розныя супраць трона Яго імператарскай вялікасці і супраць рэлігіі весткі...»*. Адразу ж пасля гэтага данясення, як сведчаць дакументы, дзекабрыста Траяноўскага арыштавалі, забралі наяўную ў яго літаратуру і зняволілі ў Лідскую турму. Следства правялі ў Лідзе. Літоўска-гарадзенскага губернатара занепакоіла тое, што такая небяспечная асоба знаходзілася ў яго губерні. Ён запатрабаваў неадкладна прывезці арыштаванага ў Гародню. Пад узмоцненай аховай Яна Траяноўскага прывезлі ў губернскую турму. У Воранава быў адпраўлены аддзел жандараў. Афіцэр, які камандаваў гэтым аддзелам, спыніўся на кватэры ксяндза. А на наступны дзень у мястэчку і навакольных вёсках пачаліся арышты. Схапілі тых, хто быў блізкі з Траяноўскім, хто пад уплывам яго свабодалюбівых ідэй пачаў інакш глядзець на жыццё, існы лад, не гаворачы ўжо аб тых, хто адкрыта гаварыў пра гэта. Разам з імі ў казематы кінулі і тых, хто нават не быў звязаны з Траяноўскім, але рэдка наведваў касцёл. Выкарыстоўваючы зручны момант, ксёндз вырашыў заадно прыцiснуць тых, хто адыходзіў ад рэлігіі. Ксёндз гаварыў вернікам, што так улады зробяць з усімі богаадступнікамі. Справай дзекабрыста Яна Траяноўскага неўзабаве зацікавіўся царскі ўрад. Па асабістым указанні цара Мікалая I Траяноўскага накіравалі ў Пецярбург. Пасля допыту яго пасадзілі ў равелін, а затым па этапе накіравалі ў Сібір.

Матэрыял пра Яна Траяноўскага друкаваў часопіс “Беларусь”, 1959 г. № 9, аўтар Мараш.

*Юля Грыб (паводле В. Клапцова).*

**РАЙНЕС (Рэйнес) Іцхак Якаў** (1839, Карлін, прыгарад Пінска, - 1915, Ліда), У гэта цяжка паверыць, але гэта так. У Лідзе трыццаць гадоў жыў заснавальнік адной з дзвюх асноўных плыняў рэлігійнага сіянізму. Руху, дзякуючы якому, габрэі стварылі дзяржаву Ізраіль.

Бацька Райнеса - рабі Шлома Нафталі - валодаў друкарняй у Цфаце (Палестына); пакінуў горад, страціўшы падчас землятрусу 1837 г. сям’ю і маёмасць. Сваю любоў да краіны продкаў ён прышчапіў сыну. Адукацыю Іцхак Райнес атрымаў у іешывах Эйшышак і Валожына. Рабін у Шаўкянах (1867-69) і Свянцянах (1869-85). У Свян-цянах ён напісаў дзве рэлігійных працы: “Эдут бэ-Яакаў” (“Сведчанне ў Якаве”, 1872) і “Шаарэй ора” (“Брама святла”, 1886).



**Райнес Іцхак Якаў**

У 1882 г. Райнес прыняў удзел у з’ездзе прадстаўнікоў габрэйскіх грамадаў у Пецярбурзе, на якім прадставіў выпрацаваны ім план рэарганізацыі сістэмы выкладання ў іешывах, які не сустрэў падтрымкі з боку большасці дэлегатаў. Свае погляды на рэформу традыцыйнай габрэйскай адукацыі, мэтай якой было ўтрымаць габрэйскую моладзь у рамках артадоксіі, а таксама прапанаваную ім новую метадалогію вывучэння Талмуда, якую ён супрацьпастаўляў укаранелай сістэме, Райнес выказаў у працах “Хотэм тохніт” (“Завяршальны план”, тт. 1-2, 1880-81) і “Урым гдолім” (“Вялікія агні”, 1887). Метадалогія Райнеса была пабудаваная на лагічна-аналітычным падыходзе да крыніц. Райнес акрыў у Свянцянах узорную іешыву, разлічаную на дзесяцігадовы курс навучання, які нараўне з традыцыйнымі ўключаў і агульнаадукацыйныя дысцыпліны. Аднак з-за супрацьдзеяння вельмі артадаксальных колаў іешыва праз чатыры гады была закрытая. Райнесу было прапанавана месца рабіна ў Манчэстары, але пасля трохмесяцавага знаходжання ў Англіі ён вярнуўся ў Расію. Наступныя 30 гадоў Райнес - лідскі рабін (1885-1915).

Сіянізм, ледзь нарадзіўшыся, сутыкнуўся з моцным супрацьдзеяннем з боку, як артадаксальнага, так і рэфармісцкага юдаізму. Сярод артадоксаў адны лічылі сіянізм “выклікам, кінутым Небу”, а іншыя, улічваючы свецкі светапогляд большасці сіянісцкіх лідараў, асцерагаліся ўплыву, які сіянізм акажа на габрэйскую веру і

рэлігійны лад жыцця.

У той жа час існавала вялікая група артадаксальных габрэяў, у якую ўваходзіў і такі выбітны прадстаўнік рабінізму, як Шэмуэль Магілявер (1824-1898). Гэтая група, успрыняўшы погляды рабі Калішэра, з самага пачатку далучылася да сіянізму. Райнес удзельнічаў у Чацвёртым кангрэсе сіяністаў у Лондане ў 1900 г., пры абмеркаванні культурна-выхаваўчай працы рэлігійныя сіяністы на чале з рабі Іцхакам Якавам Райнесам запатрабавалі, каб сіяніцкі рух абмежаваўся палітычнай дзейнасцю. У сакавіку 1902 г. у Вільні па ініцыятыве Райнеса была склікана канферэнцыя рабінаў і іншых прадстаўнікоў артадаксальных колаў, якая абвясціла аб стварэнні рэлігійнай фракцыі (Мізрахі) у Сусветнай сіяніцкай арганізацыі. Дэвізам Мізрахі стаў лозунг "Зямля Ізраіля для народа Ізраіля, паводле Торы Ізраіля".

З другога боку, сіянізм сустрэў самы рашучы адпор у колах рэфармістаў. Яны бачылі ў сіянізме грамадскі выклік, які падрывае ў вачах усяго свету іх асноўную ідэю аб тым, што габрэйства - не нацыя, а рэлігійная агульнасць. І, вядома, як сярод артадоксаў, так і сярод рэфармістаў, знаходзілася шмат габрэяў, якія лічаць палітычны сіянізм несумяшчальным з грамадзянскім абавязкам габрэяў перад дзяржавай, у якой яны жылі і з якой сябе атаясамлялі.

З мэтай прапаганды палітычнага сіянізму сярод артадаксальных габрэяў Райнес у 1902 г. выдаў кнігу "Новае святло Сіёна". Ён прымаў удзел у першых Сусветных сіяніцкіх кангрэсах, аднак не згаджаўся з палітыкай сіяніцкіх лідараў у вобласці культуры, лічачы недапушчальным умяшанне дзеячаў культуры ў справы рэлігіі. У 1898 г. выпусціў кнігу "Ара ве-сімха" ("Святло і радасць") аб значэнні свята Пурым з прадмовай "аб сіянізме з артадаксальнага пункта погляду", а ў 1902 г. апублікаваў апалогію сіянізму "Ор хадаш ал Цыён" ("Новае святло над Сіёном"), у якой аспрэчваў антысіяніцкія сцвярджэнні некаторых прадстаўнікоў рабінскіх колаў. У сваіх працах Райнес заклікаў рэлігійных і нерэлігійных сіяністаў да сумеснай працы.

Іцхак Якаў Райнес быў адной з цэнтральных постацяў на Менскай канферэнцыі сіяністаў у верасні 1902 г. 160 з 526 удзельнікаў канферэнцыі прадстаўлялі рух Мізрахі. Падчас дыскусіі "па культурнай працы" Райнес ад імя фракцыі пярэчыў супраць дзейнасці Сіяніцкай арганізацыі ў вобласці культуры і патрабаваў перайсці да практычнай працы ў Эрэц-Ісраэль, лічачы, што габрэйская культура можа быць толькі рэлігійнай, бо для яго паняцця "рэлігія" і "нацыянальнасць" у дачыненні да габрэяў былі непарыўныя.

Дэлегаты ад Мізрахі патрабавалі перайсці да практычнай працы ў Эрэц-Ісраэль праз пасрэдніцтва Габрэйскага Нацыянальнага Фонду і Габрэйскага каланіяльнага банка.

У сваёй дзейнасці Райнес спрабаваў спалучаць сучасныя павевы з габрэйскай традыцыяй. Райнес далучыўся да руху "Хавявей Цыён", з моманту ўзнікнення ўдзельнічаў у яго працы. Разам з беластоцкім рабінам Ш. Магілеверам Райнес распрацаваў праграму засялення Палестыны (Эрэц-Ісраэль), якая прадугледжвала спалучэнне працы пасяленцаў на зямлі з вывучэннем Торы. Райнес быў у ліку нямногіх рабінаў, якія адразу адгукнуліся на заклік Т. Герцля і падтрымалі сіяніцкі рух.

У жніўні 1904 г. у Прэсбургу (цяпер Браціслава) на 1-м Сусветным з'ездзе Мізрахі Райнес быў аднадушна прызнаны лідарам руху.

У 1905 г. пры садзейнічанні відных дзеячаў Мізрахі і фінансавай дапамозе барона Д. Гінцбурга Райнес адкрыў у Лідзе ўмерана рэфармаваную іешыву, разлічаную на шэсць гадоў навучання. Нараўне з Талмудам у праграму былі ўключаны Біблія, іўрыт з граматыкай, а таксама агульныя прадметы ў аб'ёме павятовай навучальні, да якіх пазней дадалі асновы камерцыі. Педагагічныя прынцыпы, закладзеныя ў сістэму выкладання Лідскай іешывы, Райнес выказаў у працах "Кол Якаў" ("Голас Якава", 1908) і "Мішкенот Якаў" ("Манастыр Якава", 1910). У Лідзе ім былі напісаныя "Нод шэл дма'ад" ("Пасудзіна слёзаў", 1891) - гамілетычны нарыс гісторыі пераследу габрэяў у галуце; "Ор шыв'ат ха-ямім" ("Святло першароднае", 1896) - аб значэннях святаў месяца тышрэй і інш.

Вялікая частка літаратурнай спадчыны Іцхака-Якава Райнеса засталася ў выглядзе рукапісаў (каля 100 тамоў). Апублікаваныя пры яго жыцці працы аказалі сур'ёзны ўплыў на габрэяў Расійскай імперыі ў канцы XIX - пачатку XX стагоддзя. Месіянізм Райнеса меў палітычную афарбоўку.

У гонар Райнеса былі названыя, заснаваныя ў 1924 годдзе паселішча Няве-Якаў (праіснавала да 1948 г., на яго месцы з 1972 года - аднайменны раён Іерусаліма) і ў 1927 годзе машаў Сдэ-Якаў у Ізраельской даліне.

***Валеры Сліўкін.***

**ПУПКО Мейлах Носелевіч** (1859, Ліда - 1934, Ліда) - уладальнік піўнога завода (цяпер ААТ "Лідскае піва"). Купец 1-ай гільдыі з 1908 г. Лепшы менаджар Ліды XX стагоддзя. Лідскае піва адзначана медалямі на міжнародных выставах 1903 і 1908 гг. Быў пахаваны ў на габрэйскіх могілках у Лідзе. *(Падрабязна ў "Лідскім летапісцы" № 4 (32) за 2005 г. і № 1 (33) за 2006 г.*

**РАСТВАРОЎСКІ Андрэй** (1899-1980). У 30-х гадах XX стагоддзя жыў у Лідскім павеце, валодаў фальваркам Скабейкі. Яго бацька - вядомы віленскі архітэктар Тадэвуш Раствароўсі. Пакінуў успаміны аб гаспадаранні ў фальварку Скабейкі і аб жыцці ў Лідскім павеце. *"Moje zycie na Nowogrodczyznie lata 1924-1928// Goniec Kresowy. Nr 41. 2003. s.12-16; Nr 42: 2004 s. 18-21." "Pogrzeb mojego ojca Tadeusza, wilenskiego architekta i artysty malarza. // Goniec Kresowy. Nr 43. 2004. s. 15-16."*


Дудко С. Р.

**ДУДКО Сяргей Рыгоравіч** (1919 - 10.2003 ). Нарадзіўся ў в. Пятровічы Парыцкага (Парычанскага) раёна Палескай вобласці. Беларус. Член КПСС з 1942 г. Калгаснік калгасу "Новае жыццё" Светлагорскага раёна (1934-36), рахункавод калгасу ім. К. Маркса (1936-39), бухгалтар Чэрнінскага сельпо Светлагорскага раёна (1939). У шэрагах ЧА (1939-47). Пасля дэмабілізацыі старэйшы бухгалтар у школах ФЗН № 21 г.п. Скідаль і № 44 у г. Гародні. Дырэктар Лідскага маслазавода, інструктар сельгасаддзела Лідскага райкаму КПБ, старшыня калгасу "8 сакавіка", затым імя.Мічурына Лідскага раёна. Узнагароджаны ордэнамі Леніна (1966), Кастрычніцкай рэвалюцыі (1971), двума ордэнамі Айчыннай вайны 1 ступені, двума ордэнамі Айчыннай вайны 2 ступені, 26 медалямі, у тым ліку "За адвагу", Ганаровай граматай ВС БССР. Шматгадовы член Лідскага райкаму КПБ, дэпутат Дубровенскага с/с і Гарадзенскага аблсавету. Дэпутат ВС БССР ( 1971-75).

**ЯРМАНТОВІЧ Алена Васільеўна** (15.8.1929 - 19.09.1986), Герой Сацыялістычнай працы. Нарадзілася ў в. Лянікі, беларуска, адукацыя пачатковая. Да лютага 1950 г. працавала на сямейнай гаспадарцы, у лютым 1950 г. разам з бацькамі ўступіла ў калгас "Маяк" Голдаўскага сельсавета. Працавала ў ільнаводчым звяне. З 1961 г. звенявая ільнаводчага звяна калгаса "Сцяг саветаў". У 1963 г. з плошчы 13,6 га звяно атрымала ўраджайнасць ільнасем'я 8,5 ц/га і ільнавалакна 10,1 ц/га. Было сабрана 119 цэнтнераў ільнасем'я і 137 цэнтнераў ільнавалакна з нумарам 13, прыбытак склаў 2867 рублёў з гектара. У 1964 г. пры неспрыяльных кліматычных умовах з плошчы 8,7 га атрымалі ўраджай ільнасем'я 9,8 ц/га і ільнавалакна 9,9 ц/га. Атрымана 85,5 ц ільнасем'я і 86,6 ц ільнавалакна з сярэднім нумарам 12. Грашовы прыбытак -3141 рубель з гектара. У 1965 г. з плошчы 14 га атрыманы ўраджай 8,8 ц /га ільнасем'я, 10 ц/га ільнавалакна. Ільнасем'я атрымана 123,5 ц, ільнавалакна 140 ц з сярэднім нумарам 14. Грашовы прыбытак - 3186 рублёў з га. Прымала актыўны ўдзел у грамадскім і палітычным жыцці калгасу, дэпутат раённага савету. Званне Героя Сацыялістычнай працы прысвоена 30 красавіка 1966 г. "за поспехі дасягнутыя ў павелічэнні вытворчасці і нарыхтоўцы ільну". Атрымала бронзавы, срэбны і залаты (ліпень 1966 г.) медалі ВДНГ СССР. У яе звяне 7 чалавек мелі медалі ВДНГ. У 1966 г. сабралі па 9 цэнтнераў ільнасем'я і па 12,1 цэнтнераў ільнавалакна. У 1967 г. комплекснае звяно Ярмантовіч выгадавала бульбу з ураджайнасцю 255 ц/га. У 1968 г. звяно першым у раёне здало ў "Нарыхтлён" 2198 кг ільнавалакна 10 нумарам, затым 13-14 нумарамі, ураджайнасць ільнасем'я 9,8 ц/га. У калгасе ў 1968 г. ільном засяваўся 121 гектар, стваралася 14 звёнаў. У 1967-71 гг. А.В. Ярмантовіч - дэпутат і член Прэзідыюму Вярхоўнага Савету БССР. Дэпутат раённага савета двух скліканняў. З 1977 г. - рабочая Лідскай абутковай фабрыкі, затым малочна-кансервавага завода.


Ярмантовіч А. В.

**КАЗЛОЎСКАЯ (Міцюкевіч - дзявоч.) Дар'я Іосіфаўна.** Нарадзілася ў 1939 г. у в. Агароднікі. Беларуска. Бацька быў краўцом, купіў зямлю ў Агародніках, у 1950 г. пераехаў у Бярозаўку. Удзельнічала ў мастацкай самадзейнасці, добра спявала. На шклозаводзе "Нёман" з 1956 г., шліфавальшчыца. Дэпутат абласнога савету, член прафкаму, ударнік камуністычнай працы, настаўнік моладзі. Узнагароджана Ордэнамі Працоўнай Славы 3-й ступені і 2-й ступені (1983). Дэпутат ВС БССР (1985-90).

**ЦЫЛЕНЬЦЬ Валеры Антонавіч.** Нарадзіўся 22.09.1969 у Лідзе, скончыў СШ № 10, Гарадзенскі дзяржаўны ўніверсітэт (1995). Бронзавы прызёр XXVI Алімпійскіх гульняў у Атланце ў 1996 г. у грэка-рымскай барацьбе ў сярэдняй вазе (да 82 кг). Удзельнік XXVII Алімпійскіх гульняў 2000 г. - 4 месца ў катэгорыі да 85 кг. Бронзавы прызёр чэмпіянату свету (1994), удзельнік чэмпіянатаў свету (1993 - 4 месца, 1997 - 5 месца, 1999- 6 месца). Удзельнік чэмпіянатаў Еўропы (1994 - 6 месца, 1996 - 9 месца, 2001 - 11 месца). Пераможца міжнародных турніраў Гран-пры памяці Ў. Пытлясінскага (1993, 1997), І. Паддубнага (1999), турніру ў Балгарыі (1999), срэбны прызёр мемарыялу І. Паддубнага (2001). Чэмпіён Беларусі (1993, 1994, 1996). Майстар спорту міжнароднага класа. Першы трэнер Анатоль Іванавіч Паплаўскі.

У 2007 г. скончыў Вышэйшую школу трэнераў. У цяперашні час - маёр МУС, трэнер спартовай каманды ўнутраных войскаў МУС Рэспублікі Беларусь.


Цыленьць В. А.

# БАЦЬКА БЕЛАРУСКІХ ГІСТОРЫКАЎ

## *225 гадоў з дня нараджэння Тодара Нарбута*




**Канверт, выдадзены “Белпоштай” да 225- годдзя Тодара Нарбута**

***Нарбут*** *(Остык-Нарбут) Тодар [Фёдар Яўхімавіч; 28.10 (8.11).1784, маёнтак Шаўры Лідскага пав., цяпер Воранаўскі р-н — 14(26). 11.1864], гісторык і археолаг. Скончыў Віленскі ун-т (1803). У тым жа 1803 прыняты ў Пецярбургскі кадэцкі корпус. У 1804 удзельнічаў у рабоце камісіі па распрацоўцы праекту рэгуляцыі Нёмана. Удзельнік руска-пруска-французскай (1806-07) і руска-шведскай (1808-09) войнаў (капітан рускай арміі, вайсковы інжынер). Аўтар праекту Бабруйскай цвярдыні і ўдзельнік яе будаўніцтва. З 1812 у адстаўцы, жыў у сваім маёнтку, даследаваў гісторыю ВКЛ. Першы на Беларусі даў азначэнне курганам як месцам старажытных пахаванняў. Вёў раскопкі ў Падняпроўі, пазней — на радзіме. У 1820 адкрыў ямнае пахаванне непадалёку ад в. Шаўры Лідскага пав. Алісаў руіны цвярдыні на Нёмане каля в. Лыскава Гарадзенскага павету. Сцвярджаў, што дрыгавічы невядомага паходжання жылі каля Кіева. Адносіў яцвягаў да скіфскіх плямён. Геральдыку Беларусі не лічыў старажытнай, бо аналагічная існавала і ў суседніх народаў. Даследаваў Лідскі замак. Збіраў і вывучаў помнікі археаграфіі. Аўтар «Гісторыі літоўскага народа» (т. 1-9, 1835-41; давёў падзеі да 1569), у 1-м томе якой змясціў табліцу сваіх знаходак. Увёў у навуковы ўжытак Хроніку Быхаўца (1846). Для гіст. поглядаў Нарбута характэрны ліцвінскі патрыятызм, прычым этнічных літоўцаў і беларусаў ён успрымаў як адзіны народ ВКЛ. Нарбут адзначаў, што, «злучыўшыся з Польшчай, Літва добраахвотна здала сваю незалежнасць, трапіла ў хаос польскага безуладдзя, які пазбавіў яе знешняй абароны і значэння ў суседзяў, выдаў на водкуп знішчальных войнаў». Нарбут імкнуўся паказаць гісторыю літоўскага народа як аднаго з роўных еўрапейскіх народаў. Ён пісаў не гісторыю дзяржавы, як было прынята ў той час у польскай і расейскай гістарыяграфіі, а менавіта гісторыю народа.*

*Меў багатую калекцыю археалагічных матэрыялаў. Апублікаваў шэраг артыкулаў пра Ліду, Навагрcraдак, Індуру і інш. Займаўся пытаннямі старажытнай міфалогіі, этнаграфіі, фалькларыстыкі.*

# Рукапіс Тодара Нарбута ў Расіі

Постаць Тодара Нарбута (1784 - 1864) займае віднае месца ў гісторыі беларускай, а таксама літоўска-польскай гістарычнай навукі і грамадскага жыцця. Галоўная яго праца, “Гісторыя літоўскага народа” (у 9-ці тт., 1835 - 1841), - адно з першых навуковых сачыненняў, прысвечаных мінуламу Літвы. Напісаная па-польску, “Гісторыя…” тым не менш адыграла выбітную ролю ў нацыянальным адраджэнні літоўцаў *(Berenis V., 1992. P. 16)* і беларусаў. У апошнія гады ў навуцы ўзмацнілася цікавасць да жыцця і творчасці Нарбута. У дадзеным паведамленні мне хацелася б пазнаёміць навуковую грамадскасць з адной знаходкай, якая пралівае святло на працэс стварэння “Гісторыі літоўскага народа”.

У Аддзеле гісторыі кнігі Дзяржаўнай публічнай гістарычнай бібліятэкі Расіі (далей - ОИК ГПИБ) захоўваецца рукапіс in quarto, у паўскураной вокладцы, датаваны па знешніх прыкметах першай паловай - сярэдзінай XIX ст. На рукапісе маюцца штампы і бібліятэчныя адзнакі ГПИБ, а таксама сіні алоўкавы нумар, які сведчыць пра яе паходжанне з бібліятэкі Гістарычнага музея. Тэкст на польскай мове ўтрымоўваецца на 404 нумараваных старонках, акрамя таго, у пачатку і ў канцы рукапісу знаходзяцца адпаведна 23 і 24 ненумараваныя чыстыя аркушы. Рукапіс утрымоўвае 893 рэгесты гістарычных дакументаў (лістоў, заканадаўчых актаў, папскіх бул, дароўчых грамат) за перыяд 1216 - 1529 гг. Па змесце яны адносяцца галоўным чынам да гісторыі Вялікага Княства Літоўскага, а таксама Польшчы, Тэўтонскага (Нямецкага) і Лівонскага Ордэнаў, рускіх земляў і іншых дзяржаў Усходняй і Цэнтральнай Еўропы. У

арыгінале рукапіс ніяк не азагалоўлены, у каталогу бібліятэкі фігуруе пад назвай "Regesta dokumentorum".

У канцы кожнага рэгеста паказана месцазнаходжанне арыгіналу і копіі дакумента (або яго выдання). Мяркуючы па гэтых адсылках, дакументы паходзілі з сакрэтнага архіву ў Кёнігсберзе, Рыжскага гарадскога архіву, Нясвіжскага архіву Радзівілаў і інш. Сам рукапіс служыў паказальнікам да збору копій гістарычных крыніц, зробленых для гісторыка сярэдзіны XIX ст. (пасля 1841 г., калі выйшла ў свет выданне "Zbior praw litewskich"). Звяртае на сябе ўвагу той факт, што практычна пры кожнай спасылцы на апублікаваную крыніцу паказаны аўтар выдання. Гэтага не робіцца толькі ў адным выпадку - пры згадванні "Гісторыі літоўскага народу" Нарбута. Параўнанне рукапісу з яго даследаваннямі і публікацыямі паказвае, што спасылкі на *неапублікаваныя* крыніцы ў іх супадаюць (Narbutt T., 1856. S. 36 - 37, 124, 126, 184; [Regesta dokumentorum.] S. 13, 94, 117, 277). А гэта азначае, што пералік гістарычных дакументаў быў складзены менавіта для Тодара Нарбута.

На працягу многіх гадоў Нарбут збіраў копіі гістарычных дакументаў, у прыватнасці, пры пасярэдніцтве І. Фойгта і К. Нап'ерскага атрымліваў матэрыялы з архіваў Кёнігсберга і Рыгі *(Berenis V., 1992. P. 15)*. Яны былі згрупаваныя па месцы паходжання ў некалькі кніг, пазначаных літарамі лацінскага алфавіту. У міжваенны перыяд шэраг гэтых кніг захоўваўся ў Вільні, Кракаве і Львове *(Doubek Fr.A., 1930. S. 873 - 874)*. Прыкладна гэтак жа ёсць і зараз. У прыватнасці, у Цэнтральным дзяржаўным гістарычным архіве Літвы находзіцца адна з кніг копій, падрыхтаваных для Нарбута па матэрыялах Кёнігсбергскага архіву за 1382 - 1424 гг., так званая "кніга B" *(Lietuvos TSR valstybiniu archyvu fondu trumpas zinynas. 4 s-s. P. 57)**. Яна вядомая і па дасылках у "Regesta dokumentorum", дзе, праўда, апошні яе дакумент датаваны 1425 г. *(Regesta dokumentorum. S. 148.)* Магчыма, Нарбут некалькі раз прымаўся за складанне паказальніка да кніг копій. Ёсць звесткі пра яго рукапіс "Index historicorum monimen-torum Lithuaniae. An. 1211 - 1570" у 3-х частках, перапісаны самім Нарбутам *(Апісанне. Вып. 5. С. 32)*. Паміж тым "Regesta dokumentorum" перапісаныя пісцом-каліграфам і на некаторых старонках утрымоўваюць выпраўленні спорным почыркам (верагодна, рукой Нарбута).

Пакуль не ўяўляецца магчымым дасканала прасачыць шлях рукапісу Нарбута з яго маёнтка Шаўры Лідскага павету (дзе захоўвалася яго збор) у ГПИБ. Пасля смерці гісторыка маёнтак яго сям'і, якая актыўна садзейнічала паўстанцам у 1863 -1864 гг., падпаў пад секвестр, а кнігі былі перавезеныя ў Вільню і складзеныя ў адным з касцёлаў у чаканні арганізацыі Віленскай Публічнай бібліятэкі. Яна адчынілася толькі праз тры гады, а тым часам кніжны збор Нарбута раскрадаўся *(Berenis V., 1992. P. 16)*. Пазней нейкая частка кніг Нарбута сапраўды патрапіла ў Віленскую Публічную бібліятэку. Зараз яны рассеяны па зборах Вільні, Кракава і, магчыма, Львова *(Stolzman M., 1977. S. 539)*.

Якое значэнне выяўленага рукапісу Т. Нарбута? Па-першае, гэта яшчэ адзін крок да стварэння "поўнага пераліку і апісання яго архіваў і рукапісаў" (такая задача была пастаўленая ў артыкуле: Нарбут А.Н., 1993. С. 147). Варта дадаць, што для рашэння гэтай задачы патрабуецца высветліць суадносіны паміж паказальнікамі і кнігамі копій. Па-другое, звесткі гэтага рукапісу дазваляюць зазірнуць у творчую майстэрню гісторыка. Справа ў тым, што многія з гэтых рэгестаў дапоўненыя разгорнутымі каментарамі, палемічнымі заўвагамі ў адрас гісторыкаў. Нарбут рыхтаваў другое выданне "Гісторыі літоўскага народа", і гэтыя заўвагі маглі ўвасобіцца ў яго маргіналіях у аўтарскім асобніку кнігі *(гл.: Griskaite R., 1994)*. Нарэшце, шматлікія з сабраных ім дакументаў дагэтуль не выдадзеныя, і знойдзены рукапіс дае магчымасць пазнаёміцца, калі і не з самімі дакументамі, то з іх поўнымі рэгестамі ў тых выпадках, калі арыгіналы па той або іншай прычыне недаступныя гісторыку. Такім чынам, рукапіс "Regesta dokumentorum" з Аддзела гісторыі кнігі ГПИБ можа ўяўляць цікавасць для досыць шырокага кола даследчыкаў.

***Літаратура:***

1. [Regesta dokumentorum.] SI, s.a. (ОИК - 379 р.) ГПИБ.

2. Berenis V. Teodoras Narbutas ir jo "Lietuviu tautos istorija" // Narbutas T. Lietuviu tautos istorija. T.l. [1-as leid.] Vilnius, 1992.

3. Doubek Fr.A. Skarga Zmudzinow i odpowiedz Zakonu Niemieckiego z roku 1416 // Ateneum Wilenskie. 1930. R. 7. Zesz. 3-4.

4. Griskaitt R. Keletas minciu jau pasirodzius pirmajam Teodoro Narbuto Lietuviu tautos istorijos tomui lietuviu kalba (Vietoj recenzijos) // Lietuvos istorijos metrastis. 1993 m. Vilnius, 1994.

5. Lietuvos TSR valstybiniu archyvu fondu trumpas zinynas. 4 sas.: Kultura. Mokslas. Spauda ir informacija. Vilnius, 1976.

6. Narbutt T. Pomniejsze pisma historyczne szczegolnie do historyi Litwy odnoszaxe sie. Wilno, 1856.

7. Stolzman M. Narbutt Teodor // Polski slownik biograficzny. T. XXII/3. Zesz. 94. Wroclaw etc., 1977.

8. Нарбут А.Н. Жизнь и деятельность Теодора Нарбута // Наш радавод. Т. 5. Ч. 1. Гродно, 1993.

9. Описание рукописного отделения Виленской публичной библиотеки. Вып. 5. Вильна, 1906.

***Сяргей Полехаў,***
*студэнт Маскоўскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя М.В. Ламаносава, Масква, Расія.*

* У гэтым даведніку замест Кёнігсбергскага архіву (літ. "Karaliauciaus archyvas") у якасці крыніцы дакументаў зборніка паказаны "каралеўскі архіў" ("karaliskasis archyvas"). Відавочна, гэта памылка, заснаваная на неразуменні літоўцамі польскіх слоў "krolewiecki" і "krolewski".

# ПАЭТ, НАСТАЎНІК, БЕЛАРУС

## *Міхасю Мельніку - 60*

Калі размова пойдзе пра адраджэнне беларускай культуры ў нашым горадзе, то, напэўна, першай асобай, з якой асацыюецца гэтае адраджэнне, будзе Міхась Іванавіч Мельнік - сапраўдны рухавік і натхняльнік аднаўленчага руху ў Лідзе, актыўны грамадскі дзеяч і цудоўны паэт, адзін з тых, на кім трымаецца годнасць беларускай нацыі.

Міхась Іванавіч Мельнік нарадзіўся 7 лістапада 1949 года ў вёсцы Майсеевічы Асіповіцкага раёна Магілёўскай вобласці ў сям'і калгаснікаў. Вучыўся ў Гарадзенскім ПТВ-49 хімікаў, некаторы час працаваў слесарам-інструментальшчыкам на заводзе гандлёвага машынабудавання ў Гародні. У 1972 годзе скончыў філфак Гарадзенскага педінстытута імя Янкі Купалы. Працаваў настаўнікам беларускай мовы і літаратуры Астравецкай СШ, а пасля тэрміновай службы ў шэрагах Савецкай Арміі - намеснікам дырэктара Красноўскай і Голдаўскай сярэдніх школ Лідскага раёна; у 1980 годзе быў абраны старшынём прафсаюзнага камітэту Лідскага СПТВ № 55 механізацыі меліярацыйных работ.

З 1984 года выкладае беларускую мову і літаратуру ў Лідскай педнавучальні (з 2001 года - Лідскі педкаледж, з 2006 года - Лідскі каледж Гарадзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Я. Купалы). Адначасова займаў пасаду старшыні прафкаму гэтай навучальнай установы. Міхась Іванавіч вядомы як творчы і дасведчаны педагог, якому ўласцівы высокі прафесіяналізм, добрасумленныя адносіны да працы. Карыстаецца заслужаным аўтарытэтам і павагай сярод педагогаў і навучэнцаў.

З першых гадоў сваёй педагагічнай дзейнасці Міхася Іванавіча хвалявала праблема адраджэння беларускай культуры, вывучэння роднай мовы ў школах і навучальных установах, нават на розных прадпрыемствах і ў арганізацыях.

Ужо маючы пасаду старшыні прафкаму, яшчэ ў 80-я гады, Міхась Мельнік стаў ініцыятарам адкрыцця ў раённай газеце рубрыкі "Беларуская мова і мы". Змешчаны ў ёй артыкул аб праблемах роднай мовы "Без яе мы станем нямымі" (кастрычнік 1989 года) ускалыхнуў грамадскую думку ў горадзе.

Паглыбленае вывучэнне беларускай мовы пачалося з СШ № 13, потым пайшло распаўсюджвацца на іншыя школы горада і раёна. Падтрымку школе пачаў аказваць калектыў Лідскай педнавучальні, які ўзяў над ёй шэфства. І тут ужо не абышлося без Міхася Іванавіча. Па яго ініцыятыве ў навучальні было створана літаб'яднанне "Крынічка", якое наведвалі і школьнікі, наладжаны выпуск двух рукапісных часопісаў "Вытокі" і "Рунь", штомесячнай насценгазеты "Крынічка".

Міхась Іванавіч Мельнік - ініцыятар стварэння ў Лідзе Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны. У жніўні 1989 года ён становіцца старшынём аргакамітэту па стварэнні гэтай арганізацыі, а ў канцы



таго ж года - старшынём гарадской рады створанага ТБМ. Адказную пасаду ён займаў на працягу васьмі гадоў. За гэты час таварыства зрабіла многае ў адраджэнні беларускай культуры ў горадзе. Ужо напачатку існавання ТБМ, дзякуючы выступленню Міхася Мельніка, адбылося адкрыццё з-пад тынку мемарыяльнай дошкі ў гонар Людвіка Нарбута - аднаго з паплечнікаў К. Каліноўскага. У 1993 годзе, дзякуючы ў першую чаргу намаганням Міхася Мельніка, у Лідзе быў адкрыты другі ў краіне помнік вялікаму першадрукару і асветніку Францішку Скарыне (адкрыццё адбылося 25 ліпеня 1993 года, скульптар - Валяр'ян Янушкевіч). Міхась Іванавіч узначальвае арганізацыю ТБМ Лідскага каледжа - адну з самых буйных у Беларусі.

Але гэтым яшчэ не вычэрпваецца дзейнасць Міхася Мельніка на ніве адраджэння беларускай культуры. Ён - дасведчаны педагог, адметны паэт, выдатнік адукацыі Рэспублікі Беларусь (1995 г), выбіраўся народным дэпутатам Гарадзенскага абласнога Савета народных дэпутатаў па Маладзёжнай выбарчай акрузе № 51 (1990-1995 гг), уваходзіў у склад тапанімічнай камісіі пры Прэзідыуме Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь (1992-1994 гг).

Першы верш (на рускай мове) надрукаваў у 1966 годзе ў рэспубліканскай газеце "Зорька". А першы верш на беларускай мове "Задуменная ноч" з добраславення славутага Васіля Быкава быў надрукаваны 25 лістапада 1967 года ў газеце "Гродзенская праўда". У 1996 годзе ён разам з Пятром Чaборам склаў зборнік вершаў "Скрыжаванне", у 2009 годзе выйшла ў свет яго кніга паэзіі "Лодка жыцця". Ім так-

сама выдадзены інфармацыйны фотаальбом “Время и судьбы” (2004 г., сумесна з Леанідам Віннікам), дзе змешчана інфармацыя пра вядомых людзей Лідчыны канца XX - пачатку XXI стагоддзя; анталогія твораў лідскіх літаратараў пра беларускую мову “Шануйце роднае слова” (2008 г.) - зборнік, якому няма аналагаў ні ў адным другім горадзе краіны.

Міхась Іванавіч Мельнік выступаў і выступае ў мясцовым, абласным і рэспубліканскім друку з літаратурна-крытычнымі, навукова-метадычнымі і публіцыстычнымі артыкуламі, а таксама - па радыё і тэлебачанні. Ён з’яўляецца адным са стваральнікаў у Лідскім каледжы музея асветы і культуры Лідчыны і адным з заснавальнікаў і выдаўцоў газет “Народная трыбуна” і “Голас з Ліды” (1992-1995 гг), мае сувязь, як з творчымі дзеячамі Лідчыны, так і з многімі іншымі пісьменнікамі Рэспублікі Беларусь, у тым ліку з тымі, хто жыве зараз за яе межамі, і нават з замежнымі беларусазнаўцамі. З 2004 года кіруе літаратурным аб’яднаннем “Суквецце” пры рэдакцыі “Лідскай газеты” - буйным аб’яднаннем літаратараў, куды ўваходзяць, як дасведчаныя, вядомыя лідскія паэты і празаікі, так і пачаткоўцы , уключаючы навучэнцаў школ (усяго каля 130 чалавек). На словы Міхася Мельніка напісана шмат песень кампазітарамі Я. Петрашэвічам, В. Пыпецем, Д. Мазітавай, С. Мазітавай, Д. Ціханам, С. Лявонавай, С. Чарняком, І. Воранам, В. Пазнуховай, Уладзімірам Норанам і іншымі. Грамадская і творчая дзейнасць ідуць рука аб руку ў яго жыцці і не спыняюцца па сённяшні дзень.

У яго нямала новых твораў. Але галоўная тэматыка іх усё тая ж, бо яна на сённяшні дзень па-ранейшаму актуальная і патрэбная асвятленню: гуманнасць, дабрыня, узаемадапамога, прызначэнне чалавека ў жыцці, любоў да Радзімы, імкненне захаваць усё спрадвечна беларускае, захаваць родную мову. І сёння мы спынімся на некаторых аспектах яго творчасці.

Вершы Міхася Мельніка разнастайныя па сваёй тэматыцы. Аднак найбольш пераважае ў яго творчасці філасофская лірыка. Другое месца дзеляць лірыка пейзажная і інтымная. І, нарэшце, ёсць у паэта і вершы грамадзянскага гучання.

Кожны яго верш - невялікі па аб’ёму (звычайна тры страфы), але вельмі вобразны і лірычны, глыбокі па свайму зместу. У іх не заўсёды назіраецца рыфма і дакладны памер - але ці так важна гэта ў творчасці?! Часам вельмі цяжка, а то і зусім немагчыма падабраць словы, каб яны адначасова і рыфмаваліся, і адпавядалі сапраўдным пачуццям і настроям паэта. Як сцвярджае Міхась Мельнік,

*Не рыфмаю, а праўдаю*
*Звініць страфа ў вяках.*
(“Паэтам”)

І Міхась Іванавіч заўсёды верны такому прынцыпу ў сваіх шматлікіх творах. Таму кожны з іх такі шчыры і задушэўны, і вобразы, створаныя паэтам, назаўсёды застаюцца ў нашай памяці як неад’емная часцінка нашага ўнутранага свету.

Як ужо гаварылася, вершы Міхася Мельніка вобразна багатыя. Але сярод самых распаўсюджаных вобразаў-сімвалаў : дуб-асілак, свежы некрануты снег,



***Ва ўрочышчы Дубы. Тут любіў адпачываць Якуб Колас. 1982 г.***



***З Данутай Бічэль у Лідскай педнавучальні. 1982 г.***



***На вечарыне, прысвечанай Ф. Скарыну. Педнавучальня, снежань 1989 г.***



***У ролі Несцеркі. Ліда, 1991 г.***



***Злева направа: Адам Мальдзіс, Яўген Лецка, Джэймс Дзінглі (загадчык кафедры беларускай літаратуры Лонданскага ўніверсітэта, Англія), Міхась Мельнік, Ніл Гілевіч у сядзібе ТБМ, верасень 1990 г. Наша слова, № 7, 1990 г.***

цёмная ноч, чалавечыя вочы. Дуб - сімвал вернасці Радзіме, вечнай памяці пра яе мінулае. Снег - сімвал душэўнай чысціні і светласці. Цёмная ноч сімвалізуе тугу і роспач. Вочы, кажучы словамі самога паэта, - "люстра душы чалавечай". Увогуле, вершы гэтага цудоўнага паэта багатыя на метафары і параўнанні, прытым вельмі трапныя і нечаканыя.

Так, каб паказаць прыгажосць дуба, хаця і аброслага мохам, паэт ужывае наступнае параўнанне: *"Ён [дуб] мохам, як футрам шыкоўным, абшыты..."* ("Вернасць").

Каб мы ярчэй маглі ўявіць, якія энергічныя, пытлівыя навучэнцы займаюцца пад яго кіраўніцтвам, паэт ужывае вельмі трапную метафару "няўрымслівыя птахі" *("Няўрымслівыя птахі - мае вучні...").*

Такія прыклады можна прыводзіць бясконца. Можна яшчэ, калі глыбей ўгледзецца ў многія яго вершы, заўважыць вельмі сугучныя словы, якія прыдаюць ім большую эмацыянальнасць і звонкасць, служаць лепшаму іх запамінанню. І хаця паэт не адводзіць першае месца ў сваёй творчасці сугучнасці слоў і іх частак, але і не адракаецца ад яе, як дзейснага паэтычнага сродку. Вось як, напрыклад, трапна выкарыстаў ён алітэрацыю ў наступных радках:

*...Нас ад веры не адвернеш.*
("Вера")

*...Рыпіць пратэз-*
*вайне пратэст!*
("Пратэст")



***З Леанідам Віннікам, 1999 г.***

У першым прыкладзе сугучнасць слоў узмацняе ідэю чалавечай веры ў лепшае, без якой жыццё губляе сэнс. У другім прыкладзе - ідэю недапушчальнасці вайны, як перашкоды нармальнаму жыццю на зямлі.

Але, калі гаварыць толькі пра багацце паэтычных сродкаў, гэта значыць, прадставіць творы аднабока. Спынімся па парадку на кожнай з разнастайнасцей лірыкі Міхася Мельніка.

Як было сказана, філасофская лірыка - самы аблюбаваны від лірыкі паэта. Элементы яе сустракаюцца і ў пейзажных, і ў інтымных, і нават у некаторых грамадзянскіх вершах. Роздум аб прызначэнні чалавека ў жыцці, аб тым, як пражыць жыццё годна і правільна, аб будучым чалавецтва вельмі часта наведвае паэта. Свае жыццёвыя прынцыпы і імкненні ён выказвае вельмі разгорнута і праўдзіва. Паэт імкнецца быць у жыцці светлым, адкрытым, спагадлівым і мудрым, пражыць жыццё разнастайна, творча - і ўсе гэтыя якасці перадаць нашчадкам. Не ў правілах паэта раскісаць ад гора, паддавацца абыякавасці і разладу са знешнім светам. Нават у самых сумных яго вершах гучаць аптымістычныя ноткі:

*На зоркі гляджу і дзіўлюся,*
*іх тайнаму лёсу зайздрошчу:*
*яны над маёй Беларуссю*
*гараць нават цёмнаю ноччу!*
("Выратаванне")

А "цёмную ноч" выклікаюць нямала праблем і трывог, што не пакідаюць паэта абыякавым:

*З трывогаю жыву на свеце,*
*бо ў ім суіснуюць даўно*
*падман, і прагнасць, і бясчэсце,*

*што нас дурманіць, як віно...*
(“Вера”)

*Толькі б ні попелам-гарам,*
*толькі б ні воблакам гібельным,*
*ні тэрмаядзернай хмарай,*
*неба, ніколі не быць табе...*
(“Роднае неба”)

Аднак любоў, надзея і шчасце, нягледзячы на ўсе трывогі, па-ранейшаму з’яўляюцца для паэта трыма галоўнымі спадарожніцамі жыцця, трыма ярчэйшымі зоркамі, што верна асвятляюць шлях жыццёвай лодкі.

*Плыві, мая лодка, плыві,*
*Пакуль прадаўжае свяціцца*
*Жыцця шлях зарніцай любві,*
*Надзеі і шчасця зарніцай!*
(“Лодка жыцця”)

Вельмі блізкая да філасофскай, нават часам неадрозная ад яе, у Міхася Мельніка лірыка пейзажная. Да кожнага пейзажнага верша можна намаляваць цудоўную і непаўторную карціну. Карціны прыроды вельмі часта накладваюцца на розныя адцягненыя паняцці і схіляюць да роздуму. Так, дуб увасабляе вернасць, памяць; рака Нёман - глыбіню душы. Асабліва наводзіць паэта на роздум лес.

*Калі садзіцца вечар на яліны,*
*І цішыня на роздумы наводзіць,*
*Прыходжу ў лес, нібыта ў рай гасцінны,*
*Нібыта ў храм да Госпада на споведзь...*
(“Сустрэча з лесам”)

*Спакойным быць хачу, як снежны лес,*
*калі прырода мудрасцю кранае,*
*калі жыццёвы чалавечы лёс*
*адметную выразнасць набывае...*
(“Пераўвасабленне”)

Сярод пейзажных вершаў нямала і такіх, дзе паэт проста любуецца прыгажосцю роднай прыроды, усхваляе яе, як і ўсю Радзіму. Прырода для паэта, кожнае яе праяўленне - нешта святое, цудоўнае, казачнае.

*Прытаюся -*
*не грэх! -*
*казка прад вачамі...*
*Не рашуся*
*белы снег*
*патаптаць нагамі... -*
прызнаецца паэт у вершы “Захапленне”.

Карціны прыроды вельмі дарагія паэту, яны вяртаюць яго ў мілае дзяцінства. *О, мая вясёлая ваколіца, ой ты, ахмялёнае дзяцінства! Нерушная, ясная душа, звонкі плёс і шумная шаша...* (“Успамін”).

Вельмі высакародныя і таямнічыя рухі душы ўмела і тонка ўвасоблены ў інтымных вершах паэта. У іх - і цяжкае, але вернае чаканне (“Ты прыйдзі!”), і глыбокая падзяка (“Як я жыў”), і азарэнне (аднайменны верш), і смутак (“Прызнанне”), і вера (“Навошта ўсе трывогі”), і нават балючы роздум (“Каханне”).



***На сустрэчы з Валянцінай Коўтун. Лідскі каледж, 2001 г.***



***У Лідскім каледжы: Міхась Мельнік, Эдуард Акулін, Анатоль Вярцінскі, Алесь Хітрун, Ніл Гілевіч, сядзіць Яўген Пац. 20.12.2006 г.***



***З Васілём Зуёнкам і Міхасём Скоблам. Лідскі каледж, 26.11.2008 г.***

І менавіта ў інтымных вершах вельмі дапамагаюць, як нідзе болей, перадаць гэтыя тонкія пачуцці параўнанні і метафары. Многа іх, напрыклад, у вершы “Азарэнне”. Ліст ад каханай, такі доўгачаканы, параўноўваецца тут з крыгаходам, “што раскрышыў ільды сумненняў”. Надзея, якую так доўга выношваў паэт, - з “іскрай”, роспач - з “чорнай зімой”, завірухай, доўгачаканы радасны смех каханай - з “веснавым азарэннем”. Нямала і трапных эпітэтаў: “празрысты смех” (шчыры, няскрыты), “светлае суцяшэнне” (радаснае, доўгачаканае). У вершы супрацьпастаўляюцца два вобразы - “чорнай зімы” (роспачы) і вясны (азарэння), наступіўшай адразу з прыходам доўгачаканага ліста. Як бачна, надзея, аптымізм прысутнічаюць, меней ці болей, у кожным з такіх вершаў.

*Навошта ўсе трывогі,*
*навошта ўсе шкадаванні...*
*Праз перашкоды-парогі*
*прыйду да цябе на світанні.*
*Ты ведаць не будзеш - аднойчы*
*я стану тваім сумленнем...*
*І ты ўсміхнешся мне ў вочы*
*ад шчасця гарачым праменнем.*
("Навошта...")

Самыя нешматлікія з вершаў Міхася Мельніка, але не менш каштоўныя ў мастацкіх і ідэйных адносінах - грамадзянскія. Грамадзянскія вершы паэта гучаць цвёрда і надзённа. Тым болей, калі яны датычаць тэмы непатрэбнасці ва ўсім свеце вайны. Вельмі ўражваюць, напрыклад, наступныя:

*Рукі яго*
*будавалі дом,*
*у якім гадаваліся дзеці;*
*рукі яго*
*даглядалі поле,*
*што хлебам надзённым карміла;*
*рукі яго*
*саджалі дрэва,*
*якое пладамі дарыла;*
*рукі яго*
*ворага білі;*
*рукі яго*
*працу любілі...*
*Гэтыя рукі*
*вайна адабрала.*
*Новага дома не стала,*
*дрэва не вырасла,*
*поле сумуе...*
*Несціхана рыпіць пратэз -*
*вайне пратэст!*
("Пратэст")

*Губляе памяць прозвішчы і даты...*
*Ды ўстануць зноў, нібыта з жар-агню,*
*не выкрасляцца з памяці салдаты,*
*што за мяне загінулі ў вайну...*

*І не забуду, як не забываем*
*радкі, што клічуць на апошні бой,*
*нас не разлучаць час, бяда ліхая,*
*равеснік нестарэючы, з табой.*

*Не адступлю ад рызыкі, вятрыскі...*
*Наказ далі мне зберагчы зямлю,*
*каб не раслі над намі абеліскі*
*на месцах тых, дзе ёсць ужо яны!*
("Клятва")

Ёсць у паэта радкі, прысвечаныя гораду Лідзе, які даўно стаў для паэта родным і любімым, яго працавітым людзям, яго поспехам, яго прыгажосці і непаўторнасці. Як гімн гораду, гучыць верш "Ліда - горад мілы".

*Ліда, Ліда - горад мілы,*
*Светлы, як вясна...*
*Народ мужны і руплівы*



***На паседжанні літаб'яднання "Суквецце", 24.02.2006 г.***

*Тут жыве здаўна...*
*Ты акінь наўкола вокам -*
*Запяеш душой.*
*Знаюць горад наш далёка*
*Ў нас і за мяжой...*
*І растуць, растуць будынкі*
*Да нябёс і ўшыр...*
*А вясёлыя дзяўчынкі*
*Ў песнях славяць мір...*

Тэма паэта і паэзіі таксама пабуджае Міхася Мельніка выказваць свае погляды і пачуцці.

*...Паэты - людзі гордыя,*
*Нічым іх не сагнеш.*
*Перад манернай модаю*
*Не б'е паклоны верш.*
*...Гады радком пракладваюць*
*У будучыню шлях.*
*Не рыфмаю, а праўдаю*
*Звініць страфа ў вяках.*
("Паэтам")

"Не рыфмаю, а праўдаю"... Менавіта такім шляхам знаходзяць вершы Міхася Іванавіча Мельніка прызнанне шматлікіх чытачоў, пракладваюць дарогу ў светлую будучыню, змагаюцца з цёмнымі і непажаданымі з'явамі мінулага і сучаснага, напаўняюць наша жыццё верай, надзеяй, любоўю.

*З трывогаю жыву на свеце,*
*бо ў ім суіснуюць даўно*
*падман, і прагнасць, і бясчэсце,*
*што нас дурманіць, як віно...*
*Пытаеш: "Гэтак доўга будзе?"*
*Ты кажаш: "Свет не перавернеш..."*
*Ды не! Мы ўсё ж такія людзі,*
*што нас ад веры не адвернеш.*
("Вера")

Сапраўды, чытаючы такія радкі, хочацца верыць у дабро, у тое, што ўсе добрыя справы і імкненні не прападуць дарма. Пераглядаеш, напрыклад, жыццё і творчасць Міхася Мельніка - яркі прыклад таму - і гэтая ўпэўненасць расце. І добра, што на свеце ёсць такія людзі. Пажадаем жа поспехаў у творчасці і ў жыцці гэтаму цудоўнаму чалавеку!

***Аляксандр МАЦУЛЕВІЧ.***

# Слонімскімі сцежкамі Валянціна Таўлая

## *Да 95-годдзя з дня народзінаў*

Не магу паверыць, што на Слонімшчыне ўжо не існуе Вялікакракоцкая сельская бібліятэка імя Янкі Купалы. Яе мясцовыя вертыкальшчыкі ў 2008 годзе зачынілі назаўсёды. Бібліятэка перажыла дзве вайны (польска-савецкую і нямецка-савецкую), рэпрэсіі, калектывізацыю, сацыялізм і ўсе іншыя "ізмы", а цяпер утрымацца не змагла. А гэта была першая ўстанова культуры ў Беларусі, якой было нададзена імя песняра беларускага народа Янкі Купалы. У Вялікую Кракотку некалькі разоў прыязджала жонка Янкі Купалы Уладзіслава Францаўна Луцэвіч. Там гасцілі Пятрусь Броўка, Янка Брыль, Сяргей Грахоўскі, Уладзімір Караткевіч, Мікола Аўрамчык, Пятро Прыходзька і многія іншыя беларускія пісьменнікі. Сотні кніг з аўтографамі дасылалі слыннай бібліятэцы беларускія пісьменнікі, сярод якіх быў і Якуб Колас. 80 гадоў адчыняла дзверы перад вяскоўцамі і пісьменнікамі Купалаўская бібліятэка на Слонімшчыне. А сёння яе ўжо няма.

Чаму я так сумна пачаў з Вялікакракоцкай сельскай бібліятэкі, ды таму, што ўдзел у яе стварэнні ў другой палове 1920-х гадоў прымаў таксама і паэт Валянцін Таўлай з суседняй вёскі Рудаўка. Калі ён вучыўся ў Віленскай беларускай гімназіі, для вясковай бібліятэкі ён прывозіў і дасылаў сюды са сваімі землякамі беларускія кнігі і часопісы, што выдаваліся ў Вільні. Беларускія выданні Валянцін Таўлай з сябрамі прывозіў таксама і ў Чамяроўскую сельскую бібліятэку (пазней імя Якуба Коласа), якая таксама была адкрыта ў тым далёкім 1927 годзе. Яна перастала існаваць на Слонімшчыне раней за Вялікакракоцкую бібліятэку.

Прыехаў Валянцін Таўлай з бацькам у вёску Рудаўка Слонімскага павета ў 1924 годзе з Ліды, дзе бацьку звольнілі з працы. У Рудаўцы жыла бабуля — маці бацькі Валянціна. Яна і дапамагала гадаваць Валянціна і яго брата Аляксандра разам з мачахай Сцепанідай Паўлаўнай.

Вёска Рудаўка тады была невялікая, яна налічвала крыху больш за 70 жыхароў. А вось суседняя з Рудаўкай Вялікая Кракотка па колькасці насельніцтва была ў тры разы большая. Там працавала польская школа, куды і аддаў бацька Валянціна. Вучыўся добра, таму ў чэрвені 1925 года хлопчык паступіў у Слонімскую польскую дзяржаўную настаўніцкую семінарыю. Пра вучобу ў семінарыі Валянцін Таўлай напісаў у сваёй аўтабіяграфіі "Аб сабе", якая ўпершыню была апублікавана ў чэрвеньскім нумары часопіса "Полымя" за 1948 год. Нагадаю толькі, што хлопчык у семінарыі вучыўся вельмі паспяхова, атрымліваў стыпендыю. Але за тое, што пры перапісе насельніцтва адмовіўся запісацца палякам, стыпендыю знялі — таму давялося з-за крыўды і беднасці пакінуць вучобу і вярнуцца ў Рудаўку. *"Прыходжу дамоў. Расказваю бацьку, што і як. Бацька спахмурнеў. Пакруціў галавой, але за сарваную вучобу не журыў: "Што ж, пасядзі ў хаце, павучыся дома, а на другі год пабачым",* — згадвае ў сваіх успамінах Валянцін Таўлай.



***Валянціну Таўлаю 15 гадоў. 19 жніўня 1929 г.***

У Рудаўцы хлопчык рыхтаваўся да паступлення ў Віленскую беларускую гімназію, дзе ўжо вучыліся знаёмыя хлопцы з Кракоткі, Вострава, Чамяроў, Азярніцы, Мялькanaвіч і з іншых слонімскіх вёсак. Дапамагала яму ў гэтым мачаха Сцепаніда Паўлаўна.

У верасні 1927 года Валянцін Таўлай пачаў вучыцца ў Віленскай беларускай гімназіі. Тут сустрэўся са сваімі сябрамі-землякамі, пазнаёміўся з тымі, пра каго раней толькі чуў. *"На гэтага ціхмянага, шчуплага, крыху сарамлівага хлопца спачатку ніхто са старэйшых вучняў не звяртаў увагі. У яго быў адкрыты, з мангольскімі рысамі твар, яшчэ, здаецца, дзіцячыя, але вельмі ўважлівыя і задумлівыя вочы, шырокі лоб і крыху адвіслыя вушы. Ён трымаўся неяк у баку ад іншых вучняў. У час перапынкаў хадзіў адзін па актавай зале з кнігай або сшыткам у руках і паўтараў урокі. Вучыўся добра, і настаўнікі не раз ставілі яго ў прыклад іншым. Ніхто, вядома, і не думаў, што сарамяжлівы слонімскі хлопец з вёскі Рудаўка неўзабаве заявіць аб сабе поўным голасам"*, — прыгадваў у сваёй кнізе "Маё маўклівае сэрца" Якуб Міско з вёскі Чамяры. Кніга гэта выйшла з друку пасля смерці Я. Міско ў 1983 годзе. Да друку яе рыхтаваў Янка Брыль.

У Віленскай беларускай гімназіі хлопцы і дзяўчаты з усіх курсаў трохі пазней даведаюцца, як вучыўся Валянцін Таўлай у Слонімскай польскай

гімназіі, і чаму ён яе пакінуў. І гімназісты распавядалі адзін аднаму пра тое, як у польскай гімназіі ў Слоніме Валянцін, запаўняючы анкету для настаўніка, сказаў, што ён — беларус, што мова яго — беларуская, што жыве ён на Слонімшчыне ў Беларусі… Гэтага было дастаткова, каб больш у польскай гімназіі не вучыцца.

У Рудаўцы Валянцін Таўлай часта праводзіў прапагандысцкую работу, бо на гэта ён быў добры спецыяліст. Як згадвае Павел Кулак у кнізе ”Валянцін Таўлай” (Мн., 1984. С.98), Валянцін умеў пагаварыць і са старэйшым, і з малодшым, і з усімі прыходзіў да адной высновы: трэба змагацца за сваё вызваленне. Ён любіў выступаць на масоўках. Аднойчы яго затрымалі ў лесе каля Альбярціна на Слонімшчыне і пасадзілі ў турму. У жніўні 1929 года за ўдзел у канферэнцыі Слонімскага акружнога камітэту камсамолу юнака зноў арыштавалі і пасадзілі на 6 месяцаў за краты. У слонімскім астрозе паэт піша вершы:

*І сэрца ў міраж, як шчасце, паверыць*
*І соладка таяць пачне…*
*А раніца збудзіць, — акутыя дзверы,*
*Іржавыя краты ў акне…*

З Валянцінам Таўлаем слонімцы вельмі любілі сябраваць. І ніхто з іх пры жыцці ніколі нават слоўца дрэннага не сказаў пра Таўлая. Паэт Анатоль Іверс мне вельмі часта згадваў пра земляка. Пазнаёміўся ён з ім ў верасні 1927 года. Іверс ужо год вучыўся ў Віленскай беларускай гімназіі, а Таўлай толькі паступіў. Амаль усе прыезджыя жылі ў інтэрнаце, і гэта збліжала, давала магчымасць лепш прыглядзецца адзін да другога. У інтэрнаце часта праводзіліся калектыўныя чытанні лепшых твораў рускай літаратуры, кніг беларускіх пісьменнікаў. Пад кіраўніцтвам старшакласнікаў у гімназіі выдаваліся на шапірографе рукапісныя вучнёўскія газеты і часопісы. І тут не абыходзілася без Таўлая. Ён пісаў вершы, занатоўкі са школьнага жыцця. *“Я гэта помню, бо сам прымаў удзел у выпуску некаторых гэтых выданняў. Крыху зайздросціў свайму земляку, што яго вершы друкавалі нават у грамадоўскіх газетах”*, — распавядаў мне Анатоль Іверс.

Расстаўся Іверс з Таўлаем пад канец 1929 года, калі іх выключылі з гімназіі за ўдзел у вучнёўскім штрайку. Іверс вярнуўся на Слонімшчыну, Таўлай апынуўся ў БССР. Аднойчы ў траўні 1931 года Анатоль Іверс атрымаў павестку з Касцянёўскага паштовага агенцтва, што яму прыйшла пасылка. Пасылка была з Менска ад Валянціна Таўлая. Паэт прыслаў сем кніг.

Найбольш памятная сустрэча Анатоля Іверса і іншых слонімскіх літаратараў з Таўлаем адбылася ў Лідзе напрадвесні 1940 года ў час прыезду туды Янкі Купалы да выбаршчыкаў. А ўжо летам 1940 і 1941 гадоў Валянцін Таўлай сам прыязджаў у Слонім, наведваў Рудаўку, Кракотку, Чамяры і іншыя вёскі, дзе прайшлі яго дзіцячыя і юнацкія гады. Памятаю -- Анатоль Іверс мне вельмі часта распавядаў, як ён у пачатку красавіка 1947 года наведаў у бальніцы Таўлая. “Адсунуўшы ўбок лісткі паперы, з ледзь улоўнай усмешкай ён сказаў: “Доктар абяцаў выпусціць да 1 мая…”. Але, як вядома, Валянцін Паўлавіч не дажыў да гэтага дня, ён памёр 27 красавіка 1947 года”, — успамінаў з горыччу Анатоль Іверс.

Імя беларускага паэта на Слонімшчыне не забыта. Амаль ва ўсіх слонімскіх пісьменнікаў ёсць творы, прысвечаныя свайму земляку. Мікола Арочка ў 1969 годзе напісаў і выдаў асобнай кнігай крытыка-літаратурны нарыс “Валянцін Таўлай”. Скульптары Іван Міско і Леанід Богдан зрабілі бюсты Таўлая. У Слоніме, у вёсках Жыровічы і Ганькі ёсць вуліцы, якія носяць імя слыннага земляка.

У 1984 годзе, дзякуючы настаўніцы роднай мовы і літаратуры Раісе Іванаўне Каласоўскай, у Слонімскай сярэдняй школе № 1 (цяпер гэта ліцэй) да 70-годдзя паэта быў адкрыты музей-пакой Валянціна Таўлая. Да Другой Сусветнай вайны менавіта тут знаходзілася польская дзяржаўная настаўніцкая семінарыя, дзе вучыўся Таўлай. Школьны музей Валянціна Таўлая ў тыя 1980-я гады шмат рабіў спраў па прапагандзе беларускай літаратуры і творчасці пісьменнікаў-землякоў, найперш Таўлая. Савет музея перапісваўся з многімі беларускімі літаратарамі, сюды прыходзілі лісты ад жонкі пісьменніка Лідзіі Сяргееўны, ад дачкі Галіны Таўлай, ад сястры Ніны Паўлаўны. Музей наведвалі экскурсіі з усіх куткоў Беларусі. Многія госці пакідалі свае аўтографы ў музейнай кнізе. Захаваўся аўтограф Дануты Бічэль: *“Прыемна бываць у такіх музеях, створаных рукамі і стараннямі саміх школьнікаў і энтузіястаў-настаўнікаў. Думаю, што вобраз паэта-змагара Валянціна Таўлая ў многім вызначыць кірунак грамадскага жыцця тых маладых душ, якія дакрануцца да гэтай літаратурнай з’явы. Дзякуй шчыра”*.



***Слонімская гімназія, у якой вучыўся Валянцін Таўлай. Здымак пачатку XX стагоддзя.***

У 1990-х гадах музей Таўлая ліквідавалі. І толькі нядаўна ў Слонімскім агульнаадукацыйным ліцэі пакой-музей Валянціна Таўлая і літаратурнай Слонімшчыны з’явіўся зноў. Хочацца спадзявацца, што гэта ўжо надоўга.

***Сяргей ЧЫГРЫН.***

# Тадэвуш Даленга-Мастовіч

## *70 гадоў з дня смерці*

Неаднаразова на экранах кінатэатраў Беларусі, па тэлебачанні дэманстраваўся двухсерыйны мастацкі фільм "Знахар", пастаўлены па аднайменнаму раману беларускага польскамоўнага пісьменніка Тадэвуша Даленгі-Мастовіча. Колькі б яго не глядзеў, кожны раз здаецца, што бачыш упершыню. Фільм падкуплівае шырынёй паказу жыцця звычайных мястачковых абывацеляў з правінцыі даваеннай Польшчы. Прыцягвае да сябе глыбінёй псіха-лагічнага зместу і драматызмам лёсу людзей ніжэйша-га стану. Гэтаму спрыяе не толькі сам твор, але і май-стэрства акцёраў, якія выконваюць галоўныя ролі. Даленга-Мастовіч – вялікі майстра сямейнага рамана, папулярных сатырыка-бытавых аповесцей: "Кар'ера Нікадзіма Дызмы" (1932), "Браты Дальч і С-ка" (т. 1-2, 1933), "Пракуратар Аліцыя Горн" (т. 1-2, 1933), "Свет пані Маліноўскай" (1934), "Знахар" (1937), "Прафесар Вільчур" (1939), "Дзённік Пані Ханкі" (1939). Шмат твораў пісьменніка інсцэніраваны, і па іх зняты мастацкія фільмы. Акрамя "Знахара", напрыклад, "Кар'ера Нікадзіма Дызмы", "Дзённік пані Ханкі".

А хто ж такі Тадэвуш Даленга-Мастовіч, і якое ён мае дачыненне да нашага горада?



*Тадэвуш Даленга-Мастовіч*

Пра жыццё Тадэвуша Даленгі-Мастовіча маўчаць на працягу многіх гадоў, творчасць ігнаруюць. Сёння з абрыўкаў памяці, паспрабуем аднавіць малавядомую біяграфію.

Нарадзіўся Тадэвуш Мастовіч 10 жніўня 1898 года ў маёнтку Акунёва Глыбоцкага раёна Віцебскай вобласці, на беразе Акунёўскага возера. Час няўмольны - амаль нічога сёння не нагадвае пра былы, самы прыгожы ў акрузе, маёнтак. Толькі здзічэлыя кусты бэзу, валуны ды рэшткі падмурка сведчаць пра гэта. У свой час трактары добра папрацавалі, калі раўнялі поле. Бацька Тадэвуша быў юрыстам, маці - хатняй гаспадыняй, выхоўвала трох дзетак. Менавіта маці Тадэвуша паходзіла са старажытнага беларускага роду герба **Даленга**. Неўзабаве Мастовічы пераехалі з Акунёва ў Глыбокае. У жніўні 1998 года да стагоддзя з дня нараджэння пісьменніка ў Глыбокім на сцяне дома, каля тога месца, дзе ён жыў, адкрылі памятную дошку. У Глыбоцкім краязнаўчым музеі ёсць стэнд, прысвечаны выдатнаму земляку.



*Старажытным шляхочым гербам "Даленга" карысталіся болей, як 150 родаў, у тым ліку Барэйкі, Гарэцкія, Грабоўскія, Дамброўскія, Кавалеўскія, Лясоцкія, Макавецкія, Невядомскія, Падлеўскія, Серакоўскія, Шышкі, Ясенскія...*

Успаміны пра дзяцінства і асяроддзе, у якім жыла мясцовая шляхта, ляглі пасля ў аснову многіх аповесцяў пісьменніка.

Пасля атрыманай дома пачатковай адукацыі Тадэвуш паступіў у Віленскую гімназію, а потым на працягу некалькіх семестраў вывучаў права ў Кіеве, дзе ён пачаў удзельнічаць у дзейнасці польскай вайсковай арганізацыі. З успамінаў яго сястры Ядвігі, апошняй жонкі прэм'ер-міністра даваеннай Польшчы Феліцыяна Славой Складкоўскага вынікае аднак, што ўжо з гімназіі ён уцёк у войска, каб прыняць удзел у барацьбе за незалежнасць. Вядома, што ён быў

дабраахвотнікам у вайне 1920 г. Але ніхто не можа сказаць, што ён рабіў, дзе ён змагаўся і пра тое, што адбывалася з ім да 1922 года. А ў 1922 годзе ён з’яўляецца ў Варшаве, дзе працаваў наборшчыкам і карэктарам у “Рэчы Паспалітай”. Выпадкова сталася, як паведамляе Ядвіга Складкоўская, што яму было даручана сур’ёзнае рэпарцёрскае заданне. Так пачалася выдатная журналісцкая кар’ера Мастовіча.

Ён напісаў дзесяткі фельетонаў, нарысаў, тэатральных крытычных матэрыялаў. З-за свайго бліскучага, бескампраміснага, рэзкага пяра стаў ахвярай найзнакаміцейшага праз два дзесяцігоддзі гісторыі даваеннай Польшчы выкрадання і жорсткага збіцця прыхільнікамі Пілсудскага. Пасля таго здарэння ён правёў у шпіталі больш за тры месяцы, і, калі верыць аповядам родных, ужо ў шпіталі ён пачаў пісаць “Апошнюю брыгаду”. Наступныя гады жыцця Тадэвуша Даленгі, ён узяў такі літаратурны псеўданім, прынеслі некалькі аповесцяў, у тым ліку самыя вядомыя: “Кар’ера Нікадзіма Дызмы”, “Браты Дальч і С-ка”, “Знахар”, “Прафесар Вільчур” ці “Дзённік панны Ханкі”.

У сярэдзіне 30-х быў адным з самых папулярных польскіх пісьменнікаў. Зарабляў тысячы злотых не толькі на кнігах, якія выдаваліся блізкімі да 30-тысячных накладамі, але і на адаптацыі сваіх аповесцяў пад фільмы. Перад вайной, два сцэнары, у тым ліку адзін для Бэты Дэвіс, купіў Галівуд. З кінастудыі Warner Bros атрымаў прапанову напісаць сцэнар аб вайне 1920 г. Закончыў “Баляслава”, гістарычную аповесць, якой папярэднічала дбайнае вывучэнне гісторыі. На жаль, ужо завершаную кнігу проста нехта скраў з пакінутай у верасні 1939 года кватэры пісьменніка.

Ён быў чалавекам поспеху, гэта праўда. Але праўда таксама і тое, што сапраўды быў чалавекам тытанічнай працы. Ён пісаў кожны дзень, абкладзены кнігамі, а тых у ягоным доме, па словах зайздроснікаў, немагчыма было падлічыць. *“Яго білетрыстычныя аповеды былі дынамічныя, заснаваныя на рэальнасці, і таму пераканаўчыя”*, - пісаў пасля многіх гадоў Здзіслаў Уміцскі, адзін з крытыкаў, хто разумеў яго незвычайны талент. *“Такому дару апісальнасці маглі пазайздросціць многія з больш знаных творцаў. Напэўна Мастовіч не змяніў сутнасці нашай літаратуры, не ўнёс у яе новых мастацкіх з’яваў. Зрабіў, аднак жа, больш, чым можа падацца: паказаў кавалак рэальнай жыцця”. “Ён быў чалавекам, які нападаў на сацыяльную рэальнасць, без якой-небудзь канкрэтнай праграмы,* - дадаваў Джордж Брашкевіч, *- але ён біў у тое, што можна было б назваць санацыйнай структурай Польшчы, біў на адмаш і без гусінай скуры на карку (без страху, рэд.)”.*



***Тадэвуш Даленга-Мастовіч***

У даваенныя гады (да 1939) пісьменнік не раз бываў у Лідзе па запрашэнні кіраўніцтва і навучэнцаў дзяржаўнай гімназіі імя Караля Яна Хадкевіча і прыязджаючы да сястры Ядвігі Мастовіч, якая выкладала ў гімназіі латынь. Сустрэчы адбываліся ў будынку сённяшняга каледжа, тады – гімназіі. Сустракаўся з грамадскасцю горада, у прыватнасці, з рабочымі і службоўцамі чыгуначнага вузла станцыі Ліда ў клубе чыгуначнікаў. Будынак гэты не захаваўся. Знаходзіўся ён па вуліцы Труханава, былая Чыгуначная, у раёне сённяшняга ПЧ. І не выключана, што некаторыя рысачкі з жыцця нашых гараджан знайшлі сваё адлюстраванне ў героях яго літаратурных твораў.

У студзені 1939 года, у сувязі з штогадовымі прэміямі для маладых пісьменнікаў Варшавы чырвоны “Кур’ер”, які публікаваў водгукі выдатных пісьмен-нікаў і паэтаў, у першы раз звярнуўся з пытаннем аб кандыдатах да Даленгі. *“Я прынцыпова супраць любых літаратурных прэмій,* - сказаў Даленга. - *Яны б мелі рацыю толькі як грашовая дапамога для пачаткоўцаў або тых, чый талент згасае. У нас зрабіліся сістэмай нейкія цэнзуркі, нядобрыя ў аснове, і ў любой градацыі.*

*Гэта з'яўляецца не добрай прыкметай, захворваннем, якое парушае ўсё нашае грамадскае жыццё, якое б я назваў... рангаманіяй..., якая ў літаратуры і мастацтве ў цэлым ніколі не зможа вытрымаць выпрабаванне часам."* Варта памятаць гэтыя словы, у той час калі крытыкі панадчасовасці яго творчасці (адзін мільён трыста тысяч агульнага накладу кніжак у ПНР), да гэтага часу не даацэньваюць яго, калі не пагарджаюць.

У Трэцяй Рэчы Паспалітай, у знак кампенсацыі за маўчанне аб жыцці і творасці, усе раптам пачалі пісаць пра яго смерць. Да нядаўняга часу было вядома толькі тое, што ў верасні 1939 года, 40-гадовы пісьменнік, які пакутаваў ад сардэчнай недастатковасці быў прызваны на вайну. Больш не ведалі нічога.

Згодна з найбольш папулярнай легендай, ён адправіўся на Усходні фронт на сваім элегантным буіку. Ён быў забіты ўкраінскай куляй у яго ўласнай машыне пры перасячэнні мяжы 17 верасня на мосце ў Кутах. Паводле іншай версіі, насуперак таму, што краіну пакінуў ўвесь ўрад і вярхоўнае камандаванне, ён вырашыў застацца. Сабраў такіх жа, як сам, уцекачоў, і вырашылі абараняць Кут ад нападу Чырвонай Арміі. Ён быў забіты, калі адмовіўся скласці зброю па патрабаванні рускіх. Паводле чарговай версіі, апублікаванай нядаўна, загінуў з-за афіцэрскага ..., угледзеўшы якое савецкі салдат, упэўнены, што перад ім афіцэр, узяў пісталет і стрэліў.

Ва ўсіх гэтых версіях прысутнічаюць подпісы з імёнамі і прозвішчамі сведак. Вынятыя з кішэні загінулага пісьменніка апошні рахунак з выдавецтва "Рой", фатаграфія яго жонкі і сына, або яго вераснёвы дзённік, які заканчвааецца, на жаль, у дзень ад'езду з Варшавы. Але Даленга-Мастовіч ніколі не быў жанаты, не меў дзяцей, і ніколі, як катэгарычна цвердзіць яго радня, не пісаў дзённіка. Таксама не загінуў 17 верасня, што на працягу многіх гадоў мела сімвалічны сэнс, і не прыкрываў са зброяй у руках уцёкі "заечым следам" польскага ўраду. Ён не быўў капітанам, хаця інфармацыя гэтая была паўтораная энцыклапедычным выдавецтвам. А цяпер ужо за поўную выдумку трэба прыняць жывыя ў тых легендах перакананні, што савецкі салдат, які застрэліў Даленгу, быў аддадзены пад суд і расстраляны.

Праўда аб абставінах яго жаўнерскай смерці, рэканструяваная на аснове некалькіх дзесяткаў паведамленняў, якія былі атрыманыя ў адказ на заклік "Надзвычайнай рэвізіі" ад даўнейшых жыхароў Кут, не менш драматычная. Дзень і ноч з 17 па 18 верасня праз Куты, невялікі курортны гарадок на румынскай мяжы, прайшла "ўся Польшча." Дзесяткі тысяч людзей пераходзілі мост на Чарамошы. Пасля ўваходу ў межы Рэчы Паспалітай Чырвонай Арміі прайшлі той дарогай і прэзідэнт, і ўрад і галоўнакамандуючы. Няма патрэбы апавядаць, чаму пакідалі Польшчу ў такой паспешнасці, каб не сказаць, у паніцы. Расейцы ўступілі ў Кут 21 верасня. Як падаецца, Сталіну было з розных прычын выгадна не браць у палон польскіх саноўнікаў.

18 верасня ў Кутах зрабілася ціха. У гэты дзень, да гэтага часу не вядома, адкуль, з'явіўся там Тадэвуш Даленга-Мастовіч. Ён быў у мундзіры капрала падхарунжага. Ніхто не ведае адказу на пытанне, што было з ім у верасні. Не вядома ці ваяваў і ці зрабіў па крайняй меры хоць адзін стрэл па ворагу. Быў уклю-чаны ў батальён маёра Хенрыка Пянткоўскага, які арганізаваў абарону гарадка, або, хутчэй, дэманстрацыю польскай прысутнасці ў польскім горадзе "як мага даўжэй". Дамова з румынамі па другі бок памежнага маста Чарамошы прадугледжвала, што, калі ў горадзе раздасца хоць адзін польскі стрэл ў бок рускіх, то ніхто з палякаў не пяройдзе мяжу, і румыны ўзарвуць мост. Таму яны чакалі рускіх, якія, падавалася, зусім не спяшаліся.

На працягу двух дзён у Кутах нічога не ад-




***Надмагільная пліта Тадэвуша Даленгі-Мастовіча на Варшаўскіх могілках***




***Мемарыяльная дошка ў гонар Тадэвуша Даленгі-Мастовіча ў Глыбокім, у акрэсе дома, дзе жыў пісьменнік.***

бывалася. 21 верасня раніцай маёр Пянткоўскі атрымаў паведамленне з Каламыі, што ў бок Косава і Кут выйшлі некалькі савецкіх танкаў. Маёр вырашыў накіраваць да горада звяз пяхоты для аховы машыны, якую накіраваў гадзін 10 назад па хлеб для войска. На адкрытым паўгрузавіку паехалі паручнік Войда, кіровец, капрал падхарунжы Даленга-Мастовіч. Першыя двое сядзелі ў кабіне, Даленга, які быў ростам больш за два метры, заняў месца ў кузаве. Калі машына з грузам хлеба рушыла ў зваротны шлях, а Даленга, усміхаючыся махаў нейкаму хлопчыку прагучала чарга стрэлаў з танка, які з'явіўся ў верхняй частцы вуліцы. Аўтамабіль перакуліўся на крутым павароце. Мужчынам, якія сядзелі ў кабіне ўдалося ўцячы. Застаўся адзін забіты, ахвяра адной чаргі стрэлаў, якія прагучалі падчас вайны ў Кутах. Лёс хацеў, каб гэта быў Тадэвуш Даленга-Мастовіч - для тых, хто хаваў яго на наступны дзень на мясцовым могілках, вялікі польскі пісьменнік і гераічны салдат. Усе астатнія салдаты батальёна маёра Пянткоўскага выжылі. Каля 11.55 польскі аддзел не атакаваны рускімі пакінуў межы Рэчы Паспалітай. Доўгі час чамусьці гэты трагічны выпадак замоўчвалі. І толькі ў 1991 годзе пра яго напісаў Збігнеў С. Сямашка ў сваёй кнізе "У савецкім атачэнні", якая была надрукавана ў Лондане.

Пахавалі пісьменніка там жа ў Куце 22 верасня 1939 года, а ў 1978 годзе парэшткі Тадэвуша Даленгі-Мастовіча перанеслі і пахавалі на адных з могілкаў Варшавы.

Цяжка пазбегнуць ўражання, што памяць пра Тадэвуша Даленгу-Мастовіча і надалей застаецца нечым нязручным для палякаў. II Рэч Паспалітая адварочвалася ад яго, робячы выгляд, што знакамітае сатырычнае і маральнае пісьменства яе не датычыцца. ПНР аглядалася на яго палітычную творчасць, прадстаўляўшы яго альбо, як левака, альбо як плэйбоя. У III Рэчы Паспалітай Тадэвуш Мастовіч не дачакаўся ні адной вуліцы яго імя, пра помнік ужо ніхто не заікаецца. Таму застаецца толькі спадзявацца, што будучыя пакаленні, зачытаныя ў яго кнігі і зачараваныя сцэнарамі фільмаў па яго раманах, прызнаюць у ім нарэшце слыннага палітычнага пісьменніка. Можа пагодзяцца прызнаць, што вечны не яго Дызма Нікадзім, але польская палітычная ўласцівасць, якая незалежна ад палітычнай сістэмы родзіць чарговых Дызмаў. І ўжо толькі за гэты дыягназ польскай палітычнай хваробы яму належыць паставіць помнік.

Як ужо згадвалася, у Лідзе ў той жа гімназіі імя гетмана Караля Яна Хадкевіча, на працягу некалькіх гадоў перад вайной працавала выкладчыцай лацінскай мовы родная сястра Тадэвуша Ядвіга Мастовіч, будучая пасляваенная жонка былога прэм'ера Польшчы (да 1939 года), паплечніка Пілсудскага, генерала Феліцыяна Славой Складкоўскага.

У гімназіі Ядвіга Мастовіч узначальвала маладзевую арганізацыю скаўтаў. Восенню 1939 года прымала актыўны ўдзел у дзейнасці падпольнай арганізацыі персаналу і навучэнцаў гімназіі, якая выступала супраць устанаўлення савецкай улады на тэрыторыі заходніх абласцей Беларусі, за што была арыштавана і інтэрнавана.

Пасля выбуху германа-савецкай вайны 22 чэрвеня 1941 года была вызвалена. А калі на тэрыторыі СССР стваралася польская армія пад камандаваннем генерала У. Андэрса, без ваганняў уступіла ў яе шэрагі. Служыла загадчыцай чытальні ў вайсковай вучэльні вайсковай часткі, якая дыслакавалася ў горадзе Тацішчаў над Волгай паблізу Саратава. Разам з арміяй Андэрса праз Іран, Блізкі Усход прайшла шлях ад берагоў Волгі да астравоў Вялікабрытаніі. Пасля жыла ў Польшчы. Апошні раз наведала Ліду як дэлегат першага з'езду палякаў Лідчыны, якія зараз жывуць за мяжой.

*Матэрыял скампанаваны паводле артыкула **Анатоля Куляша** "Аўтар "Знахара" ў Лідзе", матэрыялаў польскай "Вікіпедыі", матэрыялаў, дасланых **Аляксандрам Колышкам**, і матэрыялаў, знятых з глыбоцкіх сайтаў. Скампанаваў **Станіслаў Суднік**.*

***Валеры Сліўкін***

# Вадзяныя млыны Лідскай зямлі

***Памяці Антося Савука***

Збожжа ў ежу людзі выкарысталі толькі ў палеаліце. Потым пачалі яго таўчы і ператвараць у муку. У неаліце з'явіліся зернетаркі - пара камянёў, адзін з якіх плоскі і вялікі, а другі - круглы і меншы. Збожжа пераціралася на большым камені меншым. Так малолі збожжа ў Старажытным Егіпце. Пры пераціранні мука атрымлівaецца лепшай якасці. З мукі паступова навучыліся рабіць карысныя і смачныя прадукты. Біблейскія габрэі ведалі муку пшанічную і ячменную.

Наступным удасканаленнем стаў пераход ад паступальнага руху (наперад - назад) да кручэння. Прыдумалі ручныя жорны - прымусілі верхні камень слізгаць па ніжнім з кручэннем. Ручныя жорны атрымалі шырокае распаўсюджванне ў Старажытнай Грэцыі і Рыме. Канструкцыя іх вельмі простая. Два камені - жорны: ніжні выпуклы нерухомы з жалезным штыфтам і верхні ўвагнуты з адтулінай у цэнтры. Збожжа засыпалася ў адтуліну, пры кручэнні верхняга каменя, трапляючы паміж камянямі, пераціралася. Мука збіраліся ўнізе ніжняга каменя. Падобныя ручныя жорны былі самых разнастайных памераў: ад маленькіх для дзіцячых рук, да вялікіх, якія прыводзілі ў кручэнне два чалавекі або хатняя жывёла. Працэс размолвання збожжа палегчыўся, але па-ранейшаму заставаўся працаёмкай справай.

За 9 стагоддзяў да нараджэння Хрыстова ў Кітаі вынайшлі вадзяное кола - драўлянае кола з лопасцямі, якое круцілася струменем вады. Гэта была першая машына, якая працавала без выкарыстання мускульнай сілы чалавека, і звалася яна чадуфон. З дапамогай чадуфонаў падымалі з ракі ваду для арашэння. Чадуфон уяўляў сабой шэраг чарпакоў, насаджаных на вобад вялікага кола з гарызантальнай воссю. Пры павароце кола ніжнія чарпакі апускаліся ў ваду ракі, затым падымаліся да верхняй кропкі кола і перакульваліся ў жолаб. Спачатку такія колы вярцеліся ўручную, але там, дзе вада збягала па стромкім рэчышчы, кола пачалі забяспечваць адмысловымі лапаткамі. Пад напорам плыні кола круцілася і само чэрпала ваду. *(Рыжов К.В. 100 великих изобретений. М. Вече. 2007. с.24.)*

З вынаходствам вадзяного кола чалавек упершыню атрымаў у сваё распараджэнне надзейны, універсальны і вельмі просты рухавік. Заставаўся адзін крок да вадзяного млына. Кітайцы сцвярджаюць, што гэты крок яны зрабілі першымі і вынайшлі спачатку вадзяны млын з гарызантальным колам, затым прыдумалі колавую зубчастую перадачу і павярнулі вадзяное кола ў вертыкальную плоскасць. Але першым вадзяны мукамольны млын з вертыкальным колам і зубчастай перадачай апісаў рымскі архітэктар і механік Вітрувій, які жыў у І-м стагоддзі да нараджэння Хрыстова: *"... на рэках ставяць колы ... Да іх абадоў прыбіваюць лопасці, якія штурхаюцца плынню ракі і прыводзяць сваім рухам кола ў кручэнне і такім чынам, набіраючы ваду чарпакамі і падымаючы яе дагары, дастаўляюць патрэбную колькасць вады без дапамогі тапчака, верцячыся ад самога напору ракі.*

*Такім жа спосабам круцяцца вадзяныя млыны, у якіх усё тое ж самае, акрамя зубчастага барабана, насаджанага на адзін канец восі. Вертыкальна пастаўлены на рабро, ён верціцца ў адной плоскасці з колам. Да гэтага вялікага барабана прымыкае меншы, ляжачы, таксама зубчасты з якім злучаныя жорны. Так зубцы барабана насаджанага на вось, пхаючы зубцы ляжачага, прыводзяць жорны ў кручэнне. З падвешанай над гэтай машынай скрыні на жорны сыплецца збожжа, з якога з дапамогай таго ж кручэння атрымлівaецца мука"* (Витрувий. 10 книг об архитектуре. М.1936. Кн.10. гл. 5).

У Сярэднявеччы вадзяныя млыны атрымалі шырокае распаўсюджванне, спачатку пры кляштарах, а затым паўсюдна. У IX ст. у поліпціху (вопіс манастырскіх уладанняў) багатага абацтва Сен-Жэрмен-дэ-Прэ згаданы 59 млыноў. У Англіі ў 1086 г., паводле кнігі "Domesday Book", налічалася 5624 млыны, па адным у сярэднім на кожныя 50 гаспадарак. У X-XIII стст. у млынах былі ўжытыя прылады, якія дазваляюць змяняць кірунак кручэння колаў у залежнасці ад узроўню вады. Палепшылася канструкцыя жорнаў. Для дробнага памолу пачалі ўжываць адмысловыя скрыні, якія круцяцца, для збору размолатага збожжа - мукасейкі, забяспечаныя сітамі. *(Техника в ее историческом развитии. М.1979. с.98).* У пачатку XVI стагоддзя ў Нямеччыне вынайшлі пытлявальны механізм.

Спачатку вадзяныя млыны выкарыстоўваліся толькі для памолу збожжа. З часам млыны пачалі выкарыстоўваць: для кавання жалеза (з 1197, Швецыя), у сукнавальнай справе (з 1223, Нямеччына), для вырабу паперы (з 1238, Іспанія), для рэзкі бярвёнаў (не пазней 1240), для апрацоўкі канопляў, для вырабу скуры, для завострывання інструменту, у піваварстве. У XV ст. млыны пачалі скарыстоўваць на руднях: для ўздыму цэбра з рудой, для вентыляцыі штольняў, для адпампоўкі вады норыямі, для забіўкі паляў, для кручэння свідравальных установак. З'явіліся сукнавальныя, лямцавыя, дубільныя, папяровыя, драцяныя (1351, Нямеччына) і парахавыя млыны, шапавальні. Для стварэння патрэбнага напору пачалі запруджваць раку, штучна падымаць узровень вады і накіроўваць водны струмень па жолабе на лапаткі кола.



***Схематычная канструкцыя вадзянога млына***

Прайшлі стагоддзі - і ў Еўропе ад Атлантыкі да Маскоўскай дзяржавы былі пабудаваныя сотні тысяч вадзяных млыноў, ацэначна ад 500 да 600 тысяч. *(Бродель Ф. Материальная цивилизация, экономика и капитализм, XV-XVIII вв. Глава 3. Водяные двигатели, ветряные двигатели в XI, XII и XIII вв. М.2006.)*

* * *

Мы адставалі. На Гарадзеншчыне ў 11-13 стагоддзях збожжа яшчэ малолі ў каменных жорнах, крупы атрымлівалі ў драўляных ступах. Жорнавыя гранітныя камяні знайшлі пры археалагічных раскопках у Гародні, Ваўкавыску і Наваградку. Ваўкавыскія жорнавыя камяні аналагічныя жорнам, знойдзеным у Ноўгарадзе і Кіеве, зробленыя яны з граніту *(Зверуго Я.Г. Сельскохозяйственные и промысловые орудия из раскопок Волковыска. Древности Белоруссии. Минск, 1969. с.386)*.

Ручнымі жорнамі сяляне лідскай зямлі карысталіся да сярэдзіны 20-га стагоддзя, пакуль у крамах не з’явіліся ў дастатковай колькасці хлеб і мука.

Пішуць, што першыя вадзяныя млыны з’явіліся на тэрыторыі Беларусі ў 10-12 стст. На Гарадзеншчыне, думаю, яны з’явіліся не раней 14 ст. У Статуце 1588 г. вадзяным млынам прысвечаныя два артыкулы: 21-шы 9-га раздзелу і 7-мы 10-га раздзелу. І абодва ў іх абарону. У XVI стагоддзі ў Берасцейскі замак вада дастаўлялася па трубах з дапамогай “рурмуса або млына”, які прыводзіў у рух медныя і бронзавыя помпы з жалезнымі поршнямі.

У 1601 г. у Смаргоні меліся мукамольны, лесапільны і папяровы млыны. *“Мукамольны млын побач фальварка з двума жорнамі, спраўны, з усім начыннем. Другі млын лесапільны і мукамольны. У абодвух млынах усё начынне спраўнае.”* (Инвентари магнатских владений Белоруссии 17-18 вв. Владение Сморгонь. 1977. С.18).

А такімі былі смаргоньскія млыны ў канцы 18-га стагоддзя: *“Вадзяны млын над сажалкай з 2 коламі.*

*На ўваходзе ў яго дашчаныя двухстворкавыя дзверы на 4 завесах. Дзверы ў чыстую святліцу з клеццю на жалезных завесах, з круком, засаўкай і прабоем. Два акны з дробнага шкла ў крыжападобных рамах. Цагляная хлебная печ з комінам, які выходзіць на дах. Століь дашчаная. У клеці дзверы на завесах, з жалезным круком і прабоямі. Там адно акно з дробнага шкла, таксама ў крыжападобнай раме. Столь патрабуе рамонту. У млыне столь дашчаная, а падлога бярвеністая. На гарышчы дзверы на завесах. У млыне начынне арандатара. Увесь млын з часаных бярвёнаў. Страха выгнутая, пакрытая гонтай.*

*Млын пад борам, за горадам, з 2 жорнамі. На уваходзе ў яго дзверы на жалезных завесах. Столь дашчаная. Абодва вадзяныя колы зваламі, акаванымі жалезнымі абручамі, клінамі, жалезнымі мацаваннямі, верацёнамі, чарпакамі, шасцярэнькамі, кошыкамі, скрынямі і абцугамі для акоўкі камянёў. Дзверы паміж жорнамі ў двор да жалабоў на завесах. Трэція дзверы над столлю, для падачы, мяшкоў, на завесах. Увесь гэты млын нядаўна пакрыты дранкай, але знізу ўжо патрабуецца рамонт. Над шлюзам пры млыне няма насцілу. Другі шлюз халасты, адрамантаваны, з насцілам. Там жа хата для мельніка. Уваход праз дзверы на бягуну, з круком і жалезнымі прабоямі ў вушаках. Хлебная цагляная печ. Тры малыя акенцы з дробнага шкла. Столь дашчаная. Страха не пакрытая.*

*Млын на р. Удцы з аднымі жорнамі, з коламі. Валы з акоўкай і жалезнымі клінамі. Дзверы, як знізу, так і зверху, на бягунах. Страха над шлюзам з дранкі. Жорны спраўныя. Увесь млын добра абсталяваны".* (Там жа. Инвентарь 1788 г. Стр.188.)

* * *

Пра першы вадзяны млын Лідскага павету, які згадваецца ў літаратурных крыніцах, вядома, што ён быў пабудаваная ў 1618 г. Іёнам Скумін -Тышкевічам у маёнтку Дзітва (цяпер Рулевічы). У 1637-1641 гг. на млыне выраблялася папера з гербам, імем і прозвішчам Тышкевіча. Млын знік у сярэдзіне 17-га стагоддзя падчас руска-шведска-польскай вайны, якая атрымала назву "Патоп".

Пра першы мукамольны млын Лідскай зямлі можна сказаць толькі адно: ён быў ў Зблянах у 1627 г. У 1690 г. у Лідскім павеце млыны былі ў Беліцы, Бердаўцы, Болценіках, Гайцюнішках і Ольжаве і належалі вельмі багатым землеўладальнікам - Людвіцы Караліне Радзівіл, Аляксандру Яну Масевічу, Казіміру Францкевічу-Радзімінскаму *(Metryka Litewska. Rejestry podymnego WKL. Wojewodstwo Wilenskie.1690 rok).*

У пачатку XX стагоддзя І.І. Гашкевіч зафіксаваў у Лідскім павеце 24 млыны: у Загор'і Васілішскай воласці, у Лібішках Дубічскай воласці, у Гарадзенцы, Жыжме і Рэксцях Жырмунскай воласці, у Адэсе (Пажар) і Ходараўцах Жалудокскай воласці, у Салташніках Забалоцкай воласці, у Злебядзе Лябёдскай воласці, у Левашах, Малэйкаўшчыне, Навапрудцах, Пастаўшчыне Лідскай воласці, у Дэмбраве і Ашурках Ляцкай воласці, у Дзеражне Арлянскай воласці, у Вянзоўшчыне, Глушні і Дышлеўшчыне Пакроўскай воласці, у Падзамчы і Русаках Ражанкаўскай воласці, у Сярэдняй, Тур'і і Юраўшчыне Шчучынскай воласці *(Гошкевич И.И. Виленская губерния. Полный список населенных мест... Вильна, 1905. с.185-214).* Вадзяныя млыны *(вод. мел.)* былі ў Загор'і, Лібішках, Гарадзенцы, Жыжме, Рэксцях, Салтанішках, Злебядзе, Левашах, Малэйкаўшчыне, Навапрудцах, Пастаўшчыне, Вянзоўшчыне, Глушні, Дышлеўшчыне, астатнія пазначаныя ў І.І. Гашкевіча як млыны *(мел.)*.

Па-за ўлікам у І.І. Гашкевіча засталіся млыны мястэчкаў, сёлаў і маёнткаў, паколькі І.І. Гашкевіч улічваў толькі асобна размешчаныя млыны. Акрамя іх вадзяныя млыны былі, напрыклад, у Васілішках, Воранаве, Радуні, ветраны - у Тарнове.

У сучасных межах Лідскага раёна ў пачатку 20-га стагоддзя было не меней за 14 вадзяных млыноў: у Малэйкаўшчыне, Пастаўшчыне, Лідзе - 2, Навапрудцах і Шайбаках на р. Лідзейцы, у Дворышчы, Жыжме і Левашах на р. Жыжма, у Злебядзе, Мажэйкаве і Паперні на р. Лебядзе і прытоках, у Рэксцях і Бердаўцы.

## Вадзяныя млыны на Лідзейцы

Нягледзячы на невялікі ўхіл, шырокую пойму і значную забалочанасць даліна Лідзейкі аказалася цалкам прыдатнай для будаўніцтва вадзяных млыноў. Воды Лідзейкі круцілі вадзяныя колы 10 млыноў. Не ведаю, як два верхнія, але ўсе ніжнія стаялі на дамбах.

**1. Чэхаўцы.**

Млын у Чэхаўцах быў пабудаваны ў сярэдзіне 1920-х гадоў са здаровага, добра часанага дрэва. Перад Другой Сусветнай вайной млын трымалі два габрэі: сімпатычны Іршке і пануры Бенча. Яны таксама таемна прыгандлёўвалі махоркай. У траўні 1942 года іх расстралялі, на млыне пачала працаваць праваслаўная сям'я Коршуляў. Сын мельніка Мікалай запомніўся як вясёлы гуляка, але працавіты, старанны, прыязны, добры сусед і прыяцель. Ад нараджэння меў трохі крывы нос. Заляцаўся да Нюсі Сарокі, якая працавала ў гебітскамісарыяце і таемна дапамагала падпольшчыкам. За тое, што працавала пры немцах, адседзела ў лагерах, за тое, што дапамагала падпольшчыкам, атрымала медаль.

Добрае дрэва і загубіла млын. У 1957 або 1958 г. старшыня калгасу ім Свярдлова Х…-ов загадаў разабраць млын і пабудаваў сабе дыхтоўную драўляную хату *(Kordasz Jozef. Lida prawdziwa. Olsztyn.1997).*

**2. Малэйкаўшчына.**

Млын стаяў пасярод Малэйкаўшчыны. У пачатку стагоддзя быў казённым, жыў там адзін мужчына, які меў дзесяціну зямлі *(Гошкевич, с. 201).* У 1930-х гадах млын належаў Стаху Сапуну.

**3. Пастаўшчына.**

У 18-м стагоддзі на паўночна-ўсходняй ускраіне Ліды існаваў фальварак Пастаўшчына. З горада да яго вяла вул. Пастаўская. Назва фальварка і вуліцы паходзіць ад слова ***пастаў***, гэтым словам звалі пару млынавых жорнаў. У 1775 г. тут меўся вадзяны млын, які належаў графу Умястоўскаму. У 1778 г. манахі-піяры купілі ў графа Умястоўскага фальварак Пастаўшчыну з млыном. У 1793 г. рэктар піярскага калегіюма Фларыян Крушэўскі дакупіў за 25 рублёў срэбрам шэсць участкаў лідскіх мяшчан, прылеглых да сажалкі Пастаўшчына і пабудаваў там млын *(Kurkowski J.Pijarzy w Werenowe i Lidzie. // Z dziejow ziemi lidzkiej. Warszawa. 1997. s.77)*. Мабыць усё-такі не пабудаваў, а перабудаваў часткова або цалкам. У сакавіку 1842 г. піярскія валоданні былі секулярызаваны і перайшлі ў дзяржаўны скарб. У пачатку XX стагоддзя млын дзейнічаў, да яго было прыпісана 14 чалавек: 6 мужчын і 8 жанчын *(Гошкевич, с. 202)*.

**4. Ліда, сучасная вул. Таўлая.**

На карце 1926 года паказаны млын у месцы, дзе Лідзейку перасякае вул. Таўлая. Бачыў сваімі вачыма на правым беразе палі, якія тырчаць з балота, і каменны падмурак. Эдуард Барысавіч Выгоўскі распавёў, што ў бытнасць яго дырэктарам піўзавода, былі прыкладзены высілкі на аднаўленне гісторыі піўной справы ў Лідзе. З гістарычнага архіву Літоўскай ССР дайшлі дакументы, з якіх вынікала, што ў 1860 -х гадах тут размяшчаўся першы лідскі піўзавод Ландо і Камянецкага. У 1939-41 гг. на гэтым месцы знаходзілася валяльная фабрыка.

**5. Ліда, вул. Дваранская.**

За фарным касцёлам, на працягу вуліцы, якая ў XIX стагоддзі звалася Дваранскай, стаяў невялікі вадзяны млын, які ў 1870 г. стаў уласнасцю саборнай царквы. Гэты млын у 1893 г. быў перададзены лідскаму габрэю Давыду Шлёмавічу Мардуховічу ў арэнду на 12 гадоў. Млын патрабаваў рамонту, таму ў першыя тры гады Мардуховіч плаціў па 100 рублёў, а ў наступныя 9 гадоў па 300 рублёў. У 1915 г. млын заставаўся за Д.Ш. Мардуховічам, такім чынам кантракт быў падоўжаны на наступныя 12 гадоў. Млын прыносіў 4000 рублёў гадавога прыбытку *(НДІА у Гародні. Ф. 1571. Воп. 2. Спр. 9)*. Адразу пасля Другой Сусветнай вайны там яшчэ існаваў драўляны масток, па якім можна было прайсці з цэнтра горада ў Зарэчча і далей на аэрадром, але млына ўжо не было.

**6. Ліда, вул. Гражыны.**

У канцы XVI стагоддзя пры Лідскім замку меўся фальварак, які размяшчаўся над раўчуком Каменкай. За фальваркам лічыліся бровары і млын. У прывілеі, які пацвярджае гораду магдэбургскае права, кароль Аўгуст II у 1729 г. згадаў замкавы млын.

Млын прыносіў значны прыбытак. Па інвентарызацыйным акце ад 14 чэрвеня 1738 г. уся Лідская эканомія прыносіла ў скарб 1943 злотых і 20 грошаў, з іх арэнда Лідскага млына давала 1000 злотых. Месцазнаходжанне млына пазначанае на плане 1798 г., там быў мост, дзе вул. Гражыны (цяпер Энгельса) перасякала Лідзейку. Пры змене польскай улады на расійскую млын нейкім чынам перайшоў Фарнаму касцёлу. Лідскі мешчанін Антаневіч дзесяць гадоў, з 1815 па 1825 г., судзіўся ў земскім судзе з плябанам касцёла Гушынскім (Рушынскім) аб правах на валоданне млыном. У 1870 г. млын быў перададзены саборнай Міхайла-Архангельскай царкве. Праз шэсць гадоў, 1 студзеня 1876 г. млын быў аддадзеная ў 12-гадовае арэнднае ўтрыманне з выбудоваю па зацверджаным кантракце лідскаму габрэю Неваху Гойдзе. У 1885 г. саборная царква атрымала за арэнду млына 450 рублёў. Пасля канца тэрміну арэнды, 1 студзеня 1888 г., млын перайшоў па кантракце ў 12-гадовае арэнднае ўтрыманне мешчаніну мястэчка Шчучын габрэю Гіршу Палячку з штогадовай платай у 500 рублёў. 1 студзеня кантракт Гіршу Палячку быў падоўжаны. У 1912 г. млын быў зачынены, а сажалка




***Млын у раёне вул. Гражыны. Паштоўка 1916 г.***



***Сям'я Пятроўскіх. Здымак 1925 года.***
***У цэнтры І.А. Пятроўскі, хлопчык на руках***
***У.І. Пятроўскі, цесць С. Карабана.***



***Палі ад колішняга млына ў беразе Лідзейкі перад мостам па вул. Энгельса (колішяя вул. Гражыны). Здымак С. Судніка. 2009 г.***

спушчана. У верасні 1915 г. падчас адступлення расійскага войска драўляны будынак млына згарэў.

Разам з тым паводле сведчанняў Станіслава Карабана ў 20-я -- 30-я гады XX стагоддзя млын на Лідзейцы па вул. Гражыны працаваў. Ён належаў Івану Антонавічу Пятроўскаму. Пятроўскі І.А. нарадзіўся ў 1988 годзе ў Вільні. Яго жонка Алена была з вёскі Жыжма Лідскага павету. Іван Антонавіч быў вельмі адукаваны чалавек, добра ведаў польскую і нямецкую мовы. Сам Іван Антонавіч называў Лідчыну сваёй дзедаўшчынай, казаў што сляды яго продкаў вядуць у вёску Пятры Лідскага павету. І.А. Пятроўскаму належалі землі па вул. Стралкоўскага і справа, і злева ад Лідзейкі ,ад другога маста да сучаснай нафтабазы. Яму ж належалі тры дамы ў Лідзе, якія стаяць і цяпер: д. 25 па вул. Камсамольскай, д. 15 па вул. Радзюка, д. 5-5а у 1-м завулку Чарнышэўскага. І, наогул, усе дамы ў гэтым завулку стаяць на яго зямлі. У 1936-м годзе млын быў закрыты, а сажалка спушчана паводле "скаргаў грамадзян на тое, што з-за сажалкі ў горадзе шмат камароў". Памёр Пятроўскі Іван Антонавіч у 1970 годзе. Пахаваны на лідскіх могілках па вул. Варшаўскай. Палі ў беразе Лідзейкі, на якіх стаяў млын, відны і сёння.

**7. Вісьманты**.

У пачатку 1914 г. *"вадзяны млын і мукамольня на Вісьмантах"* (колішняя паўднёвая ўскраіна Ліды)



***Фундамент млына ў Вісьмантах. Здымак С. Судніка. 2009 г.***



***Палі плаціны ў Вісьмантах. Здымак С. Судніка. 2009 г.***

належалі лідскаму мешчаніну габрэю Арону Фрыдману *(НДІА у Гародні. Ф.1571. Воп. 2. Спр. 9.)*

У 30-я гады паводле Станіслава Карабана гэты млын у нейкага габрэя арандаваў І.А. Пятроўскі. Млын закрыты ў 1936 годзе, разам з млыном па вул. Гражыны з-за той жа справы з камарамі.

Да сёння захаваўся падмурак млына і рэшткі плаціны. Падмурак бетонны, літы. Найбольш верагодны час заліўкі - пачатак 20-га стагоддзя. Праз сто гадоў падмурак знаходзіцца ў выдатным стане. Ад плаціны засталіся фрагменты паляў. Па канфігурацыі берагавой лініі можна сказаць, што кола млына размяшчалася не на русле Лідзейкі, а на адвадным канале. Само русла было перагароджана плацінай са шлюзамі.

**8. Навапрудцы** (зараз Ліда, вул. Наскова).

Млын у Навапрудцах з'явіўся даўно. Сама назва





***Млын у Навапрудцах у гады 1-й Сусветнай вайны***





***Млын Мялевічаў у Навапрудцах у 1930-я гады***

вёскі - “Новыя пруды (сажалкі)” гаворыць пра гэта. Сажалкі з’явіліся раней, чым вёска, але ўжо пры расейскай уладзе, пасля 1795 г. Сажалкі маглі з’явіцца толькі тады, калі былі пабудаваныя дамба (плаціна, грэбля), мост, вадаспуск і млын. У канцы 19 - пачатку 20 ст. млын належаў абшарніку Садоўскаму, пры млыне жылі 9 чалавек: 6 чалавек мужчынскага полу і 3 жаночага *(Гошкевич, с. 201).* Антось Савук пісаў, што Садоўскі здаў млын у арэнду Нікадзіму Мялевічу ў 1890 г. Пасля яго смерці ў 1911 г. арэнда млына перайшла яго сынам Нікадзіму Нікадзімавічу і Юзафу Нікадзімавічу *(Саук А. Водяные мельницы Лидчины. // Лидский экспресс, 2001. № 25)*.

Млын быў драўляны, аднапастаўны (на адны жорны). Турбіна знаходзілася ўсярэдзіне млына, вада на турбіну накіроўвалася па мураваным вадасцёку. У Інтэрнэце ўдалося адшукаць два здымкі млына і жылой хаты пры млыне. Здымкі зробленыя з невялікім разрывам у часе: дрэвы і драўляная агароджа каля маста не змяніліся, нават лесвіца на дах захавала сваё становішча. Здымкі зробленыя падчас Першай Сусветнай вайны - пра гэта сведчаць надпісы: на рускай: *“Водяная мельница близъ Лиды”* з літарай **яць** і на нямецкай: *“Wassermuhle b. Lida”*. На другім здымку па дамбе рухаецца вайсковы падраздзел, упэўнены, нямецкі. Часавы дыяпазон здымкаў: восень 1915 - восень 1918 г.



***Млын і хата Мялевічаў у 1930-я гады***

Пасля Першай Сусветнай вайны млын стаў уласнасцю Мялевічаў. У 1920-я гады браты Нікадзім і Юзаф пабудавалі новы млын і стайню. Аляксандр Станіслававіч Драгун ветліва даў мне серыю фотаздымкаў млына, якія былі зробленыя ў 1930- х гадах. Млын двухпавярховы з драўляных бярвёнаў з 18 вокнамі на 12 шыбаў, з высокай двухсхільнай страхой, крытай дранкой і дзвюмя парамі падстрэшкавых акенцаў. Уражлівы будынак.



***Хата Мялевічаў у 1930-я гады***

Браты Мялевічы не толькі малолі збожжа, але і пытлявалі муку. Да іх прыязджалі па муку людзі з усёй акругі. Лічылася, што ў Навапрудцах - самы лепшы млын, на якім мелюць самую лепшую муку. Вядома, што Мялевічы закуплялі ў Паўднёвай Польшчы цвёрдыя гатункі пшаніцы, збожжа паступала на чыгуначную станцыю, адтуль самавывазам яны яго забіралі. Таму і пабудавалі стайню. Лічу, што ў збожжа лідскіх памольцаў яны дабаўлялі цвёрдыя гатункі пшаніцы і атрымлівалі за кошт гэтага высакаякасную муку. Пра гэта ж сведчыць і парадак узаемаадносін з заказчыкамі: памольцы прывозілі збожжа і аддавалі ў памол. Гаспадары рабілі адпаведны запіс у памольнай кнізе пра ўладальнікаў збожжа, яго колькасць і якасць, і паведамлялі дзень, калі трэба прыехаць па муку. За





***Юзаф Нікадзімавіч Мялевіч з жонкай Юзэфай Эдвардаўнай***

працу Мялевічы бралі ад 12 да 15 % збожжа, звычайная норма - 10 %.

Усім не дагодзіш, здараліся і канфлікты. Вада ў дажджлівыя гады і ранняй вясной падтоплівала агароды жыхароў в. Навапрудцы. Браты падымалі засаўку, паніжаючы ўзровень вады ў сажалцы. Тым не менш, не заўсёды ўдавалася ўладжваць канфлікты па-добраму. Вясковыя жыхары пісалі скаргі і судзіліся з мельнікамі. І быццам бы, аднойчы прыехаў нейкі віленскі ўгневаны службовец, які прыстрашыў асабіста выпаліць вёску, калі скаргі не спыняцца *(Саук А. Водяные мельницы Лидчины. // Лидский экспресс, 2001. № 26)*.

У 1936 г. памёр Нікадзім Нікадзімавіч. Юзафу Нікадзімавічу прыйшлося аднаму працягваць фамільную справу. Ён валодаў добрым розумам і незвычайнай сілай. Аднойчы прывезлі на фурманках жорны, рабочыя замітусіліся, не ведаючы як іх разгрузіць. Тады падышоў сам Юзаф Нікадзімавіч, падняў велізарны камень і занёс яго на млын.

Неўзабаве ўдава Нікадзіма выйшла замуж, прыйшлося для новай сям'і дабудаваць хату. З'явілася жылая хата на два канцы з двума комінамі, і бляхай крытым дахам.

У 1940 г. савецкія ўлады млын канфіскавалі, ён перайшоў ва ўласнасць Лідскага райпрамкамбіната. Пачаліся рэпрэсіі і дэпартацыі. Юзафу Мялевічу прыйшлося хавацца.

Пры немцах усе млыны - аб'екты статэгічнага прызначэння - знаходзіліся ва ўласнасці гаспадарчага аддзела гебітскамісарыяту. Юзаф Нікадзімавіч быў прызначаны загадчыкам млына, мельнікам быў Віктар Крышан. Збожжа ў ваенныя гады даводзілася малоць сялянам, немцам і партызанам. Немцам і партызанам без гарнцавага збору, дарма. У красавіку 1944 г. немцы нечакана правялі рэвізію. Па выніках рэвізіі забралі ўсе лішкі мукі і збожжа. Былі канфіскаваныя таксама ўсе хатнія прадукты. Юзаф Нікадзімавіч трапіў у турму на Сырокомлі, адседзеў там два з лішнім месяцы. Жонка Юзэфа Эдвардаўна Драгун з в. Вялічкі выкупіла яго перад прыходам Чырвонай Арміі. Немцы адыходзячы спалілі стайню.

З 1944 па 1948 г. Юзаф Мялевіч працягваў працаваць на сваім млыне загадчыкам. У 1948 г. на яго было заведзена крымінальная справа, Юзаф Нікадзімавіч быў абвінавачаны па трох артыкулах: як сын абшарніка, хоць яго бацька быў толькі арандатарам; як кулак і як памагаты немцаў. Прысуд адпаведны - 20 гадоў турмы і 5 гадоў паразы ў правах з канфіскацыяй маёмасці. Прыйшлося паважанаму чалавеку прайсці камуністычныя мардоўскія лагеры. Вызвалілі яго ў 1956 г. па амністыі.

Усе гэтыя гады млыном загадваў Бадун Н.С. Справы ў яго, мабыць, ішлі не лепшым чынам, калі вярнуўся з лагераў Мялевич, яму прапанавалі заняць ранейшую пасаду. Праз некалькі гадоў працы Юзаф Нікадзімавіч выкупіў сваю хату.

Калі занямог, пачаў здаваць частку жылой плошчы кватарантам - афіцэрам з Паўднёвага гарадка.

Памёр Юзаф Нікадзімавіч Мялевіч 7 ліпеня 1964 г., пражыўшы 77 гадоў. Дзяцей у яго не было, млын ужо не працаваў, яго паступова разабралі на дровы. У 1992 г. пасмяротна Ю. Мялевіч быў рэабілітаваны.

**9. Перапечыца** *(па аповядзе Яніны Вільгельмаўны Тамашкі і матэрыялах Антона Савука. "Водяные мельницы Лидчины" // Лидский экспресс, 2001. № 17-23).*

Паміж Шайбакамі і Перапечыцай на Лідзейцы маецца невялікі мост. У 1970-я гады па мосце пралягала вузкакалейка, па якой матавоз вазіў з кар'ера Перапечыца гліну на Шайбакоўскую цагельню. Каля моста захаваліся рэшткі падмурка старога млына.

Гэты млын, хата і гаспадарчыя пабудовы, якія размяшчаліся на левым беразе, а таксама 1,5 га зямлі абшарнік Садоўскі у 1913 г. прадаў Аляксандру Тамашку і яго жонцы Сцяфаніі з Тумілевічаў. Да гэтага

Тамашкі арандавалі млын у Гальшанах, а брат жонкі Тумілевіч арандаваў млын у Дворышчы. Брат дапамог сястры купіць млын. Тамашкі перасяліліся на бераг Лідзейкі.



***Сцяфанія Тамашка***

Аляксандр Тамашка (1880-1943) - байструк, сын Паўліны Тамашкі (1861-1943). У маладосці Паўліна служыла ахмістрыняй у абшарнікаў, а затым выйшла замуж за ўдаўца Глейзнера, у якога было 6 дзяцей. Род Тамашкаў, па сямейным паданні, паходзіў з Усходняй Прусіі і належыў некалі да лютэранскай царквы.

Аляксандр юнаком працаваў на шклозаводзе ў Бярозаўцы на абрэзцы шкла. Там пазнаёміўся са Сцяфаніяй Тумілевіч, якая працавала вязальшчыцай. У 1901 г. маладыя ўзялі шлюб. Жылі ў доме, які пабудаваў Столе для працаўнікоў шклозавода. Да пачатку Першай Сусветнай вайны ў іх было 4 дзяцей: Яніна 1902 г.н.., Раман 1904 г.н., Вільгельм 1907 г.н. і Юзэфа 1910 г.н. Яшчэ двое памерлі, а сам Аляксандр страціў вока.

Зямля, на якую яны перахалі, знаходзілася на левым беразе Лідзейкі на аднолькавай адлегласці ад Перапечыцы і Шайбакоў. Млын быў драўляны трохпавярховы, на дубовых палях, калатоўчаты. У ім лёгка змяшчалася фурманка, і яшчэ заставалася месца. На першым паверсе прымалі і важылі збожжа, і атрымлівалі гатовую прадукцыю - муку і крупы. Тут знаходзіліся два жалабы для выхаду мукі і крупаў. Механізмы памолу збожжа і шатроўкі крупаў былі аўтаномнымі, але прыводзіліся ў дзеянне ад аднаго кола. На другім паверсе знаходзіліся жорны і крупадзёрка. Тут жа размяшчаўся механізм наладкі і дазацыі. На трэцім паверсе размяшчаліся бункеры для засыпання збожжа. Унізе пад будынкам круцілася вадзяное кола. Калатоўка была металічнай, а перадаткавы механізм быў часткова драўляным, а часткова металічным з зубчастымі і пасавымі перадачамі. Перад колам размяшчалася металічная рашотка, якая затрымоўвала водарослі, яе час ад часу чысцілі. Разы два ў год, ніжэй па плыні касілі водарослі, каб яны не затрымоўвалі ток адпрацаванай вады. І хоць месца, куды падала з кола вада, было выкладзена вялікімі камянямі, яго размывала, намываючы сярод затокі горку пяску. Тады зачынялі шлюзы і прыбіралі пясок. Увесну ў паводку вада разлівалася і даходзіла да хлявоў жыхароў в. Шайбакі.



***Раман Тамашка***

Млынавы камень рабілі самі з адмысловай рошчыны з дадаткам крэмнязёму. На камені рабілі насечкі ў выглядзе спіральнай канаўкі. *"Жорны былі вялікімі і праз некаторы час сціраліся. Даводзілася самім рабіць млынавы камень. Яго рабілі ў форме з адмысловай рошчыны з дадаткам крэмнязёму. Чамусьці гэтым займаліся на кухні. Можа для таго, каб зацвярдзенне рошчыны адбывалася пры аднолькавай тэмпературы. Затым, калі здымалі з каменя апалубку, рабілі на ім насечкі ў выглядзе канавак, якія ішлі па спіралі."*



***Вільгельм Тамашка***



***Раман, Яніна і Вільгельм Тамашкі***



***Юзэфа Тамашка з мужам***

Гарнцавы збор за помол быў стандартным - 10%. Сваю частку збожжа малолі на муку і прадавалі габрэям. Аляксандр Тамашка добра размаўляў на ідыш.

У першыя гады Тамашкі наймалі мельніка, затым пачалі дапамагаць падрослыя сыны. З часам на млыне стаў запраўляць малодшы Вільгельм. Справы ішлі нядрэнна. Аляксандр, прычасціўшыся да гарэлкі, дапамагаў пану Садоўскаму прапіваць маёнтак.

Жыццё складалася добра, дзеці выраслі, дзяўчаты паспяхова павыходзілі замуж, хлопцы пажаніліся. Старэйшая з сясцёр Яніна скончыла настаўніцкі інстытут у Вільні і выйшла замуж за Паўла Бурага родам з Сянна Віцебскай вобласці. Малодшая Юзэфа, улюбёнка Сцяфаніі, выйшла замуж за польскага афіцэра Зыгмунта Туцэвіча. Яна была харошанькай, мела шмат кавалераў. Але, каб выйсці замуж за афіцэра, трэба было мець не менш 10 тысяч злотых пасагу. Вільгельм Тамашка ў 1933 г. узяў шлюб з Маланняй Мацвееўнай Ірчыц з Дворышча. Маладыя



***Вільгельм і Маланння Тамашкі ў Лідзе***

вырашылі аддзяліцца і арандавалі млын у Паперні. *“Жылі проста на млыне ў маленькім пакойчыку. Мама мяне купала на печы, ад халоднай вады ў яе адкрыліся сухоты, не магла мяне карміць”*. Праз тры гады Вільгельм і Маланння вярнуліся на бацькоўскі млын. Да гэтага часу ў іх было двое дзяцей: Аліцыя 1934 г.н. і Яніна 1936 г.н.

І тут пачалася Другая Сусветная вайна. Мужчыны, за выключэннем 59-гадовага Аляксандра Тамашкі, пасля кароткай вераснёвай польска-нямецкай вайны апынуліся ў лагерах ваеннапалонных.

Раман патрапіў у нямецкія лагеры, пасля вайны застаўся ў Беластоку, працаваў бухгалтарам. Муж Яніны патрапіў у сталінскія лагеры, з лагераў - у Армію Андэрса, застаўся ў Англіі. Яго жонка Яніна ў 1946 г. выехала з Казахстана ў Польшчу, знайшла мужа ў Манчэстары.

*“Вільгельм патрапіў у румынскі палон, сядзеў у лагеры ваеннапалонных каля г. Таркю. З двума сябрамі здзейсніў уцёкі. Доўга давялося ім бадзяцца па Еўропе. У французскі легіён без дакументаў іх не ўзялі. І тады вырашылі вярнуцца дадому. Праходзячы заставу каля Сувалкаў, хоць яе можна было абыйсці, бо памежнікі стаялі адзін ад другога на адлегласці не меней кіламетра, былі затрыманыя. Двух сяброў Вільгельма адпусцілі, а яго як сына мельніка, а значыць з багатых, пасадзілі на тры гады за незаконнае перасячэнне мяжы. Зняволенне прыйшлося адбываць у Архангельскай вобласці на лесапавале. Пасля вызвалення яму было дазволена пасяліцца на выбар або ў Казахстане або ва Ўдмуртыі. Выбраў Удмуртыю. На пасяленні працаваў мельнікам. У 1943 г. быў ізноў асуджаны за антысавецкую агітацыю на 10 гадоў: на мітынгу сказаў, што Сталін сам вораг народа. Адбываў пакаранне там жа, ва Ўдмуртыі”.*

У “Кнізе Памяці Рэспублікі Ўдмуртыя” запісана: *“Тамашка Вільгельм Аляксандравіч. Нарадзіўся ў 1907 г., Гарадзенская вобласць, Лідскі р-н (няправільна, нарадзіўся ён у Лідскім павеце Віленскай губерні), шклозавод “Нёман”; паляк, малапісьменны. Гархарчкамбінат, мельнік. Жыў: г. Глазаў. Арыштаваны 11 траўня 1943 г. Асуджаны: 8 снежня 1943 г. Прысуд: 10 гадоў. Рэабілітаваны 27 лістапада 1968 г.”*

Маланння адшукала мужа ў 1946 г. У тым жа годзе, атрымаўшы ад яго ліст, з’ездзіла на спатканне. Адседзеўшы поўнасцю дзесяцігадовы тэрмін, у 1953 г., праз 14 гадоў Вільгельм вярнуўся ў Ліду. Пасля рэабілітацыі ў 1968 г. атрымаў кампенсацыю ў суме 14 руб. з капейкамі. Працаваў спачатку вартаўніком, а затым возчыкам - вазіў на фурманцы лекараў дзіцячай лякарні.

Млын у 1939 г. быў нацыяналізаваны. Маланння да вайны і падчас вайны працавала загадчыцай, але ўсімі справамі запраўляла Сцяфанія. У ваенныя гады дазвалялася малоць вызначаную норму на чальца сям’і. Астатняе збожжа неабходна было здаваць



***Сцяфанія і Маланння Тамашкі з Янінай і Аліцыяй***



***Маланя Тамашка з Янінай і Аліцыяй***

немцам. З бліжэйшых вёсак з'язджаліся на млын памольцы. На норму стараліся не звяртаць увагі. З праверкай з гаспадарчага аддзелу гебітскамісарыяту прыязджалі камісіі. Там працаваў нейкі чалавек, дасылаў хлапчука, які паведамляў аб магчымай праверцы. Памольцы хуценька раз'яжджаліся. Гаспадары рыхтаваліся да праверкі: даставалі прыпасеную самагонку, накрывалі стол. Немцы пілі шмат. Звычайна такія праверкі завяршаліся без непрыемнасцяў.

Частку мукі прыходзілася аддаваць партызанам - чырвоным і белым. І немцы, і партызаны патрабавалі, каб ім давалі больш мукі. За сувязь з партызанамі пагражаў расстрэл. У 1943 г. па сваю муку прыехалі чырвоныя партызаны. Яны былі незадаволеныя тым, што Тамашкі прыгатавалі менш мукі, чым было



***Хата Тамашкаў***

загадана. Старэйшы з іх сказаў, што ёсць звесткі, быццам у іх у хаце маецца зброя. Аляксандр Тамашка, які ляжаў на ложку ў падпіцці, павярнуўся да іх спіной, пляснуў па задзе, і сказаў: "Вось мая зброя". Старога збілі, адзін з партызан стрэліў уверх. Жанчыны просьбамі, уговорамі і самагонкай адхілілі бяду. У столі з'явілася дзірка ад кулі, а Аляксандр Тамашка праз тры дні памёр.



***Вільгельм Тамашка пасля вяртання з высылкі***

Пасля гэтага Маланя Тамашка змушаная была наймаць мельніка, адзін час мельнікам быў Косця Радзівон. На крупадзёрцы ўпраўляліся Яніна і Аліцыя - новае пакаленне Тамашкаў.

*"Перад наступленнем рускіх нас выселілі, у радыюсе 5 км ад аэрадрома выселілі ўсіх. Мы з'ехалі ў Траццякоўцы да Забіроўскага. Бомба ўпала ў агарод, вырвала дзверы. Коні ад страху ўцяклі, я знайшла іх у Пяцюлеўцах. Пераехалі ў Багдзі, ізноў патрапілі пад авіяналёт, жылі там да вызвалення. Хата, дзе мы жылі, стаяў у тупіку, за хатай пачыналася балота. Прыйшлі немцы - развярнуліся, пайшлі, прыехалі чырвоныя - развярнуліся, паехалі, ізноў прыйшлі немцы і так некалькі раз".*

Пасля вайны млын стаў маёмасцю райпрамкамбіната. Загадваў ім спачатку Байдалаў Уладзімір Філіпавіч, пасля работнік райвыканкаму. Яго змяніў палкоўнік Мельнікаў Павел Трафімавіч. Ён п'яны захлынуўся ў раўчуку каля Шайбакоў. Затым млын прыняў Пятрусёў Міхась Рыгоравіч. У 1948 або 1949 г. на млыне загінуў Ян Тамашэвіч - закруціла адзежу ў кола млына. На кватэры ў Тамашкаў доўгі час жыў вагаўшчык млына Янушэўскі Вікенці Іосіфавіч. У маладосці ён удзельнічаў у будаўніцтве КВЖД у Харбіне. Калі дарогу здалі ў эксплуатацыю, то ўсе будаўнікі атрымалі права на штогадовы разавы бясплатны праезд па чыгунцы. Янушэўскі пабываў у Амерыцы, Азіі, Афрыцы і Еўропе. Свае апавяды аб паездках па свеце ён суправаджаў паказам шматлікіх фотаздымкаў.

У 1958 г. млын перастаў функцыянаваць. Бярвёны пайшлі на дровы. *"Мы жылі ў дзедавай хаце да 1958 г. Хата быў драўляная, крытая саломай. Было гумно, адрына і невялікі агарод. У 1949 г. у нашым гумне размяшчаўся птушнік калгаса імя Молатава, дзе мама працавала птушніцай".*

Род Тамашкаў раскідала па свеце, праўнукі і прапраўнукі Аляксандра і Сцяфаніі жывуць у Англіі, Польшчы, Літве і Расіі. 17 сакавіка 2010 года Юлія Аляксандраўна Юсупава нарадзіла ў Маскве двайнят -дзвюх дзяўчынак. Здавалася б якое дачыненне гэта мае да Лідскай зямлі? Мае, і наўпростае. Нарадзіліся дзве пра-пра-праўнучкі Аляксандра Тамашкі і Сцяфаніі Тумілевіч.

**10. Качанова або Навіцкія-1.**

Будынак гэтага млына захаваўся да сённяшніх дзён. Стаіць ён як помнік усім млынам, што калі-небудзь былі пабудаваныя на Лідзейцы. Захаваўся таму, што быў пабудаваны з цэментавых блокаў. На сцяне засталася таблічка: ***"Mlyn Michala Orechwy, 1938"***.

Арэхва Міхал Міхайлавіч пражыў доўгае жыццё (1891-1980), родам ён з дакудаўскай Забалотні. У сям'і акрамя яго было яшчэ тры сястры. У 1917 г. Міхал Арэхва адправіўся ў ЗША, там сябар дапамог яму ўладкавацца на завод па вытворчасці вагонаў. Працаваў сталяром і вучыўся ў вячэрняй школе, асвоіў ангельскую мову. Там жа ў Амерыцы пазнаёміўся з нараджэнкай Львоўшчыны Валерыяй Францаўнай Нікель, якая таксама прыехала на заробкі і служыла хатняй прыслужніцай. Хутка яны пажаніліся, у іх нарадзіліся дзве дзяўчынкі Марыя, 1923 г.н. і Антаніна 1925 г.н. Міхал Міхайлавіч прапрацаваў у Амерыцы 9 гадоў. Сёстры ў лістах прасілі яго вярнуцца дадому - не спраўляліся з апрацоўкай зямлі. І ён вярнуўся, хоць жонка была супраць. Жартаваў: "Мае рукі, грошы і праца зробяць і на Радзіме Амерыку". Як бы не так.

Вярнуліся яны ў 1926 г., пасяліліся ў дзедаўскай хаце ў Забалотні. Сям'я паступова разраслася - нарадзіліся яшчэ дзве дачкі: Тарэса 1928 г.н. і Ева 1930 г.н.

У 1935 г. Арэхвы выкупілі ў Качанове ў Бутке-



***Млын у Качанове з дамбай. Здымак 2009 г.***



***Млын у Качанове з боку варот. Здымак 2009 г.***



***Млын у Качанове. Выгляд з боку сажалкі адпрацаванай вады. Здымак 2009 г.***




***Таблічка на млыне ў Качанове. Здымак 2009 г.***



***Млын у Качанове. Са сцяны тырчыць асноўная сілавая вось з уваходнай шасцярнёй. Здымак 2009 г***



***Забалочаная даліна Лідзейкі перад дамбай млына ў Качанове. Здымак 2009 г.***







***Механізм млына ў Качанове. На ніжнім здымку бліжняя гаразынтальняя шасцярня цалкам металічная, а дальняя вертыкальная шасцярня металічная з драўлянымі зубамі. Здымак 2009 г.***

віча млын, 7 гектараў раллі, 3 гектары лугу і невялікую хату. Млын быў драўляны, стаяў на драўляных палях і патрабаваў рамонту. Міхал Міхайлавіч замяніў драўляныя палі на бетонныя, адрамантаваў зруб самога млына, насціл маста і некаторыя дэталі механізму. Для гэтага прыйшлося адвесці Лідзейку ўбок, перагарадзіўшы плацінай, адпампаваць ваду, паглыбіць аснову пад падмуркі да цвёрдага грунту і з дапамогай запаўнення апалубкі бетонавай сумессю падняць палі да патрэбнай вышыні. *(Саук А. Водяные мельницы Лидчины. Лидский экспресс 2001. № 12-15.)*

*"У млыне быў скарыстаны класічны шматфункцыянальны механізм. Нажаль сілавое кола не*







***Млын у Качанове. Перадатачныя шківы на першым і другім паверсе. Здымак 2009 г.***

*захавалася. Знадворку засталася толькі калатоўка - металічная шасцярня, якая была насаджана на асноўную сілавую вось (трансмісію). Па вышыні размяшчэння і форме калатоўкі трэба меркаваць, што сілавое кола размяшчалася гарызантальна або было ніжняга бою. Унутры на вось былі насаджаны шасцярня асноўнага механізма, для перадачы круцільнага моманту на жорны і шэраг шківаў для перадачы круцільнага моманту пры дапамозе пасаў на дадатковыя і дапаможныя механізмы і прыстасаванні. Сілавая вось ішла папярок практычна ўсяго млына.*

*Першым па ходу восі размяшчалася кола вялікага дыяметру для перадачы круцільнага моманту пры дапамозе паса на шкіў, які перадасць яго на крупадзёрку. Вялікі дыяметр прыводнага кола і малы дыяметр прыёмнага шківа забяспечвалі вялікія авароты на барабане крупадзёркі.*

*Наступным па ходу восі размяшчаўся рэдуктар: металічная шасцярня вялікага дыяметру, якая перадавала круцільны момант на металічную шасцярню меншага дыяметра. Меншая шасцярня размяшчалася так, што дазваляла змяніць плоскасць кручэння з вертыкальнай на гарызантальную і*





***Млын у Качанове. Жорны і крупадзёрка. Здымак 2009 г.***

*перадаць круцільны момант на другі паверх млына, дзе размяшчаліся жорны. Асаблівасцю канструкцыі рэдуктара было тое, што зубы (кліны) вялікай шасцярні былі зроблены з дрэва і ўстаўляліся ў спецыяльныя адтуліны на аснове шасцярні. На першы погляд гэта не рацыянальна. Але... Усе металічныя часткі млына купляліся, а то і рабіліся на замову і былі вельмі дарагія. Яны павінны былі служыць вечна. Злучэнне дзвюх металічных шэсцярняў жорсткае, зубы з часам сціраюцца. Прымяненне драўляных зубоў на адной з шэсцерняў робіць злучэнне мяккім. Пры працы няма вібрацыі, няма скрыгату і шуму. Пры аварыі першым чынам будуць зрэзаны драўляныя зубы, металічныя часткі не пацерпяць. Зубы рабіліся з цвёрдых парод дрэва (граб, дуб). Млын не працуе ўжо каля 50 гадоў, а драўляныя зубы амаль усе на месцы.*

*Далей на восі былі яшчэ два шківы для перадачы пасамі круцільнага моманту на другі паверх і яшчэ для нечага.*

*На другім паверсе размяшчалася яшчэ адна вось з чатырма шківамі. Адзін, відаць, прыёмны, а астатнія перадатачныя.*

*Механізм, як і ўсе механізмы таго часу вызначаецца тонкасцю інжынернага рашэння і рацыянальнасцю выканання.”*

*(Механізм млына ў Качанове апісаў і сфатаграфаваў Станіслаў Суднік.)*

На сваім млыне Арэхвы дружна адпрацавалі і пражылі 10 гадоў. Млын тры разы нацыяналізавалі: у1939, 1941 і 1944 гг., аднак сям’я, як працавала на сваім млыне, так і працавала, толькі ў Міхала Міхайлавіча пасады мяняліся.

3 траўня 1949 г. Міхала Арэхву, таксама як і Юзафа Мялевіча, арыштавалі. Абвінавацілі ў антысавецкай агітацыі. У 1951 г. адбыўся суд. Жонка не дажыла да суда, памерла, не вытрымаўшы накаціўшай бяды. Міхала Арэхву асудзілі на 10 гадоў з паразай у правах на 5 гадоў. Пакаранне адбываў у турме ў Ваўкавыску, затым у Казахстане. 16 красавіка 1952 г. арыштавалі і дзяцей Арэхвы. Узялі спачатку дзвюх старэйшых сясцёр Марыю і Антаніну, якія жылі ў цёткі ў Лідзе і працавалі на абутковай фабрыцы. А ўначы на чорным варанку прыехалі па Тарэсу і Еву. З прыехаўшымі была Марыя. НКВД-эшнікі загадалі збірацца. Тарэса так напалохалася, што не магла нават апрануцца. Дапамагала ёй апранацца старэйшая сястра. У хаце скончыўся хлеб. Па хлеб да суседзяў паслалі стрыечнага брата Іосіфа, які жыў разам з сёстрамі. Той баяўся вяртацца, думаў, што яго таксама могуць арыштаваць. З рэчаў нічога ўзяць не дазволілі. НКВД-эшнікі спяшаліся. На зваротным шляху машына загразла на палове дарогі. Арыштантам загадалі дапамагчы яе выпхнуць. Яны адмовіліся. З гразі ма-



***Сям’я Арэхвы***

шыну выбавілі толькі досвіткам. Сясцёр адправілі ў Паўднёвы Казахстан у с. Бабай за 20 км ад Ташкента. Пяць гадоў яны адпрацавалі ў калгасе. Тарэса выйшла замуж за Альфрэда Вінчу, жылі яны ў с. Бабай.

У іхняй хаце ў Качанове адчынілася пачатковая школа. Млын перайшоў на калгасны баланс і неўзабаве аказаўся нікому непатрэбным.

Пасля вызвалення ў 1956 г. Міхал Міхайлавіч з дачкой Евай і зяцем з'ехалі ў Польшчу, Тарэса з мужам вярнуліся ў Ліду. У 1962 г. Міхал Арэхва наведаў сваю дачку і свой млын і хацеў нават застацца, зяць не дазволіў, павёз. Рэабілітаваны ў 1968 г.

У 2008 г. у 70-гадовага будынка млына з'явіўся новы гаспадар: *"…пазелянеўшы шыфер змяніла новенькая чырвоная чарапіца* (проста памаляваны шыфер, рэд.), *побач папрацавала рука чалавека" (Яхантава В. Там, дзе ціха плешча Лідзейка. Лідская газета. 2008. 13 лістапада).*

## Вадзяныя млыны на Дзітве

На Дзітве і яе прытоках вядома восем млыноў.

**1. Ольжава.**

Ольжаўскі млын размяшчаўся над паўночнай пратокай Дзітвы. Пасля вайны яго спалілі. Засталася назапашвальная сажалка і бетонны жолаб.

**2. Любары.**

Гэты млын размяшчалася над паўднёвай пратокай Дзітвы і пабудаваны быў накшталт таго, як будавалі ў пасляваенныя гады. Ад млына, па аповядах, захаваўся цагляны будынак і канал для падводу вады.

**3. Лупеніца.**

Вадзяны млын да 1938 г. належаў Эксхаўзеру, ён прадаў яго Роўбу Антону Ігнацьевічу.

У снежні 1940 г. млын у Лупеніцы належаў с/г арцелі імя Леніна ў Ганчарах, загадчыкам мабыць, заставаўся Роўба А.І., ён жа кіраваў млыном падчас вайны, мельнікам быў Кучынскі Мікалай Аляксандравіч. У Лідскім музеі захавалася падшыўка распісак партызанскіх груп і атрадаў, якія сілкаваліся з гэтага млына:

верасень 1942 - 40 пудоў збожжа;

кастрычнік 1942 -20 пудоў мукі;

лістапад 1942 - 20 пудоў мукі і 10 пудоў ячменю;

студзень 1943 - 185 кг мукі жытняй і 35 кг крупаў ячменых;

люты 1943 - 320 кг жытняй мукі і 80 кг ячменю; 130 кг жытняй мукі, 200 кг хлеба, 25 пудоў мукі ( п/а "Іскра");

сакавік 1943 - 98 пудоў мукі ( п/а "Балтыец"), 100 кг жытняй мукі (п/а імя Варашылава), 20 пудоў жытняй мукі;

красавік 1943 - 1000 рублёў (п/а "Іскра"); 300 кг мукі, 8 пудоў жытняй і 2 пшанічнай;

травень 1943 - 35 пудоў мукі, 20 пудоў мукі жытняй і 5 пудоў ячменных круп (п/а "Балтыец"), 90 пудоў мукі (п/а "Іскра"); 825 кг мукі (п/а імя Варашылава); 10 кг жытняй мукі;

чэрвень 1943 - 130 пудоў мукі, 10 пудоў з пад вальца і 10 пудоў ячменных круп, 2 літры самагонкі (п/а "Балтыец"); 10 пудоў мукі ( п/а "Іскра");

ліпень 1943 - 200 кг жыта, 45 кг мукі, 15 кг сала, 16 кг гароху, пару ботаў, 2 булкі хлеба, 500 рублёў і кола.

верасень 1943 - 5 пудоў мукі жытняй, 8 кг пшанічнай, 5 літраў самагонкі.



***Каля рэшткаў бетоннага фундамента і плаціны колішняга млына ў Лупеніцы ў наш час выдатнае месца для купання. Рэчка Дзітва ў раёне дачаў "Даржы". Здымак 2005 года.***

Адносіны паміж млыном і савецкімі партызанамі пазначыў нач. штаба атрада "Балтыец" Іван Броварны: *"Вы абавязаныя нам дапамагаць, чым можаце…. Тых людзей, якіх мы пасылаем малоць да Вас, мяліце без спрэчак і прозвішчаў не пытайце, яны вам не патрэбныя. Замаўляйце перад нямецкімі ўладамі аб тым, каб больш 10% за памол з грамадзян не браць. Тое, што мы дасылаем малоць або рабіць крупы для нас, за працу не браць ні кілаграма. Калі вас хто крыўдзіць - напішыце".* А кіраўніцтва атрада "Балтыец" за трыма подпісамі загадала: *"Забараняю выдаваць муку і крупы партызанам, якія не маюць фармальнага дакумента ад камандавання атрадаў, які павінен быць з трыма подпісамі: камандзіра, камісара і начальніка штаба, каб пазбегнуць разбазарвання не па прызначэнні".*

У 1949 г. млын яшчэ працаваў. Сёння на месцы Лупеніцкага млына захаваўся бетонны падмурак, і бачныя яшчэ палі.



Расписка.
Дана настоящая расписка мельнику мельн[ицы] Лупеницы
т. Кучинскому Николаю А.
В том что взято хлеба 200 кил.
Двести килограм!
Отрядом „Искра"

***Адна з партызанскіх распісак***

**4. Старамлынішча.** Быў такі засценак на р. Дзітве, належаў пані Петранелі Ленскай. Назва засценка гаворыць сама за сябе. Ужыванне падобнай назвы ў 1838 г. адносіць час існавання млына ў 18 стагоддзе. Сам млын размяшчаўся кіламетраў на два ніжэй ад Лупеніцы.

На прытоках Дзітвы млыны былі паводле Ўладзіміра Хрышчановіча:

**1.** На прытоку **Шчурок**.

**2.** На рэчцы **Крупка**, ніжэй Крупава.

**3 .** На прытоку ля **в. Бялёва** (былы фальварак Шашакоўшчына).

**4.** На раўчуку за **Вялікім Ольжавам** каля пані Крывялёвай. Яго мала хто памятае. Але падчас меліярацыі ў 60-я гады XX стагоддзя былі выкапаны камяні жорнаў.

## Вадзяныя млыны на Жыжме

**1. Дворышча.**

Дакументальна пацверджана, што ў 1840-х гадах у фальварку Дворышча былі драўляны вадзяны млын і хата мельніка. Паколькі млын пабудаваны ўбаку ад р. Жыжмы, і сістэма водазабеспячэння млына прастатой не вызначаецца - уключае шлюз на Жыжме, канал для падводу вады, воданазапашвальную сажалку, сажалку адпрацаванай вады і адводны канал, то трэба думаць, што першы млын пабудавалі манахі езуіты, якія валодалі гэтымі землямі да 1775 года. Прастаяў ён добрую сотню гадоў.

У 1880-х гадах, калі маёнткам валодалі браты Лівены -барон Вільгельм Густававіч, а затым яго брат барон Карл Густававіч, быў пабудаваны велізарны двухпавярховы мураваны млын. Над уваходам доўгія гады вісела жалезая табліца ***“Застрахавана ў 1888 г. Паўночным таварыствам”***.

Будынак млына захаваўся - гэта двухпавярховы прастакутны будынак памерам 25,6х12,2 м. Складзены з валуноў на вапнавай рошчыне, франтоны - з цэглы, падмурак абапіраецца на дубовыя палі. Таўшчыня сценаў першага паверху - да 1,15 м, другога паверху - 0,9 м. Аконныя праёмы сценаў прастакутныя, праёмы 2 паверху паўднёва-заходняга фасада - паўцыркульныя. Перакрыцці - накат дошак па драўляных бэльках, падлогі драўляныя, вокны - простыя аднастворкавыя, дзверы - філянговыя, адмосткі - каменныя, унутраныя сцены абтынкаваныя і пабеленыя. Страха двухсхільная, пад дахоўкай. На паўднёва-заходнім схіле даха - 4 аконныя праёмы - люкі. Паддашкавае памяшканне выкарыстоўвалася, туды віндай (ліфтам) падавалася збожжа праз драўляны балкон у тарцы будынка. Частку першага паверху займаў тартак.

Асноўнае сілавое кола ў гэтым млыне размяшчалася не вертыкальна, а гарызантальна і знаходзілася не знадворку, а ўнутры памяшкання.

Да паўночна - заходняга тарца асноўнага аб’ё-



***Вадзяны млын у Дворышчы, здымак 80-х гадоў XX ст.***



***План 1-га і 2-га паверхаў вадзянога млына ў Дворышчы, складзены ў 1958 г.***



***Млын, выгляд спераду, 80-я гады XX ст.***



*Млын, выгляд з тыльнага боку, 2006 г.*



*Хата мельніка, здымак 1960-х гадоў.*

му прымыкае аднапавярховая прыбудова 9,9х5,5 м. Сцены і перагародкі мураваныя, перакрыцці дашчаныя, страха аднасхільная пад дахоўкай. Поблізу размяшчаецца хата мельніка. У розны час хатаў было дзве. Першая была знесены па старасці, другая стаіць дагэтуль. *(Кудла В., Суднік С. Дворышча. //Лідскі летапісец. № 35. С. 57-58).*

У гады Другой Сусветнай вайны на млыне працавалі Тумілевіч, Капчынскі і Калясінскі, вагаўшчыком быў выхадзец з Варшавы Густаў Станіслававіч Гульпоўскі-Шульц. Узімку 1942 г. бандыты - акружэнцы Салаўёў і Мельнікаў замовілі для сябе на млыне 100 пудоў мукі. Партызаны атрада "Іскра" адабралі гэтую муку. А перад Калядамі з ссыпнога пункта пры млыне па загадзе партызан мясцовыя сяляне развезлі па сваіх хатах некалькі дзесяткаў тон збожжа, сабранага для нямецкага войска.

Раніцай 23 траўня 1945 г. на млыне былі забітыя старшыня Тракельскага сельсавета Сафонаў Іван Селіверставіч і прыбіральніца Смірнова, цяжка параненыя мельнік Тумілевіч, вагаўшчыца Сушчынская і заг. аддзелу мабілізацыі Верабей Іван Іосіфавіч, у невядомым кірунку вывезены міліцыянер Дубнік *(ЗДА у Лідзе. Ф.604, воп.1а, спр.6, арк. 26).*

Млын пасля вайны падпарадкоўваўся Лідскаму райпрамкамбінату, дзейнічаў да 1960 г.

**2. Левашы.**

Млын у Левашах існаваў у пачатку ХХ стагоддзя, да млына прыпісаны быў адзін мужчына *(Гашкевіч, с. 201).*

У ноч з 1 на 2 лістапада 1944 г. заг. млына Ігнатовіч Уладзімір (1912-1944), возчык па вывазцы гарнцавага збору - Борка (Барко), кантралёр млына Хруль Эдвард з в. Сліжы, Гарбачоў Андрэй былі забітыя. *(ЗДА у Лідзе. Ф. 604, воп.1а, спр.2, арк. 40).*

2 чэрвеня 1945 г. апоўначы на млын, на якім малолі збожжа заг. млына Зотаў і мельнік Мілачук прыехалі ўзброеныя 6 чалавек з аўтаматамі і наганамі. Забралі гарнцавы збор: жыта 400 кг, ячмень 145 кг. *(Там жа, арк. 27).*

З 11 на 12 ліпеня 1945 г. група ўзброеных бандытаў у колькасці 4 чалавек ізноў наведала млын. Забілі мельніка Горкага Арсеня Іванавіча (1886-1945), ранілі яго жонку Аляксандру Аляксееўну 1894 г.н., забралі ўвесь гарнцавы збор. *(Там жа, арк. 29).*

Нягледзячы на гэтыя жудасныя забойствы млын у 1949 г. яшчэ функцыянаваў.

**3. Жыжма, засценак.**

У пачатку ХХ стагоддзя ў засценку быў вадзяны млын, які належаў Аранскаму, жыў там адзін мельнік. *(Гашкевіч, с. 194.)*

## Вадзяныя млыны на Лебядзе і яе прытоках

**1. Гайкоўшчына.**

*"За 3 км на ўсход ад мястэчка Васілішкі ў вёсцы Гайкоўшчына быў вясковы млын. Вясковым ён стаў прыблізна ў 1900-х гадах пасля чарговых эксперыментаў Расійскай Імперыі на землях ВКЛ - зямельнай рэформы, якую ажыццяўляў Сталыпін, у той час гарадзенскі губернатар. Быў створаны Зямельны банк, які выкупляў землі ў абшарнікаў і прадаваў іх усім ахвотным купіць па 25, 50 і 100 га. Праваслаўным зямля прадавалася ў растэрміноўку на годы (пазней палякі прымусілі ўсё выплаціць), а католікам - за гатоўку (наяўныя грошы). Землі Гайкоўскага маёнтка былі распрададзены і падзелены, а млын стаў агульным і быў за грошы аддадзены ў арэнду васілішскаму габрэю, які наймаў мельнікаў і майстроў. За памол збожжа з чужых вёсак габрэй браў грошы, гайкоўскім малоў бясплатна. На млыне быў усталяваны генератар для падзарадкі акумулятараў, на якіх працавалі тагачасныя радыёпрыёмнікі.*

*У ставе перад млыном было шмат рыбы, бо з чужых вёсак лавіць рыбу не мелі права, а гайкоўскім гаспадарам за працай лавіць рыбу не было калі.*

*У 1938 годзе плпціну разабралі, каб пачысціць і паглыбіць стаў. Плаціна была з двух радоў дубовых бярвенняў, а паміж імі 1,5 - 2 м забутованыя глінай. З-за вайны 1939 г. работы спыніліся, і млын прапаў.*

*У спадчыну ад гэтага млына застаўся, мабыць адзіны на Лідчыне,* ***Тэхнічны каляндар для мельніка****, выданне 2-е пашыранае і дапоўненае. Каляндар выдадзены ў Лодзі да 1935 года і мае 150*



ich jest styczny do koła kierowniczego. Ten rodzaj nakucia nadaje się do płaskiego przemiału żyta, natomiast brózdy pomocnicze, idące równolegle do głównych według wzoru (h) rys. (i), nadają się do mielenia miałów.

Przez nadanie brózdom odpowiedniej krzywizny możemy otrzymać kąt cięcia stały na całej długości skrawania. Rysunek (k) pokazuje nam kąt cięcia, malejący ku obwodowi, a rys. (l) kąt wzrastający w kierunku obwodu.



Rysunek (m) wskazuje jak należy wykonać nacięcie brózdami krzywemi. W tym celu promieniem równym 4/5 długości promieniowi kamienia opisujemy koło, a następnie z tego koła zakreślamy łuki styczne do koła kierow-

— 47 —

***Старонка Тэхнічнага каляндара для мельніка***

*старонак тэксту, малюнкаў, чарцяжоў і табліц.”*

*Уладзімір Хрышчановіч.*

**2. Бешанкі.**

Вадзяны млын тут быў ў XVII стагоддзі на прытоку Лебяды Касцянёўцы.

**3. Дзехцяры.**

**4. Ваверка** (на Вавёрцы, прытоку Лебяды).

**5. Паперня.**

Вадзяны млын з каменю размяшчаўся паміж вёскай і маёнткам. Збудаваны ён быў даўно, магчыма яшчэ ў пачатку XIX стагоддзя пры Самуэлі Кастравіцкім. Рэчка Вавёрка была перагароджана плацінай, вышэй па плыні аформілася шырокае возера плошчай у 30-40 гектараў. У 1934-36 гг. млын арандавалі Вільгельм Тамашка з яго маладой жонкай Мяланняй Ірчыц з Дворышча. Пасля вайны на млыне некаторы час працаваў партызан атрада імя Варашылава Мікалай Майсеевіч Удавічэнка. Млын функцыянаваў больш за сто гадоў. У 1990-х гадах захоўваліся сцены, даха ўжо не было, паблізу яшчэ валяліся жалезныя валы і жорны.

**6. Злебяда.**

У пачатку XX стагоддзя на р. Лебядзе паблізу ад маёнтка Вялікая Лебяда пані Скосыравай, дачкі графа Маўраса дзейнічаў млын з дзіўнай назвай “Злебяда”. Да млына былі прыпісаны 5 чалавек: 2 мужчыны і 3 жанчыны *(Гашкевіч, с. 200)*.

**7. Мажэйкава.**

У 1835 г. у маёнтку абшарніка Рамуальда Казіміравіча Кастравіцкага Мажэйкаў Малы лічыліся *“2 сажалкі пры якіх пабудаваныя 2 млыны і адзін валюш”*. У 1885 г. дзейнічаў адзін млын, арандатар Берка Іцкевіч задумаў перабудову млына *(НДГА у Гародні, ф.13, воп.2, спр.23 б, арк.3)*. Размяшчаўся млын на правым безназоўным прытоку р. Лебяды, сажалка захавалася да сённяшніх дзён.

**8. Вілы.**

**9. Ходараўцы.**

Млын тут быў у пачатку XX стагоддзя, належаў абшарніку Шалевічу. Да млына былі прыпісаны 11 чалавек *(Гашкевіч, с. 197)*.

***Расповяд Ніны Максімаўны Голубевай (Міхальчук)***

*“Пан Славінскі, уладальнік маёнтка Дзікушкі, у 1936 г. закупіў у Францыі абсталяванне і турбіну для вадзянога млына і ў Ходараўцах, на рэчцы Лебяда пабудаваў млын.*

*Займацца пану клопатам млынарскім не ганарова, і ён здаў млын у арэнду жалудокскім габрэям. Помню толькі іх імёны Іцка і Зорах. Арандатары даведаўшыся пра здольнага майстра справы млынарскай, Максіма Канстанцінавіча Міхальчука (1898-1953) з в. Кавалі Слонімскага павету., запрасілі і “зацікавілі” яго быць майстрам на Ходараўскім млыне, дзе ён і жыў з сям’ёю. З жонкай Соф’яй Фёдараўнай (ў дзявотстве Грэбень) выгадавалі чацвёра дзяцей – я старэйшая дачка Ніна, сын Анатоль – 1931 г.н., Алена, Іра (Іраіда 1945 г.н.) Усе справы млынарскай механікі былі на плячах майстра. Арандатары ўзважвалі збожжа, збіралі грошы з сялян, за памол і плацілі майстру, млынарам і пану Славінскаму за арэнду. Млынары былі розныя, помню толькі Бучу Аляксандра і Мармыша, са Скрыбава. Будынак млына дзяліўся на тры паверхі. Унізе ішла гатовая мука ў гаспадарскія мяшкі, падвешаныя (падвязаныя) да скрыняў-жалабоў. Сярэдні паверх займаў мельнік, які па словах гаспадароў рэгуляваў памол, каму буйная мука (фураж) - для жывёлы, каму мяккая – на хлеб..*

*На трэцім паверсе над трыма камянямі млынарскімі – былі тры скрыні (каўшы) куды сыпалі зерне і мельнік закрываў засоўкі, альбо адкрываў – каб збожжа новага гаспадара ішло на размол – пасля таго як знізу, папярэдні гаспадар, забіраў сваю гатовую муку.*

*“Кончана збіраць!” – такую каманду даваў мельнік, як збожа папярэдняга гаспадара закончвалася ў каўшы і пад камянем млынарскім і адчыняў заслонку ў каўшы са збожам новага гаспадара. Збожжа на трэці паверх падавалася віндаю (пад’ёмнікам), якая ўключалася ад вала турбіны, вяроўкаю, якую нацягваў мельнік, і тры мяшкі уздымаліся на трэці паверх. Камень крупэрні куціўся*



***Млын у Ходараўцах, стары драўляны мост цераз Лебяду з ледарэзамі, да 1959 г.***

*стоячы, а не так як камяні млына – ляжачыя. Мера збожжа засыпалася ў камень і круцілася вызначаны час. Пасля высыпалася і праз сіты ачышчалася ад вотрубаў і дробязі. Мука вальцаваная, пшанічная, не малолася камянямі а выціскаласяваламі з насечкай. Была яна белая і смачная, на аладкі і пірагі. Мука вальцаваная (пытляваная) была смачная таму што вітаміны з зародыша зярнаці выціскаліся ў асноўную муку а не адыходзілі ў вотрубы. (Лідскі КХП на аўстрыйскім абсталяванні, вырабляе такую муку сёння). Камяні млынарскія (жорны) сціраліся ад працы, іх трэба было не толькі “насякаць” але і аднаўляць-нарошчваць. Мой бацка ведаў рацэпт рошчыны, каб камяні служылі доўга. Нарошчаныя зімой (як млын стаяў ў вялікія маразы) камяні спецыялдьна падаграваліся і моц сваю не трацілі. На многа год наперад бацька нарыхтоўваў дубовыя зубы да шасцярон.*

*За польскім часам, зарабіўшы добрыя грошы, бацька купіў 5 гектараў зямлі і пабудаваў вялікую хату на той зямлі каля вёскі Харашкі (на радзіме маёй маці) але землю аддаваў у арэнду, бо заробак на млыне быў вялікі. У час вайны 1941-1944 гадоў немцы загадалі хату перавезці ў мястэчка Моўчадзь, бо хата стаяла каля лесу на аднаселлі. Хату разабралі, але чырвоныя партызаны не далі яе перавезці, і яна загінула.*

*У пачатку вайны у 1939 г. пан Славінскі знік з маёнтка. Арандатары, жалудоцкія габрэі, зніклі пазней, на млын прыйшлі другія людзі: настаўнік з Крупава, а пазней прафесар з Вільні, яны жылі тут да 1944 года. У час вайны прыходзілі партызаны – малолі збожжа. У Ходараўцах былі выбраныя солтысамі Тарас і Кучэйка. У 1944 годзе ім “далі” па 10 год турмы. Вярнуўшыся з турмы яны скора памерлі. Да 1950 года да турбіны падключылі дынаму, яна давала святло на млын, на нашу хату, на вёскі Агароднікі і Дзікушкі! Мой брат Анатоль стаў электрыкам і да адыходу ў армію вечарам уключаў святло, а раніцай адключаў і даглядаў млын і дынаму. Усе фотаздымкі, што я Вам даю, зроблены братам Анатолем. Тады мы купілі радыёпрыймач.*

*Ад 1936 да 1959 года млын працаваў у тры змены амаль – клугласутачна з кароткімі перапынкамі на абслугоўванне – чэргі былі да тыдня часу...”*

З часам у турбіны выявіўся недахоп - адкручвалася ніжняя гайка. 15 траўня 1953 г., калі ў млын стаяла вялікая чарга памольцаў, Максім Канстанцінавіч вырашыў рызыкнуць і падціснуць гайку на турбіне, якая працавала. Яго схапіла за палу, закруціла, перамалола ўсе косткі на нагах.



***Міхальчук М.К. з дачкой Нінай і сынам Анатолем, 1931 г.н. (Здымак 1938-41 гг.)***



***Міхальчук М.К. з жонкай Соф’яй Фёдараўнай і дзецьмі: Анатолем, Аленай і Іраідай***



***Міхальчук М.К. ніжэй моста Беліца-Жалудок, 1950-53 гг.***

*“...У 1959 годзе млын стаў! Пачалі будаваць замест драўлянага бетонны мост на дарозе Беліца-Жалудок праз р. Лебяду. У 1962 годзе мост скончылі будаваць, захавалі плаціну. Стаў пабудавалі шлюзы бетонныя і захавалі млын. Калгас разшырыў і перабудаваў будынак млына у гэты час у калгасах пачалі плаціць за працадзень грашыма, а не збожжам. Пачалі менш малоць, бо збожа, крадзенае ў калгасе, малоць на калгасным млыне – не з рукі. Пайшла дзяржаўная электрычнасць па вёсках на фермах усталявалі машыны для здраблення зерня і сухога і сырога – адпала патрэба вазіць на млын і з млына збожжа. Новыя майстры нарошчваць жорны не ўмелі догляд за млыном, пасля смерці бацькі у 1953 годзе быў слабы, запасныя зубы дубовыя, нарыхтатаваныя бацькам, скончыліся. У магазіны пачалі завозіць хлеб, хоць і горшы за свой, але ўжо гатовы. Зменшылася патрэба ў млынах Старшыня Ходараўскага калгасу Калбыка, разабраў будынак млына і пабудаваў сабе хату. Як ён з’ехаў з калгаса ў доме тым была школа. Мой асабісты лёс склаўся так. У 1943 годзе немцы са Смаленшчыны пачалі прывозіць і рассяляць па школах сялянскія сем’і. Занялі школу ў Скрыбаве, ў Дзікушках. Людзі гэтыя жылі ў школах і хадзілі наймацца на працу да сялян суседніх вёсак – тым і жылі. Працы у сялянскіх гаспадарках хапала. Сям’я Голубевых, бацька і маці, набылі домік у Ходароўцах і жылі ў ім пасля адыходу немцаў і прыходу рускіх. Яны да вайны мелі чатырох сыноў, каторыя былі забраныя на фронт у 1941 годзе. Іван і Цімафей загінулі, а пасля вайны да іх вярнуўся сын Пятро які быў ранены у ногу і страціў на вайне адно вока. У 1946 годзе з Разанскага шпіталю на пратэзе прыехаў Міхаіл. Меў узнагароды – ордэн Славы III ст. ардэн Айчыннай вайны і медалі. У 1948 годзе я выйшла за яго замуж. Да вайны ён быў кінамеханікам, а мой бацька пачаў вучыць яго тэхніцы млынарскай, і стаў зяць таксама майстрам па млынах. Частка млыноў ужо належала да Лідскага прамысловага камбінату. Дырэктар яго быў інвалід вайны і размяркоўваў на працу майстроў. Мой муж Міхаіл Савельевіч працаваў на розных млынах: у Ходароўцах, Раманаўцах, на млыне Вілы на рэчцы Лебядзе, а таксама на млыне Чарток – каля Панямонцаў, на р. Лідзейцы ў млыне Малэйкаўшчына і 2 гады ў Навапруцах.*

*Выгадавалі траіх дзяцей:*

*дачка Зоя – 1949 г.н. – медык;*



**Млын у Ходараўцах, 1963 г.**



***Анатоль Максімавіч Міхальчук***



***Сям’я Голубевых***

*дачка Тамара 1951 г. н. – медык;*

*сын Юра – 1954 г. н. – вайсковыы лётчык – знішчальнік падпалкоўнік па пенсіі ў Расеі.”*

***Запісаў Уладзімір Хрышчановіч.***

**10. Раманаўцы.**

## Вадзяныя млыны на дробных ручаях

**1. Бердаўка** на Ведраўцы.

У 1690 г. млын у Бердаўцы ўжо быў, ён быў і ў 1717. Ім валодаў Мсціслаўскі ваявода Аляксандр Ян Мосевіч (Масевіч).

У 1950-х мельнікам быў Іосіф Рафаілавіч Язевіч 1929 г.н. Ён сам быў з Бакуноў, жонка працавала настаўніцай нямецкай мовы ў Бердаўскай школе. Млын у часы Язевіча быў колавы, аднапастаўны.

*"Млын быў двухузроўневы, стаяў упрытык да дарогі. Падмурак быў каменны. На ніжнім узроўні былі механізмы, зубчастыя перадачы, пасы. Кліны для шасцерняў рабіліся з сушанага грабу. Фурманкі заязджалі па муку проста ў млын, з дарогі спуск ішоў уніз. Мука ссыпалася па жалабах. Тут жа, у кустах крынічка была з пітной вадой. Пры крынічцы дошка ляжала старая дубовая.*

*Другі ўзровень драўляны - па версе бэлькі, на іх сеткі развешваліся, злоўленыя ліні цёмнакарычневыя віселі. Дрэва старое, рукамі адпаліраванае, пылам пакрытае - накшталт нарасту. Мяшкі са збожжам разгружалі на падлогу, вазы спыняліся на дарозе. Дах быў 3 метры над зямлёй. Над жорнамі быў прыёмны драўляны бункер, у ім акенца было прарэзана. У бункер засыпалі адразу 5-7 мяшкоў. Бацька кленчыў і высыпаў. Акенца зачынялася знутры. Падчас памолу бацька глядзеў у акенца - ці ўсё збожжа перамалолася, калі трэба было - падсыпаў.*

*Жорны былі акаваныя жалезам, у выпадку неабходнасці падымаліся адмысловай прынадай, за вяроўку выцягваліся і адводзіліся ў бок. Бацька быў працавіты, насечкі ў камені рабіў сам. Муку малолі добрай якасці, аладкавую. Прыязджалі з усёй акругі. Млын разабралі ў 1980 г." (Па аповядзе Язевіча Віктара Іосіфавіча.)*

На карце 1926 года ў Бердаўцы паказаны два млыны.

**2. Дзікушкі.**

Захаваліся падмуркі млына з валуноў 1,5 м таўшчыні .

**3. Дзітрыкі.**

Пры абшарніках Карыцкіх тут былі млын і стаў.

**4. Дуброўня** на Нарве.

У 1717 г. у Дуброўні быў млын, уладальнікам лічыўся віленскі біскуп Канстанцін Пржастоўскі.

**5. Жырмуны.**

**6. Істакі.**

На маленечкім раўчуку без назвы былі два млыны. Млыны былі драўляныя двухпавярховыя колавыя з верхнім боем. Пабудаваў іх мясцовы абшарнік. Пасля таго як абшарнік спрадаў землі сялянам млыны перайшлі ў грамадскае карыстанне. Землеўладальнікі наймалі на сезон мельніка, сяліўся ён з сям'ёй у асобнай хаце ля першага млына. Калі сканчалася вада ў верхнім вадасховішчы, пераходзіў на ніжні млын. Бывала, што ў працы былі абодва млыны. Істоцкія сяляне малолі без аплаты, прыезджыя аддавалі 10 % збожжа, можна было разлічыцца і грашыма. За гадзіну на млыне перамолвалася 3 -4 мяшкі збожжа. Пры кожным з млыноў было па два запасныя камені. Мельнік набіваў на іх баразёнкі. Ніхто з памольцаў не хацеў малоць адразу пасля набівання. Калі ўсё ж прыходзілася малоць, то першыя порцыі малолі буйна для свіней. Млыны пры Істаках функцыянавалі да з'яўлення калгасаў. *(Са слоў М.М. Дзікевіча.)*



***Стаў верхняга млына ў Істаках***



***Рэшткі паляў верхняга млына ў Істаках. Здымкі С. Судніка. 2009 г.***

На сёння ад верхняга млына засталіся стаў і рэшткі паляў. Па словах мясцовых жыхароў яшчэ нядаўна тут валяліся камяні жорнаў, а ад ніжняга млына не засталося нічога, зааралі.

**7. Рэксці.**

Млын належаў абшарніку Сікорскаму, дзейнічаў у пачатку XX стагоддзя. Да млына былі прыпісаныя 5 жыхароў: 3 мужчыны і 2 жанчыны *(Гашкевіч, с. 195)*.

**8.** Некалькі кіламетраў **ніжэй Рэксцяў**.

**9. Стокі.**

У 1930-я гады быў невялікі млын малой магутнасці.

**10. Чарток** на Смолачы. (Чарток паміж Зблянамі і Панямонцамі).

Быў млын у першай палове 20 ст. Мельнікам быў Сарока. *"Там вазы вечна стаялі"*.

**11. Шаўдзюкі.**

Каля Шаўдзюкоў на прытоку Няшкрупы ў 1930-х гадах былі два вадзяныя млыны, абодва належалі ўладальніку маёнтка Жырмуны былому афіцэру расейскага войска Ельскаму. *"Ельскі Ўладзіслаў - расійскі афіцэр з бародкай, хадзіў у ваеннай форме, з шабляй. Меў 300 гектараў лесу, 90 кароў, 18 работнікаў, кухарку, лясн*і*чага, два вадзяныя млыны каля Шаўдзюкоў"*.

## Млыны на Нёмане

Думаю, што нёманскія млыны былі наплаўнымі. Яны размяшчаліся ў рэчышчы на палях альбо на пароме (ладдзі, скрыні). Іх механізмы прыводзіліся ў рух натуральнай плынню.

**1. Беліца.**

У 1690 г. князёўна нейбургская Людвіка Караліна Радзівіл (1667-1695) валодала Беліцай з фальваркамі, млынамі, корчмамі, жыдамі, папом зблянскім. *(Metryka Litewska. Rejestry podymnego WKL. Wojewodstwo Wilenskie.1690 rok).*

У 1760 г.у Беліцы на 225 двароў працавалі тры мукамольных млыны, адзін з іх быў пабудаваны ў 1758 г. па распараджэнні Караля Радзівіла *(Казлоўскі П.Г. Магнацкая гаспадарка Беларусі ў другой палове 18 ст., Мінск,1974.)*

**2. Вашкевічы.**

У 1848 г. у маёнтку Вашкевічы, які належаў Петранелі Ленскай, быў вадзяны млын, які даваў за год 200 рублёў прыбытку.

**3. Дакудава.**

У 1780 г. у Дакудаве былі два мукамольныя млыны, валюшня. Праз 100 гадоў, у пачатку 1880-х у Дакудаве - адзін вадзяны млын. *(Памяць, Ліда і Лідскі раён. Мінск. 2004. з.538.)*

Месцазнаходжанне млыноў у Дакудаве дакладна невядома. Магчыма адзін з іх або абодва былі не на Нёмане, а на Нарве, якая тут упадае ў Нёман.

**4. Збляны.**

Млын быў у 1627 г. *(ЭГБ. Т.3. Ст. 428.)*

**5. Сялец.**

Да Другой Сусветнай вайны тут быў млын.

Такім чынам, у межах Лідскага раёна на працягу 17-20 стагоддзяў дзейнічалі больш за 50 млыноў, 10 з іх на р. Лідзейцы. Лічу, што іх было значна больш. Разумею, што прыведзеныя матэрыялы носяць выпадковы характар, публікую іх з мэтай зацікавіць жыхароў прымлынавых абшараў для дэталёвых даследаванняў.

Млыны служылі цэнтрамі зносін сялян, тут адбываўся абмен навінамі, досведам і дасягненнямі. Тут працавалі людзі, якія падняліся над агульным адсталым кансерватыўным укладам сельскага жыцця.

Самі млыны з шумам і ровам вады, мільганнем колаў былі цудам.

Уменне мельніка спраўляцца са стыхіяй бурнай ракі выклікала павагу ў сялян. Лічылася, што мельніку дапамагаюць нейкія таемныя сілы. Адгэтуль і велізарная колькасць павер'яў і "забабонаў" пра млыны, мельнікаў, вадзянікоў, віры і пра незвычайна буйныя ўловы. У савецкі час таемныя сілы адступіліся ад мельнікаў - іх пачалі забіваць, арыштоўваць, саджаць у лагеры. У гады вайны - з-за мукі, пасля вайны - з-за млыноў. Сяляне, а разам з імі і мельнікі, у сілу перамогі камуністычных ідэй, страцілі права на сродкі вытворчасці - на млыны, на крупадзёркі, на малатарні. . .

**Першакрыніцы:**


Бродель Ф. Материальная цивилизация, экономика и капитализм, XV-XVIII вв. Глава 3. Водяные двигатели, ветряные двигатели в XI, XII и XIII вв. М. 2006.

Витрувий. 10 книг об архитектуре. М. 1936. Кн. 10. гл. 5.

Гошкевич И.И. Виленская губерния. Полный список населенных мест... Вильна, 1905. С. 185-214.

Зверуго Я.Г. Сельскохозяйственные и промысловые орудия из раскопок Волковыска. Древности Белоруссии. Минск. 1969. С. 386.

Инвентари магнатских владений Белоруссии 17-18 вв. Владение Сморгонь. 1977. С. 18, 188.

Козловский П.Г. Магнатское хозяйство Белоруссии во второй половине 18 в. Минск, 1974.

Кудла В., Суднік С. Дворышча. Лідскі летапісец, № 3(35), 2006 г., с. 57-59.

Памяць, Ліда і Лідскі раён. Мінск. 2004. С. 538

Рыжов К.В. 100 великих изобретений. М. Вече. 2007. С. 24

Саук Антон. Водяные мельницы Лидчины.// Лидский экспресс. 2001. № 10-28.

Суднік С. Адзін млын на вайне. Лідскі летапісец, № 1-2 (29-30), 2005 г., с. 23-26.

Техника в ее историческом развитии. М.1979, с. 98.

Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. Т. 3. С. 428.

Яхантава В. Там, дзе ціха плешча Лідзейка, або Новае жыццё старога млына.//Лідская газета. 2008. 13 лістапада

Kordasz Jozef. Lida prawdziwa. Olsztyn. 1997.

Kurkowski J. Pijarzy w Werenowe i Lidzie. // Z dziejow ziemi lidzkiej. Warszawa. 1997. s. 77.

Metryka Litewska. Rejestry podymnego WKL. Wojewodstwo Wilenskie. 1690 rok.

Занальны дзяржаўны архіў у г. Лідзе. (ЗГА ў Лідзе) Ф. 604, воп. 1а, спр. 2, арк. 27, 29, 40.

Нацыянальны дзяржаўны гістарычны архіў у Гародні (НДГА ў Гародні). Ф. 1, воп. 10, спр. 1591, арк. 26-28.

НДГА ў Гародні. Ф.13, воп.2, спр. 23б, арк.3.

НДГА ў Гародні. Ф.1571, воп. 2, спр. 9.

***Анастасія Каладзяжная***

# РЭКВІЕМ 56-й СТРАЛКОВАЙ ДЫВІЗІІ

Пачатковы перыяд Вялікай Айчыннай вайны хавае ў сабе мноства таямніц. Матэрыялаў і дакументальных сведчанняў аб баявых дзеяннях войскаў Заходняга фронту ў пачатковы перыяд Вялікай Айчыннай вайны ў архівах Беларусі і Расіі захавалася мала. Часткова гэта тлумачыцца тым, што ў Чырвонай Арміі існавала цвёрдае правіла: акружаныя ворагам часткі і злучэнні павінны ў абавязковым парадку знішчаць свае штабныя дакументы, каб яны не патрапілі ў рукі супраціўніка. Загад выконваўся і … дакументы знішчаліся. У выніку засталіся невядомымі вычыны і лёсы многіх байцоў і камандзіраў.

Жыццёвыя шляхі многіх байцоў і камандзіраў 56-й стралковай дывізіі вайна звязала з Лідчынай. Кіраванне дывізіі, стралковы полк і іншыя падраздзяленні напярэдадні вайны дыслакаваліся на Лідчыне, затым выступілі на пярэднюю мяжу абароны. Пад ударамі гітлераўцаў адыходзілі ад мяжы праз Лідчыну. Тут гінулі і траплялі ў палон, праходзілі праз нечалавечыя пакуты канцлагераў у Лідскім замку і ў Паўночным гарадку, станавіліся партызанамі.

Сыходзяць з жыцця ветэраны. Але застаюцца іх успаміны. Безумоўна, у кожным успаміне прысутнічаюць элементы суб’ектывізму. Не ўсё захавалася ў памяці ўдзельнікаў першых баёў. Многія ўспаміны леглі на паперу не адразу пасля тых страшных падзей, а праз гады. Уклад у “белыя плямы” унеслі хваробы - наступствы раненняў і кантузій, цяжкіх франтавых гадоў. Дзякуючы ўспамінам непасрэдных удзельнікаў тых далёкіх падзей нараджаецца гісторыя 56-й стралковай дывізіі, раскрываюцца невядомыя вычыны.

### Гісторыя стварэння і баявы шлях 56-й сд

56-я стралковая дывізія сфармаваная пад Ноўгарадам загадам РВС 7-й арміі 20 лістапада 1919 г. пад назвай “2-я зводная стралковая дывізія”, праз дзень, 21 лістапада, пераназваная ў 56-ю. 13 снежня 1920 года дывізіі прысвоена назва 56-я “Маскоўская”, у 1928 г. узнагароджана Ганаровым рэвалюцыйным Чырвоным Сцягам.

З моманту стварэння ні адна агульнадзяржаўная і мясцовая кампанія не праходзіла без удзелу 56-й Маскоўскай стралковай дывізіі. Гэта: дапамога галадаючым, вынятка царкоўных каштоўнасцяў, абарона Петраграда ад націску войскаў Юдзеніча, баі з белаэстонцамі, нарыхтоўка дроў для прамысловага Петраграда, удзел у польска-савецкай вайне, у тым ліку і ў баях пад Лідай у верасні 1920 г., абарона Карэліі ад белафінаў узімку 1921. Увесну 1921 г. часткі дывізіі ўдзельнічалі ў задушэнні кранштадцкага рокашу. Асобныя часткі дывізіі ўдзельнічалі ў 1921 г. у задушэнні сялянскага паўстання ў Тамбоўскай губерні, у баях супраць аддзелаў эсэра Антонава на Тамбоўшчыне, а ў 1922 г. супраць банд у Наўгародскай губерні, у барацьбе з басмацтвам у Бухары. З 1923 па 1936 гады дывізія знаходзілася на тэрытарыяльным прынцыпе камплектавання ў г. Порхаў Пскоўскай вобласці, у 1936 г. пераведзеная на кадравае камплектаванне. 56-я дывізія ўдзельнічала ў савецка-фінляндскай вайне. *(http://rkka.ru/handbook/reg/56sd1119.htm).*

### Становішча на мяжы напярэдадні вайны

Пасля вераснёвых падзей 1939 года змянілася канфігурацыя заходняй часткі дзяржаўнай мяжы СССР. Утварыліся два магутныя выступы ў бок Нямеччыны: у раёне Львова і Беластока. Адпаведна, і германская мяжа мела два магутныя выступы ў савецкую тэрыторыю: у раёне Любліна і Сувалкаў. Сувалкінскі выступ меў важнае тактычнае значэнне. Тут у выпадку нападу праціўнік мог выйсці найкароткім шляхам (8-10 км) да Нёмана, а затым уздоўж яго заходняга берага




***Беласточчына ў складзе БССР у 1939 г. (Беластоцкі выступ)***




***БССР у 1940 годзе.***

- да Гародні (20 км), у тыл асноўным сілам войскаў 3-й арміі.

З ліпеня 1940 года Нямеччына пачала засяроджваць свае войскі на тэрыторыях, блізкіх да межаў СССР, а з лютага 1941 года нямецкія войскі пачалі засяроджвацца непасрэдна каля савецкай заходняй мяжы. У гэтых умовах савецкае палітычнае і вайсковае камандаванне пачало засяроджваць каля заходняй мяжы і свае войскі. Так, у траўні 1941 г. з Уральскай вайсковай акругі пачалі высоўвацца на захад 22-я армія, з Забайкальскай - 16-я, з Паўночна-Каўказскай - 19-я, з Прыволжскай акругі - 21-я армія. Падрыхтоўваліся да перадыслакацыі на захад 20-я, 24-я і 28-я арміі. *(«Начальный период войны. По опыту первых кампаний и операций второй мировой войны». М., Воениздат, 1974, стр.211).* У чэрвені 1941 г. пачаў высоўвацца ў раён Ліды з Віцебска-Полацка-Лепеля 21-шы стралковы корпус. У летнія лагеры бліжэй да мяжы перадыслакаваны тры палкі 11-й змешанай авіяцыйнай дывізіі.

Падцягваліся да заходняй мяжы, бліжэй да войскаў, і матэрыяльна-тэхнічныя сродкі. Склады, якія знаходзіліся на тэрыторыі ўнутраных вайсковых акруг з мабілізацыйнымі запасамі ўзбраення, маёмасці, боепрыпасаў, былі перадыслакаваны ў памежныя вайсковыя акругі і размяшчаліся недалёка ад мяжы. Так, у Гародні ў чэрвені 1941 г. знаходзілася 6 вайсковых складоў: акруговы артылерыйскі склад № 856, галоўны артылерыйскі склад № 1498, акруговы склад паліва № 919, галоўны склад паліва № 1020, акруговы харчовы склад № 817, галоўны харчовы склад № 1241.

Заходнюю мяжу СССР на працягу 450 км прыкрывалі войскі Заходняй асобай вайсковай акругі. На правым крыле войскаў акругі размяшчалася 3-я армія. У першым эшалоне арміі знахадзіўся 4-ты стралковы корпус, у які ўваходзілі 85-я (дыслакавалася ў раёне Гародні) , 27-я (дыслакавалася ў раёне Аўгустова) і 56-я (дыслакавалася ў раёне Сапоцкіна) стралковыя дывізіі.

Што сабой уяўляе стралковая дывізія? Па штаце 1941 г. стралковая дывізія складалася з трох стралковых і двух артылерыйскіх палкоў, супрацьтанкавага і зенітна-артылерыйскага дывізіёнаў, сапёрнага батальёна і батальёна сувязі, падраздзяленняў забеспячэння і абслугоўвання. Гэта: 14438 салдат і афіцэраў, сотні гармат і мінамётаў, 558 аўтамабіляў, бронеаўтамабілі і г.д.

Да чэрвеня 1941 г. штаб 56-й стралковай дывізіі дыслакаваўся ў Лідзе ў Паўночным гарадку. Камандзір генерал-маёр Еўсцігнееў, з 12 чэрвеня - С.П. Сахноў, нам.па п/частцы палкавы камісар С.Я. Кавальскі. У склад дывізіі напярэдадні вайны ўваходзілі стралковыя палкі: 37-мы полк дыслакаваўся ў раёне Ражанкі, 184-ты дыслакаваўся ў Лідзе і 213-ты знаходзіўся ў раёне Іўе-Ліпнішкі; 113-ты артылерыйскі і 247-мы гаўбічны артылерыйскі палкі, 277-мы асобны зенітны




артылерыйскі дывізіён, 38-мы выведвальны батальён, 79-ты сапёрны батальён, 22-гі асобны батальён сувязі, 107-мы медыка-санітарны батальён, 131-я асобная рота хімічнай абароны, 50-ты аўтатранспартны батальён, 73-я палявая пякарня,188-я палявая паштовая станцыя, 191-я палявая каса Дзяржбанка. *(http://ru.wikipedia.org/wiki/56).*

У траўні 1941 г. часткі дывізіі з месцаў дыслакацыі высунуты да мяжы і раззасяроджаны ў Сувалкінскім выступе ў непасрэднай блізкасці ад варожых войскаў, на сутыку двух франтоў - Заходняга і Паўночна-Заходняга, і прыкрывалі дзяржаўную мяжу на працягу 50 км. Так, 213 сп, які раней дыслакаваўся ў Іўі-Ліпнішках, 18-19 снежня 1940 г. быў перадыслакаваны ў Гародню, а з 8 траўня 1941 года выведзены непасрэдна да мяжы ў летнія лагеры ў м. Сапоцкіна. 184-ты стралковы полк, які стаяў у Лідзе ў Паўночным гарадку, 7 траўня 1941 года выведзены на мяжу ў летні лагер в. Гожа. У траўні 1941г. 247 гаўбічна-артылерыйскі полк з Мікелеўшчыны (7 км ад м. Ражанка) перамешчаны пад м. Сапоцкіна. Штаб 56-й стралковай дывізіі, які знаходзіўся ў Лідзе, за тыдзень да вайны перамясціўся бліжэй да частак, у Гародню, а ў ноч перад нямецкім уварваннем - у м. Свяцк-Велькі. У Лідзе заставаліся інтэнданцтва, архіў, камендатура, сем'і начскладу.

Як была ўкамплектаваная 56-я сд асабовым складам? Архіўныя крыніцы адсутнічаюць. Але агульнапрынятым лічыцца, што стралковыя дывізіі напярэдадні вайны мелі вялікі недакамплект асабовага складу. Так, І. Басюк сцвярджае, што "недакамплект шараговага і сяржанцкага складу ў ЗАВА па штатах ваеннага часу складаў 6-7 тыс. чалавек на дывізію. *(И. Басюк. Начальный период Великой Отечествен-ной войны на территории Белоруссии. Гродно, 2003, ст.115).* К.Н. Галіцкі, камандзір 24-й сд, сцвярджае, што яго, 24-я сд дывізія, якая знаходзілася ў вайсковым рэзерве ЗАВА, была элітнай і налічала 12 тыс. чалавек асабовага складу. *(К.Н.Галицкий. Годы суровых испытаний 1941-1945. М., «Наука», 1973, стр.18).* Можна выказаць здагадку, што і 56-я, і 27-я, і 85-я стралковыя дывізіі, якія знаходзіліся ў першым стратэгічным эшалоне, былі ўкамплектаваныя не горш за 24 сд. У сваіх успамінах ветэраны 213-га сп ні словы не гавораць пра недакамплект. Ва ўсякім разе, афіцэрскім складам палкі былі ўкамплектаваныя. Вядома, што лейтэнант Панчанкаў В.І. быў на пасадзе камандзіра звяза ў 213 сп.

Высунутыя да мяжы часткі дывізіі вайна заспела ў раскіданым стане, палкі дывізіі знаходзіліся ў намётавых лагерах у трох месцах.

Так, 213-ты полк дыслакаваўся ў раёне м. Сапоцкіна. Першы і трэці батальёны палка знаходзіліся на паўднёвым беразе Аўгустоўскага канала ля х. Тартак і в. Навасёлкі за тры км ад дзяржаўнай мяжы. Тут жа знаходзіўся штаб і вучэбная рота палка. Другі батальён палка быў задзейнічаны на будаўніцтве супрацьтанкавага рова і ДЗОТ-аў ля вёсак Галавенчы-

цы і Кадыш на поўдзеньад вастрыя Сувалкінскага выступу дзяржмяжы.

184-ты стр.полк (штаб, другі і трэці батальёны) дыслакаваўся на ўсходнім беразе р. Нёман ля в. Гожа. Першы батальён гэтага палка таксама быў задзейнічаны на будаўніцтве Гарадзенскага абароннага ўмацавання і размяшчаўся крыху на захад ад 2-га батальёна 213-га сп на паралельнай грунтавой дарозе м. Сапоцкіна - в. Калеты.

37-мы стралковы полк размяшчаўся ў трох месцах: штаб палка і палкавая школа знаходзіліся ў Новым Двары (за 18 км ад дзяржаўнай мяжы), два батальёны - у Дамброве, адзін батальён палка знаходзіўся ля самой мяжы ў Замброве на будаўніцтве ўмацаванага раёна.

113-ты артылерыйскі полк - пад Гародняй.

247-мы гаўбічна-артылерыйскі полк размяшчаўся ў м. Свяцк-Велькі ў старадаўнім парку маёнтка побач з камандным пунктам дывізіі за 22 км на паўночны захад ад Гародні, за 7 км ад мяжы.

Са сказанага відаць, што падраздзяленні 56-й стралковай дывізіі былі раззасяроджаны ў непасрэднай блізкасці (3-7 км) ад варожых войскаў. Што значыць адлегласць у 3-7 км падчас ваенных дзеянняў? На гэтае пытанне адказвае непасрэдны ўдзельнік тых трагічных падзей Б.М.Максіменка - камандзір мінамёта 1-га стралковага звяза вучэбнай роты 213-га стр. палка: *"У 3 гадзіны 45 хвілін 22 чэрвеня 1941 года раздаліся артылерыйскія залпы і выбухі бомб, а над нашым лагерам пачалі пралятаць нямецкія гарматныя снарады. Адзін з снарадаў патрапіў у 3-ці справа ад нас намёт. Прычуліся крыкі і стогны…". (http://www.soldat.ru/memories/maksimenko/.*

Побач з размешчанымі ля Аўгустоўскага канала часткамі 56-й сд знаходзіўся 9-ты артылерыйска-кулямётны батальён 68-га Гарадзенскага ўмацаванага раёна.

Для чаго савецкае камандаванне падцягвала войскі да заходняй мяжы і пры гэтым спрабавала не спалохаць Гітлера, не даць яму нагоды для пачатку вайны? Паводле савецкай ваеннай дактрыны праціўнік у кароткі час павінен быў быць разбіты ў памежнай паласе. А затым баявыя дзеянні пераносяцца на тэрыторыю праціўніка. Савецкая ваенная дактрына катэгарычна не дапускала становішча, пры якім баявыя дзеянні могуць працяглы час весціся на савецкай тэрыторыі, тым больш у яе глыбіне. *"Сучасныя ваенныя гісторыкі адзначаюць, што перадваенная групоўка войскаў ЗАВА больш падыходзіла для наступу, чым для абароны, хоць аператыўныя дакументы Наркамата абароны, Генеральнага штаба і штаба ЗАВА наступальных задач перад ёй не ставілі. План прыкрыцця мяжы прадугледжваў адбіццё першага ўдару праціўніка і пераход войскаў акругі ў наступленне з пераносам баявых дзеянняў на яго тэрыторыю. Варыянты магчымага адступлення войскаў не прадугледжваліся". (И. Басюк. Начальный период Великой Отечественной войны на территории Белоруссии. Гродно, 2003, ст.112).*

Войска, якое гатова абараніць сваю краіну, высунула свае галоўныя сілы да мяжы? З абароннага пункта погляду засяроджванне ля самой мяжы магутнай групоўкі войскаў - смяротная рызыка: войска з усімі запасамі можа быць акружана праціўнікам і знішчана.

**ВАЙНА**

Становішча на мяжы ў той момант было прадметам трывог і пільнай увагі ўраду і вайсковага камандавання. Звесткі аб падрыхтоўцы фашысцкай Нямеччыны да вайны паступалі з розных крыніц, называліся даты пачатку ўварвання.

21 чэрвеня, калі паступілі неабвержныя дадзеныя, што 22-23 чэрвеня нямецкае войска нападзе на нашу краіну, савецкі ўрад вырашыў папярэдзіць камандаванне прымежных вайсковых акруг аб пагражальнай небяспецы. У палове першага ночы 22 чэрвеня ў прымежныя акругі была перададзеная Дырэктыва №1 аб прывядзенні ў баявую гатоўнасць сухапутных і вайскова-паветраных сіл заходніх прымежных вайсковых акруг. *(История Великой Отечественной войны Советского Союза 1941-1945. М., 1960, т.2, стр.11).*

Дырэктыва папярэджвала аб магчымым 22-23 чэрвеня нападзе праціўніка. Камандуючыя прымежных вайсковых акруг атрымалі ўказанне за ноч 22 чэрвеня таемна заняць агнявыя пункты ўмацаваных раёнаў, войскі прывесці ў баявую гатоўнасць, авіяцыю разасяродзіць па баявых аэрадромах, падрыхтаваць зацямненне гарадоў і важных аб'ектаў. К.Н. Галіцкі - камандзір 24-й стралковай дывізіі, сцвярджае, што каля 2-х гадзін 22 чэрвеня камандуючы 3-й арміі У.І. Кузняцоў атрымаў ад камандуючага фронту загад падняць войскі па баявой трывозе, часткам умацаванага раёна неадкладна заняць даўгачасныя агнявыя пункты і прывесці іх у поўную баявую гатоўнасць. *(К.Н. Галицкий. Годы суровых испытаний 1941-1945, стр.35).*

Ці здолеў камандарм 3-й арміі Ў.І. Кузняцоў перадаць дырэктыву сваім злучэнням, у тым ліку 56-й стралковай дывізіі? Паводле ўспамінаў байцоў камандзір 56-й стралковай дывізіі такога загаду не атрымаў. Войскі дывізіі выходзілі па трывозе пад агнём фашысцкіх войскаў і авіяцыі.

Вайна заспела войскі 3-й арміі непадрыхтаванымі да вайны. Мерапрыемствы па ўмацаванні мяжы і ўзмацненні боегатоўнасці войскаў не былі завершаныя. Нягледзячы на тое, што вайна наспявала, і войскі да яе бесперапынна рыхтаваліся, наступленне нямецкіх войскаў аказалася раптоўным. Артылерыйскі агонь і авіяцыйныя ўдары, а таксама дзеянні дыверсійных груп парушылі праваднуб сувязь, якая з'яўлялася тады асноўнай, паміж дывізіямі і штабам арміі, а таксама паміж дывізіямі і штабам фронту.

Наступленне нямецкіх войскаў у Беларусі планавалася германскім штабам наступным чынам. 3-я танкавая група разам з войскамі 9-й арміі прарываюць савецкую абарону на паўночны ўсход ад Сувалкаў і, наступаючы праз Вільню, выходзяць на Менск. 9-я армія часткай сваіх сіл павінна наступаць

услед за 3-й танкавай групай для замацавання занятых беларускіх тэрыторый. Астатнімі сіламі 9-я армія павінна наступаць у кірунку Гародні з мэтай раз'яднання і знішчэнні акружаных савецкіх войскаў.

Адначасова 3-я танкавая група павінна была нанесці ўдар на Беласток, і пры падтрымцы 9-й арміі зрэзаць беластоцкі выступ. 2-я танкавая група разам з пяхотай павінны прарваць умацаваную мяжу ў раёне Берасця і наступаць у кірунку Баранавічы-Менск, каб у раёне Менска злучыцца з 3-й танкавай групай.

Нямецкая 161-я пяхотная дывізія 8-га корпуса выцяла ў сутык савецкіх 3-й і 11-й армій і, амаль не сустракаючы супраціву, выйшла да Нёмана ў раёне Друскенікі. З фронту супраць савецкай 56-й дывізіі дзейнічалі 28-я лёгкая пяхотная і 8-я пяхотная дывізіі. На поўнач ад Гародні праціўнік навёў пантонныя пераправы цераз Нёман ля в. Гожа і Грандзічы і прасунуўся на Азёры. На шляху да Гародні нямецкія войскі наткнуліся на супраціў недабудаваных вузлоў абароны Гарадзенскага УРа, але абыйшлі ўмацаванні і занялі Ліпск і Сопоцкіна.

**Штаб 56-й стралковай дывізіі ў пачатку вайны**

Мы ведаем, што штаб 56-й стралковай дывізіі ў ноч на 22 чэрвеня перамясціўся на камандны пункт дывізіі ў м. Свяцк - Велькі, размешчаны за 22 км на паўночны захад ад Гародні, за 7 км ад мяжы. Камандзірам дывізіі 12 чэрвеня 1941 г. прызначаны генерал-маёр **Сахноў Сямён Паўлавіч**.

У першыя гадзіны вайны штаб у Свяцку падвергнуўся артылерыйскаму абстрэлу, з'явіліся нямецкія матацыклісты. Адкуль? Магчыма - з вастрыя Сувалкінскага выступу па не замінаванаму масту цераз Аўгустоўскі канал вышлі да Свяцка. Можна выказаць здагадку, што быў скінуты нямецкі дэсант для знішчэння 247-га гаўбічнага артылерыйскага палка. Хоць у немцаў усюды былі вочы і вушы, але яны маглі і не ведаць, што штаб дывізіі ў ноч на 22 чэрвеня перадыслакаваны ў Свяцк.

Успамінае Дайнега М.А. - мал. палітрук, сакратар палітаддзела дывізіі: *"...Увечар 21 чэрвеня штаб дывізіі выехаў на камандны пункт у маёнтак Свяцк. Камісар Кавальскі ўзяў з сабой і мяне. Астатнія работнікі палітаддзела павінны былі прыбыць туды ў панядзелак. У Свяцк мы прыехалі а дванаццатай гадзіне ночы. Пакуль размясціліся, наступіла ўжо 22 чэрвеня. З акна пакоя, адведзенага для палітаддзелаўцаў, бачны быў летні намётавы лагер гаўбічнага палка дывізіі, які размясціўся ў старадаўнім парку маёнтка. Запомнілася, што лагер быў добра асветлены. Віднеліся выразныя лініі намётаў, пасыпаныя пяском і абкладзеныя пабеленай цэглай дарожкі. Ва ўсім быў узорны парадак...*

*Прачнуўся я ад грукату снарадных разрываў, упаўшых на мяне кавалкаў аконнай рамы, аскепкаў шкла, камякоў зямлі. Ускочыў, зірнуў у акно: па ўсім лагеры водліскі разрываў, слупы дыму і пылу, абрыўкі намётаў, галіны дрэў. Кінуўся на другі паверх да камісара. Ён і камдзіў спешна апраналіся ў сваім*



***Камандзір 56 стралковай ддывізіі генерал-маёр Сахноў Сямён Паўлавіч***

*пакоі. Спыталі мяне, што адбываецца. Я даклаў, што бачыў, і мы пабеглі ў калідор. Артабстрэл ужо спыніўся. Ён доўжыўся не больш за пяць хвілін, але іх хапіла, каб знішчыць лагер гаўбічнага палка. Ніхто не ведае, колькі там загінула людзей...*

*У раёне маёнтка было ціха, але з боку мяжы даносіўся гул артылерыйскай падрыхтоўкі. Камандзіру дывізіі падалі браневічок, і ён паехаў. Неўзабаве на такім жа браневічку паехаў і камісар Кавальскі, які загадаў мне дабірацца да Гародні і арганізаваць адпраўку ў Менск, у палітупраўленне акругі, партыйных дакументаў." (В июне 1941. Кн.1-я, Гродно, 1997, стр. 83-86).*

Куды паехалі камдзіў Сахноў С.П. і камісар Кавальскі? Хацелася б выказаць здагадку, што, не маючы сувязі і не ведаючы, што гэта першыя залпы вайны, яны, кожны сам па сабе, самастойна, без удзелу афіцэраў штаба вырашылі праясніць становішча. Куды ехаць? Як адзін з варыянтаў - бліжэй да сваіх войскаў, 213-ты сп недалёка, пад Сапоцкіна. Але ва ўспамінах байцоў і камандзіраў 213-га і іншых падраздзяленняў дывізіі няма згадак пра іх прыбыццё ў размяшчэнне войскаў, у 213-м сп іх не было. Застаецца варыянт - Гародня, штаб арміі, да якога ад Свяцка 22 км.

Далей успамінае Дайнега М.А.: *"Я выйшаў на брукаваную каменем шашу, якая вяла ў Гародню. Першая машына не спынілася. Але калі яна потым паднялася на пагорак, прыкладна за кіламетр далей, па шашы пачалі рваццa снарады, і машына загарэлася. Такая ж доля спасцігла і наступную машыну, якая прамчалася міма мяне. Пагражаючы зброяй, ўдалося спыніць трэцюю машыну. Гэта была загру-*

*жаная параненымі паўтаратонка. Прыйшлося ўладкоўвацца на падножцы кабіны. Па шашы мы не паехалі, а звярнулі направа на палявую дарогу. Але і гэты шлях не быў бяспечным. Добры дзесятак раз прыйшлося спыняць машыну і выскокваць з яе, каб схавацца ад бомб і куль фашысцкіх сцярвятнікаў, якія ўвесь час рыскалі ў паветры. Да штаба дывізіі ў Гародню я дабраўся а дванаццатай гадзіне дня. Роспытам не было канца. Ніякай інфармацыі пра дзеянні частак дывізіі не было, бо сувязь са Свяцкам адсутнічала". (Там жа.)*

Як відаць з успаміну Дайнегі М.А., і ў Гародні ні камдзіва, ні камісара не было.

У першыя гадзіны вайны быў цяжка паранены начальнік штаба дывізіі палкоўнік І. Кавашук. Па ўспамінах Дайнегі М.А. *"Кавашук быў узорам для ўсіх. Камлюкаваты, сярэдняга росту, заўсёды падцягнуты, бадзёры. Вайсковая форма, акуратна адпрасаваная, ляжала на ім хораша. Многія любаваліся яго выглядам і статнай хадой. У абыходжанні быў просты, аднолькава таварыскі, як з афіцэрамі, так і з салдатамі. Патрабавальны да сабе і да падначаленых... Ковашук быў паранены і некаторы час знаходзіўся ў памяшканні штаба, што было небяспечна… Дагэтуль невядома, хто знаходзіўся каля параненага начальніка штаба, хто займаўся яго перапраўкай на другі бераг. Ходзяць здагадкі, што палкоўнік загінуў падчас пераправы…". (В июне 1941. Кн.2-я, Гродно, 1999, стр. 23).*

Як тлумачыць свае дзеянні і дзеянні штаба, які па штатах красавіка 1941 года меў 70 чалавек, камандзір дывізіі генерал-маёр Сахноў Сямён Паўлавіч?

З выпіскі з асабістай справы генерал-маёра Сахнова С.П.: *"... 21 чэрвеня 1941 г. у 15.00 я быў выкліканы ў штаб арміі камандуючым 3-й арміі генерал-лейтэнантам Кузняцовым У.І., дзе атрымаў загад да 22.00 гадзін 21 чэрвеня са штабам дывізіі выехаць на камандны пункт у маёнтак Свяцк-Велькі. Са штабам дывізіі прыкладна ў 1.00 гадзін 22 чэрвеня я прыбыў на КП.*

*У 4.00 22 чэрвеня нямецка-фашысцкія войскі перайшлі ў наступленне. Паколькі часткі дывізіі былі раскіданыя на фронце звыш 50 км, і сувязі з часткамі штаб дывізіі не меў, то ў першы дзень бою, г.зн. 22 чэрвеня, штаб дывізіі па сутнасці не кіраваў падпарадкаванымі часткамі.*

*Да 6.00 нямецкія войскі падышлі да каманднага пункта дывізіі, і я быў змушаны перанесці яго ў тыл прыкладна на 6-8 км. Да 13-14.00 гадзін 22 чэрвеня нямецка-фашысцкія часткі правей і лявей размяшчэння КП прайшлі далёка ў тыл нашых частак і выйшлі на р. Нёман. Такім чынам, камандны пункт штаба дывізіі, на якім разам са мной знаходзіліся намеснік па палітычнай частцы палкоўнік Кавальскі С.А. , начальнік штаба дывізіі палкоўнік Кавашук І.Н., начальнік артылерыі дывізіі палкоўнік Пратасеня, пракурор дывізіі, начальнік асобага аддзелу, некалькіх афіцэраў штаба і чырвонаармейцы каменданцкага звяза (усяго на КП было да 30 чалавек) аказаўся ў тыле праціўніка". (ЛГММ, фонд "Сахноў С.П.").*

Па Сахнову С.П., сувязі з часткамі штаб дывізіі не меў. Паколькі сувязі не было, то і Дырэктыву аб прывядзенні ў баявую гатоўнасць падраздзяленняў дывізіі камдзіў Сахноў С.П. не атрымаў. Ваенныя падзеі для 56-й стралковай дывізіі былі поўнай нечаканасцю. Байцы займалі свае пазіцыі пад агнём праціўніка.

Успамінае С.П.Сахноў: *"З наступленнем цемры ўся гэтая група штаба дывізіі была разбітая на дзве часткі. Адной з іх, якая налічвае 12 чалавек, камандаваў я. У другой, пад камандаваннем палкоўніка Пратасені, былі астатнія людзі. Уначы абедзве групы пераплылі р. Нёман на яго ўсходні бераг. Я са сваёй групай пераплыў Нёман ля в. Грандзічы, і на працягу 23 чэрвеня адышоў у раён Азёры. Тут я дазнаўся, што ў раёне Скідаля, на усход ад Гародні, адна з савецкіх частак вядзе бой з нямецка-фашысцкімі часткамі. Я вырашыў выйсці ў раён Скідаля і, прыкладна ў 15-16 гадзін 24 чэрвеня, прыбыў у раён бою. Боем кіраваў начальнік аператыўнай часткі нашай дывізіі капітан Кустоў. Атрад, які вёў бой у раёне Скідаля, налічаў прыкладна 350 чалавек. Да зыходу дня наш атрад быў паўакружаны праціўнікам, і я вырашыў, карыстаючыся полагам цемры, вывесці атрад з бою. Да гэтага часу ў ім заставалася, прыкладна, 200-250 чалавек. На працягу ночы атрад быў выведзены ў раён Мастоў, за р. Нёман.*

*Тут мне стала вядома, што ў раёне г.п. Шчучын знаходзяцца тылавыя часткі нашай дывізіі. Сумесна з афіцэрамі штаба на двух аўтамашынах я выехаў у Шчучын, дзе знайшоў розныя падраздзяленні тылавых частак нашай дывізіі. У ноч з 25 на 26 чэрвеня гэтыя тылавыя часткі былі пераведзеныя ў Ліду, дзе таксама апынулася некалькі машын аўтабата 56-й стралковай дывізіі.*

*26 чэрвеня я з гэтымі тылавымі часткамі вырашыў рухацца ў кірунку Мастоў, каб выйсці ў раён Лунна, дзе, як мне стала вядома ад сустрэтага ў раёне Ліды афіцэра з штаба ЗАВА, да таго часу знаходзіўся штаб 3-й арміі. Рухаючыся па дарозе Ліда-Масты, у раёне м. Жалудок я сустрэў камандзіра 184-га стралковага палка нашай дывізіі падпалкоўніка Чугунова, які вёў рэшткі свайго палка ў колькасці прыкладна 700 чалавек з дзвюма 45-мм гарматамі. З гэтым палком, пераначаваўшы ў раёне м. Жалудок, раніцай 27 чэрвеня я зрушыўся ў кірунку Масты-Лунна. Падыходзячы да мястэчка Ражанка, сустрэўся з праціўнікам. Завязаўся бой. Варожае падраздзяленне было разгромлена.*

*Рухаючыся далей, прыкладна, за 4-5 км ад Мастоў полк ізноў сутыкнуўся з фашысцкімі часткамі. Бой доўжыўся з 15 да 22 гадзін 27 чэрвеня. У гэтым баі 184-й полк быў акружаны і раздзелены на асобныя групы. Група, у якой быў я, налічала 50 чалавек. Я вырашыў з гэтай групай прабівацца ў кірунку в.Орля. Падыйшоўшы да гэтай вёскі, я ўстанавіў, што яна занятая немцамі. Тады я вырашыў рухацца ў кірунку м. Жалудок. Падыходзячы да Жалудка (гэта было прыкладна 2 гадзіны ночы 28 чэрвеня), мы выявілі, што ён таксама заняты праціўні-*

*кам. Тады я змяніў маршрут руху ў кірунку Шчучына і прыцемкам прыкладна, у 4 гадзіны раніцы 28 чэрвеня апынуўся ў ляску на паўднёвы захад ад Шчучына. Да гэтага часу нямецка-фашысцкія войскі ўжо занялі Шчучын, Ліду, Беліцу. І я з гэтай групай афіцэраў і шараговых чырвонаармейцаў апынуўся ў варожым тыле.*

*... З акружэння я выйшаў 6 верасня 1941 г. на поўнач ад г.Андрэапаль у складзе групы з 7 чалавек."*

Па сведчанні Маршала Савецкага Саюза К.К. Ракасоўскага *(Солдатский долг, М., «Воениздат, 1968, стр.11)* кожны савецкі камандзір у сваім сейфе меў *"адмысловы сакрэтны аператыўны пакет... Ускрываць яго можна было толькі па загадзе звыш. За самавольнае ўскрыццё чырвонага пакета належыў расстрэл па 58-м артыкулу. Некаторыя камандзіры на свае страх і рызыку самі ўскрывалі чырвоныя пакеты. Але нічога патрэбнага для абароны там не выявілі. Вядома, у нас былі падрабязныя планы і ўказанні аб тым, што рабіць...".* Усё было распісана па хвілінах і ў дэталях. Усе гэтыя планы былі. Але, нажаль, у іх нічога не гаварылася аб тым, што рабіць, калі праціўнік раптам пяройдзе ў наступ. *(Генерал-майор М. Гревцов. ВИЖ, 1965, № 9, стр. 84).*

Аднак Сахноў С.П. не згадвае ні аб "чырвоным пакеце", ні аб спробах усталяваць делегатную сувязь з падраздзяленнямі дывізіі, ні аб тым, навошта ён у ноч з 25 на 26 чэрвеня ад Мастоў накіроўваецца ў Шчучын, дзе знаходзіць падраздзяленні тылавых частак дывізіі, з якімі выязджае яшчэ далей на ўсход, у Ліду, каб 26 чэрвеня гэтым жа складам ізноў зрушыцца ў кірунку Мастоў і Лунна. Ці варта было 26 чэрвеня шукаць на захадзе штаб арміі? Як раз у гэты час групкамі, групамі і калонамі насустрач Сахнову С.П. адыходзілі ад заходняй мяжы галодныя, змардаваныя і параненыя савецкія байцы.

Паглядзім, як жа павялі сябе ў першы дзень вайны афіцэры, пакінутыя ў штабе дывізіі ў Гародні. Мы ведаем, што мал.палітрук **М. Дайнега** а дванаццатай гадзіне дня 22 чэрвеня прыбыў са Свяцка ў штаб дывізіі ў Гародню, там арганізаваў адпраўку партыйных дакументаў у Менск, знішчыў з афіцэрамі штаба бягучую дакументацыю.

*"У 20 гадзін пагрузілі на ЗІС-5 асабістыя рэчы і сякую-такую вайсковую маёмасць. Аднак выязджаць не адважваліся, чакалі, можа быць паступіць нейкае распараджэнне ад камандавання. Нарэшце, вырашылі рухацца ў кірунку Менска. Была ўжо 21 гадзіна. Пачалі выходзіць у двор да машыны. А у гэты час з суседніх дамоў раздаліся стрэлы з вінтовак і пісталетаў. На шчасце, нікога не закранула, толькі былі прабітыя балоны аднаго з задніх колаў машыны. Мы ўскочылі назад у будынак і праз другія дзверы выйшлі на вуліцу, куды падагнаў машыну шафёр, які ў гэтай сітуацыі не разгубіўся. Хутка замянілі кола і селі ў машыну. У гэты час я пачуў стогн у кабінеце фінчасткі. Аказалася, што ў начальніка фінчасткі здарыўся сардэчны прыступ. Пакуль я яму дапамагаў, машына пайшла. Пайшлі на вакзал. Там паабяцалі ўзяць нас у апошні цягнік, які састаўляўся. Але я вырашыў яго не чакаць, бо гарантый, што ён адправіцца, не было. Мне ж абавязкова трэба было патрапіць у Ліду, дзе знаходзіўся архіў палітаддзела.*

*Я накіраваўся да дарогі на Ліду. Не паспеў адысці ад вакзала, як за два-тры кіламетры высока ўверх ускінуўся агністы слуп і пачуўся наймоцны выбух. Гэта падарвалі склады боепрыпасаў. Выйшаўшы на дарогу, уліўся ў плынь войскаў і ўцякачоў, якія зыходзілі з Гародні. Не памятаю, якую адлегласць прайшоў, калі ўбачыў паказальнік налева: 113 ЛАП. Я узрадаваўся, бо гэта быў артылерыйскі полк нашай дывізіі. Звярнуўшы на паказальнік, убачыў у маладым хваёвым лесе групу вайскоўцаў. Сярод іх быў зампаліт палка батальённы камісар Пратасаў, які ведаў мяне. Ён распавёў, што полк страціў за дзень амаль усе гарматы, панёс вельмі вялікія страты ў людзях, і яны збіраюць зараз рэшткі палка, што ўсюды блытаніна і паніка, нічога не вядома пра штаб дывізіі.*

*З узыходам сонца 23 чэрвеня рэшткі 113-га лёгкага артылерыйскага палка аднавілі адыход. Падчас аднаго з налётаў фашысцкіх знішчальнікаў я адарваўся ад гэтай групы, але змог прыладзіцца на машыну, якая везла пантон, і, прыкладна, у 9 гадзін быў ужо ў Лідзе (23.06-Н.К.). У памяшканні штаба сустрэў начальніка мабілізацыйнай часткі дывізіі капітана Нейберга, начальніка агульнай часткі штаба лейтэнанта Пятрова, ваенлекара Яноўскага і яшчэ некалькіх камандзіраў і байцоў аховы. Тут таксама нічога не ведалі пра дывізію і пра яе камандаванне.*

*Мы з лейтэнантам Пятровым спалілі ўсе архівы. У другой палове дня капітан Нейберг вырашыў выехаць на пошук штаба дывізіі. Пагрузіліся ў паўтаратонку, узялі зброю, якая была. Усяго нас было каля 10 чалавек. Дзе толькі мы не калясілі на працягу 23 і 24 чэрвеня, у каго толькі не пыталіся пра штаб дывізіі - ніхто адказаць нам не змог. Раілі дабірацца да Менска.*

*Раніцай 25 чэрвеня яшчэ раз заехалі ў Ліду, дзе патрапілі пад моцную бамбёжку, а затым праз Навагрудак рушылі на Менск. Паколькі штаба акругі, або ўжо фронту, тут не аказалася, а хтосьці нам сказаў, што штаб пераехаў у Бабруйск, накіраваліся туды. Перад Бабруйскам нас затрымалі на КПП і адправілі ў артбрыгаду, якая фармавалася. Так скончыліся нашы пакуты."* (*В июне 1941. Кн.1-я, Гродно, 1997, ст. 83-86).*

**Бяляеў Зміцер Дзмітрыевіч** - ст. лейтэнант штаба знаходзіўся ў Гародні: *"... У гадзіну дня ў штабе з'я-віўся начальнік шыфравальнага аддзела капітан Адзінцоў. Ён апавясціў, што часткі адыходзяць да Ліды, і перадаў загад аб вывазе сакрэтных дакумен-таў. Да чатырох гадзінам дакументы былі пагружа-ныя і адпраўленыя машынай у Ліду. Я з іншымі супра-цоўнікамі штаба застаўся спальваць пакінутыя дакументы... Пакідалі горад у ліку*

*апошніх…У такім становішчы мы вельмі турбаваліся пра свае сем'і, якія знаходзіліся ў Лідзе… Даехаўшы да горада, вырашылі даведацца, што з імі, і дапамагчы эвакуявацца. Пазней дазналіся, што іх павезлі ў Маладзечна… Мне, як начальніку харчовага забеспячэння, …удалося на складах загрузіць 5 аўтамашын прадуктамі, і разам з рэшткамі дывізіі мы накіраваліся на Навагрудак". (В июне 1941. Кн.2-я., Гродно, 1999, стр.27).*

З вышэйсказанага відно, што дывізія з першых хвілін вайны страціла кіраванне палкамі і як адзінае цэлае не ваявала. Кожны полк, ведаючы свае межы абароны дзяржаўнай мяжы, кіраваўся сваім камандаваннем без адзінага кіраўніцтва.

Сцяг 56-й стралковай дывізіі ўдалося захаваць. Паводле вайсковага заканадаўства вайсковая частка, якая страціла сцяг, падлягала расфармаванню, а яе камандзір - суду вайскоўца трыбунала. Былы сяржант 184-га сп У. Караткевіч успамінае: "*Камандзір дывізіі С.П. Сахноў, камісар С.Я. Кавальскі даручылі выратаванне сцяга капітану Ў.У. Кулікову і ст. лейтэнанту Ф.М. Максімаву (Ф.М. Максімаў - начальнік палкавой школы 213 сп, да якой часткі належаў капітан У.У. Кулікоў - не вядома). У канцы ліпеня 1941 года цяжка параненыя афіцэры перадалі сцяг у Талочынскім раёне Віцебскай вобласці камсамольцам Мяснікову і Зялютнаму. Пятнаццацігадовыя хлопцы праз партызана пераправілі сцяг на Вялікую зямлю. У цяперашні час ён захоўваецца ў Менску ў Музеі Вялікай Айчыннай вайны". (В июне 1941.Кн.1-я. Гродно, 1997,ст.88).*

**Як павялі сябе стралковыя палкі дывізіі ў першыя дні вайны, якая іх доля?**

**213-ты полк**

213-ты сп маёра Якаўлева, не маючы сувязі з дывізіяй, стаў агменем супраціву на паўднёвым беразе Аўгустоўскага канала. Тры батальёны 213 сп і адзін батальён 184 сп плюс 38-мы асобны выведвальны батальён абараняліся двое сутак. Да іх далучыліся ацалелыя памежнікі трох застаў, байцы 9-га артылерыйскага кулямётнага батальёна. Але немцы, наткнуўшыся на супраціў недабудаваных вузлоў абароны Гарадзенскага УРа, абыйшлі іх умацаванні, занялі Ліпск і Сопоцкін і пайшлі на Гародню. У ноч на 24 чэрвеня 213-ты сп і байцы іншых частак, якія далучыліся да яго, пачалі адступленне на ўсход.

Каб лепш зразумець сітуацыю першых дзён вайны, звернемся да перадваенных будняў.

Успамінае **Максіменка Барыс Мацвеевіч** - камандзір мінамёта 1-га стралковага звяза вучэбнай роты 213 стралковага палка:

*"Па стане на 5.10.1940 213 стр. полк дыслакаваўся ў в. Ліпнішкі, штаб - у м. Іўе. З-за адсутнасці вайсковых казармаў, падраздзяленні размяшчаліся ў прыстасаваных бараках-хлявах.*

*Прыкладна ў пачатку снежня 1940 г. у складзе ўсяго падраздзялення перакінулі ў г. Гародню. Выйшлі з Ліпнішак, ішлі толькі ўначы. У дарозе, для таго,*



***Максіменка Барыс Мацвеевіч,***
*камандзір мінамёта 1-га стралковага звяза вучэбнай роты 213-га стралковага палка*

*каб паказаць, што мы здзяйсняем не пераход, а проста выйшлі на тактычныя стрэльбы, былі вучэбныя стрэльбы, здаецца з батальённых мінамётаў.*

*На гэты раз мы размясціліся ўжо ў вайсковым гарадку Фолюш, але і тут жыццёвыя ўмовы былі не лепшыя. Стомятровая казарма абагравалася ўсяго дзвюма печкамі, і было холадна. Няважна было і з сілкаваннем у сталоўцы. Я асабіста пакутаваў ад пячайкі ў страўніку, т.ш. хлеб заўсёды быў кіслы і дрэнна прапечаны.*

*У канцы зімы ў нас быў лыжны крос. Я сам у ім удзельнічаў і яго добра памятаю: пры вяртанні ў гарадок да цэнтральнага ўваходу, дзе быў фініш, я зваліўся за 3 метры ад лініі заліку, і мяне са смехам афіцэры за лыжы перацягнулі за фінішную рысу.*

*Людзей, якія мелі сярэднюю і вышэйшую адукацыю, залічвалі ў вучэбную роту, якая рыхтавала малодшых лейтэнантаў запасу, куды патрапіў і я.*

*У нашай вучэбнай роце было 3 стралковыя звязы і звяз станковых кулямётаў. Усяго ў роце было 125 чалавек. Людзі былі з розных канцоў краіны, былі людзі з Масквы. Спачатку ротай камандаваў лейтэнант Кузьменка, а затым (узімку 1940 г.) прыслалі лейтэнанта Кузьмічова. Гэта быў строгі, сур'ёзны, валявы камандзір, высокага росту, дужага, буйнога целаскладу, тварам падобны на Пятра 1, удзельнік баёў з фінамі. У яго была нават узнагарода за фінскую вайну, якую ён штодня насіў, узростам прыкладна пад 40 гадоў.*

*1-шы стралковы звяз вучэбнай роты складаўся з 30-32 чалавек. Пры кожным звязе мелася аддзяленне 50-мм мінамётаў, празваных у салдацкім народзе "Самаварамі". Вось я і быў камандзірам мінамёта ў 1-м стралковым звязе. Маё мінамётнае аддзяленне складалася ўсяго з двух чалавек: камандзірам і № 1 быў я сам - насіў мінамёт і асабістую зброю (наган), а № 2 быў Бычкоў, які насіў зарадны латок (здаецца 20 мін па 450 г). Мінамёт і міны "хадзілі" заўсёды разам, а часам, калі было 2 латкі - іх насілі і іншыя хлопцы. Вышыня ствала была каля 50-70 мм. На ствале ў верхняй частцы мацаваўся квадрант-вугламер (прыцэл). Унізе ствала была дыстанцыйная ўтулка з дзяленнямі для далёкасці стральбы. Міны ў нас былі ў асноўным асколачныя. Важыў мінамёт 12-14 кг.*

*У сакавіку 1941 года наша падраздзяленне наведаў камандзір дывізіі генерал-маёр Еўсцігнееў. "Якія вы дробненькіе супраць іх", - паказваючы фатаграфіі нямецкіх салдат, сказаў ён. На гэтых фатаграфіях мы ўбачылі сытыя самаздаволеныя морды германскіх ваякаў, паспеўшых да таго часу акупаваць амаль усю Еўропу.*

*Перад траўнем 1941 г. усіх байцоў нямецкай нацыянальнасці, якія праходзілі службу ў палку, дэмабілізавалі, і камандаванне пачало сярод нас шукаць дасведчаных у нямецкай мове. Да прызыву я атрымаў сярэднюю адукацыю, скончыў 10 класаў з залатым медалём і параўнальна нядрэнна ў межах школьнай праграмы мог гаварыць па-нямецку.*

*Прыкладна ў сярэдзіне траўня мяне камандзіравалі ў Беласток. Са мной пагутарылі кампетэнтныя вайскоўцам і палічылі магчымым выкарыстаць у якасці перакладчыка на выпадак вайны. Аднак высвятлілася, што маіх ведаў замала, т.ш. я быў цалкам незнаёмы з вайсковай тэрміналогіяй Нямеччыны. Пасля вяртання ў свой полк, мяне вызвалілі ад усіх заняткаў у падраздзяленні і для практыкі ў мове прымацавалі да старэйшага лейтэнанта Аксельрода, яўрэя па нацыянальнасці, які ведаў па-нямецку. Аднак яго вучоба абмежавалася толькі тым, што ён даў мне падручнік для 8-га класа па нямецкай мове, які я і так ведаў увесь на памяць, і сказаў: "Вучы, я потым праверу". А слоўніка вайсковых тэрмінаў я так і не меў, без чаго "вучоба" Аксельрода нічога не значыла.*

*Трэба сказаць, што ў нас у той час было няма-ла прабелаў у баявой і палітычнай падрыхтоўцы. Так, напрыклад: мы дрэнна валодалі стральбой з аўтамата ППД, няўмела зараджалі дыскі, а гэты від узбраення ў Чырвонай Арміі быў ужо 5 гадоў, Што тычыцца агнявой падрыхтоўкі з мінамёта, то з яго на вучэбным палігоне мне прыйшлося зрабіць толькі тры стрэлы. Тое ж самае, было і са стральбой з нагана. Недаацэньвалася і моц германскай ваеннай машыны, т.ш. лічылася, што ў выпадку нападу на СССР, рабочы клас Нямеччыны неадкладна падыме зброю супраць уласных буржуяў. А вайна выбухнула раптам, і адбылося ўсё інакш.*

*Прывазной вады не было, пілі ваду і мыліся ў канале. Жылі ў намётах, і ніхто нам не гаварыў, дзе мы знаходзімся. Ведаў я толькі Сапоцкіна і Сонічы, але ў іх не быў падчас нашай дыслакацыі ў летніх лагерах. Намёты былі на 50 см укапаныя ў зямлю".. (http://www.soldat.ru/memories/maksimenko/*

Каля 3 г. 40 хв. у небе над участкам Гарадзенскага памежнага атрада паказаліся першыя групы нямецкіх самалётаў, якія ляцелі ўглыб савецкай тэрыторыі. У 3гадзіны 50 хвілін нямецкая артылерыя адкрыла моцны агонь па загадзя выведаных цэлях на ўчастках 56-й сд. Асноўны ўдар артылерыі немцы нанеслі на м. Сапоцкіна, т.ш. ад гэтага мястэчка ідзе прамая дарога на Гародню. Нашы байцы яшчэ ляжалі ў намётах, а м. Сапоцкіна ўжо гарэла. Байцы займалі свае пазіцыі пад агнём праціўніка.

Першым уступіў у бой 2-гі батальён 213 стр. палка, які знаходзіўся ў самім вастрыі Сувалкінскага выступу ў раёне в. Галавенчыцы. Батальёнам каман-даваў капітан Шылаў Д.М.

**Панчанкаў В.І. -** камандзір кулямётнай роты: *"У Гародні на зімовых кватэрах засталіся сем'і камандзіраў, куды многія з іх з'ехалі ў суботу з мэтай наведаць іх і правесці разам з імі нядзельны дзень - 22 чэрвеня 1941 года. Такім чынам, шмат падраз-дзяленняў палка засталося без сваіх камандзіраў. Калі я прыбег з Сонiч, дзе жыў на кватэры, полк заняў абарону побач з недабудаванымі дотамі." (В июне 1941. Кн.1-я. Гродно, 1997, ст. 85-86).*

У суботу ўвечар у 2-м батальёне байцы глядзелі кіно, пасля якога разышліся па намётах. Іх сон быў пера-



***Байцы 213 сп. Першы шэраг - крайні справа шараговец Каржоў, другі шэраг - крайні злева шараговец С.С. Ракіцянскі***



***Панчанкаў Віталь Ільіч - камандзір звяза 2-й роты 213 сп***

пынены моцнымі разрывамі снарадаў, мін, вуркатаннем матораў у паветры. Вайна заспела байцоў 2-га батальёна 213 сп соннымі ў намётах. Лагер накрыты мінамётным агнём, у намётах з'явіліся ахвяры. Уздоўж мяжы стаіць суцэльны слуп пылу, дыму: пажежнікі адкрылі агонь па ворагу. Толькі цяпер выскачылі з намётавага лагера байцы 2-га батальёна. Але дабегчы да дотаў яны не паспелі, іх ужо занялі нямецкія войскі. Уласна, жалезабетонных дотаў на ўчастку абароны 2-га батальёна і не было, іх толькі пачалі будаваць, будаўнічыя работы былі на ўзроўні катлаванаў.

Байцам другога батальёна прыйшлося заняць абарону проста ў размяшчэнні намётавага лагера. Яны схапілі вінтоўкі, і пайшлі ў штыкавую. У гэты ж час станковыя кулямётчыкі схапілі свае кулямёты. Немцы такога адпору не чакалі. Бой быў жорсткім… Зацятасці, вывучкі ў байцоў і камандзіраў хапіла. Напружаная баявая падрыхтоўка наклала свой адбітак на кожнага байца і камандзіра - яны гатовыя былі даць адпор ворагу.

Раптам на схілах вышыні з'явіліся тры нямецкія танкі, паліваючы нашых байцоў свінцовым дажджом. А танкаў, супрацьтанкавых гармат і гранат у 2-га батальёна не было!? Байцы батальёна былі занятыя на будаўнічых работах - капалі супрацьтанкавыя равы на дарогах, якія вялі ў Літву, будавалі дзоты на танканебяспечных кірунках. Пад ударамі нямецкіх танкаў загінулі кулямётчыкі. Ад кулямётнай роты засталося 5 чалавек і "імянны Максім" без патронаў. Пехацінцам 2-га батальёна давялося адысці на другую лінію абароны, да 1-га і 3-га батальёнаў палка. Па ўспаміне кухара Шчукіна, 2-гі батальён адышоў праз мост у в.Сонічы, і далучыўся да 9-й роты палка і кулямётчыкаў 3-га батальёна, якіх узяў ля моста В.І. Панчанкаў пад сваё камандаванне.

5-я рота, якой камандаваў **Герасімаў В.М.**, размяшчалася за некалькі кіламетраў на захад ад асноўнага лагера і штаба 213 сп у в.Вулька Жандова (пераназваная ў в. Вусава).

Адзін са звязаў павінен быў заняць агнявыя пазіцыі ўздоўж кантрольнай паласы мяжы, якія былі прыгатаваныя загадзя, але аказалася ўжо позна, іх занялі немцы. Герасімаў са звязам вярнуўся да роты, якая акапалася на вышыньцы проста перад лагерам. Сумневаў не было, што пачалася сапраўдная вялікая вайна. Першую атаку адбілі. Прайшло яшчэ некалькі. На працягу дня на вышыню, на якой акапаліся байцы 5-й роты, немцы распачыналі каля дзесятка атак, але іх сустракаў пагібельны агонь савецкіх воінаў. Да вечара ў акопы 5-й роты прыбылі памежнікі з заставы в. Вусава. У іх скончыліся патроны і яны змушаныя былі адыходзіць. Памежнікі ўліліся ў 5-ю роту 213-га сп. Байцы 5-й роты з памежнікамі мужна адбівалі атакі ворага на працягу 2-х сутак. Н.С. Нагорны ўспамінаў, што ў якасці сувязнога вазіў у лагер 5-й роты загад камандзіра палка на адыход і далучэнне да асноўных сілаў палка.



***Герасімаў Васіль Мітрафанавіч – палітрук 5-й роты 213 сп***

На другі дзень вайны 2-гі батальён 213 сп ваяваў за Сапоцкіна. Там ваявалі і іншыя падраздзяленні дывізіі, памежнікі, воіны з 9-га артылерыйска-кулямётнага батальёна. За Сапоцкінам праходзілі жорсткія баі, там размяшчалася памежная камендатура, і ад Сапоцкіна ішла прамая дарога на Гародню. Жорсткі бой за Сапоцкіна ішоў нават у ноч на 24 чэрвеня. Камандзір 213 сп маёр Якаўлеў Т.Я. знаходзіўся ў гушчы падзей, асабістым прыкладам падымаў і вадзіў байцоў у атаку.

Пазасталыя ў жывых кулямётчыкі 2-га батальёна пазней адышлі да Нёмана і амаль усе, акрамя Сучкова, які ўмеў добра плаваць, патанулі, пераплываючы раку.

На паспяховым вядзенні баявых дзеянняў адбіліся пралікі савецкага камандавання. Камандаванне ЗАВА мела поўную і дакладную інфармацыю пра склад і дыслакацыю нямецкіх войскаў у прымежнай паласе. Але пры распрацоўцы плана прыкрыцця дзяржаўнай мяжы не ўлічыла флангавыя групоўкі нямецкіх злучэнняў (3-я танкавая група і 9-я армія) і кірункі галоўных удараў ворага. Найболей верагодныя кірункі ўдараў праціўніка засталіся не прыкрытымі адпаведнымі савецкімі групоўкамі, асабліва ўчастак дзяржаўнай мяжы на сутыку двух франтоў, Заходняга і Поўнача-Заходняга, які на працягу 6-8 км быў абсталяваны слаба. Запланаваныя тут два апорныя пункты ўмацаванага раёна былі толькі вызначаныя на мясцовасці, будаўніцтва іх меркавалася пачаць у ліпені. Менавіта гэтым участкам скарысталіся нямецка-фашысцкія войскі ў першы дзень вайны пры наступленні на Гародню.

3-я танкавая група праціўніка і 9-я армія, якая рухалася за ёй, змялі памежныя заставы і слабыя ўмацаванні Паўночна-Заходняга фронту і накіраваліся на ўсход. Пасля прарыву левага крыла абароны Паўночна-Заходняга фронту нямецкія войскі рушылі на

Беларусь з поўначы. Выкарыстоўваючы адсутнасць суцэльнага фронту, передавыя нямецкія часткі скарыстоўвалі тактычны прыём: сустрэўшы ўпарты супраціў, яны абыходзілі гэты агмень з флангаў, пакідаючы яго для задушэння сваім другім эшалонам, а самі імкліва працягвалі наступаць.

Як развіваліся падзеі ў 1-м і 3-м батальёнах 213 сп, якімі камандавалі капітаны Смірноў і Багачоў?

Ст.л-т **Вяшчуноў П.С**. успамінаў, што прыкладна за два тыдні да вайны ён у ліку каманднага складу батальёна і палка з невялікай колькасцю шараговага складу ездзіў да самой мяжы ў бок вёскі Вулька Жондава *(зараз застава Вусава - А.К.)* на рэкагнасцыроўку мясцовасці. *«…Мы за два тыдні да вайны выкапалі там акопы, і ў выпадку вайны мы павінны былі ісці туды і іх займаць. Тут жа разгаварыліся з памежнікам – шарагоўцам, які хадзіў па сваім раёне. Апошні сказаў, што нядаўна быў затрыманы перабежчык з таго боку, які на допыце сказаў, што ў бліжэйшыя два тыдні пачнецца вайна, і што яны, г.зн. немцы, дойдуць да Менска... І як раз тыдзень прайшоў, і ў нядзелю… І ведай, калі б нармалёвая вайна была, то мы не тут, і не ў Сапоцкіна, а павінны былі ісці туды (да мяжы – А.К.). Начальнік штаба 3-га батальёна Фёдараў, ехаў досвіткам 22 чэрвеня на камандзірскай легкавушцы М-1 з Гародні, дзе заспела яго вайна. Ён пад'ехаў да Сапоцкіна, выйшаў з машыны, і напроста, па жыце, пайшоў да гэтых пазіцый. Ён ж думаў, што мы пайшлі туды». (file://localhost/Вяшчуноў/Ст. л-т Вещунов Если бы была нормальная война.htm)*.

А падзеі разгортваліся наступным чынам. Ст.л-т **Вяшчуноў П.С**.: *«Роўна ў 3.45 раніцы раздаліся адразу тры артылерыйскіх стрэлы з боку мяжы, снарады якіх разарваліся наперадзе нашых лагераў. Мы, вядома, ускочылі ўсе па трывозе. Перш не маглі разабрацца, у чым справа, але тут загрымелі раскаты артылерыі і кулямётаў па ўсёй мяжы, справа і злева. Полк адразу прыняў баявы парадак, і ў гэты час над нашым размяшчэннем з'явіўся нямецкі самалёт-выведнік. Нашы зеніткі адразу ж адкрылі па ім моцны агонь. Але, не гледзячы на тое, што ляцеў ён вельмі нізка, збіць яго не маглі. На першы дзень вайны наш полк не прапусціў ні аднаго немца праз канал. Да палка пачалі далучацца байцы іншых частак, памежнікі, якія першымі прынялі ўдар на сябе. У гэты ж дзень немцы абыйшлі нас і ўварваліся ў мястэчка Сапоцкіна, але хутка адступілі – былі выбітыя. У тым баі ўдзельнічалі: 7-я, 9-я роты і некалькі бронемашын выведбата. (file://localhost/20сд/Рудько восп/Беластоцкі выступ 1941.mht).*

Нам.камандзіра 3-га батальёна ст.л-т Вяшчуноў П.С.і сяржант, памочнік камандзіра звяза П.М. Рудько ўспамінаюць, што калі яны прыбеглі да Аўгустоўскага канала, акопаў на іх пазіцыі не было, яны паспелі іх выкапаць, пакуль немцы ваявалі з памежнікамі і 2-м батальёнам палка. Атрымліваецца, што пазіцыі 3-га батальёна былі ля самай мяжы, па словах П.С. Вешчунова «калі б нармалёвая вайна была», г.зн. вайна абвешчаная з Масквы або Менска, батальён паспеў бы іх заняць. Але вайна пачалася па іншым сцэнарыі, і батальёну з пачаткам ваенных дзеянняў прыйшлося заняць абарону ў непасрэднай блізкасці ад намётавага лагера ля х. Тартак.

Па ўспамінах шарагоўца, камандзіра мінамётнага разліку **Сляткова Пятра Якаўлевіча**, батальён быў падняты па баявой трывозе пасля пачатку баявых дзеянняў. Байцы пабеглі на пазіцыі нават без касак, наіўна лічачы, што гэта вучэбная трывога. Яны мужна адбівалі фашысцкія атакі, але бяда … скончыліся міны.

*"Наш батальён 21 чэрвеня 1941 г. вяртаўся з двухдзённых тактычных заняткаў. Запыленыя, стомленыя чырвонаармейцы стараліся бадзёра трымаць сябе, не выдаючы стомленасці. Кожны спяшаўся хутчэй прыйсці ў лагер і пайсці добра выкупацца ў Аўгустоўскім канале, што ўпадае ў р. Нёман. Старшына Ляскоў так і зрабіў: ён звадзіў нас на канал, дзе мы скінулі сваю стомленасць і пыл. Пазасталы час да наступлення цемры я патраціў на выраб гарадкоў, у надзеі - заўтра нядзеля, арганізаваць хлопцаў свайго мінамётнага звяза гуляць у гарадкі. Увечар абвясцілі: ахвотныя могуць паглядзець кінакарціну "Волга-Волга".*

*Вяртаючыся з кіно, я падышоў да штаба палка апусціць ліст да маці і прыйшоў у намёт апошнім. Калі я пачаў распранацца, у баку мяжы раздаўся вінтовачны стрэл. Праз некалькі хвілін - другі з аўтаматычнай зброі. Неспрактыкаванасць маладога чырвонаармейца не падазравала, што гэта прыкмета вялікай непрыемнасці. Я распрануўся, і стомлена лёг у пасцель. Многія ўжо храплі, сёй-той яшчэ не спаў, але падобна, не надалі стрэлам ніякага значэння. Таксама не звярнулі ўвагі і на самалёты, якія часта лёталі над мяжой.*

*Мяне пабудзіла моцная перастрэлка ўбаку мяжы, затым я чую каманду: "Дзяжурны звяз, за зброю!" Як таварышы па намёце, так і я думаў, што гэта ізноў трывога, трывога на вынослівасць. І вось чуваць, як бягуць чырвонаармейцы на шыхтаванне.*

*У лагеры наступіла трывожная цішыня. Затым стральба аднавілася. І тут пачулася каманда: "Кулямётная рота, за зброю!". Ізноў тупат, ізноў летаніна па лагеры і шыхтаванне. Рота пайшла, што гэта можа быць? Бо колькі было розных трывог, і ніколі не было перад трывогай стральбы ні ў размяшчэнні палка, ні за межамі яго. Чырвонаармейцы заснулі, сёй-*



***Сляткоў Пётр Якаўлевіч - чырвонаармеец 213 сп, пасляваеннае фота***

*той не прачынаўся.*

*Мяне падняла агульная палкавая баявая трывога. Павінен уставіць тлумачэнне, што ў лагеры ў прымежнай зоне знаходзілася два батальёны нашага палка. Усталі, і тут жа забягае ў намёт камандзір звяза лейтэнант Карміліцын . Ён закамандаваў: "За зброю! Баявая, баявая трывога!".*

*Па ўсёй мяжы пайшла стральба з аўтаматаў і вінтовак. З гучным шоргатам упоцемку нашы мінамётчыкі пачалі збірацца і выбягаць на шыхтаванне. Лейтэнант прыспешваў нас: "Хутчэй, хутчэй! Немцы напалі на нашу мяжу, памежнікі вядуць бой з немцамі".*

*Не сказаць, што я моцна разгубіўся. Пасля паведамлення я вярнуўся ў намёт, схапіў з-пад падушкі сваёй пасцелі два тамы кніг "Разгром" Фадзеева і "Праца" Э. Заля, сунуў іх паспешна ў ранец і выбег з намёта.*

*Раптам на вышыні нейкіх 100 метраў бачу, ляціць нейкі незвычайны самалёт. Калі ён зрабіў віраж, выразна ўбачыў чорны крыж. Гэта быў нямецкі самалёт-выведнік - "Рама". Вось тут на мяне падзейнічала. І не сказаць, што я не разгубіўся. Затым з-за вяршыняў хвой вокамгненна прамчаліся два нямецкія знішчальнікі, і застрачылі па лагеры. Відовішча для мяне, разявакі, было не вельмі прыемнае, калі тоўстыя сукі, вяршыні і кара дрэў ляцелі ва ўсе бакі.*

*Так, гэта не трывога, гэта, мабыць, праўда - напад немцаў на нас. Я быў перакананы, што зараз мы сустрэнем немцаў і погонім іх назад, а гадзін у 12 дня будзе прывал на нямецкай тэрыторыі, і я дачытаю кнігу "Разгром".*

*Да майго здзіўлення, мы дайшлі да Аўгустоўскага канала і занялі абарону. Бераг канала нашай абароны быў узвышаны і з вялікім масівам хвойнага лесу. Бераг, адкуль чакаўся праціўнік, парос хмызняком лазы і ўтварыў паласу метраў у 200 шырынёй уздоўж канала, а за хмызняком - узвышша, і пайшоў такі ж хвойны лес, як і на нашым баку. Што адбывалася перад намі, невядома, толькі чулася бесперапынная стральба, якая ператварылася ў агульны гуд і трэск. Стральба здавалася так блізка, што вось-вось мы ўбачым нашых памежнікаў, якія адыходзяць ад нашай мяжы, паступова стрымліваюць націск непрыяцеля і вядуць яго на нас, каб мы яго сустрэлі і з засады знішчылі. Але так не атрымалася.*

*Наш трэці батальён, якім камандаваў ст. л-т Багачоў, заняў абарону паміж двух мастоў. Гэта па дарозе з Сопоцкіна ў Сонічы і хутар Чарток. Пад моцным націскам непрыяцеля нашы памежнікі пры адступленні разбіліся на дзве групы. Адна пры адступленні перайшла па мосце ў раёне Чартка, другая - у Сонічы.*

*Тым часам стральба набліжалася ўсё бліжэй і бліжэй. Наша камандаванне гэта ўлічыла і паставіла больш магутны заслон да подступаў мастоў. Пакуль нікога не відаць, а трэск разрыўных куль дасягае нашый абароны. Нашы чырвонаармейцы ляжаць, затаіўшы дыханне. Мабыць, у многіх, не толькі ў мяне сэрца пачало біцца мацней, пачало сціскацца ў скронях. А тым часам усё бліжэй і бліжэй падыходзіць кананада. Кулі непрыяцеля ляцяць на нашу абарону. А непрыяцеля пакуль не відаць, гэтыя кулі пакуль выпадковыя - тыя, якія выпадкова праходзяць праз лес. Але ўсё ж, іх ужо шмат. І вось прыкметна, добра відаць, ва ўвесь рост спускаюцца са схілу, выходзяць з вялікага лесу і ўваходзяць у хмызняк, здавалася дзіўна вялікага росту, з закасанымі рукавамі, немцы. Яны ідуць, не спыняючы страляніну, ідуць проста на нас, прастрэльваюць кожны куст. Нам добра відаць іх, калі яны пераходзяць адкрытыя месцы, паміж кустамі. Але страляць мы не страляем, няма загаду. Да сустрэчы застаецца метраў 100. Наша абарона немцамі пакуль яшчэ не раскрытая, таму яны ідуць у рост. Наш мінамётны звяз размясціўся ў тыле сваёй пяхоты і за гэты час паспеў выкапаць па два акопы на кожны мінамёт. Пракапалі хады злучэння, добра замаскавалі наглядальны пункт. Зрэшты, пастараліся зрабіць лепш і хутчэй, чым учора на тактычных занятках.*

*І вось сустрэча: частка немцаў блізка падышла да канала, залегла і яшчэ мацней пачала абстрэльваць бераг нашай абароны. Але і цяпер, па ўсім відаць, наша абарона не выяўленая. Наш бок, затаіўшы дыханне, маўчаў. Камандаванне вырашыла падпусціць бліжэй асноўную частку немцаў. Так і атрымалася. Немцы ўсталі і рушылі наперад, за імі шчыльны другі ланцуг.*

*Памятаю, хтосьці з нашых мінамётчыкаў сказаў: "Ну, што ж, грукнем, лейтэнант!". "Нельга! Няма загаду".*

*І тут наша пяхота адкрыла агонь. Гэта быў для немцаў пагібельны агонь, якога яны не чакалі і не сустракалі на працягу дзвюх гадзін вядзення імі вайны супраць нас.*

*Да чаго ж было азартнае і цікавае відовішча! Дзесяткамі немцы валіліся, як падкошаныя. Частка іх старалася паўзці, але гэта было бескарысна. Бо яны так блізка падышлі да нас, што нам хоць не цэлься. Радасць праззяла на тварах нашых чырвонаармейцаў. Бо і, праўда, мы моцныя, як нам гаварылі палітрукі. Зараз на факце відаць, што мы моцныя.*

*"Таварыш лейтэнант, пяхота ўжо ваюе, а мы?". "Прыйдзе час, будзем і мы!" Кожнаму з нас ужо так хацелася ўскочыць, даць лататы ў пагоню за немцамі. Але няма загаду выходзіць з акопа і пераходзіць у атаку. Нашы салдаты ці то ад радасці, ці то па жаданні ўсё працягвалі страляць у бок знішчаных і сям-там уцякаючых немцаў.*

*У нашым кірунку наступіў поўны зацішак ці то з вялікага перапуду, ці то па выпадку вялікіх страт з боку немцаў. Ад радасці нашы чырвонаармейцы пачалі абдымацца, штурхаць адзін другога, пагражаць кулаком у бок уцёкшых немцаў.*

*Бачачы вялікае захапленне і з'яўленне зусім непатрэбнай хадзьбы па лініі абароны, камандаванне загадала легчы і быць больш асцярожным.*

*Неўзабаве пасля бою старшына нашай роты прывёз нам каскі і пачаў арганізавана выдаваць па*

*мінамётных разліках. У гэты час я атрымаў рэвальвер як камандзір мінамётнага разліку. Чырвонаармейцы ў гутарках абмяркоўвалі і рабілі розныя высновы: чаму мы не зняліся і не пайшлі пераследаваць немцаў? Калі атрымалі каскі, тут пачалі рабіць высновы: раз не было на нас касак, значыць, у атаку ісці нельга. Іншыя гаварылі, не, гэта не таму, што на нас не было касак. Гэта таму, што няма больш паловы камскладу. На самай справе, вялікая частка камскладу, хто меў свае сем'і ў Гародні, у суботу на ноч раз'ехаліся па сваіх сем'ях. У палку, у асноўным, застаўся малодшы камсклад.*

*Прайшло, прыкладна, паўгадзіны. Немцы распачалі наступленне. Яны пачалі падпаўзаць і ізноў адкрылі агонь. Тут яны ўжо білі па цэлі, добра ведаючы нашу пазіцыю, але не так актыўна, як стралялі да іх хрышчэння. Або іх бянтэжыла маса іхніх трупаў, або іх было мала. Мы думалі, што яны баязліўцы, і баяцца падыходзіць да нас. Але потым пераканаліся, што яны не звяртаюць увагі на наш магутны агонь. Яны напорыста лезуць і лезуць, актыўнасць агню ўзмацняюць і ўзмацняюць. Тут жа яны ўжылі артылерыю, і пачаўся гарачы сапраўдны бой.*

*Адчуваючы ўпэўненасць у перамозе, нашы чырвонаармейцы рваліся ў атаку. Але загаду не было. Маючы нявыгадную пазіцыю, вораг усё роўна набліжаецца і паўзе наперад, імкнецца засяродзіць свае сілы ў лагчыне.*

*Наша камандаванне разгадала, што вораг рыхтуе рывок на нашу абарону. Да гэтага часу, да дзесяці раніцы, як сярэдні, так і старэйшы камсклад быў у размяшчэнні сваіх падраздзяленняў. Тут раздалася каманда камандзіра мінамётнай роты ст.л-та Папругі: "Рота, слухай маю каманду! Арыентыр - сухая вярба, вугал 65! Тры асколачных міны, агонь! Стрэл!". "Ёсць стрэл!". Мы нясцерпна чакалі гэтай хвіліны, хвіліны ўступлення ў бой нас, мінамётчыкаў. Мы, мінамётчыкі, добра былі падрыхтаваныя да вядзення мінамётнага агню, у руках нашых наводчыкаў упэўнена працавалі як вертыкальны, так і гарызантальны механізмы мінамёта. У сваю чаргу я, камандзір мінамётнага разліку, выконваючы каманду камандзіра звяза лейтэнанта Аляксея Карміліцына, паслядоўна крычу: "Агонь! Стрэл! Ёсць стрэл!". На тварах маіх таварышаў, падначаленых мне, праззяла ўсмешка, ды такая ўсмешка ці наўрад у каго з'ўлялася за ўсю службу ў войску. І тут мы ў лагчыну пусцілі з шасці мінамётаў па тры міны. Немцы, як мурашкі, папаўзлі з лагчыны. Адкуль іх гэтулькі напаўзло?*

*Тут і мы, мінамётчыкі, па-сапраўднаму ўступілі ў бой. Выконваючы загад камандзіра звяза, я загадваю: "Арыентыр - кучаравая хвоя, вугал 55, тры асколачныя міны, агонь!" "Стрэл! Ёсць стрэл!". Вось тут мы, мінамётчыкі, і ўбачылі цану нашага мінамёта. Бо калі б не мы, што магла б зрабіць пяхота засеўшым у катлаване немцам? Тут і пяхота павесялела, і наўрад хто зараз на нас скажа: "Самаваршчыкі!". І так мы тройчы выганялі немцаў з лагчыны. І ўсё ж яны туды лезлі.*

*Міны ў нас скончыліся!? Яшчэ досвіткам 22.06 нашы ездавыя Маняхін, Ліпавенка, Завязкін паімчалі ў Гародню па міны. Але замест мін прывезлі патроны і трохі гранатаў. Пакарміўшы ўпараных коней, яны ізноў паімчалі ў Гародню. А адлегласць да Гародні каля 50 км. І так, нашы ездавыя больш не вярнуліся. Немцы дзесьці прарвалі абарону і нас адрэзалі ад Гародні, ад боепрыпасаў і харчоў. Па суседству з намі справа стаяў 38-мы асобны выведвальны батальён. Ён быў узброены па апошнім слове тэхнікі таго часу, паводле яго баявой адзінкі.*

*З-за адсутнасці мінаў, мне было загадана даставіць пакет у штаб палка. Прабіраючыся па тыле 38-га асобнага выведвальнага батальёна, я ўбачыў вельмі маркотнае відовішча. І так гэтае відовішча падзейнічала на мяне, што ледзь-ледзь я ўтрымаў слёзы. Гэта стаяла цалкам бяздзейная нашая магутная тэхніка - бронемашыны і 45-мм гарматы. Усё гэта гатова было па сваёй тактычнай расстаноўцы знішчыць ворага. Але снарадаў і патронаў няма! Разлікі гэтай тэхнікі залеглі, і разам з пяхотай адбівалі націск непрыяцеля, пакінуўшы дзесяткі паўтара для аховы тэхнікі.*

*Немцы ўзмацнілі артылерыйскі абстрэл. У нас пачалі з'яўляцца параненыя і забітыя.*

*Бачачы, што нашы мінамёты маўчаць, немцы пачалі больш нахабнічаць і зноў засяроджвацца ў лагчыне. Не звяртаючы ўвагі на наш моцны агонь, у 12 гадзін дня немцы лавінай кінуліся ў канал. І толькі калі іх ногі крануліся вады Аўгустоўскага канала, раздаўся заклік: "За Радзіму! За Сталіна! Наперад! Ура!".*

*Пачуўшы заклік, мне здавалася, вось-вось з мяне зляціць каска, як быццам валасы на галаве сталі дыбам, па ўсім целе прабег ток. Я ўскочыў і пабег наперад, таксама "За Радзіму! За Сталіна!". Мы кінуліся ў канал і амаль на сярэдзіне яго сышліся з немцамі.Але мы апынуліся ў меней выгодным становішчы, чым немцы. Таму нас у рукапашнай сутычцы больш загінула. Выснова тут такая: немцы высокага росту. Мы ніжэй за іх. Немцы ў асноўным з аўтаматамі, мы з вінтоўкамі. Немцам у вадзе па грудзі, нам - па шыі. У немцаў рукі вольныя, і яны з размаху б'юць па галаве нашых салдат, мы нічога не можам зрабіць, бо рукі ў нас у вадзе. Акрамя таго, у канале стала так цесна, што і разгарнуцца няма дзе з доўгай вінтоўкай. Здавалася, усе, усе мы загінулі, а немцы прарвуць нашу абарону. І толькі тады, калі немцы адціснулі нас на наш бераг, тут стала па-іншаму. Тут сыграў зыход перамогі наш рускі штык. Мы пачалі іх калоць, біць з размаху прыкладам, дзе паспееш патрапіць. Здольнасць кароткага аўтамата страціла перавагу ў рукапашным баі. Так немцы і засталіся ў канале.*

*Калі скончылася рукапашная сутычка, параненых мы не кінулі, а перанеслі на свой бок.*

*Здавалася, усё, немцы пабітыя хоць з вялікімі стратамі з нашага боку, але пабітыя. Але яны падцягнулі свежыя сілы, акапаліся і не спыняюць вядзенне магутнага агню. Так нам у той дзень не прыйшлося*

*ні паснедаць, ні паабедаць”. (ЛГММ, фонд “Сляткоў П.Я.”).*

Музыкант, радавы **Ракіцянскі С.С**. пра першы дзень вайны ўспамінае: *“Калі пачалося наступленне немцаў, нашы камандзіры пачалі заклікаць нас не паддавацца на правакацыі. Але немцы наступалі… У бой уступілі памежнікі. Адбілі некалькі атак. Але боепрыпасы скончыліся. У 11 гадзін прыйшла машына са склада. Мы адкрылі скрыні і знайшлі замест абойм з патронамі балты са шрубамі”. (В июне 1941. Кн.1-я. Гродно, 1997, ст.133).*

Кожны чалавек успрымае па-свойму вайну. Так запомніўся першы дзень вайны **Рудзько Паўлу Міхайлавічу** - сяржанту, памочніку камандзіра 2-га стралковага звяза 8-й стралковай роты 3-га батальёна. Батальён быў падняты па трывозе ўжо з пачаткам ваенных дзеянняў. *“Немцы на нас пайшлі не адразу: пасля таго як нас абстралялі: мы выйшлі, разабралі патроны, да таго, як пайшлі на канал - у нас жа не было нічога. Боепрыпасы ротныя ўсе ляжаць у намётах, іх жа не раздаюць - стаіць вартавы і адказвае за гэтую гаспадарку. І калі нас абстралялі, мы ўскочылі - патроны трэба было браць. Мы да старшыны: “Давай патроны нам!”. Той іх пачаў лічыць... Я, як памочнік камандзіра звяза гавару: “Не лічы, потым палічыш! Давай, грабі, хлопцы! Набралі іх, выйшлі туды, у бок канала, занялі абарону. Пры гэтым я нават не адзяваў каску.*

*Немцы пачалі нас абстрэльваць, грукату было шмат, але пакуль не было прамых трапленняў, усё выглядала, як быццам заняткі ідуць. А потым - яны як пачалі біць мінамі… А тут перадок стаяў - пару коней запрэжаных, супроцьтанкавыя гарматы “45-кі” вазілі. Немцы як чакнулі, аднаго каня забілі, а другі развярнуўся - яе кінуў… У забітага кроў пацякла, і я тады зразумеў, што гэта вайна. А да гэтага становішча цалкам было падобнае на вучэнні - вось чаму я без каскі хадзіў. А потым ужо, калі я кроў убачыў, зразумеў - гэта вайна.*

*Бераг у нас быў спадзісты. Справа і крышку вышэй ззаду ад нас быў ДОТ, а мы ледзь-ледзь ніжэй за яго займалі абарону. Гэты ДОТ працаваў. Там, па-мойму, гармата была і кулямёт. Але гэты ДОТ біў па немцах і перашкаджаў, мусіць, ім прасоўвацца, таму, што агляд вельмі добры быў з яго - кіламетры два паляна. Дык вось хлопцы гаварылі, што калі немцы ў атаку ішлі, а нашы адбівалі іх - то “наклалі” поўна. Яны ж ішлі і падвыпілыя, а можа хто і ладна “цяпнуў”: пілоткі былі заткнутыя за папругу, рукавы закасаныя, некаторыя ў касках, а некаторыя нават і без касак… А іх там клалі і клалі: яны ідуць, а іх кладуць. І вось па гэтым ДОЦе немцы білі, білі з мінамётаў, і калі мы пайшлі з канала, цэлым ён ужо не быў.*

*Размеркаваліся мы, аддзяленне заняло абарону, і я вырашыў зрабіць тое ж самае, трэба выкапаць было акоп, там не было акопаў, нічога не было, мы самі капалі акоп. У войску ёсць акопы “лежачы” і “стоячы”. Дык вось я перш выкапаў “лежачы”. Паляжаў я там. Бой крышку прыціх. Немцы пастрэльвалі з мінамётаў, але нас асабліва не трывожылі. Потым мне стала неяк няёмка, нізкавата, і я не бачу туды, вышэй. І я ўзяў тады на метраў 5-6, або можа з дзесятак прасунуўся наперад, і там выкапаў сабе акоп “стоячы”. Стаю, крышку яго падмаскіраваў. Немцаў тут пакуль было не відаць. А потым яны як пачалі артпадрыхтоўку з мінамётаў: білі-білі… І вось як чахнуло поруч са мной, можа метр-паўтара каля акопа выцяла. Побач хвоя расла, дык вось на метр яе зрэзала. Мяне кінула хваляй, зямля пасыпалася зверху, я зваліўся туды, прыглушыла. Потым я крышку ачухаўся, думаю: “Паранены я, або што?” Агонь немцы яшчэ не скончылі, а білі, мусіць, з мінамётаў. Я не дачакаўся, пакуль скончыцца артналёт, падняўся, высунуўся. А мяне ўжо ззаду - як вытне! Мяне кінула назад, сяджу і думаю: “Не, лепш не высоўвацца, пакуль не скончыцца”. Калі немцы налёт спынілі, я вылез, паглядзеў. У той акоп, які я раней выкапаў - міна трапіла. Калі б мне там відаць было наперад, я б, мусіць, і не пералез бы адтуль.*

*У першы дзень вайны немцы не прайшлі. У другі дзень аддзяленне нашага звяза, якое было правей нас, немцы прыціснулі мінамётамі так, што яно ўжо не магло трымацца, а тут метраў 100-150. Я ім крычу: “Давай сюды, перабягайце! Скачыце ў акопы!”. Тут ужо капаць няма калі. А немцы б’юць і б’юць…*

*Яны адтуль сышлі, і калі перабягалі - да мяне адзін салдат ускочыў, да другога, да трэцяга… І вось я не ведаю, адкуль салдату, што да мяне ўскочыў, у руку патрапіла шалёная куля. Я лявей стаяў, а яго раніла. А хлопец дужы быў, сібірак, і яму адразу дрэнна стала. У мяне была вада ў фляжцы. Я яму: “На, вады пацягні, можа лепш будзе”. Ён пацягнуў… Потым крышку прыцішэў бой. Акоп - высокі, і ён сам ужо не можа з акопа вылезці, так я яшчэ аднаму крыкнуў: “Давай, выцягнем хлопца”. Выцягнулі мы яго, і я яму гавару: “Ну, ідзі ў медсанчастку. Ты дойдзеш?” Ён ужо крышку адышоў і гаворыць: “Я дайду”. Пайшоў, і я яго пасля таго не бачыў, як ён, дзе ён?”*

*“Раму” ні разу не збілі. І вось ён ляціць над лесам, як быццам і не высока, а тады зеніткі былі толькі ўсталяваныя на машынах. Увогуле, пачалі біць па ім, а ён лётае сабе і нас “палівае”. Пройдзе, даведаецца, паведаміць сваім, а адтуль нам ужо падкідваюць снарады”. (file://lРудько восп/Беластоцкі выступ 1941.mht ).*

Успаміны старшыны вучэбнай роты **Шэлых Якава Пятровіча**: *“Першы бой быў цяжкім. Шмат было параненых і забітых. Мяне раніла, і я знепрытомнеў. Ачуняў без левай нагі. Мне не прыйшлося больш ваяваць… (В июне 1941. Кн 2-я, Гродно, 1999, стр.22)*

Вучэбная рота 213-га сп паспела заняць сваe пазіцыі да прыходу немцаў. **Максіменка Б.М** пра

развіццё ваенных дзеянняў.: *"У першыя хвіліны вайны я ўбачыў нямецкія самалёты, якія абстрэльвалі наш гарадок і сяло Сапоцкіна. У размяшчэнні роты пачалася блытаніна. Камандзіры рот і звязаў у гэты час знаходзіліся на сваіх кватэрах, і займаць агнявыя пазіцыі вучэбную роту павёў старшына Лаўрышчаў.*

*Патроны і міны ў нашай роты былі побач з намётам старшыны. Мы тут жа пачалі атрымліваць у яго боепрыпасы, і я атрымаў належны мне наган, з якога за ўвесь час службы ні разу так і не стрэліў - так, паказвалі: "Вось гэта цынгель, гэта так робіцца", а пастраляць з яго ніхто не даваў.*

*Калі нашы забяспечыліся боепрыпасамі і сухарамі з дзвюма сушанымі рыбкамі, тут жа пабеглі да месца, адведзенага нам па баявым разліку, занялі абарону на мяжы, прадугледжаным планам на выпадак вайны - за кіламетр направа, па паўднёвым беразе Аўгустоўскага канала прыкладна на паўночны ўсход ад размяшчэння лагера. Частка байцоў была накіраваная ў траншэі каля бетонавых ДОТаў, занятыя дзевятым артылерыйска-кулямётным батальёнам. Некаторыя ДОТы яшчэ былі не дабудаваныя, без стацыянарнага ўзбраення і маскіроўкі, Я, паколькі. быў пасыльным, пабег на кватэру да камандзіра нашага 1-га звяза л-та Тоболы, (а мінамёт застаўся ў Бычкова). Жыў ён метраў за 400 ад нашых намётаў, за невялікім балотам. Прыбег да яго дадому. Жонка сказала, што ён толькі што прыхапіў кашулю і, апранаючыся на хаду, пабег у полк. Я назад. Бягу, гляджу: ці то вучэбнае поле, ці то нешта накшталт гэтага - сілуэты-мішэні "фашыстаў" стаяць. Думаю: давай, стрэлю! Стрэліў метраў з 30 - не патрапіў. Падышоў бліжэй, яшчэ стрэл. Думаю: хоць стрэльну з нагана пару раз для трэніроўкі! Ізноў міма, хоць і цэліўся быццам нядрэнна. І толькі з 10 метраў мне ўдалося патрапіць у гэтую мішэнь. "Э-э, - думаю, - як жа мне ваяваць з гэтым наганам?! Ненадзейная зброя!*

*Мястэчка Сапоцкіна гарэла. Стала ясна: асноўны ўдар сваёй артылерыі немцы нанеслі туды, таму што. ад гэтага мястэчка ідзе прамая дарога на Гародню.*

*На мяжы абароны нашага батальёна варожыя атакі былі слабейшыя, і таму частка нашых байцоў была накіраваная на дапамогу суседзям.*

*Прыбегшы на канал, я даznaўся, што нашых замацавалі за ДОТ-амі. Маё аддзяленне замацавалі за вялікім двухпавярховым амаль дабудаваным ДОТ-ам, здаецца, нават абсталяваным падземным выйсцем. Стаяў гэты ДОТ проста па-над каналам. Ззаду за ДОТ-ам стаяла нейкая бетонавая тумба. У амбразуры ДОТ-а, у шарніры стаяла гармата, а ніжэй - спараны з ёй кулямёт "Максім". Сектар абстрэлу быў вельмі роўны. Лясок перад намі быў рэдкі, вышынёй у метр-паўтара. Сям-там былі пакінутыя ялінкі для арыентыраў, а астатнія дрэвы былі высечаныя. Канал перад намі быў прамы, але праз 50-60 м ніжэй па плыні ад таго месца, дзе быў наш ДОТ - стромка паварочваў направа перад мастом на в. Сонічы.*

*Ад нашага ДОТ-а метраў праз 200 направа стаяў яшчэ адзін ДОТ на адкрытай мясцовасці з тылу, але перадам ён знаходзіўся ўпрытык да лесу. На яго даху стаяла жалязяка, а на ёй - счацвяроная зенітная ўстаноўка - 4 спараныя кулямёты. Зenіткі ў нашым палку былі з 4-ма спаранымі кулямётамі на паўтаратонках...*

*Размешчаныя ДОТ-ы былі так, што наш ДОТ захопліваў сектар абстрэлу суседняга, а той - нашага ДОТ-а. На некаторых ДОТ-ах нават не былі яшчэ ўсталяваныя гарматы і кулямёты, і 22 чэрвеня іх уцягвалі ў ДОТ-ы і ўсталёўвалі там. У суседні злева ад нас ДОТ (які прама глядзеў на заставу № 2, на поўнач ад х. Чарток), уцягвалі і ўсталёўвалі гармату пры нас.*

*Немцы з'явіліся з далёкага лясочку прыкладна праз 15 хвілін пасля нашага прыходу на пазіцыі. Калі яны падышлі метраў на 150-200 да канала, іх абстралялі і яны, пакідаючы параненых і забітых, схаваліся ў тым жа лясочку, адкуль і выйшлі. Мінамётаў сваіх мы не скарыстоўвалі, т.ш. досыць было і стрэльбава-кулямётнага агню. У першыя хвіліны бою я бачыў нямецкія самалёты, якія абстрэльвалі наш гарадок і м. Сапоцкіна.*

*Праціўнік спрабаваў весці агонь па нашых ДОТ-ах з гармат, выпусцілі некалькі снарадаў з далёкага лесу па нашым ДОТ-у, але эфекту дасягнуць не змог. Наадварот, артылерыя ДОТ-аў лёгка душыла варожыя батарэі, нашы з ДОТ-а стрэлілі некалькі раз і іх гармата замоўкла.*

*Немцы тройчы кідаліся ў атаку на нашы пазіцыі, але сустрэчны агонь з ДОТ-аў і агонь нашых*



**ДОТ ля в. Сонічы**

вясляроў ёсць ульвхеднары(1). Ведаеш, дрот, што за воіны. Хто скажа, калі захочуць яны чалавечага мяса? А я не хацеў бы, каб сёння хтосьці хапаўся за сякеру.

Свафрламі ўсміхнуўся ў густыя, некалі залацістыя, зараз жа амаль сівыя, вусы. Арні адказаў яму ўсмешкай, зыркнуўшы сваім адзіным вокам.

- Добры карабель у цябе, стары. – мовіў уладар.

- Добры, - згадзіўся сівы мараход. – Я пабудаваў яго для чалавека, які пажадаў уладарыць на лебядзінай дарозе(2)!

Твар гаспадара Зорнай скалы, быццам высечаны з каменю, застаўся абыякавым, але бачыў Арні, як бліснулі яго крышталёва-халодныя вочы.

- Ты хочаш сказаць, што цмок гэты выйшаў на раўніну цюленяў(3) з тваіх рук?

- За гэта і празвалі мяне людзі Бацькам Доўгага Дракона.

- Што ж, Арні. Няхай твае дрэнгі(4) чакаюць на ладдзі. Як хочаш. Цябе ж, і хольдаў(5) тваіх, - дрот кіўнуў на ваяроў за спіной старога, – гасцямі сваімі бачыць жадаю!

Фіёрд глыбока ўрэзваецца ў зямлю доўгім вадзяным зубам. Чорна-шэрыя скалы ўзносяць тут у сінюю вышыню свае вострыя пікі, чапляючы вяршынямі снежна-белыя вясновыя аблокі. Вада ў фіёрдзе чорная, глыбокая, у белых карунках пены ля чорнага скальнага камню, дзе грукочуць празрыста-блакітныя струмені шматлікіх вадаспадаў. Стары дрот любіў гэта месца, поўнае змрочнай велічы, як і ён сам. З тае пары, як адсяклі яму хоры(6) ў сечы нагу, Свафрламі часта бываў сярод гэтых абветраных каменных глыбаў, дзе вясною калыхаліся ад подыху халоднага ветру белыя, як шарон зімовым ранкам, чароўныя кветкі. Казалі, сама Фрэя(7) сплятае з іх пяшчотных пялёсткаў вянкі. І не ўступяць яны белізне яе высакароднага чала, ззяючы чысцінёй першага снегу на жывым золаце валасоў. Любіў дрот слухаць таемны шэпт ветру ў скалах, любіў плёскат белагрывых хваляў і крыкі марскіх птушак. Тут хацелася жыць. Бліз фіёрду, загадае ён будаваць катухі для дрэкі – цмакагаловых караблёў-драконаў. О, Багі! Як песціць вочы гэта доўгая баявая ладдзя з крылом – ветразем на высокай мачце!

“Няма роўні “Цмоку Бездані” пад небам Мідгарда(8)” – хваліліся людзі, якія нарадзілі небывалы карабель. Родам майстры гэтыя, як і дрот, былі норгі. Суровы, мужны і ваяўнічы народ фіёрдаў. Адзін з іх, імем Арні, стаяў зараз поплеч з дротам і моўчкі глядзеў на цяжкія, свінцова-шэрыя хвалі. Быў ён кудлаты, сівабароды і аднавокі. Як і Свафрламі, адну нагу меў і дужа дроту нагадваў старога хворага ваўка, у якога яшчэ засталіся сілы для апошняга кідка.

Другі ж быў сынам яму і зваўся Хродгарам. Малады, яснавокі і меднавалосы. З мядовымі вусамі, ён рукамі валіў на зямлю раз’юшанага быка і адзінцом браў мядзведзя. Гэтымі ж рукамі спрытна трымаў ён як баявую сякеру, так і склюд цяслярскі. Уздыхнуў стары ўладар, кінуў на камень свой плашч. Сеў, спіну выпрастаў і на Арні зірнуў.

- Што, стары. Бачыш свае ладдзі на гэтых хвалях?

Карабел сеў побач з конунгам.

- Бачу, уладар.

Свафрламі паляпаў яго па плячы.

- Ці дачакаю? – у задуменні мовіў правадыр. – Эх! Сам хачу пабачыць, тваё змяінае племя, ля стырна пастаяць! Сына свайго на носе бачыць жадаю, каля галавы цмокавай! Хель ужо стукаецца безмесячнымі начамі ў мае дзверы. Але не ўбачыць ёй мяне ў сваіх туманных уладаннях. І не трушчыць Нідхёгавым(9) іклам мае старыя косці. У сечах славутых, у паходах цяжкіх дажыў я да старасці, і ў сечы жыццё маё меч варожы возьме! У Валгале(10) трымае мне месца Бацька перамогі(11). Не памру на саломе(12)! Спяшайся, Арні, на спіне твайго змея хачу ісці да Грымніра(13).

- Паспееш, дрот, перайсці Біўрост(14) шматкаляровы. Сын твой яшчэ не ў сіле.

- Дрэнгі любяць яго. Храбры. Мая кроў! – Свафрламі сціснуў сухія, моцныя кулакі. – Трох сыноў я меў. І вось, толькі аднога пакінуў мне Здрайца воінаў(15). Сігурда і Сінф’ётлі пакахалі валькірыі(16).

- У мяне таксама тры былі, - Арні кінуў у ваду

*__1. Ульвхеднары__ – тыя ж знакамітыя бярсеркі “мядзведжыя кашулі” – воіны, якіх у баі ахоплівала баявое шаленства. Яны бяззбройнымі кідаліся на ворага, кусалі сваю тарчу, не адчувалі болю ад ран і г.д. Мову замяняў ім воўчае выццё. Адгэтуль і назва. Татэмам іх быў воўк. Лічылася, што з мэтай звар’яцець у баі яны ўжывалі так званыя грыбы Одына – мухаморы. Выказваліся думкі, што вар’яцтва бярсеркаў – псіхічная хвароба, а ёсць даследчыкі, якія параўноўваюць баявое шаленства з шаманскім экстазам.*

*__2. Лебядзіная дарога__ – кёнінг мора.*

*__3. Раўніна цюленяў__ – мора.*

*__4. Дрэнгі__ (скан.) – воіны.*

*__5. Хольды__ (скан.) – ветэраны, воіны высокага рангу.*

*__6. Хоры (хуры)__ – так у скандынаўскіх сагах называлася балцкае племя куршаў.*

*__7. Фрэя__ – у скандынаўскай міфалогіі – багіня кахання.*

*__8. Мідгард__ – у міфалогіі скандынаваў – свет людзей.*

*9. __Нідхёг__ – цмок, які падгрызае карані сусветнага ясеня Іґдрасіль. Ежа яго – мярцвякі.*

*10. __Валгала (Вальхала)__ – у скандынаўскай міфалогіі нябесны палац Бацькі багоў і людзей – Одына, дзе балююць Эйнхерыі (тыя, што з гонарам загінулі).*

*11. __Бацька перамогі__ – адно са шматлікіх імёнаў Одына.*

*12. __Памерці на саломе__ – памерці сваёй смерцю і трапіць да Хель – асудзіць сябе на вечнае нікчэмнае існаванне. Бо Валгалы – воінскага раю годны толькі той, хто загіне ў баі са зброяй у руках.*

*__13. Грымнір__ – адно са шматлікіх імёнаў Одына.*

*__14. Біўрост (Біўрэст)__ – літаральна “дарога, якая трасецца”- вясёлкавы мост – уваход у жытло асаў – сканд. багоў.*

*__1. Здрайца воінаў__ – Одын*

*__2. Валькірыі__ – літаральна “якія выбіраюць забітых” – дзевы ваяўніцы, якія кружаць над бітвай, на крылатых конях і выбіраюць найбольш храбрых воінаў для нябеснай дружыны Одына.*

каменьчык. – Малодшага, Хродгара, ты бачыў. Старэйшыя ў Аднавокага(1).

- Можа дзе побач балююць яны за доўгімі сталамі, услаўляючы Уладара бітваў(2). І ўсміхаецца ён хірду(3) свайму з высокага Хлідск'яльву(4), - мовіў Свафрламі, зірнуўшы на далёкае неба. – Мы вельмі падобныя з табою, Арні. Толькі ў мяне два вокі, - усміхнуўся ён.

Бацька Доўгага Дракона пацiснуў плячамі.

- Калі я насіў драўляны меч і марыў аб вычынах Сігурда Фафнірабойцы, жыў у Алі Абпаленага Бёдвар Чорны, якога яшчэ звалі Сляпаком. Алі быў мой бацька. Багатым не быў ён, але братоў па зброі ніколі не кідаў у бядзе. У лютай сечы ад выту па галаве аслеп Бёдвар. Алі добра карміў яго. Хлеб свой Бёдвар не еў дарма. Не было сагі, якой не ведаў Сляпак. Аднойчы распавёў ён мне, як розным людзям – конунгу і рабу, папрадухі (5) вырабілі адзін лёс – адзін на дваіх.

- Нам ніколі не зразумець багоў. Мы – варцобы на дошцы. І дошка для іх гульняў не толькі Мідгард, - адказаў дрот.

- Усё так, Свафрламі, – згадзіўся Арні. – Ніхто ніколі не даведаецца, навошта норны блытаюць свае ніці. Я пражыў доўгае жыццё, конунг. І я думаю, што не дарэмна. Я бачыў шмат і ведаю, Мідгард большы, чым мы можам сабе ўявіць. Ніхто не заплываў так далёка ад родных берагоў, як Арні Вандроўнік, якога ты ведаеш як бацьку Доўгага Дракона. І памятаюць яшчэ на далёкіх берагах маю звонкую сякеру і маё імя. Але памяць чалавечая перадасць срэбным струнам сконавых(6) арфаў не мае ратныя вычыны, а тое, як на маіх крылатых ладдзях зробіцца ўладаром Эгіравай бездані(7) народ краіны фіёрдаў. Мой першы дрэкі я спусціў на ваду за межамі Мідгарда. Можаш не верыць, уладар, але няма хлусні ў словах маіх. Гэтай ноччу нядоўга размаўлялі мы. Я слабы на выпіўку, а мёд твой выдатна моцны. Занадта для маёй хворай галавы...

- Не прыбядняйся, стары фукс(8), – з усмешкай сказаў Свафрламі. – Я не для тваіх жоўтых зубоў. Піў ты мала, гаварыў слушна. Ды толькі, думаецца мне, не ўсё. Мы ўжо шмат пра што дамовіліся, Арні. Ты правадыр, і лёс тваіх людзей залежыць ад цябе. Язык – не баявое жалеза, а ўсё ж – зброя. Аднавокі норг ухмыльнуўся і паскроб тоўстымі, чорнымі ад смалы пальцамі, сівую патыліцу.

- Праўда твая. Галоўнае ты не пачуў. Я скажу, а ты вырашай, ці каштуюць мае ладдзі крыві, крыві тваіх дрэнгаў. Слухай, уладар, "Цмока Бездані" пабудаваў я для Хакі ярла (9). А цяпер вось я ў цябе. між ярлам і мной – кроў вялікая. Кроў нашых сыноў. І хоча Хакі галаву маю. Мяркуй, правадыр, ці жадаеш службы маёй. І яшчэ, ведай, ніколі Арні Вандроўнік не шукаў сабе гаспадара. Не шукае і Бацька Доўгага Дракона. Нічога не адказаў Свафрламі. Бараду гладзіў і на мора глядзеў.

- Што ж, Вандроўнік. За тваіх коней крыві не пашкадую, - нарэшце мовіў ён. – А зараз жадаю выслухаць, як жыў ты, Арні, і якімі людзьмі былі твае сыны. Скажы, як можа выйсці чалавек за сцены Мідгарда і жывым вярнуцца ў свет людзей? Ці можа такое муж, жанчынай народжаны?

- Гэта доўгая сага, дрот, а словы мае шэрыя, як камяні ў цябе за спіною.

- Я люблю доўгія аповяды, - вочы мужчын сустрэліся. – Часу ў нас уволю. А сонца грэе старыя косці. - Арні адкашляўся. - Сапраўды, раніца, а ўжо так цёпла.

- Калі хочаш, слухай, уладар.

І адказаў Свафрламі:

- Хачу.

- Вечны бадзяга, мала калі начаваў я пад уласнай страхой. Быў час, была ўдача. Меў я хірд, лупы(10) ў набегах багатыя браў, і шмат хто з магутных воінаў агаляў меч па слову майму і зваў мяне правадыром. Я ведаў, чаму ідуць за мной людзі, дрот. Мая ўдача тады была вялікай. І думаў я – так будзе заўсёды.

- І я так думаў, - ухмыльнуўся Свафрламі. – Думаў, не пакіне мяне мая хамінг'я(11). Ніколі. Не ведаю, каго лепшага знайшла яна. А толькі тры зімы таму, прывёз я з паходу замест здабычы сваю нагу, – дрот змоўк і працягнуў руку па вінны мех. – Добрае віно робяць вальхі (12). Працягвай, Вандроўнік.

- У мяне было шмат жанчын, але даражэй за мілую ўлюбёнку Хель – нікога. Хель – старадаўняя, выкладзеная срэбрам сякера майго прадзеда.

Яна піла кроў румскіх(13) легіянераў яшчэ да Аларыха (14). Я пакінуў яе ў грудзях Брагі Хакісона, празванага Спеваком з Далёкіх выспаў, дзе ён піў мёд паэзіі. Я забіў яго твар да твару. Не так, як забіў яго бацька, Хакі ярл, майго старэйшага – Ульвганга. Хакі забіў сына ў спіну. Нарадзіла мне Ульвганга дзева з Бурштынавага берага Сцюдзёнага мора. Сярод жанчын, што кахалі мяне, памяці маёй годныя толькі тыя тры, што падаравалі мне годных сыноў. І першая – Золатавалосая. Я назваў яе так, бо больш цудоўных валасоў не бачыў. Даўжынёй яны сягалі каленяў і здаваліся мне залатымі змеямі. Хорамі звалася яе племя, - Арні не заўважыў, як Свафрламі сціснуў кулак. – Яна пакусала мне ўсе грудзі і скрывавіла твар, калі я быў з ёй. Я не ўзяў яе на ладдзю, адпусціў, са

---

***1. Аднавокі*** *– Одын*
***2. Уладар бітваў*** *– Одын*
***3. Хірд*** *- сканд. дружына.*
***4. Хлідск'яльв*** *– літаральна "вартавая вежа" - "трон Одына"*
***5. Папрадухі норны*** *– багіні лёсу.*
***6. Скоп*** *(скан.) – дружынны спявак.*
***7. Эгірава бездань*** *– кёнінг мора. Эгір – марскі вялікан.*
***8. Фукс*** *(скан.) – ліс.*
***9. Ярл*** *(сканд.) – князь.*
***10. Лупы (луп)*** *– ваенная здабыча*
***11. Хамінг'я*** *– дух, увасабленне ўдачы*
***12. Вальхі*** *– скандынаўская назва кельтаў.*
***13. Румскіх*** *– рымскіх.*
***14. Аларых*** *– правадыр готаў, які ў 410 - годзе разрабаваў Рым.*

смехам крыкнуўшы, што калі будзе сын, няхай заве Ульвгангам. І вось мінулі зімы з таго набегу. Балявалі мы ў Халагаландзе тады. Суровы край. Тая зіма на дзіва марозная выдалася. На снег ясным днём нельга глядзець было – гнаіліся вочы.

І аднойчы сінім вечарам унёс у воінскі дом Ацур Мядзведжая Лапа пачарнелае ад холаду хлапчанё і сказаў, што малы гэты шукае Арні Вандроўніка, якога заве бацькам. Сам жа ён завецца Ульвгангам. А я глядзеў на тое дзіцё і ведаў: хлопец мой. І гэта было так. І я стаў ганарыцца ім, калі даведаўся, што сын мой, якому тады мінула дзевяць зім, забіў сталага мужа і здолеў адшукаць сваго бацьку ў дзікіх лясах ільдзяной Халагі. Хто скажа, што не належыць ён да роду Ульвінгаў! Застаўся жыць Ульвганг, дзякуючы намаганням старой Герд. Невядома, з дапамогай якіх багоў старая ведзьма перамагла смерць. Але сын мой пазбавіўся амаль усіх пальцаў на нагах і правай руцэ. Белая дзева(1) абпаліла іх сваім лёдзістым подыхам. Чорныя былі. Ацур бачыў сляды яе босых ног на снезе. Мядзведжая Лапа адагрэў малога сваім целам. Калі ён нёс Ульвганга ў песелішча, Белая доўга ішла ўслед і некалькі разоў бачыў Ацур між дрэў яе плашч, вытканы са срэбнага шарону. Герд, ведзьма, нагрэўшы ў полымі нож, адняла пальцы Ульвгангу, апаіўшы хлопца сон-травою. Воіны празвалі яго Бяспалым. Некаторыя ж звалі Ульвганга Ляўшой, бо трымаў ён меч левай рукой, як Цюр. Я сам вучыў сына валодаць зброяй. Цмока рукі(2) любіў ён больш за ўсё. І распавядаў мне Ульвганг, што Золатавалосая доўга чакала мяне, кожны вясновы дзень гледзячы ў сінь далягляду. І не бачыла нічога, толькі халодныя хвалі. Яна не дачакалася маёй ладдзі. Ды я пра яе тады ўжо і не помніў. Калі сын мой жыў на свеце сёмую зіму, Золатавалосую ўзяў за белыя рукі Браўлін Жалезны Бок і назваў яе жонкай. Быў ён княжага роду і паходзіў з вендаў(3). Не любіў ён маё ваўчанё, здзекаваўся ўсяк з малога. І калі Золатавалосая панесла ад яго, пажадаў Браўлін семя норскае вырваць. Але Ульвганг – мой сын! Ад вуха да вуха перарэзаў ён венду горла на яго ж ложку і кроў Браўлінава запэцкала голыя грудзі Золатавалосай. У дзевяць зім хлопчык стаў мужам. На золку, з вернымі воінамі выправіла маці Ульвганга цераз мора ў Зямлю фіёрдаў, наказаўшы дрэнгам захоўваць вернасць сыну. Была позняя восень, багатая на снег і сцюдзёныя вятры. Цяжка хадзіць па моры, але Браўлінавы браты ўсё ж нагналі на шпаркаходных лодках ладдзю майго хлопца. Вятка, Воўчым хвастом празваны, паспеў скіраваць да берага. Верныя клятве, яны палеглі ўсе пад мячамі вендаў – дзесяць чалавек. Спадзяюся ўбачыцца з імі ў Валгале. Годныя мужы, слова не парушылі, выратавалі маё ваўчанё. Пакуль рэзаліся, малы ўцёк. І два разы прыбыла поўня, пакуль яго, насмерць замерзлага, знайшоў Ацур. Славутым воінам вырас Ульвганг. Вочы сцюдзёныя, празрыстыя, як вада замерзлая. Кроў жа гарачая, нібы полымя Муспельхейма(4). Скоры на гнеў і на ўсмешку. Такім быў мой першы сын. Хакі забіў яго па-здрадніцку – у спіну, - Арні замаўчаў.

Свафрламі слухаў, прыплюшчыўшы вочы. Маўчалі даволі доўга і, нарэшце, спытаў дрот:

- Што ж не падзяліў ярл з сынам тваім?

Арні ўздыхнуў.

- Неўзабаве даведаешся. Калі не дадзела брахня мая, слухай, правадыр, далей.

Конунг хітнуў велічнай галавой.

- Род мой не ўзыходзіць да багоў, але храбрасцю сваёй, удачай і ганарлівасцю, не ўступалі ярлам мужы ад кораня Ульфілы Старога, які хадзіў у паходы яшчэ з самым славутым з Амалаў(5).

Дзед жа мой, Ульвганг Крывавая Сякера, быў адным з тых, хто падняў на тарчы Адаакра(6), абвясціўшы яго італійскім конунгам. Я быў не горшы за дзедзічаў сваіх і ўдачу меў вялікую. І кахала мяне Сванхільд Снежная – дачка Гундэвеха – конунга бургундаў(7). Дабіваліся яе мужы лепшыя, знатныя, яна ж лягла са мной, маладым, але ўжо ссечаным баявымі шнарамі. І ўзненавідзеў мяне Гундэвех, бо не лічыў сабе роўняй. І вымушаны я быў ратавацца ад гневу яго. А цераз зіму даведаўся, што нарадзіла Сванхільд Хлёда. Ён жа забіў яе. Цяжкія былі роды. Вялікі быў Хлёд. Ішоў туга і ўсё нутро маці сваёй парваў. Крывёй сплыла мая Сванхільд. Жанчыны насілу выратавалі немаўля. З тае пары ўдача мая здрадзіла мне. Гундэвех не пажадаў дараваць абразы сваёй і смерці дачкі. Як ваўка сабакамі, цкаваў ён мяне дрэнгамі сваімі. З хірда майго засталіся са мной толькі сем чалавек. І прыплылі мы ў краіну прусаў. І толькі выцягнулі на пясок ваўка берагоў(8), як заўважылі на далягядзе ладдзі Гундэвеха. І мовіў я тады воінам сваім:

“Не заяц я, уцякаць стаміўся. Вас жа , браты мае, ад клятвы вызваляю”.

Але смяяліся яны са слоў маіх. І сказаў Хагбард Лічына: “Мы абралі цябе важаром, Арні. І ты быў не дрэнны правадыр. Ніколі не скажуць людзі, што Хагбард Скаўцісон пашкадаваў сваё жыццё, калі смерць прыйшла па яго правадыра”.

Бразнулі воіны зброяй аб тарчы, крыкнулі: “Хочам сёння ежы багоў пакаштаваць”!

І сталі мы спіна да спіны. У пене прыбярэжнай марудзілі бургунды і франкі. Дзівіліся. Ніколі не бачылі, каб восем сотню чакалі. Цесна стаялі мы, і вецер сплятаў у светлае воблака нашы доўгія валасы. І выйшаў наперад Гундэвех і крыкнуў маім людзям, што

*1.* ***Белая дзева*** *– дэманічная істота, увасабленне зімы і смерці.*

*2.* ***Цмок рукі*** *– кёнінг мяча.*

*3.* ***Венды*** *– скандынаўская назва прыбалтыйскіх славянаў.*

*4.* ***Муспельхейм (Муспель)*** *– вогненная краіна ў міфалогіі скандынаваў, дзе жылі вогненныя вяліканы, з якім варагавалі скандынаўскія багі.*

*5.* ***Амалы (Высокародныя)*** *– славуты готскі род, які даў готам шмат вялікіх правадыроў. Адным з іх быў Германарых, якога скандынавы звалі Ёрмунрэкам. Вялікі быў уладар. Але праславіўся ён не толькі сваёй доблесцю, але і лютасцю вялікай.*

*6.* ***Адаакр*** *– правадыр германскіх наймітаў, які адабраў уладу у 476 годзе ў апошняга ўладара Рымскай імперыі Ромула Аўгустула. У існаванні Заходняй імперыі была пастаўлена кропка.*

*7.* ***Бургунды*** *– германскае племя.*

*8.* ***Воўк берагоў*** *– карабель.*

не годны я іх любові, і зваў ён мяне нідынгам(1). Але адказаў яму Хагбард Лічына: “Не табе зваць нідынгам таго, з кім хадзілі мы ў славутыя паходы!”

І з сілай вялікай кінуў Скаўцісон дзіду сваю ў Гундэвеха. І не здолеў абараніцца ад таго славутага кідка стары конунг. Гадзіна рукі(2) праццяла яго магутныя грудзі і заенчылі, завылі ваўкамі асірацелыя бургунды. Кінуліся на нас, лютай помсты прагнучы. Як героі старажытных саг, загінулі мае воіны, пасечаныя на кавалкі крыважэрнымі веліканшамі бітвы(3). Мяне і Хагбарда жыўцом браць хацелі. І рагаталі мы з пабрацімам з ворагаў, стоячы на кучы скрываўленых целаў. Секлі і секлі, не звяртаючы ўвагі на ўласныя раны. Нарэшце, аслабелых ад стомы і страты крыві, звязенілі нас бургунды. Я тады ўжо нічога не бачыў, бо адно вока мне выбілі, а другое заліла кроў з рассечанага ілба і думаў я, што аслеп. Жахлівая смерць чакала нас, і не утрымаў Хагбард крык у грудзях сваіх, калі пачалі аддзяляць яму ад хрыбта рэбры(4). Мяне ж пажадалі бургунды кінуць падыхаць побач з распатрэшаным пабрацімам, адсекшы рукі-ногі. Узляцела сякера, і боль сціснуў цела маё ў вогненных абдымках. Адзін з Гундэвехавых дрэнгаў падняў і паказаў мне маю скрываўленую нагу. Але смяяўся я ў твар катам сваім. Каб суняць крывацёк, палілі мне рану паходняй. І вось ізноў бліснула на сонцы шырокае лязо ільдзіны сечы(5). Але гэты пацалунак яе я не атрымаў. Паваліўся мой кат на мяне са стралой у горле. Яшчэ імгненне, і жудаснае выццё, енк і скавытанне рэзнулі мне на вушах, нібы сотні мерцвякоў раптам вырваліся са змяіных буданоў Хель. Я чуў раней гэты страшны баявы кліч. Гэта ішлі ў бой прусы Вайдывута(6) конунга. Калісьці яшчэ юнаком я біўся з імі і добра памятаю, як па хрыбце паўзуць мурашкі, калі бачыш, як на цябе нясецца натоўп амаль голых мужчын з утрапёнымі вачамі і пенай на скрыўленых вуснах. Ваўкамі выюць яны, а рэву іх пазайздросціць і раз’юшаны мядзведзь. Што ні воін – бярсерк! Зброя прусаў – дзіды ды сякеры. Мячоў мала і больш бронзавыя. Але самая страшэнная зброя іх расце разам з прускімі хлапчукамі. Дубіны з крамянёвымі зубамі! Прусы завуць іх сваімі жонкамі. Кожнае смаркатае дзіцянё з Вайдывутава племя знаходзіць сабе ў лесе дубок, узрэзвае на ім кару і ўстаўляе ў надрэзы вострыя крамянёвыя асколкі. Ідуць зімы і становіцца хлопчык воінам лютым. І сячэ ён дуб, што вышчараецца каменнымі іклами, сячэ на пагібель сваім ворагам. Страшная зброя. І зведалі цяжар дубоў гэтых спаўна бургунды. Увесь Гундэвехаў хірд утапталі ў прыбярэжны пясок звар’яцелыя ад паху крыві баяры Вайдывута конунга, празванага Бурштынавай Дзідай. Рагатаў я, калі гінулі пад прускімі дубінамі бургунды, і вось заўважыў, як паваліўся Хільдэрык, паранены дзідай у плячо. Гэта ён выпрастаў рэбры майму пабраціму. Падхапіў я з пяску нечы нож і папоўз да Хагбардава ката. І радасна мне было бачыць страх у вачах франка. Хрыпелі мы, качаліся ў пяску, як звяры, кусаліся і рэзалі адзін другога нажамі, не заўважыўшы, што скончылася сеча крывавая і скупіліся каля нас прусы цесным колам. І перамог я Хільдэрыка, бо ўзненавідзеў яго за лютую смерць Лічыны. Раскрыў я грудзі яму, выняў сэрца дрыготкае і на кавалкі яго зубамі рваў. І ківалі галовамі калматымі дзікія Вайдывутавы ваяры. Мабыць, нават яны не так часта бачылі, як грызе пераможца варожае сэрца. Два гады пражыў я ў прусаў і вялікае сяброўства меў з іхнім конунгам, а таксама і з Прутэнам – братам Вайдывутавым. Гэта Прутэнава страла выратавала маю нагу. Яны былі годныя мужы, вялікія ўладары і палюбіў я іх. Але не пажадалі норны сяброўства таго. Аднойчы Вайдывут высек вялікую зграю норскіх находнікаў, што рабавалі землі яго. І трэба ж было! Сярод палонных, якіх чакала смерць лютая, быў мой старэйшы брат Халь Валовая Скура. Амаль дзесяць зім не бачыў я яго. І ён таксама думаў, што сустрэне мяне толькі ў Валгале. Халь не вельмі любіў зброю, больш да душы брату былі яго каровы, спакойнае жыццё на бацькаўшчыне, ды прыгожая пяшчотная Цюра, што спраўна нарадждала яму сыноў. Сямёра меў. Аднойчы ўсяго гэтага не стала. У норскі бераг тады дзюбнулі насамі Прутэнавы лодкі. Калі Халь вярнуўся з гандлёвай паездкі, то на месцы маёнтка ўбачыў даўно астылае вуголле. Ды раздзюбаныя крумкаччом целы жонкі і пяці сыноў. Двое старэйшых абралі для сябе шлях воіна і даўно пакінулі бацькоўскую хату. Вось і Халь узяўся за меч. Нешта зламалася ў душы майго брата. З ціхага бонда(7) ператварыўся ён у бярсерка і шалеў у бітве. Ад паху крыві звер, што нарадзіўся ў сэрцы яго ў той дзень, рваўся на волю, і Халь не мог яго стрымаць ды і не жадаў. І сталі зваць брата Голым, бо бяззбройным і бязбронным кідаўся ён у сечу, выклікаючы жах у ворагаў. Сілу бярсеркам сваім Одын немаверную дае. Вось і Халь голымі рукамі людзей на кавалкі разрываў. Але за магуту Высокага разлічвацца трэба. Пасля бітваў амаль па два дні ачуняць не мог брат мой. Вочы мутныя, здаецца, нічога не бачаць, як на нogі ўстане, хістаецца, нібы кадушку піва высмактаў. Такім быў Халь Голы. Шмат прусаў прынялі смерць з яго рук. Ён усё ж дабраўся да Прутэна і цяжка параніў конунгава брата. Думалі, не выжыць яму. Доўга і цяжка хварэў Прутэн. Я не прасіў Вайдывута за Халя. Ведаў, адмовіць мне, хоць і біўся я за яго супраць сваіх суайчыннікаў, супраць брата і выратаваў Вайдывута ад норскай сякеры, закрыўшы правадыра тарчай сваёй. Але назіраць за мукамі Халя на вогнішчы, у гонар прускіх багоў, я не жадаў. Ноччу я парэзаў вартавых і вызваліў вязняў. Мы здолелі прабіцца да караблёў. Так я выратаваў брата. Але разам нядоўга былі мы: хутка Одын паслаў па Халя белагрудых валькірый. Ён памёр

*1.**Нідынг** (сканд.) – баязлівец, пракляты, чалавек не годны павагі.*

*2.**Гадзіна рукі** – дзіда.*

*3.**Веліканша бітвы** – баявая сякера*

*4.**Аддзяліць ад хрыбта рэбры / урэзаць крывавага арла (крумкача)/** - жудаснае пакаранне смерцю, прынятае ў германскіх народаў.*

*5.**Ільдзіна сечы** – кёнінг баявой сякеры*

*6.**Вайдывут** – паўлегендарны ўладар прусаў.*

*7.**Бонд** (сканд) - вольны селянін.*

пасля тынга кальчуг(1) з ютамі. Памёр ад ран. За некалькі дзён да смерці Халя я і стары Рулаў Хрысціянін спусцілі на страху рыбаў(2) першую ладдзю з вятрылам. Думаю, дрот, трэба табе хоць некалькі словаў сказаць пра гэтага чалавека. Рулава вызваліў я з прускага палону разам з Халем. Дзівак быў стары. І, пэўна, не было ў Мідгардзе месца, дзе не пакінулі слядоў яго ногі. Казалі, ён даходзіў да самага Муспеля, дзе пякучы подых Сурта(3) зрабіў скуру людзей чорнай, як ноч. Мудры быў стары. Мала каму дазваляюць багі пабачыць столькі за адно жыццё. Доўгі час ваяваў ён на берагах цёплых мораў за золата рамейскага конунга. За вычыны на вайне быў узяты ў палац ахоўваць святую асобу ўладара. І кляўся Рулаў яму ў вернасці, за якую конунг, там ён завецца к'ярам(4), шчодра ліў залаты дождж на далоні сваіх воінаў – чужынцаў для рамеяў. Амаль усе, прыходзілі яны з захаду і поўначы. Іх мячы каштавалі дарага. Конунг ведаў, за што дае. Здрада заўсёды жыла ў залатых сценах палаца. І калі таго ўладара прыйшлі рэзаць, найміты спаўна разлічыліся за корм і слёзы Фрэі(5) сваёй крывёй. Усе яны ляглі пад варожымі мячамі. Не адзін не зрабіў кроку назад. Тым часам Рулаў здолеў вывесці к'яра падзямеллем. Цераз поўню яго ўсё роўна знайшлі і забілі. На залаты стол сеў новы конунг. Так распавядаў мне стары. Пасля смерці ўладара свайго падаўся ён да марскіх рабаўнікоў. Амаль пяць гароў сваволілі, пакуль іх да рэшты не вынішчылі імперскія ваяводы. Рулаў цудам уратаваўся. І нельга распавядаць, дзе насілі яго вятры, не хопіць слоў. Старога так і звалі – Вецер. Ужо сівога прывялі яго ніці норноў на Поўнач, дзе сышоўся ён з маім братам. Халь тады ўжо жыў за сябе і за звера, які панаваў над яго сэрцам і розумам. Трэба сказаць, што быў Рулаў воін, якіх мала. Упершаню я ўбачыў яго ў бітве, калі Вайдывут з Прутэнам тых норскіх рабаўнікоў пляжылі. Ён секся поплеч з Халем. Былі яны пабрацімамі, каб ты бачыў, дрот, як б'е ён сваім мячом! Кожны выт нёс смерць. І вось, убачыў Халь Прутэна, і пена пацякла па вуснах яго. На дзіды прусаў кінуўся ён голымі грудзьмі, і не дайсці бы брату да кроўніка свайго, каб не клінок Рулава Ветра. Скрозь натоўп ворагаў ішоў стары ўслед за пабрацімам, і не адзін меч, не адзін кій не крануўся спіны Халя, бо ахоўваў яе Рулаў. І вось, схапіліся Прутэн з Халем. Вялікі воін брат Вайдывутаў, храбрасці непамернай, але не пераадолець яму было бярсерка. Халь цяжка параніў яго – шырока грудзі раскрыў. Яшчэ імгненне, і смерць прыняў бы брат прускага ўладара, але не было болей вернага пабраціма за спіной Халя. Дзіду, што брата майго джаліць хацела, у плячо сваё прыняў Рулаў. І адзін з воінаў выцяў Голага па галаве дубінай сваёй. Думалі – забіў. Не можа галава чалавечая такі выт вытрымаць. Але ў Халя ў той час была галава мядзведжая. Жывы застаўся. Вайдывут не даў іх дарэзаць. Прускія багі любяць кроў герояў. Я ўкраў у іх ахвяру і, пэўна, адпомсцілі яны. Брат мой цераз тры поўні сеў на крылатага каня валькірыі. Для апошняга паходу я пажадаў даць яму лепшае, што меў. "Сіні Змей" – наш новы карабель, на які Рулаў паставіў мачту і сшыў з цюленевых скураў ветразь, узяў на сваю магутную спіну Халя. Ахоплены полымем, увайшоў дрэкі ў залатую браму Одынава палаца, прынёс героя да Бацькі бітваў. А цераз зіму загінуў ад венедскага мяча сівы Рулаў Вецер і гэта была вялікая страта. Калі сплываў ён крывёй у мяне на руках, то прасіў свайго Белага Бога, каб дараваў грахі яму, а мяне прасіў не помсціць за смерць яго. Што тут скажаш, дзіўны быў чалавек, як і яго ўкрыжаваны Бог. Да Хрыста я выправіў яго на ладдзі. Стары быў таго годны. Казалі мне людзі, што сустрэў ён у моры калісьці нейкага Брана(6), якога эрынцы(7) завуць святым. Цераз яго пазнаў ён Укрыжаванага, перад якім магутныя ваяры падаюць на калені. Не разумею таго.

- Некаторыя кажуць, што Хрыст падобны да Одына, - мовіў Свафрламі. – Ён прынёс сам сябе ў ахвяру, як і Высокі, павіс на дрэве.

Арні паціснуў плячамі і добра прамачыў горла з казінага мяха. Абцёр вусы і сказаў:

- Шмат хто казаў мне, што Укрыжаваны – Бог рабоў. Але той, хто казаў гэта, не бачыў Рулава. Чуў я, што Белы Бог міласэрны і праклінае вайну. Хіба не бачыць ён, як слугі яго жыўцом паляць дзяцей у славу яго? Як катуюць хрысціяне палонных сваіх? І кажуць, што так хоча ХРЫСТ! Здаецца мне, дрот, што такі бог больш падобны да Локі(8), чым да Одына. Я бачыў шмат хрысціян за сваё жыццё. Але мужам з іх годны звацца толькі Рулаў Вецер. Ніколі ад яго не пачуў я лжывага слова. У адрозненні ад сваіх адзінаверцаў, Рулаў меў адзін язык. Страшны ў сечы, ён літасцівы быў да пераможаных. Я любіў яго,— Арні зноў узяў мех з віном. – Нарадзіўся Рулаў на берагах ракі, што завецца Рубонам(9). Цяжка вымавіць, але я запомніў, як назваў яго бацька. Рэдзі(10) – такое імя атрымаў мой сябр. Ну як, уладар, не стаміў я цябе? Казаў жа, гэта доўгая сага.

- Туманны цень мінулага паўстае перад маімі вачамі і будзяць словы твае ў памяці гукі скопавай арфы, што спявала доўгім зімовым вечарам аб каханні Сванхільд Снежнай да простага воіна, якога, апрача яе, кахала яшчэ і Удача! А што твой Хлёд? Ці любіў ён цябе?

- Мы мала бачыліся, дрот. Сын выхоўваўся пры бургундскім двары. Пасля смерці Гундэвеха ўладарам

*1.* ***Тынг кальчуг*** *– бітва.*

*2.* ***Страха рыбаў*** *– мора, тут – вада.*

*3.* ***Сурт*** *– у скандынаўскай міфалогіі вогненны велікан, уладар Мускельхейма. У бітве з багамі, у дзень Рагнарак, ён спаліць увесь Свет.*

*4.* ***К'яр*** *(сканд.) – кесар.*

*5.* ***Слёзы Фрэі*** *– золата.*

*6.* ***Бран Святы*** *- ірландскі святы.*

*7.* ***Эрынцы*** *– ірландцы.*

*8.* ***Локі*** *– скандынаўскі бог падману, хлусні. У апошняй бітве – дні Рагнарак, Локі будзе змагацца супраць багоў. Ён лічыцца самай таемнай асобай у скандынаўскай міфалогіі.*

*9.* ***Рубон*** *– старажытная назва Дзвіны*

*10.* ***Рэдзі*** *– славянскае Радзім.*

бургундаў стаў яго старэйшы сын. – Гадамар. Не салодка было там малому, - Бацька Доўгага Дракона ўсміхнуўся. – Не любілі яго. І ён успомніў мяне. Выкінуў аднойчы караля з замкавага акна і з вернымі воінамі, пакінуў межы бургундскіх земляў. Гадамар жывы застаўся. Акно не высока было. Ногі сабе уладар паламаў. А так нічога, ачуняў, - Арні заўважыў, як хавае у пасівелых вусах усмешку Свафрламі – Хлёд адшукаў мяне і назваў бацькам. Пры мне быў ён мала, поўні тры, можа, крыху болей. З Ульвгантам на Альбіён ваяваць пайшоў. Ну як пайшоў, дык я яго і не бачыў. Не бачыў і Ульвганга. Усё біліся. Аднавокі, перад тым, як забраць маіх сыноў у свой хірд, вырашыў паказаць мне, якімі мужамі сталі яны. Ну, а Хродгара ты бачыў сёння на золку. Ён не паслухаў мяне, не застаўся на ладдзі, як я загадваў. Ён прыйшоў за мной. Не мог больш чакаць, не ведаючы, ці жывы я яшчэ. Ён добры сын, але не быць яму правадыром. Надта ж хуткі, кроў загарачая. Адразу сячэ, потым глядзіць, чыю галаву сцяў. Так, як і маці яго – яснавокая АсаВаўчыца. Была яна дачкою заможнага бонда, Віглафа Азёрнага. І скажу я табе, дрот, не жанчына гэта была, але валькірыя. Жаночай справы не ведала і меч быў мілы рукам яе, а стрэлы ніколі не мінулі ні звера, ні чалавека. Я быў з ёй і пакахала яна мяне. І быў Аўд Медзведзянё, які хацеў Асу жонкай сваёй бачыць. Магутны дзяцюк быў. Сілу, сапраўды, мядзведжую меў. Пажадаў са мной на нажах біцца. Памятаю, з якой пагардай крывіў ён вусны, гледзячы на маю драўляную нагу. Сыты хатні сабака захацеў вырваць горла мацёраму кульгаваму ваўчыне. Ён нават не зразумеў, што адбылося, калі нож мой увайшоў яму пад сэрца. Аса стала мне жонкай. Вялікае было каханне яе. У паходах на маёй ладдзі была. Калі Хродгара нарадзіла, то нават з ім сядзець не хацела, калі вёў я сваю зграю ў набег. Ульг(1), звалі яе людзі. І вось, клікаў аднойчы Эйвінд конунг вольных правадыроў у паход на Ругу(2). Я захацеў ісці за ім. Але не ведалі мы, што белы конь(3) Пяцітварага(4) надта ж добра для ругаў прайшоў між дзідамі.

Хацелі мы браць руянскую цвярджу пасухому. З мора не ўзяць, на скале стаіць. Мяркаваў Эйвінд – палову віцязяў на скалу гэтую кінуць. Другая ж палова за дзень ходу да Арконы(5) на бераг высадзіцца і ў спіну ругам сякеру ўсадзіць, калі цемра начная над Мідгардам ўладу возьме. Думалі, знянацку на сцены заскочым, ноч дапаможа. Няхай са скалы сваёй плююць ругі на караблі конунгавы. Але так і не ўбачылі мы сцен Арконы. Як у думкі Эйвінда залез Ярмар(6), уладар руянскі, таго не ведаю. А толькі сустрэў ён нас яшчэ на ўзбярэжжы з сілай вялікай і перамогу яму багі падаравалі. Эйвінд загінуў у сечы. Мне ж нейкі руг кіем галаву прабіў. На руках вынеслі мяне воіны з бітвы. Пяць дзён праляжаў я нерухома і думалі, што мярцвяк. І чакала ўжо мяне ладдзя, але Аса стала з аголеным мячом над маім целам і мовіла, што не аддасць мяне Одыну. Не пажадалі воіны са звар'яцелай Ваўчыцай спрачацца. Згадзіліся яшчэ дзень пачакаць, а на раніцы я расплюшчыў вока. Але гаварыць не мог. Амаль дзевяць поўняў Аса карміла мяне са сваіх рук. Вярнуліся з вайны Ульвганг і Хлёд. Румскага лекара з Альбіёну прывезлі, ды вядзьмарку са Свеі(7). З іх дапамогай жонка адбіла мяне ў валькірый. А сыноў сваіх я тады так і не ўбачыў, бо сляпое было вока маё ад выту варожага. Марудна зрок да мяне вяртаўся. Цяжкая хвароба з'ела маю моц. Меч валіўся з аслабелых рук. Ведаеш, дрот, не пажадае муж такога жыцця. І гнаў я ад сябе тую, што каханнем сваім перашкодзіла мне прывітаць Гаспадара Валгалы. Замест баляванняў, баёў і пацалункаў дзеў Аднавокага, вымушаны быў я амаль кожныя сем дзён пакутаваць ад шалёных сутаргаў, якія ламалі цела маё, рвалі мне жылы. Пасля іх, калі мяне, забрудджанага мачой і пенай, абмывала Аса, я нічога не памятаў. І вось аднойчы, калі побач нікога не было, мары(8) зноў авалодалі мною, але, чамусьці на гэты раз, ясным быў мой розум. Сталіўшыся катаваць мяне, нарэшце пахава-ліся клятыя злыдні на кутах. Абцёршы з вусоў пену, зірнуў я на сваё ложа і зразумеў, каго напалохаліся мае каты. Ён сядзеў на мядзведжай шкуры, што служыла мне коўдрай. Доўгая белая барада, быццам туман, цякла па шырокіх грудзях. Сіні плашч дажджавой хмарай вісеў на волатаўскіх рамёнах. У руцэ трымаў ён шыроколязовую дзіду, што зіхацела ярчэй за сонца. Сэрца маё затахкала мацней. Я не бачыў яго ўсмешкі, але ведаў, зараз незнаёмец усміхаецца. І вось ён падняў галаву. З-пад лямцавага капелюша зірнула на мяне яго адзінае вока колеру сініх норскіх ледавікоў. І ў жылах маіх кроў стала лёдам. Гэта быў ён! Сеяцель Бедаў, Здрайца Воінаў, Бог Шыбенікаў, Правадыр Мерцвякоў, Бацька Перамогі, Уладар Магільных Курганоў. Шмат мае ён імёнаў. І ўхмыльнуўся Высокі скрозь сівую пену барады, прыставіў Гунгнір(9) да сцяны і мовіў:

- А што, чалавеча, доўга яшчэ парты мачыць думаеш?

Я не баяўся яго. У той час я нікога не баяўся, бо лютая злосць зжэрла ўсе мае пачуцці. І адказаў я Конунгу Нябеснай Раці:

- Зірні на свае, Бёльверк(10), можа таксама мокрыя?

Зарагатаў Уладар Дома Эйнхерыяў. Падняўся на ногі, і холадам павеяла з-пад яго доўгага сіняга плашча. Я сцяў зубы, калі каменна-цвёрдая далонь лягла на маё чало. Выццё завірухі заклала вушы. Шалёны віхор падхапіў мяне, закруціў і грымнуў аб сцяну. Галава адгукнулася болем, і сутаргі перакрывілі мой

*1.* ***Ульг*** *(сканд.) – ваўчыца.*

*2.* ***Руга*** *(Руген, Руян) - выспа ў Балтыйскім моры.*

*3.* ***Белы конь Пяцітварага*** *– у балтыйскіх славянаў свяшчэнны конь бога вайны Гюравіта. Перад тым, як распачаць вайну, яго вадзілі між дзідамі і па тым, як пройдзе між імі святая жывёла, прадказвалі вынік вайны.*

*4.* ***Пяцітвары*** *– пяцітвары Паравіт – жахлівы бог вайны руянаў. Меч яго крываўжэрны не ведаў стомы.*

*5.* ***Аркона*** *– цвярджа балтыйскіх славянаў на Руяне.*

*6.* ***Ярмар*** *– так па-скандынаўску гучыць славянскае імя Ярамір.*

*7.* ***Свея*** *– Швецыя.*

*8.* ***Мары*** *– злыя духі, якія насылаюць хваробы.*

*9.* ***Гунгнір*** *–чароўная дзіда Одына, якая заўсёды б'е ў цэль.*

*10.* ***Бёльверк*** *– літаральна "злачынца", "зладзей" – адно з імёнаў Одына.*

твар. Бездань праглынула мяне, і калі расплюшчыў я вока, то лёд пацёк па жылах маіх. Шорсткая дымная грыва пачварнага каня калола мне твар, сплятался з маімі валасамі. На патыліцы я адчуваў марозны подых Аднавокага, і жах слізкім гадам поўз у маё сэрца, да крыві абдзіраючы яго цвёрдай луской. Хутчэй за стралу з баявога лука ляцеў Слейпнір(1) і зоркі праносіліся міма мяне, пад капытамі сына Локі(2) зеўрала чорная бездань. Раптам барвовыя промні палымнулі на даляглядзе, падпаліўшы цемру. І аслеп я, бо цяжка воку чалавечаму бачыць ззянне Біўроста. Уздыбіўся Одынаў звер, і пачуў я, як грымнулі яго капыты аб цудоўны вясёлкавы мост, нібы асталеная(3) сякера аб моцную тарчу. Не ўтрымаўся я на конскай спіне, і сінеч нябесная прыняла мяне ў свае абдымкі. І доўга яшчэ гучаў у маіх вушах рогат Іга (4)! Нібы птушка, ляцеў я скрозь белы туман аблокаў, ляцеў, здавалася мне, цэлую вечнасць. І чароўны спакой авалодаў маёй стомленай душой. Не магу больш нічога дадаць, бо няма слоў такіх у чалавечай мове, каб зразумеў ты, дрот, што адчуў чалавек, які раптам ператварыўся ў птушку. Я бачыў свае крылы, як зараз бачу цябе, і былі яны непараўнальнай белізны. Я адчуваў іх жывую, вялічную моц і быў шчаслівы. Гэта было сапраўднае шчасце, уладар, шчасце, невядомае людзям. Не ведаю, за якія вычыны альбо пакуты, я спадабаўся яму. Але багі не любяць шчаслівых. Яны зайздросцяць ім. І крылы мае сталі дымам. І зазнаў я жах вялікі, і крык выраваўся з грудзей маіх. Пеніліся пада мной хвалі з блакітнымі грывамі, і з жудаснай вышыні ўрэзаўся я ў халоднае чэрава водаў марскіх і ўспыхнулі разнакаляровымі агнямі ў змрочнай глыбіне смарагдавыя вежы Эгірава палаца. Вада лінула ў маё горла і выдушыла з лёгкіх паветра. Сутаргі выкруцілі мне ўсё нутро, я ўздрыгнуў і нетаропка паплыў між чорных скалаў, рухаючы вязлзнымі плаўнікамі. Вада павольна цякла праз мае жабры. Рыбы здзіўлена пазіралі на мяне пукатымі вачамі. Зараз я быў адной з іх. Уверсе мутна сінела неба, такое далёкае. І не паспеў я апамятацца, як закіпела, завіравала навокал вада, і пакутлівы, тужлівы стогн напоўніў уладанні Ньёрда. А цераз імгненне я біўся ў путах гіганцкага нерада, сплеценага з марскіх раслінаў, сярод дзесяткаў мерцвякоў з пасінелымі распухлымі тварамі.

У іх памутнелых зрэнках застыў страшны і велічны лік смерці. І тут я ўбачыў яе. Рыбін хвост ззяў срэбнай луской, бялей за малако Аўдумлы(5) былі пругкія дзявочыя грудзі. А даўжэзныя валасы сінню сваёй зліваліся з безданню. Чароўнае святло прамянілі вочы марской дзевы, празрыстыя, нібы ледзяшы ў гномавых пячорах. Здагадаўся, уладар, хто яна? Свафрламі хітнуў галавой.

- Ран(6).

- Яна, - уздыхнуў Арні. – З усмешкай працягнула Эгірава жонка сваю гнуткую, нібы без касцей, руку і, падхапіўшы мяне доўгімі пальцамі пад жабры, выцягнула з сеці. Хвалі жорсткага болю лінулі па маім целе, і апрытомеў я ўжо на беразе. Сонца пякло бязлітасна. Я зноў быў чалавекам. Недалёка чуўся грукат сякер. Я падняўся на ногі, і перасохла ў горле маім, калі ўбачыў пад сабою агромністую галаву цмока. Пачвара люта выскаляла доўгія іклы, і я са страху адразу не зразумеў, што яна, галава гэтая, драўляная! І ўпрыгожвае яна нос велізарнага карабля. І ўздрыгнуў я, калі над вухам прагрымеў хрыплаваты голас: “Што, Алісон, падабаецца”? -

Высокі і магутны, як ясень, узвышаўся нада мной чырвонабароды, доўгавалосы муж, апрануты ў адныя кароткія парты. Пад бронзавай скурай, пакрытай старымі шнарамі, уздуваліся пры кожным руху волатаўскія цяглiцы. Зірнуў ён на мяне сінімі вачамі, і ў полымі барады бліснулі снежнай белізной зубы. Волас на галаве яго быў цёмны, з сівізной, барада ж палала агнём. “Сам Локі не ведае, навошта гэта спатрэбілася Старому”, - мовіў вогненнабароды, – “Але будзе так, як ён пажадае”! З гэтымі словамі ён працягнуў мне склюду. Я ўжо ведаў, хто стаіць поруч, і калацілася сэрца маё, быццам цесна ў грудзях яму стала. Доўгашыя гады за спіной асілка ўсміхаліся мне і сонца зіхацела на іх вільготна – белых іклах. І зразумеў я, не драўлянае сэрца тахкае ў гэтых вострых грудзях. І кіпела праца вакол цудоўных караблёў. Амаль голыя мужчыны варылі смалу, часалі бярвёны і сшывалі ў палосы цюленевыя скуры. Наатун(7)! І сам Ньёрд працягвае мне сякеру! Нерухома стаяў я, не падымалася рука склюду ад уладара марскога прыняць. І мовіў ён: “Ну, бяры. Не лайдачыць прыслаў цябе сюды Одын. І зойдзе ж Старому ў галаву. За Біўрост жывога прыцягнуць”!

- Ты кажаш, сам Ньёрд навучыў цябе карабельнай справе? – спытаў Свафрламі, драпаючы пазногцем касцяную тронку баявога нажа.

- Кійле будаваў я і без Ньёрдавай дапамогі, адказаў Бацька Доўгага Дракона. – А вось дрэкі... Ці бачыў ты ладдзю, дрот?

Свафрламі кіўнуў і пацінуў плячамі.

- Праўда твая, Арнід. “Цмок Бездані” годны насіць светлых багоў у вялікія бітвы. Але і мой “Арлінагаловы” - не свіное карыта. - Сустрэўшыся вачамі, мужчыны ўсміхнуліся. - Лепшыя майстры, якія ведалі кошт сваім рукам, парадпілі мой карабель з халоднымі грудзямі марскіх хваляў. І ў фіёрдах яму не было роўні аж да гэтай пары. Але як не роўня “Арлінагаловаму” лодкі рыбацкія, так і ён перад “Цмокам Бездані”, што меч простага воіна каля мяча вялікага ўладара. Што зрабіў бы ты з чалавекам, які абразіў бы тваю зброю, Арні? Якім бы не быў меч, але гэта меч!

- Адказ мой ведаеш, дрот. Навошта пытаеш? Ведаеш і тое, што чалавека, які абразу твайму караблю выкрыкнуў, табе не дам.

- А я не папрашу, - Свафрламі насупіў бровы,

*1. **Слейпнір** – васьміногі конь Одына.*

*2. **Сын Локі** – Слейпнір. Бог Локі нарадзіў васьміногае жарабя ў вобразе белай кабыліцы.*

*3. **Асталеная сякера** – сякера, у якой на жалезнае лязо кавалём наварана стальная паласа.*

*4.. **Іг** – літаральна “жахллівы” – адно з імёнаў Одына.*

*5. **Аўдумла** – у скандынаўскай міфалогіі карова, якая выкарміла сваім малаком веліканa Іміра і вылізала з салёнага каменю продка багоў – Буры.*

*6. **Ран** – жонка марскога велікана Эгіра. У свой нерад збірала яна патанулых у моры.*

*7. **Наатун** – “карабельны двор”, жытло Ньёрда.*

– але і сам не вазьму. Працягвай, далей слухаць жадаю.

Арні хітнуў галавой.

- Дзякую, конунг, што дараваў. Не толькі суровасць, але і літасць дадае велічы ўладарам.

- Асабліва, калі літасць гэтая прынясе карысць. Так хацеў ты сказаць, – ухмыльнуўся Свафрламі.

- А сапраўдную вялікасць дае розум. Мог бы і так, – мовіў Вандроўнік, і мужчыны зарагаталі.

- Дык вось, дрот, я вярнуўся ў Мідгард ноччу. Свяціла ноўня. На дварэ яшчэ марозіла, але ў паветры ўжо адчуваўся пах вясны. Я доўга ляжаў моўчкі. Да падбароддзя накрыты цёплай мядзведжай шкурай, разглядаючы развешаную на сценах зброю. Гэта быў дом мужоў! Над галавою маёй цямнелі вялізныя рогі магутнага аленя, калісьці забітага Ульвгангам на прускіх землях. У нас такіх няма. Яна ўвайшла нячутна. Я адчуў халодныя рукі на сваім твары. “Я ведала, што ты вернешся”, - мовіла Аса, і дрыжэў голас яе. – “Годзі(1) загадаў перанесці цябе сюды. Ён таксама верыў у тваё вяртанне. Сем поўняў чакала я цябе, а ты ўсё бадзяўся між зорак”.

Яе слёзы апяклі мне твар. Я вызваліў свае слабыя, як у дзіцяці, рукі з-пад шкуры і прыцягнуў Асу да сваіх грудзей. Як яна плакала, я бачыў першы раз. І апошні. Цераз тры зімы я амаль ачуняў ад хваробы. Падучая(2) засталася, але сутаргі прыходзілі ўжо не часта. Цераз іх прыйшлі ўспаміны Ньёрдавай навукі. Губляючы прытомнасць, я зноў бачыў драпежныя пысы дзяцей Уладара бездані. Мінула яшчэ адна зіма, і я пабудаваў ладдзю, падобную на караблі багоў. Але “Ньёрдаву Веліч” так і не прыняло мора на грудзі свае. Адбылося так, што я з Хродгарам ездзілі гандляваць добры лес для караблёў. Старэйшыя мае зноў з саксамі на Альбіён падаліся. Яны не чакалі майго вяртання. Не верылі, што яшчэ зірну на іх сваім выцвілым вокам. Што ім губляць час каля мерцвяка, калі на Альбе можна стаць ярлам! Вось тады і завітаў да мяне з аголеным мячом Грэтыр Завея. Аса, мая каханая валькірыя ўзначаліла дрэнгаў. Людзей я тады меў мала. Не ярл, шмат воінаў карміць. І калі не засталося надзеі стрымаць ворагаў, Ульг загадала падпаліць “Ньёрдаву Веліч”, выпусціўшы ўсе стрэлы, узялася за меч. Да апошняй кроплі крыві ў жылах ахоўвалі сваю дзеву Валгалы воіны. Ля ног яе ўсе ляглі. Застаўшыся адна, высока падняла Аса скрываўлены меч і, разрагатаўшыся Грэтыру ў твар, кінулася ў полымя, якое ўжо цалкам ахапіла ладдзю. Восем маіх дрэнгаў павяла яна ў Валгалу. Вялікае было маё гора, калі ад ацалелага трэля(3) выслухаў усё гэта. На цэлую зіму хвароба зваліла мяне з ног, і не было каму помсціць за Ваўчыцу. Сыны пагразлі ў брыцкай вайне. Аб’явіўся на Альбе магутны правадыр, ведаеш тое, дрот.

Артурам завецца ў вальхаў муж той. Пендрагонам – сынам драконавым клічуць яго. Цяжка біцца з ім. Даўно грызуцца белы і чырвоны(4), барвовая ад крыві зямля тая. Дык вось, дрот, мовіў я тым траім, што па лес са мною паехалі:

- Мужы, на Альбіён вестку сынам даслаць хачу, але здрадзілі мне ногі. Хто скажа Ульвгангу, што бацька яго вярнуўся з гасцей, ад Ньёрда, і хоча галаву Грэтыра Завеі!

- Выканаю волю тваю, правадыр! – адказаў мне Велунд Руды.

Але зарагатаў тут Хродгар і крыкнуў:

- Хто братам маім маці мая! Не жадаю дапамогі іх. За Ваўчыцу я помснікам буду!

- Не хачу, каб загінуў ты ад рукі Грэтыра, сын, падрасці крыху.

Так сказаў я малодшаму.

- Ці не муж я! – сціснуў дзяржанне мяча Хродгар.

На раніцы мы яго не знайшлі. І мовіў тады Руды:

- Вярну табе сына, Арні.

Х’ёрт з Лагчыны ўзяў свой меч і сказаў:

- Хачу ісці з Вемундам. У баі мне жыццё выратавала Аса. Буду памсціць за кунігунду(5)!

І яны пайшлі. Даглядаць мяне застаўся Ацур Мядзведжая Лапа, ды той трэль, што пасля набегу Завеі выжыў. Імя яго не помню. Раб і ўсё. Грэтыр, што не мог забраць, спаліў і ледзьве перажылі мы тую зіму. Стары верны Ацур выратаваў ад галоднай смерці ўсіх траіх. Балазе, добры паляўнік быў і неяк дачакаліся мы вясны. Хвароба паціху адпускала і я зноў мог трымаць у руках сякеру. І вось, калі блізіліся дні сонца (6), заўважыў мой трэль, як у затоку ўваходзілі тры кійле. Абапіраючыся на каштыль, я выйшаў з хаціны, што пабудаваў на папялішчы Ацур. Верны хольд у поўнай зброі стаў за маёй спіной, звузіўшы халодныя вочы. Я не паверыў, калі ўбачыў Хродгара. Насустрач мне ішоў не юнак, які ўцёк з хаты, але вусаты муж са шнарам цераз шчаку. Нічога не сказаў ён, а працягнуў мне скураны мех. Я ўзяў і зрэзаў з яго пасак. Мёртвымі вачамі глядзела мне ў твар вытрыманая ў ядлоўцавым дыме галава Грэтыра. Поруч з сынам стаяў высокі, з шырачэзнымі грудзямі воін. Паклаў ён на плячоХродгара цяжкую дзясніцу. Вочы пільныя. І спытаў я:

- Дзе Вемунд і Х’ёрт, сын?

Хродгар піхнуў ботам галаву Грэтыра і мовіў:

- Аднавокі на баль паклікаў хлопцаў тваіх! Мяне ярл выратаваў. Гэта яго меч зняў з Завеі галаву. На службу прыйшоў прасіць цябе славуты Хакі. Ладдзі цмокагаловыя з крылом – ветразем мецць жадае.

Так я сустрэўся з Хакі ярлам, якога празвалі людзі Бадзягам. Не хацеў я адмовіць ярлу, але хацеў аддзякаваць за жыццё Хродгара. А ярл дужа ўлады на моры жадаў. І вось расцёршы кілем(7) цела палоннага, распырскаўшы яго кроў па чорных баках, закалыхаўся на хвалях баявы дрэкі. Па пятнаццаць румаў(4) меў ён

*1. **Годзі** – у скандынаваў – паважаны чалавек, які ведаў законы і выконваў ролю суддзі.*

*2. **Падучая** – эпілепсія.*

*3. **Трэль** (сканд.) – раб.*

*4.**Белы і чырвоны** – драконы на харугвах саксаў і брытаў.*

*5.**Кунігунда** (сканд.) - пані, каралева.*

*6. **Дні сонца** – лета*

*7. Старадаўнія ўладары перад тым, як спусціць карабель на ваду, прыносілі яму ў ахвяру адну са сваіх жонак, а пазней – палонных. Няшчасных клалі на насціл, па якім ладдзя сыходзіла на хвалі.*

*4.**Рум** (скан.)- лаўка для весляра*

з кожнага борта. Хакі назваў яго "Цмокам Бездані". Задаволены быў. Срэбрам мяне абсыпаў, калі ля стырна пастаяў. Не танна каштуюць караблі. І клікнуў па фіёрдах ярл хлопцаў-малайцоў. Маўляў, у каго ў жылах не вада, але кроў, каму дадзела свіней пасвіць, і хто муж, а не жанчына, таго кліча ў паход славуты Бадзяга на землі доўгавалосых конунгаў(1), багатыя румскім золатам і спакусамі. Ішлі сыны бондаў на ярлаў покліч. Маладыя дужыя, з дзяцінства звычку, як да сахі, так і да дзіды мелі. Фіёрды не нараджаюць баязліўцаў. І даў ім ярл правадыроў са свайго ўласнага хірда. Хацеў і Хродгар ісці, ды не ўзяў важар, пакінуў, бачыў Хакі, што пад маёй рукой добры карабел гадуецца. Вясляроў хапала і ў паходзе жыццём Хродгара рызыкаваць патрэбы не было.

Доўга чакалі Хакі. Вясною зніклі за даляглядам яго караблі. І вось, калі наступная вясна ўжо абсыпала апошнія пялёсткі з квітнеючых дрэваў, пачулі жыхары Арлінага фіёрда гукі баявых норскіх рагоў. У вузкае горла затокі ўваходзілі баявыя ладдзі. Цяжкія ад нарабаванага, яны нізка сядзелі ў вадзе. Першым ішоў "Цмок Бездані". Жудасную пысу знялі са штэўня. Не ў набег ішлі – дамоў вярталіся. Доўга ваяваў Хакі ў далёкіх землях. З дзевяці яго караблёў сустракалі толькі пяць. Адзін штармавыя хвалі выкінулі на камяні. Адзін у абардажным баі на дно ругі пусцілі. А на два іншыя не хапіла людзей на вёслы – у сечах галовы паклалі. Хакі загадаў спаліць іх. І вось, сыходзілі яны на родны бераг. Першым з борта ярл у чыстыя хвалі саскочыў і прыняў рог з хмельным півам з рук жонкі сваёй. За ярлам – пасівелыя хольды яго паходаў. Ганарліва падняўшы светлыя галовы, выходзілі на ўзбярэжжа сыны бондаў. Ужо не тыя хлопцы, што пайшлі за Хакі той вясной, скакалі зараз у ваду са сваіх драконаў. Бронзаваскурыя ад пякучых сонечных промняў і салёных вятроў Воўчага мора (2) шмат хто шнарамі адзначаны. З гонарам неслі яны пасечаныя ў бітвах тарчы і вышчарбленыя аб варожыя шоламы страшныя сякеры. І вочы іх ужо па-іншаму глядзелі на суайчыннікаў. Ха! Хто яны, тыя, што не пайшлі за ярлам? Ніхто! Сяляне! А мы – воіны! Самых лепшых у хірд свой клікаў Хакі. І не вярнуцца ім больш пад бацькоўскую страху. Неспакойны лёс далі ім норны. Занялі яны месца забітых ваяроў. Зараз – яны людзі ярла. Пабачыш, дрот, будучыня за імі. Такія яшчэ навядуць жаху на народы! Ну дык вось, баль быў вялкі – поўна за сталамі доўгімі! Элю амаль не пілі. Ярл віном частаваў. З усмешкай на вуснах, чырвоны ад хмелю, слухаў ён спевы срэбраструннай Торгільсавай арфы. У яго гонар спявала яна, і прыціхлі буйныя хлопцы ад чароўных гукаў. І да болю ў пальцах сціскалі кулакі маладыя ваякі, якія ўпершыню начапілі на белыя шыі сваіх жанчын золата, калі распавядаў сплятальнік песень пра славутыя вычыны ярла і верных карміцеляў крумкачоў(3) з яго хірда. Сачылі ваяры за вуснамі песняра, захопленыя, зачараваныя яго голасам, яго вялікім дарам. І ведаў ярл, цяпер жыццё іх – вайна! Вялікую сілу, магутную ўладу над людзьмі мае арфа скальда (4). Ох, вялікую!

І ўжо ніколі не забыцца ім, хлопцам гэтым, як нямелі далоні на вёслах, калі чуўся ў голасе ветру жудасны рогат Ран Выкрадальніцы, як круціўся шалёны вір лютай сечы і мільгалі перад вачамі воўчыя выскалы ворагаў, і з хрупам уразаліся сякеры ў грудзі чалавечыя, вырываючы з іх апошні крык. Як дурманіў галаву пах цёплай крыві, пах перамогі, калі скрываўленыя пальцы здзіралі з зарэзаных жанчын пярсцёнкі і срэбныя завушніцы. Як пахла страхам ад згвалтаваных дзяўчат. Ніколі не забыцца ім гэтага. Як не забыцца і нам, Свафрламі, тых жорсткіх бітваў, у якіх мы выстаялі! І пальцы тых хлопцаў не пажадаюць болей дакранууца да сахі. І толькі тронку мяча або чэрань ведзьмы тарчаў(5) будуць ведаць іх рукі. Усё гэта бачыў я ў іх вачах. І вось, калі спыніў Торгільс песню сваю і пад рэў і енк воінаў прамачыў горла, расчыніліся дзверы, і ў залу ўвайшоў высокі муж, доўгавалосы і светлабароды.

Калючымі блакітнымі вачамі, ён па румску падняў руку і вітаў ярла. А я не верыў воку свайму. Ульвганг! Мой сын! Неўзабаве, за спіной яго, узнік залатавалосы волат і, усміхнуўшыся мне, хітнуў галавой. І не пазнаў я ў гэтым веліканe з касым шнарам цераз увесь твар свайго Хлёда. Пяць зім не бачыў я сыноў. Але не з перамогай вярнуліся яны пасля доўгай вайны. Конунг брытаў, Артур Пендрагон, нарэшце спіхнуў саксаў у мора з белых скал Альбіёна. І вось сядзелі ўжо сыны мае за сталом, і слухалі воіны аповяд Ульвганга аб крывавай барацьбе з вальхамі. Пад рукой Румаборга(6) страцілі альбіёнцы сваю былую ваяўнічасць, забыліся гонар свой і славу продкаў! Але дзе ты, pax Romana(7)?! У крывавы пагной утапталі аквілы(8) тваіх жалезных легіёнаў ногі тых, каго з прыкрасцю зваў ты варварамі! Ад лёгіёнаў на выспе засталося толькі імя ды сцены цвярджаў, і слабыя сталі здабычай моцных. Дурань Гуртэірн(9) калісьці сам клікаў Хенгіста і Хорсу(10), з іх дапамогай думаў уладу трымаць. З поўначы Сцяну(11) мінулі скоты і пікты(12). З-за мора прыйшлі англы, саксы, юты і турынгі(13). Альбіён запалаў і Хенгіст з братам з заступнікаў сталі ваўкамі. І вось тут з'явіўся ён – нашчадак загінуўшай

*1.* ***Доўгавалосыя конунгі*** *– Меравінгі. Усе члены каралеўскага дома насілі доўгія валасы.*

*2.* ***Воўчае мора*** *– Балтыка.*

*3.* ***Карміцель крумкачоў*** *– воін.*

*4.* ***Скальд*** *– у старажытных скандынаваў воін – паэт. У бітвах скальды змагаліся ў першых шэрагах, каб лепш бачыць вычыны правадыра, аб якіх потым складалі песні.*

*5.* ***Ведзьма тарчаў*** *– кёнінг баевой сякеры.*

*6.* ***Румаборг*** *(сканд.) – Рым.*

*7.* ***Pax Romana*** *(лат.) – рымскі свет.*

*8.* ***Аквілы*** *– уласныя знакі легіёнаў.*

*9.* ***Гуртэірн*** *– Арні па – валійску вымаўляе імя брытонскага правадыра, вядомага нам як Вартыгерн.*

***10. Хенгіст і Хорса*** *– браты, правадыры саюза германскіх плямёнаў, аб'яднанага агульнай назвай саксы.*

***11. Сцяна*** *– Адрыянаў вал. Сцяна, узведзеная на Альбіёне для абароны рымскай Брытаніі ад ваяўнічых Каледонскіх (Шатландскіх) плямёнаў, якія Рыму ніколі не падпарадкоўваліся.*

***12. Скоты і пікты*** *– шатландскія плямёны.*

***13. Англы, саксы, юты, турынгі*** *– германскія плямёны.*

імперыі, Артур! І славуты свой меч напаіў крывёй мужоў дзіды(1). – Арні змоўк і Свафрламі заўважыў, як пацямнела яго вока. – Ведаеш, дрот, як б'е у галаву на баляваннях гарачая маладая кроў, задужа разбаўленая моцнымі напоямі. Асабліва, калі справа тычыцца маладзенькіх дзяўчат, хлопцы ўжо досыць п'яныя былі, калі заспяваў Торгільс пра Снэфрыд Лебядзіную Дзеву – прыгажэйшую з жанчын, што нараджала зямля фіёрдаў. Распавядала арфа, як здабыў прыгажуню Хакі ярл у славутым паходзе сваім! І загаманілі, і завылі воіны, падымаючы поўныя турыныя рагі за вялікую ўдачу правадыра, і цёк сок вінных ягад цераз акаймаваныя срэбрам краі па светлых вусах на магутныя грудзі. Смяяўся ярл. Са срэбнага кубка піў, плёскаючы крывава – чырвонае вальскае(2) віно на аксамітавую кашулю.

І загадаў ён дзеўку на вочы весці. Снэфрыд Скулідотыр(3), сапраўды, была красуня, якіх не шмат. І калі ўвайшла яна ў залу, прыціхлі мужы, а я ўбачыў, як шэрым зрабіўся твар Ульвганга, і Хлёд схапіўся за нож. Пад мужчынскія крыкі падняўся Хакі і ўзнагародзіў Торгільса залатым змяіным абруччам за яго цудоўныя спевы. Потым зірнуў дзеве той у вочы ясныя, узяў за белую далонь і за стол пасадзіў. Снэфрыд нават не паглядзела ў яго бок. І тут выйшаў на сярэдзіну залы Ульвганг, і ўздрыгнула сэрца маё. І крыкнуў сын:

- Ты ўзяў тое, што табе не належыць!

- Я бяру, што пажадаю, Арнісон, бяру сваім мячом!

-Ты ж нічога не ўзяў на Альбіёне. Ледзьве скуру сваю дзіравую выратаваў. Дзе твая ўдача"! - зарагаталі воіны.

І сціснуў кулакі Ульвганг, і адказаў:

- Сцеражыся, ярл. Яшчэ ніхто не абразіў Арнісонаў і не разлічыўся за гэта! Аддай Снэфрыд, мне Скулі абяцаў дачку сваю яшчэ тры зімы таму! А ўдача мая пры мне. Глядзі, сваю не згубі!

Зарагатаў у твар сыну майму ярл.

- Скулі хярсіра(4) выправіў я ў Валгалу. А ты, шчанё, хочаш тое, што не браў! Прэч з вачэй!

І ўстала тут Лебядзіная Дзева і крыкнула Ульвгангу:

- Дзе быў ты, Бяспалы, калі чакала я цябе начамі доўгімі? Багацця шукаў? Дзе ж яно? Пустыя рукі твае! Дзе быў ты, калі забіваў ярл бацьку майго?! Не хачу цябе! Прэч!

Я не ведаў, што Ульвганг прасіў у Скулі яго дачку, але, пэўна, толькі адзін і зразумеў, што зараз яна спрабуе выратаваць майго сына ад ярлава гневу. Шкада яе. Але яна дрэнна ведала старэйшага Арнісона. Ульвганг ні ад кога не выносіў абразы, і нож яго ўвайшоў у белыя грудзі Лебядзінай. Адхіснуўся Хакі, а сын адвярнуўся і пакрочыў да дзвярэй, не зірнуўшы на ярла. Ганарлівасці ён меў на дзесятак. Одын любіць такіх. Маладымі кліча ў свой хірд. Мяне трымалі за плечы, і я бачыў, як Хлёд з мядзведжым рыкам перакуліў стол, калі Ульвганг сеў на лаўку з ярлавым нажом у спіне. Унук Гундэвеха, прабіўшы вепруковай косткай галаву аднаму з воінаў Хакі, кінуўся на забойцу брата. Як раз'юшаны мядзведзь скідвае з сябе баявых вальхскіх сабак, так раскідваў ворагаў мой сын. Хірдманы Хлёда і Ульвганга – сем бургундаў, прус і два готы агалілі баявыя нажы. Лінула кроў і хутка схапіліся воіны за сякеры. Як ні рваўся Хлёд узяць жыццё Хакі, не змог. Забіўшы чатырох ворагаў, лёг з дзесяткам ран на сваім волатаўскім целе. Хірд сыноў маіх пайшоў за правадырамі ў палац Одынаў. Да апошняга рэзаліся з ярлавымі людзьмі. Літасці ніхто не папрасіў. Хродар жа, дзякуючы віну, жывы застаўся. П'яны быў, і калі ў бойку кінуўся, нехта моцна выцяў яго лаўкай па галаве. Раз'ятраны Хакі загадаў забіць і яго, але дзядзька ярлаў, стары, цалкам галава ў сівізне, а цела ў шнарах баявых, Рудульв, мовіў важару:

- Гэта не дрэнгскап(5), ярл. Ты ў паходзе вялікую славу здабыў, але што скажуць людзі, калі заб'еш бездапаможнага, які беспрытомны ля ног тваіх ляжыць? І не трэба было Ульвгангу нож у спіну дасылаць. Гэта не дрэнгскап. Забыўшыся дзедаўскія звычаі, мы б'ём у спіну і забіваем ноччу(6). Ці так рабілі бацькі нашы? Не! Пагарда нам!

І паслухаў яго ярл. Захацеў віру даць. Калі ачуняў Хродгар, сказаў ярл:

- Срэбра вазьмі!

І мовіў сын мой:

- За братоў віры не вазьму!

Агаліў Хакі меч і крыкнуў:

- Жыццё маё хочаш! Ну, бяры!

І смяяўся Бадзяга. А я ведаў, не выстаяць Хродгару. Хлапчанё ён, меч на ярла падняць. Колькі зім вадзіў Хакі воінаў у лютыя бітвы! Я не мог апошняга сына аддаць мячу варожаму і не даў ім біцца. Старому вернаму Ацуру загадаў я трымаць сына. Хродгар у свае гады сілу немаверную мае. Але яшчэ ніхто не вырываўся з мядзведжых лап майго старадаўняга пабрарціма. І дзякаваў я багам, што не было старога на баляванні ў час бойкі. Наказаў я яму аб вязнях, што Хакі з паходу прывёз, даведацца. Ну ды пра іх потым. Сказаў я ярлу, што віру за сыноў бяру. Але няхай славуты ярл Хродгара на ўсе вятры адпусціць. А я такі карабель пабудую, што самі асы пазайздросцяць! Не верыў ярл, што дарую смерць сыноў, але вялікую патрэбу ён у руках маіх, ды галаве прабітай меў. Хітнуў галавой і меч у похвы кінуў. Малодшы зірнуў на мяне з нянавісцю. Я строс яго за плечы і гадзінай прашыпеў:

- Трэль помсціць адразу. Баязлівец – ніколі!

Ты ведаеш гэта, дрот. Ведаў і Хакі. Ацура адаслаў я з Хродгарам. Ярл багата за жыццё сыноў маіх даў. А я, як абяцаў, за ладдзю новую ўзяўся. Заўсёды на вачах ярлавых людзей быў. За кожным крокам

***1. Мужы дзіды** – германцы, а таксама кёнінг воінаў.*
***2. Вальскае** (сканд.) – франкскае. Валь (сканд) Францыя.*
***3. Скулідотыр** (сканд.) – дачка Скулі*
***4. Хярсір** (скан.) – дробны племянны правадыр.*
***5. Дрэнгскап** (сканд.) - воінскі гонар.*
***6. У скандынаваў** лічылася ганебным забіваць ноччу.*

сачылі. Хродгар жа прыбіўся да бярсеркаў(1)

Хакі не аднойчы паляваў на іх, але дарэмна. Ён шукаў у адным месцы, яны з'яўляліся ў іншых, рэзалі сялян, якія знаходзіліся пад ярлавай апекай. Праўдывором у той воўчай зграі быў Хольдульв. Ты ўбачыш яго, дрот. Ён са мною. Зараз на ладдзі. Добры ваяка, хітры, што ліс. Невысокі, худы, зірнеш – няма на каго кулак падымаць, не тое, што зброю. Жылы адныя. Але вялікае ўменне мячом валодаць, робіць яго страшным ворагам. На Хакі ён зуб мае. За што, не кажа. Хоча таксама да ярлава горла дабрацца. Бачыўся я з ім, употай, калі назіраць за мною кінулі. І дамовіліся мы пагібель Хакі рыхтаваць. Хаўрус быў між намі. А зараз хачу сказаць пра вязняў знатных, што прывёз на ладдзі сваёй Бадзяга. Адразу поруб загадаў выкапаць. Туды іх пасадзіў і жалезы збіць не дазволіў. Воінаў на варту паставіў і нікога да вязніцы яны не пускалі. Адзін з палонных, малады, высокі і магутны, з бурштынавымі валасамі і барадой, быў сынам Вайдывута. Так, дрот, сын уладара прусаў. Я зразумеў гэта, як толькі ўбачыў яго. На дзіва прыгожы юнак. Вочы, як мора, зменлівыя. То сінь у іх ціхамірная, то лёд шэры, то бездань чорная. Такімі вачамі некалі глядзеў на мяне Вайдывут. На ўсё жыццё гэтыя вочы запомніў. Замо(2), імя сыну Бурштынавай Дзіды. Магуту ён бацькоўскую мае. Вялікая моц у целе яго! Зброяй добра гуляе. Сівавусых ваяк, быццам шчанюкоў рэзаў. Сам тое бачыў. Ну, а пра паплечніка яго, пабраціма вернага, не ведаю, што казаць стану. Упэўнены я, што страшны ён чалавек. А можа і не чалавек зусім. Мае весляры клічуць яго Цмокавай Скурай.

І не дарэмна. Пярэварацень ён! Замо заве яго Крывам. Нібы ваўчаняты сталага ваўка, слухаюць Крыва гэтага ульвхеднары. Цяжка нашым языкам вымаўляць імёны такія, я ўжо да іх звычку маю, а людзі завуць Цмокаву Скуру Крывінгам. Ён моцны кудар, усе тое ведаюць. Не аднойчы па яго загаду туга надзьмуваў вецер крыло "Цмока Бездані" і здавалася нам, што, не плыве карабель, а ляціць над хвалямі! Тварам чараўнік гэты быў бы прыгожы, каб не глыбокія шнары – ад кіпцяў мядзведжых і, пэўна, ад нажа баявога ці мо мяча. Валасы дужа доўгія, цёмныя, і жыве ў іх вуж! Я бачыў, як Крыў частаваў яго малаком. На тым беразе, ды яшчэ далёка за прусамі, гад гэты свяшчэнны. Вочы ў Цмокавай Скуры зялёныя, кашэчыя, як і ў Замо – зменлівыя. Мала хто можа вытрымаць Крываў позірк. Ні барады, ні вусаў не мае ён. Твар чамусьці голіць.

- А ты, Арні, – спытаў Свафрламі, – ці вытрымаў ты позірк яго?

- Не, адказаў Алісон.

- Колькі ж зімаў бачыў вядзьмак гэты?

- Узрост яго вызначыць цяжка, дрот. Думаю, малады яшчэ. Росту невялікага. Целам сухі, дужы. Нібы канаты карабельныя, цягліцы на целе яго, а на хрыбце поўсць расце! Ці воўчая, ці вепруковая шчэць, не разгледзеў. Здалёк бачыў, калі ён мыўся. Кажуць, уладары франкскія, Меравінгі, такое шчацінне на спінах маюць. Яшчэ магу сказаць, што воін ён вялікі. На вачах маіх узброенага мужа голымі рукамі забіў. Ну а больш пра яго нічога не ведаю. Дадаць магу толькі тое, што ад Замо пачуў. Маці яго, вядзьмарка, быццам з судынгаў(3) паходзіла. Бацька ж прыйшоў з усходу ў пушчы і балоты судынгаў на чале магутнага народа, які назваўся крывамі(4). Да гэтай пары не сціхае вайна між гэтымі плямёнамі. То заміраецца, то зноў насмерць рэжуцца. Ты сустрэнешся з гэтым чалавекам, уладар. Сцеражыся яго. Ён здольны выклікаць жах у людзях. Няма ў мяне веры Цмовавай Скуры, хоць яму і абавязаны я жыццём сваім. Гнілую рану загаіў ён мне. Крыў доўга нюхаў яе, потым шаптаў нешта. Я не верыў, што ён дапаможа. Ужо сядміцу трэсла мяне ліхаманка. Цмокава Скура назваў яе імя і выгнаў з майго цела. А рану тую атрымаў я ад дзіды Рудульва. Слухай, дрот, якая была помста мая! Доўгі час бачылі мяне старым дурнем, які страціў розум пасля смерці сыноў. І Хакі ўжо не баяўся адчуць смяротны холад ад ляза нажа майго на сваім горле. За сваё жыццё я навучыўся чакаць. І вось прыйшоў той час, калі абяцанка мая стала караблём. Гледзячы на таго звера марскога, ярл цешыўся, як дзіця. Начапіў мне на сухія рукі залатое абручча і з усмешкай ляпаў на плячы. Неўзабаве абяцаў я на хвалі спусціць "Марскога Арла". Так назваў Хакі ладдзю. Бачыў бы ты, дрот, што гэта быў за карабель! На дваццаць румаў па барту! На штэўні – галава арліная ў пазалоце! Дзюба драпежная з касці рыбінай(5) выраблена. Барты па краі чарадой звяроў і птушак аздоблены. Ярл на яго срэбра не шкадаваў! Пэўна, асы пазайздросцілі. Нахваліўся я, не давялося "Арлу" на хвалях лятаць, не доўга пенілі ваду яго грудзі, але. пра тое пазьней. Прыехаў да бацькі сын – Брагі Хакісон, Скальд з Далёкіх Выспаў! Малады, магутны, вочы ясныя, светлабароды, як і мае сыны. Час прыспеў, і я болей не марудзіў. Хольдульвавы драпежнікі ўжо два дні як чакалі знака майго, сярод скал схаваўшыся. Знакам жа быў вялізны, з сівой пысай, ваўкарэз Ацура. Мядзведжая Лапа загадаў яму са мною быць, калі пайшоў з Хродгарам. Пабрацім зваў яго Дрэнгам. Паходзіў ён ад старажытных баявых сабак. Продкаў Дрэнга спускалі вальхі на легіёны Румаборга. Сабака Ацураў быў разумнейшы за некаторых людзей. Шчанём знайшоў яго Мядзведжая Лапа на руінах старой румскай цвержы на Альбіёне. Яе спалілі скоты. Калі прыйшлі мы, дамы яшчэ курыліся і крумкаччо не паспела пачаць балю. Навакол, на некалькі дзён хады, з жывых застаўся толькі руды шчанюк. А пыса яго ўжо ў маленстве была сівая. Ніколі такога не бачыў.

***1.*** *Яшчэ да эпохі вікінгаў барсеркамі называлі не толькі воінаў, якія ў бітвах упадалі ў баявое шаленства, а і рабаўнікоў – людзей па-за законам.*

***2. Замо*** *– адзін з дванаццаці сыноў Вайдывута. Па легендзе ад яго пайшло самае ваяўнічае прускае племя – самбы (зембы).*

***3. Судынгі*** *(судвінгі) – так на свой лад, скандынавы называлі балцкае племя судзінаў (судаваў), якое жыло на тэрыторыі сучаснай Беларусі.*

***4. Крывы*** *– крывічы*

***5. Рыбіна косць*** *– маржовыя іклы*

Незвычайны звер. Ацур забраў яго і цераз чатыры дні, як зараз памятаю, знайшоў маломy матку – маладзіцу з брытаў. Ёй Дрэнга аддаў, каб карміла яго малаком з грудзей сваіх. Дастаткова малака яна мела. Немаўля нарадзіла луну таму. Калі брытку гвалцілі, дзіцё яе заенчыла, і скоты кінулі яго ў агонь. Вырас са шчаняці ваўкарэз люты, з вачамі чалавечымі. Любіў Ацура. Не аднойчы жыццё яму ратаваў. Помніцца, як пайшоў пабрацім зімою мядзведзя – бадзягу са свету звесці, але той заламаў чалавека, і смерць бы Ацуру, каб не Дрэнг. Здолеў адагнаць ён пачвару крыважэрную і па снезе дацягнуў беспрытомнага гаспадара амаль да хаты. Думаў я: абоім здыхата будзе, але самае дзіўнае не гэта, а вось што. Дрэнг заўсёды ведаў, дзе знайсці Мядзведжую Лапу, дзе б той ні бадзяўся. Ніколі не памыліўся цудоўны звер. Апрача Ацура толькі мяне слухаў ён. Хольдульву руны (1) насіў. Бярсеркава станавішча хутка знаходзіў. Панёс і ў той вечар, калі мужы баляваць селі. Клікаў Хакі і мяне на баль той, дзе ў гонар сына яго лілі віно. Я не пайшоў, спаслаўшыся на хваробу. Ярл сам завітаў у маю хаціну. Пабачыў твар мой, пенай запэцканы, і моцна руку мне сціснуў, зморшчыўшы нос ад паху мачы ў жытле маім. Усміхнуўся я, калі трэль зачыніў за ім дзверы. Чакаць заставалася нядоўга. Паклікаў я раба, і калі падышоў ён, перарэзаў горла яму. Спалох яшчэ падняць надумае. Узяў Хель і выйшаў пад паўночныя зоркі. Пена з губ нябесных коней (2) намачыла траву. Пачуўся спеў арфы, і змоўклі крыкі падпітых воінаў. Голас скальда мацнеў, звінелі срэбныя струны, і ў нябесную бездань узносіліся кёнінгі, каб зіхацець між зорак, нібы каштоўныя камяні ў залатых скарбніцах уладароў Юна. Добра вывучылі Брагі Хакісона на Далёкіх Выспах. Вялікі дар даў яму Высокі. Самы каштоўны дар. Песня каханкі клёна струн (3) гоіць крывавыя раны мужоў. Забыўшыся пра помсту. Слухаў, я залаты дождж кёнінгаў, што струменіў з вуснаў Хакісона, пакуль не крануўся маёй далоні мокры нос Дрэнга. Неўзабаве цемра выпусціла з-пад свайго чорнага плашча Ацура і Хродгара. За імі нячутна з’явіўся Хольдульв. У зорным святле яго бледны твар здаваўся мне тварам мерцвяка. Нібы цень даўно пахаванага героя выйшаў з-пад кургана каб помсціць ворагам сваім. Я першы кінуў паходню на страху ярлава дома і ўбачыў іх, дрот, сваіх сыноў. Ульвганг і Хлёд усміхаліся, гледзячы на зыркае полымя. Хакі гарэў! І ніколі не было мне так радасна, як той ноччу, калі сек я тых, што не пажадалі загінуць у агні. Аслепшыя, з абпаленымі барадамі, кідаліся яны пад сякеры нам. І вось тут убачыў я вязняў, якіх выцягнуў Ацур з ямы і збіў з іх кайданы. Змораныя голадам, у шнарах і язвах, ледзьве трымаліся палонныя на нагах, але не меней за мяне помсты праглі. І чуў я, як енчыў у іх руках адзін з ярлавых дрэнгаў, якога жыўцом рвалі яны на кавалкі. Але ўдача ярла большая за маю. Хакі з лепшымі сваімі людзьмі змог прарвацца ў лес, і цемра дала ўцекачам прытулак. Хель усё ж не засталася галоднай. Напаткала яна сына правадыра, рассекла яго маладое сэрца, распырскаўшы скальдаву кроў па гарачых вуголлях. Я адпомсціў. Падвялі дзевы Одына скальду каня белакрылага, і на Захадзе палыхнула незнаёмая зорка. Хель пакінуў я ў грудзях Хакісона. Яна ўжо не пакаштуе больш высакароднай крыві. І няхай ярл ведае, калі вернецца на папялішча, чыя рука ўзяла жыццё яго адзінага сына. І пачуў я тут крык Хродгара, ды ўжо было не абараніцца мне ад дзіды Рудульва. Яна выцяла мяне ў грудзі, але ўвайшла не глыбока. Аслабелай рукой кінуў яе сівы воін. Пасечаны мячамі, не знайшоў ён сілы, каб на ногі ўстаць, калі я нахіліўся над ім. І мовіў Рудульв:

- Не будзе ўдачы табе, Арні. Не забівае сапраўдны муж ноччу. Ганьба.

Заціскаючы рану пальцамі адказаў я:

- Правадыр твой забіваў, а ты не стрымліваў руку яго.

Але Рудульв не пачуў мяне. Ён памёр з усмешкай на вуснах. Вось і ўсё, дрот.

Ярл яшчэ жывы, браты мае, цесна нам у Мідгардзе.

- А ці не быў Рудульв сынам Дагхраўну Белатвараму? – спытаў Свафрламі.

- Так, дрот, Белатвары бацька яму, - адказаў Арні. – Ты ведаў Рудульва, правадыр?

- У далёкім юнацтве мы поплеч стаялі супраць вендаў. Тады ён выратаваў маё жыццё.

- Я не хацеў смерці яму. Людзі звалі сына Дагхраўна Справядлівым. І ён, хоць і дбаў аб славе ярлавай, а малодшага майго, як целюка, зарэзаць не даў. Асы яго сустрэнуць належна, як правадыра. Загадаў пасадзіць я Рудульва за стырно “Марскага Арла”.

- Няўжо спаліў?! – Свафрламі падняўся і расправаіў яшчэ магутныя плечы.

Стары карабел насупіў сівыя бровы і хітнуў ускалмачанай галавой.

- Спаліў, дрот. Барада ад слёз мокрая была. Па сынах не плакаў! Але хутка слёзы мае пахавальнае полымя высушыла. Годных мужоў у апошні паход выправілі. Сваіх забітых на “Арла” паклалі. Ды хірдманаў Хакі. Добрыя воіны былі ў Бадзягі. Не адно вясло дрэкі не засталося без рук мерцвяка. І ўспыхнула полымя, і разлілося па прасмоленых дошках, лізнула вятрыла і запалаў карабель. Дрэнгі Хольдульва выбілі кліны драўляныя і, пакідаючы на насціле вогненныя смалістыя слёзы, “Марскі Арол” узрэзаў магутнымі грудзямі хвалі фіёрда. Рудульв павярнуў ладдзю на Захад. І я бачыў на карме яго велічную постаць, уладар. Валасы яго палалі і ўсміхаўся стары ваяка. І знікла ў цемры святло пажара. Дрэкі выйшаў за межы свету людзей. Багі пажадалі забраць “Марскога Арла”. У Хольдульва на два караблі не было воінаў. Норны захацелі аддаць ладдзю мёртвым.

- Што ж, Арні, калі скончыў сагу сваю, вядзі на ўзбярэжжа. Хачу на твой карабель.

- Ты вырашыў, Свафрламі?

- Я вырашыў яшчэ ў пачатку нашай размовы, Вандроўнік. Зараз турбота твая – ладдзі! Скажы, колькі баяроў Хольдульв мае?

*1. **Руны** – скандынаўскія пісьмёны. Рунам надавалі магічнае значэнне.*

*2. У скандынаўскай міфалогіі нябесныя коні імчаць па небасхіле сонечную калясніцу, ратуючы сонца ад пачварнага ваўка і пена з іх губ – раса.*

*3. **Клён струн** – скальд. Каханка клёна струн – арфа.*

- Амаль два дзесяткі прызнаюць яго правадыром.

- Ці захоча ён ісці пад руку маю?

Арні паціснуў плячамі.

- Сам папытаеш, дрот. Пабачым. Хольдульв прыслухоўваецца да маіх слоў. Ды і Хродгар з ім ладзіць. Калі згоду ён дасць, шануй яго, конунг, ды корму людзям Хольдульвавым не шкадуй, калі багаты. Калі не, то не прасі на службу. Мячы іх каштуюць не танна, і кошт зброі сваёй яны ведаюць. Усе секачы знатныя! Жыццё іх – вайна!

Свафрламі хітнуў галавой. Адкінуў валасы з ілба і мовіў:

- Пойдуць – добра, а не, - дрот махнуў рукой, - тужыць па іх не буду. Ну, – уладар уздыхнуў, – хадзем. Хакі, пэўна, ужо калі знайшоў свайго сына з тваёй сякерай у грудзях.

Арні ўсміхнуўся, і ўсмешка яго воўчы выскал нагадвала.

- Знайшоў, дрот. Толькі цела скальда пакінуў я ахоўваць папялішча. І няхай разарвецца сэрца Бадзягі, калі пакладзе ён сына на жэглішча! Як сваіх я паклаў!

- Вайна будзе між намі, – сказаў Свафрламі. – Не ўладарыць Хакі на моры! Паб'ю яго. Падзель тваіх караблёў, Арні, меч агалю. Разумееш?

- Усё разумею, конунг.

- Дарэчы, Арні, навошта гнаіў ярл Відгутсона(1) з кударом тым, якім ты мяне страшыў?

- Таго не ведаю, уладар, але скажу, калі не ты, то жыццё Хакі яны возьмуць.

- Стала быць, хаўруснікі нам!

- А то! Але словы мае заўжды памятай. Бойся Цмокавай Скуры!

Свафрламі стаяў ля стырна, і вецер веяў яго сівую грыву. Усім целам адчуваў дрот, як з хвалі на хвалю перацякае пад ім "Цмок Бездані". Мора лізала дошкі яго чорных бартоў, змацаваныя між сабою яловымі карэнямі. Высока над бурунамі ўзлятаў змяіны штэвень, нібы дракон жадаў зазірнуць пукатымі вачамі за сінь далягляду. Стырно ясянёвае пакорліва слухалася моцнай далоні і здавалася людзям на беразе, што баявая ладдзя ляціць над белымі галовамі хваляў, і вось яшчэ імгненне - і туга выдзьмутае вятрыла зломіць чорную ад смалы мачту. Сын дрота – руды Фінбогі, стаяў ля цмокавай пысы і гучна рагатаў, калі на бледны твар яго траплялі салёныя пырскі. Далонь юнака ляжала на драконавай шыі. З малых гадоў меў звычку Фінбогі, - руку на галаву арлу класці, які доўгія гады глядзеў на хвалі з носа бацькоўскага кійле. Толькі муж можа стаяць на носе!

- Ньёрдаў лебедзь(2) адчувае дзясніцу ўладара. – мовіў Арні. – Бачу, да душы вы адзін аднаму. Што ж, дрот, прымі ў дар цмока гэтага. Няхай табе ён верным паплечнікам будзе. А "Арлінагаловаму" твайму няхай крыўды не будзе. Сын твой, казаў ты, даўно ля арла стаіць! Пажадай, конунг, яго шчаслівым зрабіць.

Бачыў Арні, як уздрыгнула на стыры(3) рука правадыра. Усміхнуўся ў вусы Бацька Доўгага Дракона. Свафрламі, крыху памаўчаўшы, зірнуў у мутнаблакітнае вока старога карабела.

- Думаю, Арні, годным аддаркам будзе табе галава Хакі. І будзь па-твойму. Гэй, сын! Табе "Арлінагаловага" даю! Валодай! Людзей сабе сам браць будзеш!

- Не пашкадуеш, бацька, - мовіў Фінбогі.

Свафрламісон паклаў не па-юнацку моцную далонь на плячо Алісона.

- Такі вяпрук белапеннай дарогі прывядзе да славы вялікай годнага мужа. І слава гэта не згасне ў вяках. Крывавымі кроплямі будзе ззяць, яна на срэбных струнах скальдавых арфаў! Ці захочаш ты, Арні, прыняць вернае сяброўства сына ўладара Зорных скал!

- У жылах тваіх, Фінбогі, цячэ Одынава кроў. Я прымаю тваё сяброўства з гонарам. Веру, будзеш ты вялікі правадыр, годны бацькі свайго!

А з берага назірала за бегам ваўка прыліваў(4) дротава дружына. І крыкнуў стары, у снезе сівізны, Гунтэр Чырвоная Кропля:

- Глядзіце, мужы буры стрэл(5), глядзіце на бег каня вады па языках хваляў! І ведайце! Нічога, больш прыгожага не ўбачыць вам за ўсё жыццё ваша! Поўнымі грудзямі ўдыхніце пах дракона – пах смалы, крыві і поту. Вецер дыхае ім! Нясе на крылах сваіх наперадзе цмокагаловага звера буруноў! І жахам стане пах гэты для берагоў чужых! Памятайце словы мае, мужы ікла далоні(6)!

- Вялікая мудрасць твая, Чырвоная Кропля, - мовіў Бальгер Агонь. – Цудоўнае відовішча явілі нам асы! І словы скальдаў тут – шэрая гліна!

Карабель развярнуўся носам да берага. Воіны хутка згарнулі ветразь і занялі свае румы. І, нібы крылы, выраслі вёслы на чорных бартах. Успенілі белым шаронам сінія грудзі марскія і паляцеў па сцяжыне крачак(7) драпежнік фіёрдаў(8). З кожным узмахам вёслаў вырастаў дрэкі і мацнеў на ўзбярэжжы цяжкі пах баявой ладдзі. Малады воін, высокі і магутны, з валасамі колеру светлага бурштыну, пільна сачыў сінімі вачыма за ходам карабля. Амаль без пырскаў падалі дрэвы рук(9) у пенныя хвалі. Ганарліва азіраў бераг цмок на штэўні. Не было відаць мужоў вясла. Ад чужога позірку іх надзейна хавалі шчыльна састаўленыя на бартах тарчы. Магутныя рукі нястомна гналі ладдзю ўперад і пагрозай веяла ад яе.

- Што, Замо, падабаецца?

Невысокі хударлявы муж з доўгімі цёмнымі валасамі паклаў прыгожую дзявочую далонь на плячо

---

*1. **Відгутсон** – Відгут – так па скандынаўску гучыць імя Вайдывута. Відгутсон – сын Вайдывута.*

*2. **Ньёрдаў лебедзь** – карабель.*

*3. **Стыр** – стырно на ладдзях.*

*4. **Воўк прыліваў** – карабель.*

*5. **Бура стрэл** – бітва, мужы буры стрэл – воіны.*

*6. **Ікол далоні** – кёнінг мяча. Мужы ікла далоні – воіны.*

*7. **Сцяжына крачак** – кёнінг мора.*

*8. **Драпежнік фіёрдаў** – баявы карабель*

*9. **Дрэвы рук** - вёслы.*

маладога ваяра. Той схамянуўся і зірнуў у твар сябру.

- Нешта казаў, Крыў?

- Я казаў, што гэта ладдзя годная таго, каб насіць у паходы Вайдывутава сына.

Замо ўсміхнуўся.

- Жадаў бы я паказаць гэты цуд уладару прусаў. Сапраўды, багі дапамагалі Арні. Колькі ўжо бачыў, колькі вяслом грывы хвалям блытаў,а ўсё нагледзецца не магу. Хараство.

Крыў адкінуў з ілба валасы, і бліснула ў іх луска вялікага вужа. Растрывожаны гад падняў галаву, страляючы языком, але пазнаўшы рукі гаспадара, хутка супакоіўся і споўз за каўнер скураной Крывавай кашулі.

- Мае багі, Замо, мацнейшыя за норгавых. Дзе былі асы, калі Грамавік ужо не першую вясну біўся са Змеем! "Цмок Бездані" будзе наш. Што лодкі твайго народа перад гэтай пачварай!? Вялікімі правадырамі быць нам, Замо. Дабро Вайдывута я памятаю. Ніколі не забудуся, як жыццём рызыкаваў бацька твой, ратуючы маці маю...

Крыў раптам замаўчаў і падняў руку, прыслухоўваючыся. Да ўзбярэжжа, скачучы з каменя на камень, нібы сарна, спускалася з невысокай скалы дзяўчынка – падлетак. Нешта крычала малая, і крыкі яе заглушаў падых мора. Крыў падхапіў дзіцё на рукі.

- Ну, чаго галосіш? Напужаў хто?

- Людзі Чырвонай Дзевы нашых рэжуць! – дзіцячыя слёзы закапалі на рукі воіна.

У гэты момант дрэкі ткнуўся вострымі грудзьмі ў пясок.

- Што здарылася?! – крыкнуў Свафрламі. Абапёршыся аб драконаву шыю.

Цмокава Скура апусціў дзяўчо на зямлю.

- Ворагі прыйшлі на тваю зямлю, правадыр, - мовіў Крыў. – Чырвонай Дзевай заве гэта малая іх важара.

З хуткасцю і спрытам, незвычайнымі для аднаногага, ускочыў Свафрламі ў сваю калясніцу. Яна даўнютка вазіла герояў, і дрот шанаваў яе больш, чым каханую жонку. На бартах яе чыстым сонечным бляскам ззяла золата з пераплаўленых рымскіх арлоў. Падхапіўшы лейцы, поруч стаў сын.

- Гэй,воіны! – крыкнуў конунг. – Чырвоная ведзьма забівае вашых жонак! Хутчэй жа за мною! Вялікую ўзнагароду за галаву яе дам!

Гікнуў Фінбогі і рванулі коні. І вецер сплёў сівізну бацькоўскай грывы, і агонь сынавых валасоў у адзіны шаль з полымя і дыму. Баявыя клічы з дзесяткаў горлаў напалохалі птушак на скалах і хірд паімчаў услед за ўладарам.

- Хто яна. Дзева гэта! А, Кормак! – перакрыкваючы гул ветру пацікавіўся Крыў у маладога калясьнічага.

- Морыган(1) – адказаў Кормак. – Людзі з Эрыў(2) лічаць, што яна прыйшла з Анона(3), каб узначаліць феніяў(4), што грызуцца між сабою, і павесці іх супраць ворагаў зямлі багіні Дану(5). Я сам з Эрына(6), я ведаю, так і будзе. Упершыню з'явілася Чырвонабровая (7) на Альбе і прывяла ў Брытанію з-за Сцяны скотаў і крывёй раманабрытаў амыла зямлю тую ад рымскага пагною! А потым прыйшоў Артайс (8), і яна білася з ім і перамагла! Супраць саксаў жа яны выступілі поплеч. Была бітва вялікая і здрадзіў кароль ваяўніцы! Люта секліся скоты. Але шмат больш было саксаў-находнікаў. І адвёў Артайс войскі свае і пабілі каледонцаў ворагі. І знікла з выспы каралева прывідаў!

У фіёрдах з'явілася і прынесла з сабою смерць! Свафрламі не верыць, што яна – багіня. Ведзьмай заве! Усе ведаюць, навошта прыйшла Варона(8). Па жыццё ўладара гэтых берагоў. Ужо два разы ён ледзьве не аддаў ёй сваю галаву. Пэўна, берагуць старога норскія багі. Але кароль ужо мёртвы. Морыган возьме тое. што хоча.

- Навошта ёй стары рыкс(9)!

Крыў ледзве паспеў ухапіцца за борт, калі калясніцу падкінула на каменях. Замо за спіной яго ўсміхнуўся.

- Свафрламі забіў знакамітага друіда. Кадбада. За гэта правадыры саксаў выпілі за здароўе аднаногага не адну кадушку элю! Не ведаю, кім быў стары Кадбад для Чырвонай, але часта бачылі іх разам, - адказаў Кормак!

- Я ведаю, людзі зялёнай выспы(10) ваюють з людзьмі фіёрдаў, – мовіў раптам Замо. – Навошта служыш ты ворагам свайго народа?

Кормак усміхнуўся, выскаліўшы рэшткі зубоў.

- На радзіме шмат хто жадаў бы бачыць мяне мерцвяком! Доўгая гісторыя.

Заенчылі, завылі тут норгі, трасучы збраяй і ўбачылі хлопцы, як з-за скал, забрудзіўшы цудоўную сінеч вясновага неба, выпаўзае чорным гадам дым. У завеі сечы заўважыў Крыў яе чырвоныя валасы. Вуголлем палалі яны на голай спіне ваяўніцы. Забіўшы кароткім мячом чарговага ворага, зарагатала Чырвоная Дзева, злізаўшы кроў з ляза сваёй зброі. І сустрэўся з ёй вачыма Цмокава Скура, калі павярнула яна галаву. Гэта быў самы сіні лёд, што бачыў Крыў за ўсё сваё жыццё. Злой чырванню цяклі вогненныя пасмы па яе голым целе, пакасаваным палосамі сіняй фарбы. Бровы і ніз жывата былі афарбаваныя чырвоным, а шчокі лізалі сінячатыя змеі татуіроўкі. Пругкія грудзі ваяўніча ўздымаліся над мускулістым

***1. Морыган** (кельт.) – багіня вайны ў старажытных кельтаў.*

***2. Эрыў** – Ірландыя.*

***3. Анон** – у міфалогіі кельаў-замагільны свет.*

***4. Феніі** – тут воіны. Воінскаяэліта, якая ў Ірландыі ахоўвала вярхоўнага караля. Феніі – члены фіяны – своеасаблівага воінскага братэрства са сваімі законамі.*

***5. Зямля багіні Дану** – Ірландыя.*

***6. Эрын** – Ірландыя.*

***7. Чырвонабровая** – Морыган.*

***8. Артайс** – Артур*

***9. Варона** – Морыган часта яўлялася ў абліччы вароны, таму і звалі багіню вайны Варонай.*

***10. Рыкс** – князь.*

***11. Зялёная выспа** - Ірландыя.*

жыватом. Ледзве прыкметны ў дыме пажару, над галавой яе віўся крумкач.

- Уф, пабілі! – запэцканую чужой крывёй, паклаў Замо далонь на плячо сыну судзінскай чараўніцы і крывіцкага князя.

Крыў хітнуў галавой і кінуўся скрозь натоўп воінаў. Яна знікала ў віры бітвы. Бразгатала зброя вакол. Крычалі, раўлі, енчылі і скавыталі людзі. Пахла крывёй, смерцю, жалезам і страхам, болем і роспаччу. Але крывіч сваім воўчым носам адчуваў толькі яе пах. Замо рынуўся за пабрацімам. Норгі бралі верх. Зграя, што прыйшла з Чырвонай Дзевай, зламала свае іклы аб варожыя тарчы. Калі вярнуліся з узбярэжжа дрэнгі, на кожнага з вальхаў прыйшлося па тры сякеры! Люта рэзаліся.

- Размаляваныя скоты, валійцы, эрынскія феніі да апошняга выдыху біліся за сваю багіню, прыкрываючы яе адыход да лесу.

- Што, Хель! – крычаў запырсканы варожай крывёй Свафрламі, трасучы ведзьмай сечы(1).

- Не ўзяць табе маёй галавы! Уцякай, уцякай, вальская сука! Але сёння мой нож нарэжа паскаў з тваёй спіны! Бярыце яе хлопцы, жыўцом бярыце! Дождж далоні(2) – узнагарода герою. Як сабаку Кадбада, на кавалкі пасяку!

Чырвоная Дзева, між тым, была ўжо бліз лесу. Яшчэ імгненне, і пушча прыняла яе ў сваё чэрава.

- Ты мог узяць яе, Крыў, - прасіпеў Замо, цяжка дыхаючы ад хуткага бегу. – Ху, ... як алені беглі!

- Вазьмі іх, пабарцім, - Цмокава Скура паказаў сваёй сякерай на трох скотаў, што стаялі на тым месцы, дзе лес праглынуў ваяўніцу. – Не дай затрымаць мяне! Я ўдагон. Потым тлумачыць буду!

З гэтымі словамі Крыў кінуўся на каледонцаў. Замо, падняўшы сваю страшную дубіну, скочыў за ім з жудасным баявым клічам прусаў. Праслізнуўшы пад мячом першага скота, крывіч глыбока распароў яму сцягно сваім доўгім бронзавым нажом. Прапусціў меч другога над сваёй галавой, кінуўшыся яму пад ногі. Перакаціўся, ускочыў, і ў некалькі кідкоў дасягнуў гушчару. Вораг кінуўся за ім, але трапіў пад кій Замо і з раструшчанымі грудзьмі зваліўся прусу пад ногі . З неверагоднай хуткасцю сын Вайдывута знёс галаву з плячэй параненага Крывам скота і цудам паспеў адбіць страшэнны выт цяжкай сякеры апошняга з ворагаў.

Змрок ужо распасцёр над зямлёй свае чорныя крумкачовы крылы, і цемра выпаўзала з самых патаемных закуткоў старажытнага лесу, ухутваючы сіняй смугой камлі магутных дубоў. Сціраючы з ілба пот, змораная доўгім і хуткім бегам, Чырвоная Дзева сплюнула ў вільготную траву густую горкую сліну. Лістовы лес застаўся за спіною. Наперадзе чарнелі сцяною вялізныя змрочныя яліны. Сабачы брэх набліжаўся. Норгі не адставалі. Дзяўчына зірнула назад. Нехта ішоў за ёй апрача пагоні. Доўга ішоў. Ледзьве не палову дня. Некалькі разоў яна бачыла яго цёмную постаць між дрэў. Хто? Адно ведала – не свой! А на роздум часу не было. З-за буралому кінуўся вялізны, амаль напалову большы за ваўка, калматы звер. Без сабачага брэху і бурчання, моўчкі. Чырвоная Дзева падняла меч.

Выскаліўшы іклы, ваўкарэз падскочыў, але зараз жа, заенчыўшы, перакуліўся ў паветры і пакаціўся па падгнілай лістоце. Бронзавая тронка нажа тырчэла з яго магутнай шыі. Другога сабаку ваяўніца хвацка секанула мячом па галаве. Гэтыя звяры не танна абышліся Свафрламі. Са шчаняці іх вучылі забіваць. Жарам прыліву(3) разлічваўся дрот за кожнага. Трэці – мацёры, шырокагруды, з абарванымі вушамі і сівай пысай, без адзінага гуку кінуўся ёй на грудзі.

Ваяўніца ўзяла яго на нож, але звер усё ж сціснуў жудасныя пашчэмкі на яе плячы і павалілася Чырвоная Дзева пад сабачым цяжарам. Кроў з слінявай зяпы лінула ёй на твар. Так скончыў свае дні Ацураў Дрэнг. Недзе недалёка, прыняўшы смерць неведама ад каго, заенчыў яшчэ адзін сабака. Спіхнуўшы з сябе мёртвага людажэрцу, абмацаўшы разарванае плячо, Морыган спакойна назірала, як з-за буралому, агаліўшы мячы, выходзілі норгі. Трое былі сталыя светлабародыя мужы, чацвёрты ж – юнак, які толькі пачаў галіць падбароддзе. Убачыўшы яго, Чырвоная Дзева зарагатала, падняўшы твар да цёмнага неба. Страшны быў смех яе, і пахаладзела кроў у жылах воінаў.

- З глузду з’ехала ведзьма, – шыпянуў Балькі, празваны Сівым Воласам.

- Зірні, – мовіў Хальвард – воін-вяпрук, які насіў замест броняў дзікову скуру, піў кроў варожую і, як шалёны, змагаўся ў бітвах.

- Усіх сабак пабіла, нават Дрэнга. Свафрламі не толькі з яе, а і з нас скуру спусціць!

Ваяўніца, нарэшце, сціхла. А рогат яе дзікі ўсё гучаў у вушах мужоў, і поўніліся страхам прымхлівымі іх суровыя сэрцы.

- Сама багіня помсты прыслала цябе, сын правадыра, - па-норску мовіла яна, гледзячы ў вочы рудому юнаку.

Голас дзевы быў хрыплы, непрыемны. І Фінбогі зрабілася ніякавата. Не гаварыла – каркала. Нібы крумкач абвяшчаў волю норнаў. Але зарагатаў сын Свафрламі ў твар Чырвонай Дзеве, хоць і цяжка было вытрымаць позірк яе. Вачэй не апусціў. Няхай бачаць бацькавы хольды, за кім у сечы хадзіць ім. Падняў руку Фінбогі, спыняючы воінаў, якія ўзялі ваяўніцу ў кола.

- Прэч! – крыкнуў ён. – Сам вазьму яе!

- Фінбогі! – раўнуў Хальвард, але было позна. Меч бразнуў аб меч і ў наступнае імгненне нож Морыган ад пахвіны да грудзей узрэзаў конунгаву сыну жывот. Апошняе, што ўбачыў хлопец, была чырвоная палоска валасоў між доўгімі мускулістымі нагамі дзяўчыны. Узмахам мяча адзяліся яна рудую галаву забітага ад цела. Перахапіўшы нож за скрываўленае лязо, з сілай кінула яго ў Хальварда. Але воін-вяпрук хвацка адбіў клінок той мячом. Бліснуўшы ў загусцеўшай цемры, зброя знікла ў гушчары. Норгі напалі з трох бакоў.

- Жыўцом, жыўцом гадзіну браць! – крычаў Хальвард.

---

1. ***Ведзьма сечы*** *– баявая сякера*
2. ***Дождж далоні*** *– адзін са шматлікіх кёнінгаў золата.*
3. ***Жар прыліву*** *– кёнінг золата.*

Змяёй вілася вальхская ваяўніца пад іх мячамі. Звінела жалеза, лаяліся скрозь зубы мужчыны. І вось, ускрыкнуў Блэінг, калі рассекла Чырвоная Дзева сцягно яму, зачапіўшы косць сваім мячом. Лінула кроў з раны глыбокай і падняла ваяўніца зброю для смяротнага выта. Але схапіў за руку яе Хальвард і тронкай свайго знакамітага Сімуля(1) выцяў дзяўчыну ў скронь. Без гуку паваліласяя яна хольду пад ногі. Норг з рыкам піхнуў пераможаную нагой у жывот. Балькі Сівы Волас, увагнаўшы меч у зямлю, нахіліўся над целам Фінбогі. Паківаў рана пасівелай галавой. Паклаў мазолістую далонь на белы твар юнака і заплюшчыў яго мёртвыя вочы. Тым часам Хальвард спрабаваў суняць крывацёк з раны Блэінга.

- Прыпячы трэба, – мовіў Сівы Волас і дастаў крэсіва.

- Раскладай вогнішча, - адказаў Хальвард. – Ды суку гэту клятую скруці.

- Не будзе нам ні славы, ні дабра, - прасіпеў Блэінг. – Апошняга сына забраў Аднавокі ў конунга. Што скажам яму?

Воіны маўчалі. Цемра гусцела з кожным уздыхам ветру ў вяршынях дрэў. Лес поўніўся начнымі галасамі. Стукнулі крамяні ў руках Балькі, і зыркае полымя, лізнуўшы сухое галлё, асвяціла суровы твар сівагаловага ваяра.

- Грэй нож, Балькі. Ды хутчэй, - прамармытаў Хальвард, перапэцканы Блэінгавай крывёй. – Цячэ, як з парсюка колатага. Сівы Волас не адказаў. Моўчкі выцягнуў баявы нож і ўсунуў лязо ў полымя.

- Балькі, - зноў паклікаў сябра Хальвард. – Трымай свой ікол пад рукою. Тут нехта ёсць. Я адчуваю яго вочы на сваёй патыліцы. Сівы Волас выцягнуў з агню пачырванелы нож.

- Трымай яго, Хальвард.

З гэтымі словамі воін прытуліў распаленае жалеза да раны Блэінга. Паранены засоп, пракусіў вусны, але крык стрымаў.

- Я бачыў яго там, за бураломам, - шапнуў Балькі на вуха Хальварду.

- Пэўна, сінямордыя, - Блэінг сціснуў дзяржанне мяча. –Але, думаю, не шмат іх, і лука яны не маюць, а то кожнаму ўжо страла ў грудзі была б.

- Што ж, - усміхнуўся ў бараду Хальвард – Яны атрымаюць сваю дзеўку, але па кавалках. Я выражу ёй тое, што робіць жанчыну жанчынай, у іх на вачах. Норг драпежна зірнуў на нерухомую ваяўніцу, скручаную па руках і нагах скуранымі паскамі.

- Яна ўсё ж адпомсціла дроту за смерць Кадбада. Амаль зіму за ім палявала ды за сынам яго. Як у вочы конунгу зірнуць?.

- Галаву зніме. Вось жа дурань смаркаты, уявіў сябе правадыром ды воінам вялікім.

- Пабач, ачомалася крыху, - перабіў Хальварда Балькі і шэптам дадаў. – Зараз мы даведаемся, пабрацім, хто хаваецца ў цемры!

Сівы Волас падняўся на ногі.

- Ці бачыў ты, Хальвард, у сваім жыцці такую прыгажосць, - голасна мовіў воін накіраваўся да палоннай. Прысеўшы на кукішкі, ён правёў пальцамі па яе цудоўным целе. – Хочаш яе, пабрацім?

Хальвард ухмыльнуўся.

- А што, цікава, ці цнатлівая багіня вайны вальхаў?!

- Хадзі хутчэй, чаго марудзіш? Яна ўжо зачакалася!

Воіны зарагаталі. Чырвоная Дзева маўчала, калі іх рукі да болю сціскалі яе грудзі, гулялі па маладому пругкаму целу, пакідаючы на скуры крывападцёкі. Яна нібы не заўважала сваіх катаў. Сінія вочы ваяўніцы глядзелі міма норгаў, у чорную бездань неба. Хальвард, стоячы на каленях, расшпіліў пас і пачаў развязваць парты. Халодныя шэрыя вочы яго намагаліся пранізаць ноч. Аголены меч ляжаў побач. Калі хто з воінаў гэтай дзеўкі сочыць за імі, то такіх здзекаў са сваёй дротынг не вытрывае. Тут яму і смерць! Хальвард быў упэўнены – вораг адзін. І вось калыхнулася цемра і полымя высвяціла адзінокую постаць. Норгі ўскочылі на ногі. Незнаёмец нахіліўся над адным з забітых ваўкарэзаў і выцягнуў нож з яго шыі. Уваткнуў у зямлю, абціраючы ад крыві. Нетаропка агледзеў лязо і накіраваўся да вогнішча.

- Ды гэта ж Цмокава Скура! – здзіўлена мовіў Балькі, апускаючы меч.

- Бачу, спазніўся, - крыў зірнуў на Фінбогі. – Што ўладару скажаце?

- А што тут скажаш! – Хальвард вылаяўся і плюнуў. – Гэта што, ты ў гушчары хаваўся? Га? Якога ляду?!

- Той, хто хаваўся, зараз на шляху да сваіх багоў. – Крыў кіўнуў на спутанную паланянку. – Адзін з яе людзей, пэўна, зручнага моманту чакаў, каб галовы вашыя, у дыме вытрыманыя, перад жытлом сваім на палях падняць.

- Не чуў я гукаў барацьбы, - мовіў тады Балькі Сівы Волас.

Крыў паціснуў плячыма.

- А барацьбы і не было. Ён нават не пачуў крокаў смерці. Схадзі, сам пабач. За бураломам цела яго знойдзеш.

Балькі зірнуў на Хальварда. Нагнуўся і выцягнуў з вогнішча галіну, рассыпаўшы ў бакі іскры.

- А і пабачу.

Крыў усміхнуўся. У далоні яго бліснула светлая бронза . Нож увайшоў Хальварду ў падбародзе і той памёр, яшчэ не кранууўшыся зямлі. Сівы Волас павярнуўся на крык Блэінга і зараз жа, раскінуўшы рукі, бразнуўся вобзем з Крывавым нажом у вачніцы. Блэінг з рыкам ускочыў на ногі. З раны струменем лінула вада жыцця(2).

Узмахнуў норг мячом, але выпаў клінок з магутнай дзясніцы. Драпежнадзюбая птушка вайны(3) са страшэннай сілай секанула яго па шыі. Жоўтавалосая галава, пырскаючы крывёй, праляцела ў паветры некалькі крокаў і, трапіўшы ў вогнішча, раскідала галлё. Крыў апусціў сякеру і абцёр Блэінгаву кроў са свайго твару. Адкінуў з ілба цёмныя, злітыя з цемрай валасы і, зірнуўшы на Чырвоную Дзеву, прысеў каля цела норга. Выцягнуў у яго з-за

***1. Сімуль** (сканд.) – "прамень месяца" – імя Хальвардава мяча.*

***2. Вада жыцця** (сканд.) – кроў.*

***3. Птушка вайны** – клінападобная баявая сякера.*

дзягі нож і вось ужо паланянка расцірала свае пасінелыя пасля тугіх путаў рукі.

- Хто ты? – нарэшце спытала яна.

- Цмокавай Скурай завуць мяне людзі фіёрдаў.

- Навошта табе жыццё маё? – ваяўніца ўстала на ногі, і крыў не адказаў. Захоплены яе незвычайнай, нечалавечай прыгажосцю.

- Што воін, язык праглынуў, ці дзевак голых не бачыў?

- Такіх не бачыў, - мовіў Крыў.

- Па-норску не кепска размаўляеш, але не норг ты. Ну. Навошта ішоў за мной? Навошта гонар і жыццё мае ратаваў?

- Закахаўся, - усміхнуўся сын крыўскага князя.

Белазубай усмешкай адказала дзева, прыкрыўшыся Блэінгавым плашчом.

- Калі ўбачыў цябе, то зразумеў, чаму ідзеш у бой голая, - бліснуў вачамі Крыў. – Мячы мужоў баяцца тваёй прыгажосці. На чале тваім бачу я святло поўні, а ў вачах – зменлівасць Воўчага мора. Як імя тваё, чароўная дзева?

- Ісці ў сечу аголенымі – святы звычай маіх продкаў, бард(1). Я не памылілася, ты бард. Ты малады, а ў позірку тваім – мудрасць. І бачу я, як зззяе чало тваё, як у Таліесіна(2). Заві мяне Морыган, як мае людзі. Яны вераць, што я і ёсць Бадб Катха(3).

- Я буду зваць цябе Марай(4). Навошта табе галава норскага ўладара?

- У галаве жыве чалавечая душа. Аднаногаму адпомсціла я. Замест яго галавы ўзяла галаву сына яго. Падкінь галля ў вогнішча, воін, тухне.

Крыў схадзіў да буралому і насёк сухіх галін. Яны весела затрашчалі на агні. Цмокава Скура прысеў ля вогнішча і працягнуў дзеве скураную біклагу. Адпіўшы норскага піва, дзяўчына закуталася ў плашч і села бліжэй да агню.

- За што ж адпомсціла. Ці за каго? – зноў пацікавіўся крыў.

- За Кадбада, - адказала Чырвоная Дзева.

- Ён быў табе бацькам?

- Два дзесяткі зім таму ён знайшоў немаўля сярод Эрынскіх пагоркаў. Гэта была дзяўчынка. На ложку з белых кветак ляжала дзіцё, а побач – меч старажытны, уваткнуты ў зямлю. І ўзяў Кадбад дзяўчо на рукі і ўбачыў, што ў крыві вусны яе і кроў на бровах дзіцяці. Быў Кадбад вялікі друід і не меў роўных у мудрасці. Здрыгануўся ён, калі зазірнуў у дзіцячыя вочы. Сіняя бездань Анона дымілася ў іх. І зразумеў Кадбад: Морыган прыйшла ў свет людзей! Укруціў у свой плашч друід малую, і павеяў тут вецер, наганяючы чорныя хмары і барвай успыхнула неба. І закруціў вецер белыя кветкі, на якіх ляжала немаўля, вакол Кадбада і задыхнуўся ён у гэтай чароўнай завеі. Бладэйд(5). – так назваў друід дзяўчынку.

У той час імперыя ўжо памірала. Даўно пакінулі Альбіён рымляне, і цяжкая хада легіёнаў ужо калі сціхла ў далечы. І прывёз у Каледонію Кадбад тое дзіцё і мовіў правадырам ваяўнічх кланаў:

- Вось, мужы, прыйшла Нэмайн(6) на зямлю! І прыйшоў час – змыць пляму рымскага рабства з белага твару Альбы! Брыты забыліся гонар свой пад пятой Рыма. А хто з легіянераў мог пахваліцца, што бачыў вашы туманныя горы!

Так сказаў Кадбад, і была вайна. Друід жа знік, і доўгія гады ніхто пра яго нічога не ведаў. І пацiскалі людзі плячыма. А ці быў ён? Багі любяць жартаваць. І ўжо не верылі каледонцы, што народжаную багіню трымаў Кадбад на руках сваіх. І вось аднойчы вяртаўся правадыр магутны Арт мак Рот з палявння, і пацямнела тут неба. Але не ад хмар навальнічных! Чорныя зграі крумкачча схавалі сонца, і аглохлі воіны ад крыкаў птушыных, і з'явілася яна вярхом на чорным вепруку! І круціў паўночны вецер ля ног вялізнага дзіка сухую лістоту, і развяваў полымя валасоў юнай Морыган! І апускалі перад ёй галовы магутныя мужы, і вочы яе былі – зоркі! За спіной Чырвонавалосай бразгалі зброяй аб тарчы тры сотні феніяў з Фотлы (7)! І аб'яднала імя Морыгу вольныя кланы. Далучыліся пікты і ўздрыгнула зямля пад коламі калясніц, калі выйшлі за Сцяну зграі згаладалых ваўкоў. Не, не ў набег ішлі скоты, як звычайна хадзілі за Вал па здабычу. Не! Гэта была вайна, у якой магутная воля Кадбада каледонскімі і эрынскімі дзідамі стварала новае каралеўства на рэштках рымскай Брытаніі. Карлеўства вольных людзей, якія ніколі не ведалі імперскай калігі(8) на сваім горле! І вось з'явіўся ён, сын Утэра, і падняў меч свой чароўны за Белага Бога і рымскую спадчыну брытаў. Біўся з намі і біўся з саксамі. Вялікі воін. Мудры правадыр. Не хацелі і мы саксаў на выспе. Таму, нарэшце, пагадзіліся між сабою Артур і Кадбад, дамовіўшыся Брытанію дзяліць. І паднялі скоты свае дзіды пад харугвамі Пендрагона і поплеч з ворагамі былымі білі германцаў. Але мовіў Артур: "Lupus pilum mutat , non mentem"(9).

І падставіў сваіх каледонскіх хаўруснікаў пад саксонскія сякеры, адвёўшы войскі свае. І была ад саксаў параза вялікая. Мудры кароль, ён назіраў, як рэжуцца між сабой ворагі яго. Не верыў Кадбаду Артур. І вось, калі рэшткі скотаў залізвалі раны свае, прыйшоў у стан іх сляпы пікт з хлопчыкам – брытам. Не разгледзець было за страшнымі шнарамі твару яго. І мовіў сляпак, што не ступіць больш нага Кадбада на зямлю Альбы. Мананан(10) частуе славутага мужа ў пакоях сваіх на дне марскім. І не верылі воіны, гледзячы ў гнойныя язвы яго вачніц. Зарагатаў сляпы, разадраў

*1. **Бард** – паэт у старажытных кельтаў. Асоба надзвычай паважаная.*

*2. **Таліесін** – літаральна "чало, якое зззяе" – знакаміты валійскі бард. Асоба легендарная, але некаторыя вучоныя лічаць, што паэт гэты – асоба гістарычная і жыў ён у VI-VII ст. н.э.*

*3. **Бадб Катка** – "варона бітвы" – адно з імёнаў Морыган.*

*4. **Мара** (славянск.) – злосны дух, увасабленне смерці.*

*5. **Бладэйд** (кельт)- народжаная з кветак.*

*6. **Нэмайн** – утрапёнасць, паніка – адноз імёнаў Морыган (Морыгу).*

*7. **Фотла** – старажытная назва Ірландыі*

*8. **Каліга** – абутак рымскіх легіянераў.*

*9. **"Lupus pilum mutat , non mentem"** (лат.) – Воўк мяняе шкуру, а не нораў.*

*10. **Мананан мак Лір** – У кельтскай міфалогіі бог мора.*

кашулю на грудзях сваіх і застагналі пікты, убачыўшы выяву ваўка на целе яго. Кенэў Воўк – правадыр самага магутнага з пікцкіх кланаў стаяў перад ваярамі. Разам з Кадбадам адплыў ён на Эрын, шукаць сяброўства караля Тары(1). Людзі з Лохлана(2) захапілі іх караблі. І Свафрламі быў правадыром норгаў. У жорсткай сечы загінуў Кадбад, і норскі кароль пасёк яго цела сякерай на кавалкі і выкінуў у мора. Галаву ж яго падараваў Аднаногі правадырам саксаў. Тыя аддарыліся золатам. А Кенэў паранены ў палон трапіў. Калі ж ворагі на Альбіёне ў набег хадзілі, спрабаваў пікт уцячы. Злавілі. Вочы вынялі, цела паходнямі палілі, ды нажамі рэзалі. А калі нацешыліся – здыхаць на беразе кінулі. Выжыў.

Крыў дакрануўся яе шчакі шурпатымі пальцамі.

- У цябе прыгожыя рукі, бард. – заўважыла дзяўчына.

- Мне яшчэ не даводзілася ратаваць багіню. – усміхнуўся крывіч.

- Кадбад загінуў і Морыган пакінула гэты свет, – адказала ваяўніца і зірнула ў вочы свайму выратавальніку.

- Ты забіў двух ваўкарэзаў. Чаго ж сядзеў, калі кінуліся на мяне ворагі?

- Пабачыць жадаў, якая ў баі.

- Ну, пабачыў?

Крыў хітнуў галавой.

- Кадбад добра навучыў цябе, Мара. Дзе ж хаваў ён ад людзей столькі гадоў багіню вайны?

- На Авалоне!

- Дзе?

- На выспе ў Заходніх морах. Там у яблыневых садах вучылі мяне забіваць лепшыя з ваяроў. Адтуль, калі час прыспеў, паклікаў мяне Кадбад. А зараз я папытаць хачу. Навошта норгаў пабіў? Якая табе карысць ад жыцця майго? Якой узнагароды чакаеш? Ну, што скажаш, воін?

Крыў зірнуў ёй у вочы. У іх цёмна – сіняй бездані прывідным святлом ззялі зоркі. Доўга глядзелі яны вочы ў вочы, і вытрамала ваяўніца цяжкі позірк Цмокавай Скуры. І мовіў сын крыўскага ўладара:

- За сінім дымам, што плыве ў тваіх вачах, – святло зорнае. І зоркі, якія праменяць яго, зіхацяць на нябёсах не гэтага света. Ведай жа, Зорная дзева, таму, хто служыць Гаспадару Маланкі, не трэба ўзнагароды. Ні ад кога! Крыў змоўк і паварушыў вуголле.

- Ведай і ты, Цмокава Скура. Каралева прывідаў дзякавала не ўсім. Бладэйд жа не хоча заставацца не ўдзячнай.

Скінула дзева з плячэй плашч і паваліла Крыва пад яліну ў мох вільготны, раздзёршы кашулю на яго грудзях. І як агонь палілі вусны яе шнары на твары крывіча.

- Дзе ты бадзяўся? – Замо паклаў цяжкія далоні на плечы пабраціма. – Не думаў я, што ты яшчэ жывы. Шукаў цябе, малады рыкс не вярнуўся з лесу. Сёння на золку воіны прынеслі яго. Без галавы. Са старым уладаром дрэнна. Пэўна, не пераджыць яму гора вялікага. Як цела ўбачыў, так і паваліўся на рукі вітынгаў сваіх. Слова вымавіць не можа, хрыпіць толькі. А левая палова цела не слухае яго. Не рукой, не нагой не рухае. Знахарка з ім зараз. А вунь і Тора – жонка яго. Казаў я ёй, што апрача цябе ніхто ўладару не дапаможа. Воіны да гэтай пары цябе па пушчы вышукваюць. Ну, вітай, братка, гаспадыню. Потым размаўляць будзем.

Ужо немаладая, але ўсё яшчэ прыгожая жанчына глядзела на Крыва невыплаканымі вачамі. Ён зняў з пляча торбу з дзіковай скуры і працягнуў яе Торы.

- Твой сын, маці воіна, загінуў у баі, - мовіў Крыў. – Няма для сапраўднага мужа лепшай долі.

Дрыжэлі белыя пальцы Торы, калі разблытвала яна скураны пасак. І здавалася Крыву, што чуе ён, як тахкае сэрца маці. І заскрыгаталі зубамі воіны, сціскаючы рукаяткі сякер да болю ў далонях, калі дастала Тора з мяха галаву Фінбогі. Пахіснулася жанчына, і падтрымаў яе Хродгар.

- Кроў сына твайго на руках Чырвонай Дзевы, – сказаў Крыў, – яе меч узяў жыццё Фінбогі.

Ты ведаеш звычай скотаў, маці, галовамі сваіх ворагаў абкружаюць яны жытло сваё. Фінбогі знайшоў я мёртвым. Пэўна, не нагнаўшы ўцякачку, спынілі хлопцы пагоню і адпачываць селі. Ноч была. Тут іх і парэзалі. Агонь гарэў і целы забітых яшчэ не пакінула жывое цяпло. Ноч ішоў я за ворагамі. На досвітку ўбачыў забойцаў. Двое воінаў было з Чырвонай, і адзін, насадзіўшы на дзіду, нёс галаву маладога ўладара. Ваяўніца зарагатала, калі ўбачыла мяне, і крыкнула яна, што ўласнаручна ўзрэзала жывот сыну рыкса. Не спыніла ходу свайго Чырвоная, калі біўся я з яе людзьмі, далей пайшла. Скотаў я забіў. Цяжкі быў бой, але галаву Фінбогі адбіў.

- А дзе ж яе галава, Крыў? – спытаў Арні.

- Пэўна, у яе на плячах, - адказаў Цмокава Скура. – Я не ўзяў след яе. Доўга шукаў. Нічога. Крыў развёў рукамі і зірнуў на Тору. Твар жанчыны быў бялейшы за снег. Яна ўсё яшчэ трымала ў руках скрываўленую галаву свайго апошняга сына. Але вочы яе ўжо былі празрыстыя, і не было ў іх слёз. Заўсёды памятала Тора – яна жонка ўладара. І зараз вочы яе светлашэрыя, былі цвярдзей за скалы фіёрдаў.

- Я не ведаю цябе, воін, - мовіла жанчына. – Але ты храбра біўся за нас, рызыкаваў жыццём сваім. Чула, ты высокага роду, як і твой пабрацім. Ганаруся, што вы – мае госці!

- Норны не памыляюцца. Не дарэмна ты тут, Цмокава Скура. Відгутсон казаў, што ты размаўляеш з багамі!? І нават са страшных рук дачкі Локі(3) даводзілася табе вырываць яе здабычу.

- Усё так, – кіўнуў Крыў. – Але яна не мае на мяне крыўды. Я бяру мала, даю шмат.

Пра рыкса ведаю. Калі багі таго пажадаюць, ён застанецца з табой. А зараз, гаспадыня, аддай галаву сыну. Ды загадай – да хворага, дзвярэй не адчыняць.

*1. **Кароль Тары** – лічыўся вярхоўным каралём Ірландыі.*
*2. **Лохлан** (ірлан.) – літаральна "краіна азёр" – назва Скандынавіі ў ірландцаў.*
*3. **Дачка Локі** – Хель.*

Гэй, Замо, нясі торбу маю!

Крыў выйшаў ад дрота калі на небе ўжо свяціла поўня. Вецер заказытаў ноздры пахам дыму. Цмокава Скура расправіў плечы і зірнуў навокал. Селішча было амаль пустое, і Крыў зразумеў, што цела Фінбогі аддалі Святому агню.

- Я думаў, ты там заснуў, - пачуўся голас Замо, і ў цемры белай плямай мільганула новая, доданая норгамі, кашуля Вайдывутава сына. – Ну, як там стары?

- Жыць будзе, - адказаў Крывіч.

- Я чакаў цябе, пабрацім. – Замо паправіў на плячах плашч з воўчага футра і паклаў далонь на тронку саксанскага скрамасакса(1), які вісеў ля яго сцягна. – Сын Аднаногага атрымаў сваю галаву. Над жэглішчам ужо курган пачалі насыпаць. Параненых скотаў, што ў палон трапілі, жыўцом з ім спалілі – трох чалавек. Ні адзін ані слова не вымавіў. Годныя людзі. А ты, што мне скажаш?

- Хадзем на ўзбярэжжа, Замо. Не доўга гутарыць нам. Неўзабаве сам усё пабачыш. - Крыў цяжка ўздыхнуў.

– Стаміўся я, браце.

– Думаў, не ведаеш ты стомы, пабрацім. Няўжо стаміла цябе дзева з вогненнымі валасамі? Не адна зіма мінула з тае пары, калі змяшалася кроў у нашых жылах, не адну бітву выстаялі мы поплеч.

Але такім я не бачыў цябе ніколі. Крыў узяў пабрацiма за руку і зірнуў яму ў вочы.

- Там, у чэраве норскай пушчы, сярод мерцвякоў норгаў, калі ваўкі спявалі месяцу песні свае, яна належала мне! І ложам нашым былі ігліца і мох. І зоркі глядзелі на нас цераз галіны адвечных дрэў халоднымі вачыма. Цела яе абпаліла мяне, вусны выпілі душу. А вочы замарозілі сэрца маё. Яна ўжо блізка, Замо. Я чую цудоўны пах яе скуры ў паветры. Ацалелыя скоты ідуць за сваёй багіняй. Яны не раз трымалі вясло ў руках. Разумееш, Замо?

Сын Вайдывута павярнуў галаву. Недалёка, аблiты святлом поўні, спаў “Цмок Бездані”. Усміхнуўся прус і мовіў:

- Тора захацела аддаць яго сыну, але воіны адгаварылі. А я ведаў, што ён будзе наш. Не паслухаў мяне Арні, не пажадаў сяброўства з бацькам аднавіць...

- Ціха, - перарваў яго Крыў, прытуліўшы палец да вуснаў сябра. – Тора ідзе.

- Воўчы нюх, воўчы слых маеш, браце, - глядзеў у цемру Замо. – А, унь агні бачу. Пэўна, нас шукае. А тыя, хто паходні нясуць перад ёй – лепшыя з воінаў Аднаногага. Астатнія ўжо перапіліся каля кургана.

- Шмат піва трэба, каб належна правесці ў апошні паход правадыра. Гэтыя ж п’янымі не будуць. За ўладаром, казалі мне як сабакі хадзілі. Ён іх добра карміў. Верныя. Унь, бачыш, пяцёра іх, усе ўзброеныя. Як за Свафрламі, так і за Тору, не мяркуючы жыццё пакладуць. Старэйшага з іх, Сівавусага Эскхерэ, грэла ў сваім ложку Тора, калі муж яшчэ ў паходы на двух нагах хадзіў.

- Адкуль тое ведаеш? – папытаў Крыў.

Замо ўсміхнуўся.

- Не даводзілася мне кахаць багіню, але дзяўчаты, што Торы служылі, мае былі, доўгія языкі мелі.

Прус змоўк, паклаўшы далонь на дзяржанне баявога нажа, які праславіў імя саксаў. Полымя норскіх паходняў задрыжэла на тварах пабрацімаў. Тора спынілася насупраць Крыва. Маўклівыя воіны нерухома сталі за спіной кунігунды. Халодны вецер наляцеў раптам з мора і рвануў плашч з плячэй жанчыны. Затрашчалі, плюнулі іскрамі паходні, і мовіла жонка правадыра:

- Што вам ноччу на ўзбярэжжы спатрэбілася?

Пацiснуў плячамі Крыў.

- Горача ў пакоях рыкса, адказаў ён і апусціла жанчына вочы, не вытрымаўшы позірку Цмокавай Скуры. – Я люблю мора. Сваім свежым подыхам яно вяртае чалавеку сілы.

- Я не хацела пакрыўдзіць цябе, - Тора ганарліва падняла галаву. – Зараз я была ў дрота і дзякую табе за жыццё яго. Рабы сказалі, што ты з сябрам на беразе. Адшукала вас і спытаць жадаю...

- Ведаю, гаспадыня, пытанне тваё. Рыкс устане на ногі. Толькі час патрэбны. Але ўжо не трымаць яму меч у руках. Знахарка твая ведае, што трэба рабіць. Я ўсё ёй сказаў. Ды і сама яна не дурніца.

- Чаго пажадаеш ты. Прасі!

- Ніколі не прасіў я, але браў сам. І ты не пажадаеш даць мне, чаго хачу.

- Не разумею цябе, Цмокава Скура, - мовіла Тора, пазбягаючы з Крывам вачамі сустрэцца.

- Што ж, жадаеш аддзякаваць, добра. Дай “Цмока Бездані” мне, кунігунда? Сціснула кулакі жонка Свафрламі, і ўздрыгнулі паходні ў магутных руках яе воінаў.

- Не табе хадзіць на гэтым кані хваляў. Належыць ён дроту. У яго прасі.

Ухмылка кранула цвёрдыя вусны Крыва.

– Сапраўды, не зразумела ты мяне. Няма патрэбы прасіць сыну крыўскага ўладара. У мяне просяць як ты, Тора, можаш папрасіць яшчэ!

Белым полымем успыхнулі вочы жанчыны, але застылі словы на яе збялелых ад гневу вуснах. Бо са стралой у грудзях апусціўся на калена сівавусы Эскхерэ.

- Здрада, кунігунда! – прасіпеў воін, ламаючы тронца стралы.

- Здрада! – выдыхнулі норгі, агаляючы зброю.

- Паходні тушыце! – крыкнуў Эскхерэ.

Абапёрся на меч стары ваяка і падняўся на ногі, целам сваім засланіўшы Тору. Смех Цмокавай Скуры разануў па вушах. Нянавісць дадала сілы сівасусаму норгу, і кінуўся ён на клятага чужынца. Бліснуў у святле поўні клінок яго. Баявы кліч вырваўся з горла, адгукнуўшыся болем у прабітых грудзях, і запэцкала кроў белыя вусы. І вось сячэ меч, але цемра навокал. Знік вораг. Гадам з-пад клінка выслізнуў. І рэжа лязо жоўты пясок. Плюе крывёй Эскхерэ, далонню ацірае чырвоны рот, абпіраючыся на выкладзенае золатам дзяржанне мяча. І ноч рагоча ў твар яму. Нябачнымі

***1. Скрамасакс*** *– доўгі баявы нож – улюбёная зброя саксаў.*

рукамі лепіць перад вачыма жудасны лік вальхскай ведзьмы. Хрыплы крык рвецца з грудзей норга, калі джаліць яго ў жывот гадзіна вантробаў(1). Барвовымі плямамі ўспыхвае цемра ў вачах Эскхерэ і слабеюць жалезныя пальцы на золаце ікла бітвы(2), і чуецца старому воіну грукат конскіх капытоў, і апошняя ўсмешка кранае скрываўленыя вусны волата. Між зорак імчаць дзевы бітваў, гігочуць, пенай пырскаюць крылатыя коні, усміхаецца ў сівую бараду Аднавокі. Чакае хірд яго нябесны новага героя. Бладэйд паставіла нагу на грудзі Эскхерэ, вырвала дзіду з яго жывата і ўсміхнулася Крыву. Цмокава Скура паклаў далоні на яе голыя плечы.

- Колькі людзей маеш? – спытаў ён.

- Амаль два дзесяткі. Хопіць. Арт на носе адзін вяслуе і стомы ніколі не ведаў.

- Вялікі вясляр твой Арт, калі на два барты пеніць хвалі.

- А ты зірні на яго. Унь, стаіць.

Вялізны мужчына,амаль напалову вышэйшы за Крыва, стаяў побач, трымаючы за валасы жонку Свафрламі. Ля пасу яго пэцкаючы крывёй скураныя парты, матлялася адрэзаная галава забітага ім норга. Махнуў ён рукой магутнай і павалілася тварам у пясок Тора ля ног Бладэйд. Нават не зірнула на яе ваяўніца. Хістаючыся, паднялася Тора з каленяў і моўчкі кінулася на забойцу сына. Каля самых сваіх вачэй перахапіла Бладэйд яе рукі, выкруціла і рванула ўверх, ламаючы жанчыне запясці. Застагнала Тора ад жорсткага болю, пракусіла вусны і крывёй плюнула у твар Чырвонай Дзеве. Бладэйд спакойна сцерла плявок і мовіла:

- Яна твая, Арт. Рабі, што пажадаеш. Толькі хутчэй.

З рыкам разадраў воін сукенку на Торы, кінуў на пясок жонку Свафрламі і наваліўся на яе сваім магунтым целам.

- Ну, да карабля, - мовіла Бладэйд, падхапіўшы дзіду. – Мае людзі перабілі ахову. Баяцца яны доўгага змея. Думаюць – багам належыць цудоўны карабель.

Крыў усміхнуўся. Усмешкай адказала яму ваяўніца. За іх спінамі чулася мядзведжае бурчанне Арта. Тора маўчала.

Пачварная пыса цмока пагрозліва выскаляла ў святле поўні белыя іклы, выробленыя з рыбінай косці. Бліскацела, іскрылася ў полымі паходняў залатая луска на доўгай шыі і з жахам глядзелі скоты ў жоўтыя вочы дракона і не вытрымлівалі лютага змяінага позірку. Тапталіся на месцы, сціскаючы чорнымі далонямі тронкі бронзавых бацькоўскіх клінкоў, і ніхто не цягнуў рукі, каб дакрануцца чорных прасмоленых бакоў страшнага марскога звера. Не верылі каледонцы, што рукі чалавечай слухае гэты цмок. Драмаў чароўны карабель і не жадалі парушыць воіны спакой яго. І зарагатала Морыган, і крыкнула:

- Сапраўды, карабель багоў перад вамі, мужы! Вялікі дар героям! Дык бярыце ж яго!

Рык вырваўся з дзесятка глотак, і калыхнуўся дрэкі на магутных руках і ўзрэзаў вострымі грудзямі хвалі халодныя. І, нібы чорныя крылы, узляцелі вёслы і амаль без пырскаў упалі на ваду.

Здрыгануўся звер, уздыбіўся на белых грывах хваляў і рвануўся ў бездань ночы.

- Бачу, Чырвоная Дзева, знаёмыя з вяслом рукі тваіх хлопцаў, - трымаючы стырно крыкнуў Замо. – А таму мядзведзю, што на носе вяслуе на два барты, пэўна, роўні не знойдзеш.

- Арт не толькі вялікі вясляр, - усміхнулася Бладэйд і павярнула да Крыва сваю ганарлівую галаву. Паўночны вецер кінуў у твар кудару яе чырвоныя валасы, і вочы іх сустрэліся. – Ты мой, - мовіла дзева.

Мацней затахкала сэрца Цмокавай Скуры і барвай наліліся шнары ад мядзведжых кіпцяў, калі адчуў ён на шчацэ сваёй холад яе пальцаў. Зорнае святло адлюстроўвалая ў вачах яе і не мог разгледзець зрэнкаў таемнай дзевы Крыў. Глядзеў, дзівіўся. Не было! Толькі цёмна-сіні дым – на ўсё вока, як у альваў(3), пра якіх распавядалі норскія госці на тым беразе мора. Альбо ў прускіх азярніц, на якіх калісьці вадзіў яго паглядзець Замо. Амсмары!(4) – так зваў іх сын Вайдывута.

- У нас будзе сын, - раптам мовіла Бладэйд, апусціўшы свае чароўныя вочы.

Ледзьве прыкметная ўсмешка кранула вусны Цмокавай Скуры, і ён кіўнуў галавой.

- Аб тым ведаю, - адказаў слуга Грамавіка.

Разгублена зірнула на яго ваяўніца, і Крыў узяў яе за рукі.

- Можа, ведаеш і тое, што я стамілася забіваць? Не разумею, што здарылася, а толькі на кроў глядзець мне абрыдла. Тора жывая. Арт узяў яе гонар, жыццё пакінуў. Ён заўсёды ведаў, стары мядзведзь(5), чаго я жадаю. Ніколі не памыліўся.

Крыў скінуў з плячэй сваіх воўчы плашч, што ўзяў у забітага Эскхерэ і прыкрыў ім ад сцюдзёнага марскога ветру голую спіну Чырвонай Дзевы.

- Ты сама адказала на сваё пытанне. Тады, у лесе. Морыган пакінула гэты свет, засталася Бладэйд. І яна – жанчына.

Ваяўніца апусціла галаву на грудзі яму.

За даляглядам уставала сонца. Першыя промні залацілі аблокі. Вецер сціх, і хвалі ўжо не рваліся ў шаленстве да берага. Як ноччу, не біліся аб чорныя грудзі скал. Пакорліва лізалі яны ногі Хродгара. Нерухома стаяў Арнісон, высока падняўшы цяжкую ад хмелю галаву, і вецер варушыў шорсткую грыву яго валасоў. Даносячы да ноздраў пах смерці – пах баявых караблёў. Далёка наперадзе Ньёрдавых птушак ляцеў ён і ўспомніў Хродгар словы Гунтэра Чырвонай Кроплі. Ішлі ладзі, ганарліва падняўшы звярыныя галовы, і кожны ўзмах лёгкіх вёслаў набліжаў іх да норскай зямлі. І сонечныя промні блыталіся ў вясёлкавых іскрах вадзяного пылу ля вёслаў, заліваючы мора наперадзе караблёў злой

---

*__1. Гадзіна вантробаў__ – дзіда.*
*__2. Ікал бітвы__ – меч.*
*3. __Альвы__ (сканд) – эльфы*
*4. __Амсмары__ (прус.) – вадзяны народ.*
*5. __Арт__ (кельт.) – мядзведзь.*

крывавай чырванню.

- Што скажаш, бацька? - Хродгар павярнуўся да Арні. – Пэўна, не жадае вяртацца ўдача твая.

- А навошта ёй стары дурань? – адказаў Арні, абпіраючыся на дзіду, стаяў ён у цені навіслай над берагам скалы.

- Вялікую сілу падняў Хакі, – сказаў Хродгар.

- Можа і ён, – хітнуў галавой бацька. – Ну, хто б не быў, дуй у паселішча, хірдманаў падымай. Няхай да сечы рыхтуюцца. Я за табою паклыпаю.

- Не выстаяць супраць сілы такой, - паківаў калматай галавой Хродгар. – Не захоча Тора біцца, але нас ярлу выдаць захоча. Арні ўздыхнуў!

- Ярлу патрэбныя галовы нашы. Воіны ж лупу(1) прагнуць! Унь іх колькі. Кожны добра ўзяць хоча. Падзель гэтага ў паход ішлі. Таму і не пажадае нас Тора выдаць. Так ці так – быць сечы! Ну, зразумеў!

- А то, - усміхнуўся хлопец.

- Ідзі!

- І ты не марудзь! – ужо на бягу крыкнуў Хродгар.

- Сустрэнемся, - пад нос сабе прамармытаў стары і пацягнуў з похваў меч. – У Валгале! Што ж, ярл. Калі гэта ты, то не міне сэрца тваё дзіда Арні!

Ладдзі прыставалі да берага, тыкаліся насамі ў пясок доўгія лодкі і Арні, увагнаўшы дзіду ў зямлю, назіраў, як велікан – воін, саскочыўшы з ладдзі сваёй у пенныя хвалі, аглядае норскія скалы. І вось. Спыняецца позірк яго на адзінокай постаці Бацькі Доўгага Дракона. Арні вяртае меч у цемру похваў. Вялікан ідзе да яго, прытрымліваючы на сцягне доўгі клінок. Даўжэзная сівая барада і валасы спераду, ля скроняў, у косы заплецены, каб у баі не перашкаджалі. На нагах – парты скураныя, на плячах – плашч лісовы. Вось і ўся вопратка. Магутныя грудзі зараслі сівой поўсцю, а на чырвонай жылістай шыі, як заўсёды, вісяць мядзведжыя кіпці небывалай даўжыні. За некалькіх крокаў ад норга спыняецца сівагаловы воін. І кажа яму Арні:

- Ты стаў зусім сівы, Вайдывут конунг. Я памятаю цябе меднавалосым.

Уладар прусаў хітнуў галавой. Доўгая барада схавала ўсмешку.

- Ты свае валасы таксама выкачаў у вясновым снезе, стары бадзяга.

Усміхнуўся Вайдывут, але халоднымі, нібы камяні, былі яго цёмна-шэрыя вочы.

- Бачу, Арні, не мяне думаў сутрэць.

- Не цябе, конунг.

- А каго ж, Хакі? – Вайдывут прыгладзіў доўгія вусы.

- Яго, уладар, - адказаў карабел.

Прус насупіў касматыя бровы і магутная далонь яго сціснула выкладзеную золатам тронку мяча.

- Дзе мой сын, Арні?

Бацька Доўгага Дракона пацiснуў плячыма.

- Няўжо не сустрэў яго?

- Не разумею цябе!

- Адкуль тады пра ярла ведаеш?

- Дзе мой сын, Арні?

- Жадаў бы я ведаць, конунг. Па волі Хакі гніў сын твой у яме. Разам з пабрацімам сваім. Я выцягнуў іх з той магілы, калі помсціў ярлу за сыноў.

- Гэта ведаю. Дзе ён зараз?

- Ноччу, калі паклалі на жэглішча сына тутэйшага ўладара, Замо з пабрацімам сваім, якога празвалі мы Цмокавай Скурай, на чале хеўры скотаў пасеклі ахову каля дротавай ладдзі і выйшлі ў мора на ёй.

- Ну, нарэшце, - усміхнуўся Вайдывут. – Дарос хлопец да спраў, годных мужа, а то ўсё дзевак крыў! Што ж, за жыццё яго табе дзякую. І за жыццё Крыва Змяіныя Вочы не менш удзячыны. Пра смерць сыноў тваіх ведаю, – павярнуў правадыр сівую галаву да дружыны сваёй і гаркнуў:

- Гэй, Дангерут! Цягні сюды падлу норскую.

Малады, русявы хлопец хітнуў галавой і накіраваўся да Вайдывутавай ладдзі – доўгага баявога карабля з вялізнай галавой тура на штэўні.

- Парадую цябе, Арні, - мовіў прус. – За сына аддзякую не словамі.

Маўчаў Бацька Доўгага Дракона, у вочы Вайдывута гледзячы.

- А хто ж уладарыць над скаламі гэтымі? – спытаў правадыр.

- Свафрламі конунг. Яму належаць берагі гэтыя.

- Гэта не ён выйшаў сустрэць мяне? – З усмешкай мовіў Вайдывут, зірнуўшы праз плячо карабела.

Павярнуўся стары воін і ўбачыў сына свайго. Шырокім крокам ішоў да іх Хродгар, трымаючы ў руках аголены меч і сякеру.

- Гэта мой малодшы, — адказаў Арні.

- Аберуч б'ецца? – спытаў прус.

- Навучыў, - хмыкнуў норг.

- Сыны твае, якія загінулі, такія ж былі?

- Правадыры былі. Годныя мужы. Але гэты любіць мяне больш за іх. Яшчэ раз пытаю цябе, конунг. Адкуль пра сыноў маіх ведаеш, пра ярла?

Ухмыляўся Бурштынавая Дзіда. На Хродгара гледзячы.

- А малайчына. Адзін супраць войска ідзе – зброя голая. Такіх багі робяць вялікімі правадырамі, альбо юнымі клічуць за сінеч далягляду. А-а-а, вось і падзякаа мая.

Пад ногі Арні паляцеў вялізны куль і стары не адразу зразумеў, што гэта. А калі разгледзеў, зазірнуў прусу ў вочы.

- За Замо помста мая. Ды за сыноў тваіх, - мовіў Вайдывут, – так будзе з кожным, хто за кроў Вайдывутаву пажадае выкуп узяць, паланіўшы хоць каго з дванаццаці маіх хлопцаў. Рабі з ім, што пажадаеш. Твой агрызак.

Арні апусціў адзінае сваё вока, пачуўшы, як над вухам засоп Хродгар. Хакі ярл ляжаў ля ног яго, нязграбна махаючы абпаленымі куксамі. Рукі па локці адсечаны. Ногі - па калені.

- Рабы яго распавядалі мне, што не ў баі браў хлопца майго Хакі, - сказаў прускі правадыр. – Ладдзю Замо на ярлаў бераг хвалі выкінулі. Сына Крыў

*1. **Луп** – здабыча.*

Змяіныя Вочы з мора беспрытомнага выцягнуў, - Вайдывут у гневе раздзьмуў ноздры, з лютасцю зірнуўшы на знявечанага ім норскага ярла. – Ніхто болей не ўратаваўся. І толькі на пясок спусціў з рук Крыў цела Замо, як ярлавы сабакі, сякерамі ды дзідамі ўзброеныя, на іх кінуліся. Бачылі, як ладдзя гіне. Дзесяць чалавек было іх. Крыў жа, з нажом у далоні, стаў над Замо і трох варагаў да вашага Аднавокага выправіў. – Прус зарагатаў і плюнуў на Хакі. – Адзін, супраць дзесятка. Толькі з нажом у руцэ!

Арні паціснуў плячамі.

- Не скажу, што вычын вялікі, адному супраць дзесяці змагацца.

- Не. – згадзіўся Вайдывут. – Калі зброю добрую маеш. Ты, Арні, вялікі воін, тое ведаю не толькі я, але ніхто, апрача Крыва, не змог бы з нажом пад сякеры ісці і ад першага-другога выта смерць не прыняць! Але Змяіныя Вочы не толькі ваяка добры. Ён – слуга Грамавіка! А і яго звязенілі, дзідай плячо працяўшы. І пажадаў ад мяне за хлопцаў даніну ўзяць Хакі, бурштыну ды срэбра! Ад мяне! – Вочы - камяні Вайдывута пацямнелі. Наліўшыся крывёй, твар жа зрабіўся бялей за снежныя валасы, як бывае ў людзей, якія ніколі не мелі звычкі стрымліваць свой гнеў. – Ваяроў сваіх да мяне слаў. Прыйшлі і мовілі:

- Дай!

- Нарэшце ведаў я, дзе Замо шукаць. Скарміў іх мядзведзю і цераз поўню ўвагнаў сваю дзіду ў норскі бераг(1). І вось мае людзі сытыя крывёй, і за дымам да гэтай пары не бачна неба над фіёрдамі!.

- Будзь пракляты! – прасіпеў Бадзяга і ледзьве варушыліся яго распухлыя вусны. Уваткнуў тут Хродгар свой меч у пясок, кінуў сякеру і нож выцягнуў, нахіліўшыся над калекам.

- Конунг аддаў тваіх людзей мядзведзю, а я кіну тваё сэрца сабакам!

І ўвагнаў ён нож у цела Хакі і раскрыў грудзі яму. Захрыпеў ярл, замахаў куксамі. Запузырылася кроў на вуснах і выняў сэрца яго Арнісон, запэцкаўшы твар і грудзі свае. І сціснуў у магутнай далоні чырвоны камяк, сустрэўшыся вачамі з Вайдывутам.

-Такая смерць – літасць для сабакі! – мовіў сівы правадыр. Нічога не адказаў яму Хродгар. – Ну што ж, - прус расправіў магутныя плечы. – Збірайцеся.

- Не разумею, як гэта Крыў узяў карабель, а майстроў пакінуў. Добра б мой. Тут ясна – розум яшчэ дзіцячы. Усе мазгі – у кулаках.

- А што яшчэ, конунг, казалі табе ярлавы трэлі? - Скрывіў вусны ва ўсмешцы Арні.

- Шмат чаго, - уздыхнуў Вайдывут, – не толькі сэймін(2) жыць хоча. Ёсць яшчэ шмат людзей, для якіх жыццё каштуе больш за гонар.

- А калі адмоўлю табе, конунг? – Арні ўзяўся за чэрань сваёй дзіды і ўбачыў, як камень у вачах правадыра пакрыўся лёдам.

- Старога я не помню, Арні. Ды мы з табой і не варагавалі. Дабром пакуль прашу. Вырашаць табе. І вось што. Пойдзе сын твой і мовіць гаспадару тутэйшаму. Няхай даніну мне дасць! Не – сам вазьму ўсё. Жыццё яго таксама. Хродгар выцягнуў з пяску свой меч, але падняў Бацька Доўгага Дракона мазолістую далонь.

- Слухай, што сказаў конунг, Хродгар.

- Ды не марудзь, хлопча, мае людзі не любяць чакаць, - дадаў прус.

- Што вырашыш, бацька, – спытаў Арнісон у старога.

- Я ўжо вырашыў, - Арні зірнуў на Вайдывута. – Няхай будзе па-твайму пажаданню, конунг.

Хітнуў галавой суровы воін і паклаў цяжкую далонь на плячо карабела.

Тора стаяла на беразе. Там, дзе неба прытулялася сінню сваіх грудзей да мора, ужо калі зніклі прускія лодкі. А вецер усё гнаў ім услед белую пену аблокаў. Па правую руку жанчыны абпіраўся на дзіду Віґі Лось. Лепшы з ваяроў, ён па праву заняў месца Эскхерэ. Бераг быў пусты. Дакрануўся хольд да пляча Торы і мовіў ёй:

- Не журыся, кунігунда. Прыйдзе і наш час, і страшна адпомсцім мы. Далі шмат, але маглі згубіць усё. Нам пашанцавала – прусы ўдосталь крыві напіліся; калі ў наш фіёрд завіталі – ужо сытыя былі, таму і ўзялі срэбра, а не жыццё наша. Галоўнае – мы захавалі хірд! Хольдульв не пажадаў біцца ні з прусамі, ні за іх. Ён павёў сваю зграю на ўсход, Тора. Трэба нагнаць і выбіць, пасячы бярсеркаў. Вось зараз аб чым думай. Наробяць яны бедаў. Няўжо думаеш, што цераз уладанні Свафрламі пройдуць яны і на похвах пасак не разблытаюць(3)?

Кунігунда хітнула галавой.

- Ідзі, Віґі. Загадай хірдманам коней выводзіць.

- Я зараз, – кіўнуў Лось і хутка за скаламі знік.

І падняла жанчына рукі свае знявечаныя, і паказала іх сонцу, і енк вырваўся з грудзей яе. І павалілася Тора тварам у пясок і не варушылася болей. Доўга не было кунігунды, і зачакаліся воіны і пагналі коней на ўзбярэжжа. Агаліў Віґі меч, калі ўбачыў гаспадыню нерухомую, але не душы навокал. Апусціўся хольд на калені і перавярнуў жонку дрота на спіну.

Мёртвыя вочы Торы абыякава глядзелі ў ціхамірную воблачна-блакітную бездань нябёс, і шурпатая, цвёрдая, як ясеневая дошка, далонь воіна сцерла з белага твара Кунігунды пясок.

Маўчалі людзі і мовіў тут Віґі:

- Вялікае гора і лютая нянавісць да ворагаў забілі яе.

З гэтымі словамі заплюшчыў хірдман сваімі жалезнымі пальцамі жанчыне вочы. Падняўся і нетаропка пакрочыў да паселішча з целам Кунігунды на руках. За спіной яго тужліва ўздыхнула мора.

---

*1. Кінуць дзіду ў шэрагі ворага, альбо ў варожую зямлю – найстаражытнейшы звычай аб'яўлення вайны ў самых разнастайных плямёнаў.*

***2. Сэймін*** (прус.) – чэлядзь.

***3. Пасак на похвах** – завязаны пасак цераз крыж мяча - знак міру, развязаны - знак вайны.*

# НАЙБОЛЬШ ЗНАЧНЫЯ ГІСТАРЫЧНЫЯ ВЫДАННІ АПОШНЯГА ЧАСУ




**У серыі “Гарадзенская бібліятэка”, выйшла кніга Алеся Краўцэвіча “Рыцары і дойліды Гародні”**




**У выдавецтве “Беларуская навука”, г. Менск, выйшла “Метрыка Вялікага Княства Літоўскага”**
**Кніга 70 (1582 - 1585).**
**356 ст.**
**Наклад 1000 асобнікаў.**




**У выдавецтве “Кнігазбор”, г. Менск, выйшла кніга Вольгі Іпатавай “Знак вялікага магістра”. 296 ст. Наклад 300 асобнікаў.**




**У выдавецтве “Радыё Свабоды” г. Менск, выйшла кніга Ўладзіміра Арлова “Імёны Свабоды”, 576 ст.**




**У выдавецтве “Кнігазбор”, г. Менск, выйшла кніга Алега Трусава “Невядомая нам краіна. Беларусь у яе этнаграфічных межах”. 152 ст. Наклад 500 асобнікаў.**




**У г. Лідзе, выйшаў “Летапіс дзейнасці грамадскага аб’яднання “Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны. 1989 - 2009”. 164 ст. + 36 ст. ілюстрацый. Наклад 299 асобнікаў.**

